УДК [323.1/2+1](476)(091)
ББК 63.3(4Беи)0
М91

Аўтар выказвае шчырую падзяку
сп. В. Ф. Голубеву і сп. А. А. Трусаву
за заўвагі і каментарыі, зробленыя пры першым знаёмстве з кнігай,
а таксама супрацоўнікам МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"»
за спрыянне і падрыхтоўку кнігі да выдання.

**Мурзёнак, П. П.**
Шляхі да беларускай нацыі / Пётра П. Мурзёнак. — Мінск :
М91 Кнігазбор, 2016. — 344 с.
ISBN 978-985-7144-53-2.

У кнізе разглядаюцца праблемы развіцця беларускай нацыі, датычныя да тэарэтычных асноў будаўніцтва беларускай дзяржавы, стратэгіі развіцця беларускай нацыі, ментальнасці беларусаў, узаемаадносін нацыі і свабоды, царквы і нацыі, абгрунтоўваецца існаванне ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі і інш. Кніга складаецца з тэматычных артыкулаў, апублікаваных аўтарам за апошнія тры гады ў часопісе «Культура, Нацыя» (2013–2016, № 1–14; www.sakavik.net). Для чытачоў, зацікаўленых у будаўніцтве беларускай нацыі ў сучасных умовах.

The book examines the problems of the development of the Belarusian nation related to the theoretical foundations of the construction of the Belarusian state; the development strategy of the Belarusian nation; the mentality of the Belarusians; interrelationship between nation and freedom as well as nation and church; existence of the East Slavic (Belarusian-Ukrainian) civilization; and others. The book consists of thematic articles published by the author over the past three years in the «Culture, Nation» magazine (2013–2016, № 1–14; www.sakavik.net). The book is directed to the readers interested in the construction of the Belarusian nation in the conditions of the modern world.

**УДК [323.1/2+1](476)(091)**
**ББК 63.3(4Беи)0**

**ISBN 978-985-7144-53-2**



# ШЛЯХІ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВЫ

## I. Ці магчыма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы?

*Ключавыя словы: беларусы, нацыя, будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы*

Тэарэтычным і гістарычным аспектам узнікнення беларускага этнасу і нацыі прысвечаны шматлікія даследаванні, аднак тэма гэта ўсё яшчэ дыскутуецца. Некаторыя беларускія гісторыкі і этнографы хаця і спрачаюцца аб ступені завершанасці працэсу станаўлення беларускай нацыі, усё ж лічаць, што беларусы сфармаваліся як маладая нацыя ў пачатку XX стагоддзя, поруч з літоўцамі, украінцамі, латышамі, другія ж сцвярджаюць аб незакончанасці гэтага працэсу. У апошні час сярод беларускай эліты ўзнікаюць палемікі, часта песімістычнага характару, адносна абмежаванага ўжывання роднай мовы і ўмоў існавання беларусаў як нацыі ў будучыні (С. Законнікаў, Я. Максімюк, В. Марціновіч, 2012).

Нацыя (ад лац. *natio* — племя, народ), у сучасным вызначэнні, — гэта сацыяльна-эканамічная і духоўная супольнасць людзей з пэўнай псіхалогіяй і самасвядомасцю, якая мае агульную мову, адметную культуру, побыт і тэрыторыю сталага пражывання. Слова «нацыя» можа ўжывацца як у адносінах да самой дзяржавы, так і ў адносінах да культурнай супольнасці людзей, інакш кажучы, як да цывільнай супольнасці грамадзян ці як да этнічнай супольнасці адпаведна. У першым выпадку нацыя адпавядае насельніцтву нацыянальнай дзяржавы, у другім нацыя можа быць большай альбо меншай, чым насельніцтва, якое пражывае ў гэтай дзяржаве. Да прыкладу, у Рэспубліцы Беларусь пражывае каля 9,5 мільёна грамадзян, з іх 8 мільёнаў беларусаў, і яшчэ каля 1,5 мільёна беларусаў жыве па-за межамі

краіны (П. Мурзёнак. Колькі беларусаў жыве ў цэлым свеце, 2014). Калі прытрымлівацца тэорый і дэфініцый, то на першы погляд можна казаць, што людзі, якія жывуць на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у цэлым, за выключэннем мовы тытульнай нацыі, адпавядаюць вышэйапісаным характарыстыкам, менавіта тым, якія разам вызначаюць беларусаў як нацыю.

Розныя тэорыі ўзнікнення і станаўлення нацый у дачыненні да беларускай нацыі даюць як станоўчыя, так і адмоўныя адказы. Паводле тэорыі Сміта (A. Smith, 1986), у аснове якой ляжыць этнічны кампанент, нацыя вызначаецца як супольнасць людзей, якія падзяляюць гістарычную тэрыторыю, агульныя гістарычныя міфы і памяць, культуру, эканоміку, агульныя правы і абавязкі для яе членаў. Здаецца, гэта падыходзіць і для характарыстыкі насельніцтва Беларусі. Часам у дачыненні да беларусаў як нацыі выкарыстоўваюць тэорыю Андэрсана (B. Anderson, 1983) пра ўяўную нацыю, «an imagined community». Гэта ўяўная нацыя, жывучы ва ўстаноўленых межах і маючы суверэнітэт, не адпавядае рэальнасці і кожнадзённаму ўзаемадзеянню паміж яе людзьмі — маецца на ўвазе ментальнае ўяўленне людзей пра сваю лучнасць і пра Айчыну ў выпадках, калі ўяўная супольнасць ці нацыя саўдзельнічае ці суперажывае ў нейкай вялікай масавай падзеі, напрыклад падчас Алімпійскіх гульняў.

Сапраўды, Рэспубліка Беларусь існуе на карце, г. зн. ёсць тэрыторыя. Больш як 80%, а дакладней 83,7%, насельніцтва (2009) вызначае сябе беларусамі, і нейкая частка з іх ведае, што карані беларускага народа бяруць пачатак з канца X стагоддзя ад Княства Полацкага, а крыху пазней, з сярэдзіны XIII стагоддзя, ад Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Гэта значыць, ёсць гісторыя, якая не абмяжоўваецца толькі гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны ці Кастрычніцкай рэвалюцыі. Нарэшце, нават пры сённяшняй уладзе гістарычная навука пачынае фрагментарна выкарыстоўваць гісторыю ВКЛ і іншыя падзеі са старажытнага перыяду, якіх яшчэ нядаўна прытрымліваліся толькі асобы ці арганізацыі нацыянальна-свядомага напрамку. Вось што напісана ва ўводзінах да першай кнігі фундаментальнага выдання «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.»: «Полацкая, Тураўская і Кіеўская Русь — гэта ў аднолькавай ступені першыя гістарычныя формы дзяржаўнасці, якія былі ўтвораны на тэрыторыі беларускіх земляў. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, куды ўваходзілі і беларускія землі, — гэта другая гістарычная форма дзяржаўнасці. Трэцяй гістарычнай формай была дзяржаўнасць Рэчы Паспалітай. Расійская імперыя і яе дзяржаўнасць не былі беларускімі, але яны існавалі на беларускіх землях» (П. Бераснеў, 2012).



Аднак некаторыя прадстаўнікі з нацыянальна свядомага асяроддзя кажуць толькі пра значную этнічную і гістарычную базу для развіцця і станаўлення нацыі і лічаць, што беларусы існуюць як патэнцыйная, але яшчэ не рэалізаваная нацыя. Відаць, гэта дыктуецца сучаснай сітуацыяй і пагрозамі, якія перашкаджаюць хаця б адчуваць нацыю як рэальнасць: страхі аб страце незалежнасці і суверэнітэту, катастрафічнае моўнае пытанне, уціск расійскай мас-культуры, адсутнасць сапраўднай, не дэкларатыўнай дзяржаўнай падтрымкі развіцця беларускай ідэі. Ставіцца нават пытанне аб магчымасці існавання беларускай культуры ў рускамоўным асяроддзі!

Вышэй прыводзіліся некалькі вызначэнняў, што такое нацыя. Але ёсць і іншыя. Напрыклад: «Два чалавекі належаць да адной нацыі толькі ў тым выпадку, калі іх аб'ядноўвае адна культура, якая, у сваю чаргу, разумеецца як сістэма ідэй, умоўных знакаў, сувязяў, спосабаў паводзін і зносін» ці «Два чалавекі належаць да адной і той жа нацыі толькі ў тым выпадку, калі яны прызнаюць прыналежнасць адзін аднаго да гэтай нацыі» (E. Gellner, 1983). Такое вызначэнне нацыі, якое пачынаецца са слоў «два чалавекі», падаецца вельмі важным. Менавіта прыведзеныя вышэй два вызначэнні характарызуюць ступень моцнасці нацыі. Калі, па перапісу 2009 года, 83,7% насельніцтва Беларусі лічылі сябе беларусамі, то ці значыць гэта, што сусед, які жыве з аднаго ці з другога боку, ведае пра тое, што побач з ім ёсць такія ж людзі, якія падзяляюць агульныя, зразумелыя яму і ўсёй нацыі каштоўнасці? Відавочна, што адказ будзе не зусім станоўчым. Станоўчы адказ мы маглі б атрымаць на вуліцах Мінска пасля развалу Савецкага Саюза, як гэта дэманстравалі літоўцы, якія

браліся за рукі і стаялі гадзінамі ўздоўж дарог, каб пацвердзіць сваю еднасць, каб паказаць, што яны ёсць нацыя. Аднак у Беларусі мы падобнага не ўбачылі.

Прыкладаў, з якіх вынікае, што наша нацыя не ёсць моцнай, можна прывесці шмат («нямыя» на родную мову, нежаданне весці дзяцей у беларускія класы, нізкая актыўнасць у пратэставых акцыях, абыякавасць да нацыянальных каштоўнасцяў, знівеліраванае пачуццё нацыянальнага гонару). У сваёй манаграфіі П. Колста (P. Kolsto, 2000), у раздзеле 8, які называецца «Belarus: The Dog that Didn’t Bark» («Беларусь: Сабака, які не брахаў»), напісаў так: «In a comparative nation-building perspective, then, it is the contrast between Belarus and Ukraine that is the most interesting. Whereas the Belarusian dog has quietly lain down to sleep, his Ukrainian counterpart is standing nearby, barking away like mad»*. У манаграфіі Т. Снайдэра (T. Snyder, 2003) вы знойдзеце, што беларусы былі не зусім удачлівымі і прапусцілі свой шанец ідэнтыфікаваць сябе як нацыю, як гэта зрабілі палякі і літоўцы, прычым тыя зрабілі гэта ўпэўнена, нягледзячы на шматлікія перашкоды. І Польшча, і сучасная Літва паўсталі нацыянальнымі дзяржавамі, якія зараз жывуць у Еўропе, дзейнічаюць у Еўрапарламенце і маюць агульную сістэму абароны. Гэта значыць, гэтыя краіны ўпісаліся ў сучасны кантэкст развіцця цывілізацыі. Хтосьці запярэчыць, што зараз ёсць тэндэнцыя да шматвектарнасці, ці імкненне да стварэння/азначэння некалькіх цэнтраў цывілізацыі, але гэтае апошняе яшчэ трэба даказаць. Маецца на ўвазе «ў кантэксце развіцця заходняй цывілізацыі», якая нам бліжэй і больш зразумелая, а яе існаванне пацверджана практыкай (хаця ўдасканаленне мадэляў чалавечага існавання будзе і надалей працягвацца, і, відавочна, ініцыятыва і жаданне рабіць гэта хутчэй будуць паходзіць зноў жа з захаду).

* «У параўнальнай перспектыве нацыянальнага будаўніцтва назіраецца кантраст паміж Беларуссю і Украінай. У той час калі беларускі сабака ўлёгся спаць, яго ўкраінскі сабрат стаіць побач і брэша як ашалелы» (пераклад П. М.).



Калі сёння мы яшчэ недастаткова моцныя, то павінны запытацца ў сябе: што трэба рабіць, каб стаць мацнейшымі? Здаецца, на сённяшні дзень у нацыянальна-патрыятычных сіл няма агульнага падыходу і доўгатэрміновай стратэгіі для развіцця беларускай нацыі і дзяржавы.

У гэтым сэнсе разуменне, абмеркаванне і прыняцце канцэпцыі магчымага будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў рэальных умовах і ў перспектыве з’яўляецца вельмі актуальным. Такая канцэпцыя павінна адказаць на пытанне, ці магчыма стварэнне беларускай нацыянальнай дзяржавы, калі гэта можа здарыцца і якія існуюць шляхі для яе ўвасаблення. У цэнтры абмяркоўваемай канцэпцыі стаіць сама беларуская нацыя. Якой бы слабай ці «патэнцыйнай» яна ні была, усё ж з практычнага пункту гледжання трэба прыняць, што беларуская нацыя існуе і ўсё яшчэ мае базавыя элементы (патэнцыйна ў адносінах да роднай мовы) для свайго развіцця. Калі гэтых элементаў недастаткова, то трэба іх шукаць, ствараць і развіваць, і берагчы тое, што маем. Фактычна, гаворка ідзе не пра тое, як мы сталі нацыяй ці што мы ёсць нацыя, а як вызначыць яе стан, у якіх умовах яна развіваецца цяпер, і зыходзячы з гэтага прагназаваць магчымыя мадэлі развіцця нацыянальнай дзяржавы.

Зноў жа звернемся да дэфініцый. «Нацыянальная дзяржава — гэта суверэнная дзяржава, населеная адносна гамагеннай групай людзей, якія свядома падзяляюць пачуццё агульнай нацыянальнасці»; «нацыянальная дзяржава — гэта незалежная дзяржава, у якой пражываюць людзі, што належаць да адной нацыі» (Collins Dictionary); «нацыянальная дзяржава — гэта незалежная краіна, людзі якой належаць да адной вялікай групы і падзяляюць тую ж мову, традыцыі і гісторыю» (Cambridge Advanced Dictionary). Нацыя і нацыянальная дзяржава — блізкія па значэнню паняцці. У той час як дзяржава ці краіна ўяўляе сабой палітычную і геапалітычную адзінку, а нацыя з’яўляецца культурнай/этнічнай адзінкай, то тэрмін «нацыянальная дзяржава» ўключае іх абедзве пры геаграфічным іх супадзенні. Стварэнне нацыянальных дзяржаў адбывалася ў розныя часы ў розных частках свету, і з пункту гледжання сённяшняга дня прынцыпова не мае значэння, што ўтварылася напачатку — нацыя ці нацыянальная дзяржава.

Многія тэорыі разглядаюць стварэнне новых нацый і дзяржаў у Еўропе, якія ўзніклі ў XVIII–XIX стагоддзях, як вынік афіцыйнага нацыяналізму ў дзяржавах-імперыях ці як вынік нацыянальна-вызвольных рухаў, а ў Азіі і Афрыцы пасля Другой сусветнай вайны — як вынік антыкаланіяльнага нацыяналізму. Выразнымі прыкладамі нацыянальных дзяржаў, дзе этнічныя групы складаюць больш за 95% насельніцтва, з'яўляюцца Арменія, Егіпет, Ісландыя, Манголія, Польшча, Партугалія, Японія. У той жа час Вялікабрытанія, Канада, Расійская Федэрацыя (РФ) — яркія прыклады многанацыянальных дзяржаў. І хаця ў Расіі доля рускіх, па перапісу 2010 года, даволі высокая, 77,7%, аднак у РФ пражывае 193 народы, у яе склад уваходзяць 21 нацыянальная рэспубліка з колькасцю насельніцтва больш за 20 мільёнаў, і сярод больш чым сотні моў, на якой размаўляе насельніцтва Расіі, 27 нацыянальных моў нароўні з рускай з'яўляюцца афіцыйнымі мовамі.

Ці магчыма падобнае ўтварэнне новых дзяржаў і нацый у наш час? Думаецца, што адказ будзе станоўчым, калі разглядаць у якасці прыкладу развал СССР і Югаславіі не як «буйнейшую геапалітычную катастрофу стагоддзя» і «вынік знешняй агрэсіі» адпаведна, а як аналаг нацыянальна-вызвольных рэвалюцый, што адбываліся ў сярэдзіне XIX стагоддзя і прывялі да стварэння ўмоў для самаідэнтыфікацыі нацый і будаўніцтва новых дзяржаў у Еўропе. Такія краіны, як Харватыя (88% харватаў), Літва (84% літоўцаў), Сербія (83% сербаў), Славенія (83% славенаў), класіфікуюцца як нацыянальныя дзяржавы. Калі браць пад увагу працэнты, то Беларусь адпавядае такому крытэрыю нацыянальнай дзяржавы (па перапісу 2009 года, 83,7% насельніцтва лічаць сябе беларусамі). Ніяк не выпадае казаць, што Беларусь з'яўляецца многанацыянальнай краінай, дзе, паводле афіцыйнай інфармацыі, пражываюць прадстаўнікі 140 нацыянальнасцяў. Відавочна, што гэта можа быць вынікам інтэнсіўнай сучаснай міграцыі (падобны працэс назіраецца ў краінах усяго свету). Калі ж звярнуцца да статыстыкі, то ў Беларусі жывуць апроч беларусаў расейцы — 8,3%, палякі — 3,1%, украінцы — 1,7%, якія адносяцца да нацыянальных меншасцяў, доля ж кожнай з іншых нацыянальнасцяў не перавышае 0,1%.



Такім чынам, адносна вялікая гамагеннасць беларусаў у краіне ёсць добрым грунтам для нацыянальнага будаўніцтва.

З другога боку, зараз у дачыненні да новых узаемаадносін паміж дзяржавамі (напрыклад, у рамках Еўрасаюза ці новыя адносіны паміж рэлігіямі, якія дзейнічаюць па-за межамі нацыянальных дзяржаў) распрацоўваюцца тэарэтычныя падыходы і мадэлі, каб зразумець новыя ўмовы існавання нацый і дзяржаў: уводзяцца паняцці супердзяржаў, цывільных дзяржаў (S. Walby, 2003), альбо палітычных нацый (A. Ingram, 2000). Такія новыя ўзаемаадносіны разглядаюцца і ў першай мадэлі нацыянальнага будаўніцтва — мадэлі цывільнай дзяржавы, прапануемай Р. Брубакерам (R. Brubaker, 1996). Фактычна ідзе пераход ад этнічнай, культурнай нацыі да цывільнай, палітычнай нацыі. Магчыма, што для ўсталяваўшыхся нацыянальных дзяржаў гэта і дапушчальна, бо яны ўжо прайшлі ў сваім развіцці перыяд нацый-дзяржаў, мелі свой нацыянальны твар і «накрасаваліся». Ці будзе Беларусь мець у сваім развіцці перыяд нацыянальнай дзяржавы? З аднаго боку, можна казаць аб тым, што Беларусь спазнілася ўсталяваць сябе як нацыянальная дзяржава. З другога боку, падаецца, што яшчэ ёсць падставы для ўвасаблення гэтай ідэі. S. Walby (2003) лічыць, што ў эру глабалізацыі нацыянальная дзяржава ўяўляецца больш міфічнай, чым рэальнай; многія нацыянальныя дзяржавы існуюць кароткі час у гісторыі, перад тым як зноў могуць быць рэканструяваны. Усё ж аўтар канстатуе, што добрым прыкладам нацыянальнай дзяржавы з'яўляюцца ЗША (пачынаючы з канца XIX стагоддзя), а таксама нацыянальныя дзяржавы, невялікія і этнічна гамагенныя, якія развіваюцца ў кароткім прамежку часу пасля распаду імперый, уключаючы Савецкую імперыю.

Нацыянальнае пачуццё вытраўлівалася ў СССР дзесяцігоддзямі. Хаця яшчэ ў 1903 годзе Ленін дэклараваў права ўсіх нацый на самавызначэнне, пасля рэвалюцыі бальшавікі, у асноўным дзякуючы Сталіну, стварылі нацыянальныя рэспублікі, дзе пражывалі дамінантныя этнічныя групы і якім бальшавікі

прыпісалі імя «тытульных нацый» (мы не абмяркоўваем сітуацыю, а што б было, каб бальшавікі пакінулі губерні). Напачатку гэта дало моцны штуршок для развіцця нацыянальных сіл. Пазней, каб прадухіліць пагрозу магчымага аддзялення рэспублік і зберагчы адзінства ўсяго Саюза, бальшавікі схамянуліся і павынішчылі нацыянальныя эліты па ўсіх гэтых рэспубліках — хтосьці знік, хтосьці трапіў у ГУЛАГі, хтосьці зламаўся. На самай справе кожная з рэспублік СССР уяўляла дзіўны гібрыд адміністрацыйнай і этнічнай адзінак, і такім жа быў СССР, дзе рускія былі найбольшай і дамінуючай нацыяй. Фактычна гэтыя «нацыянальныя рэспублікі» былі дэкларатыўнымі і ніхто сур'ёзна не збіраўся займацца развіццём нацый. Існаванне нацый было заўважна хіба што на канцэртах падчас чарговых з'ездаў КПСС, дзе праз дзесяцігоддзі выступалі адныя і тыя ж традыцыйныя клішэ-калектывы, каб дэманстраваць інтэрнацыянальную дружбу савецкіх народаў. У выніку пры канцы праўлення Брэжнева нават дэкларавалася стварэнне новай чалавечай супольнасці — савецкай.

Пасля развалу СССР новыя краіны, распачаўшы будаўніцтва нацыянальных праектаў, апынуліся ў складаным становішчы, бо паняцці нацый і этнічных груп у СССР ураўноўваліся, а самі нацыі мэтанакіравана перамешваліся падчас такіх праектаў, як асваенне цаліны, Сібіры, будаўніцтва прамысловых гігантаў. Тым не менш прадстаўнікі нацыянальных элітаў былых савецкіх рэспублік пры распрацоўцы мадэляў нацыянальнага будаўніцтва бралі ў аснову этнічны кампанент (С. Сабикенов, Казахстан, 1994; E. Vebers, Latvia, 1997; K. Hallik, Estonia, 1996; S. Smooha, Estonia, 2001). Нават тыя, хто лічыць, што для нацыянальнага будаўніцтва важным з'яўляецца палітычны, а не этнічны кампанент (A. Motyl, 1993), разглядалі тытульную нацыю як аснову для дзяржаўнага будаўніцтва. Хоць новыя постсавецкія дзяржавы былі этнічна неаднароднымі, асабліва такія, як Казахстан (39,7% казахаў у 1989 годзе), Латвія (52% латышоў, 1989), але дамінуючыя ў іх эліты рашуча заявілі аб будаўніцтве нацыянальных дзяржаў.



У Беларусі ж вырашэнне пытання аб нацыянальным будаўніцтве па сённяшні дзень застаецца амаль такім, як і ў былым СССР. Хаця, як адзначае Т. Снайдэр, суверэнітэт Беларусі ва ўмовах аўтарытарнага кіраўніцтва нават умацаваўся (T. Snyder, 2003, p. 284). Дзіўна, але ў асноўных прынцыпах развіцця Рэспублікі Беларусь гаворка нават ідзе пра тое, што «ў краіне ажыццяўляецца паслядоўны курс па фарміраванню ідэалогіі беларускай дзяржавы, крышталізацыі беларускай нацыянальнай ідэі» пад лозунгам «За моцную і квітнеючую Беларусь!». Незразумела толькі, што канкрэтна маецца на ўвазе пад «крышталізацыяй». З узнікненнем незалежнай краіны развіццё беларускасці на самай справе не з'яўляецца прыярытэтам у дзяржаўным будаўніцтве. Больш таго, за шырмай дэкларацый ажыццяўляецца палітыка дэнацыяналізацыі. Дзе беларускія школы, садочкі і нацыянальныя навучальныя ўстановы? З другога боку, відавочна, што без удзелу дзяржавы збудаваць нацыянальную дзяржаву немагчыма. Краіна ідзе па нейкім сваім, «асобным шляху» развіцця, які не мае выразнага нацыянальнага азначэння на будучыню. Добра было б, каб апроч «крышталізацыі беларускай нацыянальнай ідэі» наша краіна мела яшчэ і нацыянальны твар. Сёння ж у Беларусі фактычна будуецца рускамоўная цывільная дзяржава.

Ці падзяляюць беларусы пачуццё агульнай нацыянальнасці, роднай мовы, традыцый і гісторыі? Не выпадае даць станоўчы адказ за ўсё насельніцтва, якое пражывае ў неспрыяльных умовах дэнацыяналізацыі і вырашае толькі кожнадзённыя жыццёвыя пытанні. Калі хто і падзяляе, то толькі людзі, якія свядома ведаюць гісторыю, традыцыі, мову (хаця, на жаль, нават яны не ўсе роднай мовай карыстаюцца). Для пашырэння ведаў пра гісторыю, культуру і традыцыі сярод насельніцтва Беларусі патрэбен час, і гэты час будзе значна больш працяглым, калі народнай асветай, для ўтрымання беларускасці, будуць займацца толькі нацыянальна-патрыятычныя сілы, а дзяржава будзе ў лепшым выпадку стаяць збоку, ці, як цяпер, перашкаджаць «беларусізацыі беларусаў». Такі вось парадокс.

Усё ж пры выкананні шэрагу ўмоў будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы здаецца яшчэ верагодным. Па крайняй меры, так

хацелася б думаць. Але гэта можа здарыцца не пры цяперашняй уладзе і не заўтра. І гэта не песімістычная, а рэальная ацэнка сітуацыі, якую трэба ўлічваць пры абмеркаванні прапануемай канцэпцыі магчымага будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. Чаму магчыма і чаму не заўтра? Таму што цяперашні рэжым адчувае сябе даволі моцна і абапіраецца на падтрымку большасці беларускага народа. Колькі гэты сон будзе працягвацца — невядома. Відаць, на такую думку пакрыўдзяцца некаторыя прадстаўнікі нацыянальнай эліты, хаця многія і пагодзяцца з ёй. Трэба быць рэалістамі і не трэба сябе падманваць. Гэты рэжым існуе дзякуючы не толькі рэпрэсіям, страху, але ён базуецца і на рэальных сацыяльных механізмах размеркавання нацыянальных багаццяў (па крайняй меры, так выглядае для насельніцтва звонку) (В. Давыдзік, 2012). Амаль такія ж механізмы існавалі і ў былым Саюзе. Беларусам гэта знаёма, яны церпяць і пакуль не выказваюць незадавальнення. Азіраюцца навокал, а там што? Толькі адзін прыклад: па статыстыцы, прыведзенай у «Нашай Ніве» (15 жніўня 2012 года), за месячную зарплату на Украіне можна купіць 214 літраў бензіну, у Латвіі — 357, Літве — 323, Балгарыі — 216, Румыніі — 267, Венгрыі — 356, Польшчы — 441. А ў Беларусі — 396 літраў. Так што калі параўноўваць з гэтымі еўрапейскімі краінамі па бензіну, то не так і кепска (для параўнання, падобныя разлікі для Расіі даюць 869 літраў, для ЗША — 2849 літраў; *у лютым 2016 года беларус мог купіць амаль 500 літраў* (тут і далей курсівам выдзелены дапаўненні, зробленыя аўтарам пры напісанні кнігі. — *П. М.*). Беларусы не адчуваюць і не бачаць дэбеларусізацыі, бо дзякуючы прапагандзе чуюць аб сабе «бацькоўскі клопат», калі ідзе ў Беларусь нафта з Венесуэлы і Азербайджана, будуюцца спартыўныя лядовыя палацы, аднаўляюцца малыя і сярэднія гарады і мястэчкі падчас «Дажынак» (хаця робіцца часам паспешна і з агрэхамі). Безумоўна, усё гэта робіцца рукамі працавітых беларусаў, і ўсё, імі створанае, застанецца, на шчасце, на зямлі Беларусі. Беларусы цярпліва перажылі ўжо некалькі дэвальвацый і дэнамінацый і ні разу ў абсалютнай большасці не выказвалі сур'ёзных пратэстаў. Складана ўявіць у такой сітуацыі нейкія рэвалюцыйныя змены.



Характарызуючы працэсы нацыянальнага будаўніцтва на постсавецкай прасторы, Р. Брубакер (R. Brubaker, 1996) абмяркоўвае тры магчымыя мадэлі: 1) мадэль цывільнай дзяржавы — дзяржавы грамадзян і для грамадзян, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці (этнічнасці); 2) мадэль двух- ці многанацыянальнай дзяржавы — дзяржавы дзвюх ці многіх этнакультурных нацый; 3) гібрыдная мадэль, дзе дзяржава разумеецца як нацыянальная, але ў той жа час як дзяржава, у якой перавага не аддаецца дамінантнай этнічнай групе; грамадзянам меншасцяў гарантуюцца не толькі роўныя правы як грамадзянам гэтай дзяржавы, але і абарона ад асіміляцыі пры выкананні іх нацыянальных праектаў. Збольшага, толькі першая мадэль, а не другая і не трэцяя, магла б падыходзіць для характарыстыкі сённяшняй Беларусі. Аб якой нацыянальнай дзяржаве можна размаўляць у краіне, у якой «беларусы — гэта тыя ж самыя рускія, толькі са знакам якасці», у якой прэзідэнт і чыноўнікі краіны не размаўляюць на роднай мове?

Што тычыцца абмяркоўваемай канцэпцыі магчымага рэальнага будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы, то яна добра адпавядае трэцяй мадэлі. Гэта спалучае як правы нацыянальных меншасцяў, так і правы нацыяўтвараючага этнасу — беларусаў і адпавядае Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (ААН), за якую ў 1948 годзе прагаласавалі 48 краін (але 8 краін устрымаліся, уключна з СССР, які быў прадстаўлены тады РСФСР, Беларускай ССР і Украінскай ССР).

Якія б тэарэтычныя мадэлі ні выкарыстоўваліся ў дачыненні да будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы, відавочна, што гэта будзе вызначацца рознымі фактарамі. У першую чаргу, многае будзе залежаць ад волі нацыянальных і патрыятычных сіл, ад іх трываласці, выпрацоўкі тэорыі і шляхоў яе рэалізацыі. Да іншых фактараў можна аднесці як знешнія фактары існавання дзяржавы (напрыклад, палітычныя, эканамічныя), так і ўнутраныя, у асноўным звязаныя з адносінамі насельніцтва Рэспублікі Беларусь да разумення неабходнасці будаўніцтва нацыі, і, нарэшце, гэта залежыць ад змен у кіраўніцтве дзяржавай. Гаворка ідзе

пра тое, ці яшчэ ёсць шанец збудаваць нацыянальную дзяржаву, ці Беларусь застанецца дзяржавай цывільнай.

Можна канстатаваць, што, тэарэтычна, будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы магчыма, але яно не можа быць рэалізавана ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, бо патрабуе сур’ёзнай кансалідацыі і асветы насельніцтва Рэспублікі Беларусь, якое на сёння ўяўляе толькі патэнцыйную, не моцную нацыю. Для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы патрэбен удзел самой дзяржавы. Нават калі ўявіць, што раптам улада зменіцца ці нават павернецца да вырашэння пытанняў рэальнага, не дэкларатыўнага нацыянальнага будаўніцтва (калі ласка, не блытайце з будаўніцтвам цывільнай дзяржавы), то гэта таксама патрабуе не менш часу і высілкаў. Варыянт палітычных змен зусім не выключаецца, але ён здаецца пакуль малаверагодным.

Гэта не значыць, што ў існуючых умовах трэба апусціць рукі і нічога не рабіць. Гэта значыць, што трэба распрацоўваць як каротка-, так і доўгатэрміновыя праекты, скіраваныя на дасягненне змен, патрэбных для збудавання нацыянальнай дзяржавы. Нацыянальна свядомым сілам застаецца зберажэнне тых каштоўнасцей, якія ўжо напрацаваны, іх узбагачэнне і ўкараненне ў народную свядомасць на працягу жыцця хаця б аднаго пакалення.

## II. Адносіны з суседзямі

*Ключавыя словы: суседзі як прыклад нацыянальнага будаўніцтва; дыяспара; гарантыі бяспекі*

Працэсы будаўніцтва новых дзяржаў на базе былых савецкіх рэспублік ідуць па-рознаму. Асноўных прычын таму некалькі: стартавая гатоўнасць да самавызначэння нацый на момант развалу СССР, узаемная залежнасць эканомік рэспублік ад былога размеркавання вытворчасці і цэнтралізаванага кіравання, напрамак знешняй і ўнутранай палітыкі, палітычны, эканамічны і культурны ўплыў Расіі.

У новых умовах людскія рэсурсы з’яўляюцца важнейшым элементам дзяржаўнага будаўніцтва. У табліцы 1 прыведзены змены ў колькасці насельніцтва за апошнія два дзесяцігоддзі ў



Беларусі, дзяржавах-суседзях і Казахстане (апошні ўзяты для параўнання, як былая краіна азіяцкай часткі СССР з дастаткова вялікай колькасцю насельніцтва).

*Табліца 1*

***Змены ў колькасці насельніцтва за два дзесяцігоддзі****

| *Краіна* | *Колькасць насельніцтва на 1989 год* | *Колькасць насельніцтва паводле апошняга перапісу (год)* | *Змена ў колькасці за гэты прамежак часу* |
|---|---|---|---|
| Беларусь | 10 151 806 | 9 503 807 (2009) | –651 тыс. (–6,4%) |
| Латвія | 2 666 672 | 2 070 371 (2011) | –596 тыс. (–22,3%) |
| Літва | 3 674 802 | 3 043 429 (2011) | –631 тыс. (–17,2%) |
| Польшча | 37 963 000 | 38 325 000 (2012) | +362 тыс. (+0,95%) |
| Украіна | 51 452 034 | 45 559 235 (2012) | –5,9 млн (–11,5%) |
| Расія | 147 342 000 | 142 938 285 (2010) | –4,4 млн (–3%) |
| Казахстан | 16 464 464 | 16 009 597 (2009) | –455 тыс. (–2,8%) |

Трэба адзначыць, што ва ўсіх рэспубліках былога СССР адбылося зніжэнне колькасці насельніцтва, але прычыны, структура і велічыня гэтых змен розныя. Зніжэнне прыросту насельніцтва назіраецца ва ўсёй Еўропе, і адзначана таксама ў Латвіі (пачынаючы з 1991 года і да гэтага часу), Расіі (з 1992), Беларусі (з 1993), Літве (з 1994). З другога боку, аб’ектыўныя прычыны, указаныя вышэй, маглі прывесці да істотнай міграцыі людзей паміж новымі дзяржавамі. Напрыклад, за 20 год насельніцтва Літвы і Латвіі значна скарацілася за кошт рускіх, украінцаў і беларусаў, а Казахстана — яшчэ і за кошт германцаў (агулам прадстаўнікоў гэтых нацый у Казахстане стала менш на 3,8 мільёна, але гэта змяншэнне кампенсавалася значным прыростам колькасці казахаў, на 4,6 мільёна). Кантрастам у параўнанні з Польшчай выглядае істотнае зніжэнне насельніцтва ў Расіі (4,4 млн) і Украіне (5,9 млн). Колькасць рускіх знізілася

* Тут і далей прыведзеная статыстыка і разлікі зроблены на падставе вынікаў перапісаў насельніцтва.

на 8,8 мільёна, але гэтыя страты, відаць, былі кампенсаваныя за кошт натуральнага прыросту іншых народаў РФ. Найбольшую долю ў стратах насельніцтва ва Украіне склалі таксама рускія. Колькасць жа саміх украінцаў значна не змянялася (па звестках на 2001 год), што, відаць, сведчыць аб вяртанні часткі ўкраінцаў на радзіму з іншых частак былога Саюза.

У Беларусі за 20 мінулых год скарацілася колькасць рускіх (на 557 тыс.), украінцаў (132 тыс.), палякаў (123 тыс.), яўрэяў (99 тыс.). Тым не менш колькасць беларусаў за гэты час не зменшылася, і нават крыху павялічылася. Відаць, адмоўны натуральны прырост кампенсаваўся міграцыяй беларусаў з краін-суседзяў і з Казахстана (табліца 2). У гэтых краінах на 1989 год налічвалася крыху больш за два мільёны беларусаў (2,05 млн), але за апошнія два дзесяцігоддзі лік беларусаў у гэтых краінах зменшыўся амаль напалову, да 1,07 млн. У астатніх былых савецкіх рэспубліках на 2009 год агулам пражывала ўсяго каля 20 тыс. беларусаў, з іх каля 15 тыс. у Эстоніі і 1,5 тыс. у Малдове. Такім чынам, у блізкім замежжы пражывае крыху больш за мільён беларусаў.

*Табліца 2*

***Змены ў колькасці беларусаў у краінах-суседзях і Казахстане за два дзесяцігоддзі***

| *Краіна* | *1989 год* | *Колькасць беларусаў у краіне пражывання паводле апошняга перапісу* |
|---|---|---|
| Беларусь | 7904 тыс. (77,9%) | 7 957 тыс. (83,7%) (2009) |
| Латвія | 112 тыс. (4,5%) | 68 тыс. (3,3%) (2011) |
| Літва | 63 тыс. (1,7%) | 36 тыс. (1,2%) (2011) |
| Польшча | 49 тыс. (0,13%) | 31 тыс. (46 тыс. разам з другой заяўленай этнічнасцю) (0,13%) (2012) |
| Украіна | 440 тыс. (0,9%) | 296 тыс. (0,6%) (2012) |
| Расія | 1206 тыс. (0,8%) | 521 тыс. (0,4%) (2010) |
| Казахстан | 183 тыс. (1,1%) | 66 тыс. (0,4%) (2009) |



Дакладных звестак аб колькасці беларусаў ці нашчадкаў імігрантаў беларускага паходжання ў далёкім замежжы няма. Лічыцца, што ў ЗША жыве каля 600 тыс. беларусаў, у Канадзе (на 2006) — 10,5 тыс. Беларусы ў значнай колькасці выязджалі ў Аргенціну, Аўстралію, у Еўропу. Некаторыя з іх запісваліся ў палякі, расейцы, іншыя асіміляваліся з жыхарамі краіны пражывання і таму этнічнае паходжанне іх нашчадкаў у гэтых краінах вызначыць вельмі складана. Па нашых разліках (П. Мурзёнак. Колькі беларусаў жыве ў цэлым свеце, 2014), у далёкім замежжы жыве 400 000 — 500 000 беларусаў; разам з адным мільёнам беларусаў блізкага замежжа яны складаюць значную дыяспару (каля 16% ад усіх беларусаў на зямлі), якая можа браць удзел і ўплываць на працэсы будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы (агулам можа быць 11 мільёнаў зацікаўленых грамадзян: 9,5 мільёна грамадзян, якія жывуць у Рэспубліцы Беларусь, і 1,5 мільёна беларусаў блізкага і далёкага замежжа).

### *Латвія (насельніцтва — 2 070 371; 2011)*

У параўнальным плане Латвія знаходзіцца ў значна больш выгадным становішчы, чым Беларусь, што тычыцца будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. Латвія ўступіла ў Еўрапейскі саюз і ў НАТА, што гарантуе ёй бяспеку і падтрымку дэмакратычных пераўтварэнняў у краіне. З другога боку, Латвіі і складана, бо па этнічным складзе краіна мае нязначную адносную большасць людзей латышскай нацыянальнасці ў параўнанні з іншымі нацыянальнасцямі. Да таго ж даволі значная рускамоўная частка насельніцтва, падтрымліваемая ўсходнім суседам, пастаянна разыгрывае рускую карту. Урад Латвіі знаходзіцца пад эканамічным і маральна-палітычным ціскам Расіі, які апошняя аказвае з-за парушэння правоў рускіх. Адной з прычын такога ціску з’яўляецца моўнае пытанне; латышы патрабуюць абавязковага ведання мовы пры прыняцці грамадзянства людзьмі нелатышскай нацыянальнасці, г. зн. абараняюць сваю адзіную дзяржаўную мову ад усё яшчэ дамінуючай рускай мовы.

Калі б не моцная дзяржаўная, нацыянальная палітыка, то ўвогуле нацыянальнае будаўніцтва Латвіі калі б і было магчымым,

то расцягнулася б на дзесяцігоддзі. У той жа час рускамоўная частка насельніцтва (рускія, беларусы, украінцы) адаптавалася, калі можна так казаць, да жорсткіх умоў існавання ў адбудоўваемай нацыянальнай дзяржаве. З 1989 па 2011 год доля латышоў павялічылася з 52,0% да 62,1% і знізілася доля рускіх — з 34,0% да 26,9% , беларусаў — з 4,5% да 3,6%, украінцаў — з 3,5% да 2,5%; доля палякаў (2,3% і 2,4%) і літоўцаў (1,3% і 1,2%) практычна не змянілася. Фактычна, парушаліся правы чалавека, але, відаць, урады Латвіі не бачылі другога шляху, каб выратаваць існаванне нацыі. Трэба адзначыць, што насельніцтва Латвіі за апошнія дваццаць гадоў скарацілася на 600 тысяч чалавек, у асноўным за кошт рускамоўнага насельніцтва (колькасць латышоў зменшылася на 103 тыс.).

Гістарычна, найбольш беларусаў выязджала ў Латвію з паўночна-заходніх раёнаў краіны. Колькасць беларусаў у Латвіі зменшылася са 112 тыс. у 1989 годзе (4,5%) да 68 тыс. у 2011 годзе (3,6%). Тым не менш, паводле інфармацыі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (ЗБСБ), у Латвіі дзейнічаюць некалькі беларускіх асяродкаў: «Світанак», «Маю гонар», «Вясёлка», Беларуская школа, Таварыства беларускай мовы, «Прамень» (Рыга), «Уздым» (Даўгаўпілс), «Мара» (Ліепая), «Спадчына» (Вентспілс). Магчыма, колькасць сяброў у гэтых суполках і невялікая, іх палітычная і моўная арыентацыя неаднолькавая, але ўжо тое, што яны знайшлі магчымасць стварыць гэтыя асяродкі, робіць гонар нашым суродзічам. Безумоўна, што трэба ўлічваць патэнцыйны ўдзел беларускай дыяспары ў Латвіі і ў другіх краінах замежжа ў аднаўленні і адбудове беларускай нацыі. Ваеннай і эканамічнай пагрозы для Беларусі Латвія не стварае; дэмакратычная краіна, з невялікай арміяй. Афіцыйна падтрымлівае рух Беларусі да дэмакратыі.

### *Літва (насельніцтва — 3 043 429; 2011)*

Доля тытульных нацый у Літве і Беларусі (84,2% і 83,7%) амаль аднолькавая, як і іншых этнічных груп: палякі — 6,6% і 3,1%, рускія — 5,8% і 8,3%, украінцы — 0,5% і 1,7%; астатнія групы складалі не больш за 0,1%, паводле перапісаў насельніцтва



2011 і 2009 года адпаведна. Аднак літоўцы, адрозна ад беларусаў, пасля развалу Саюза вельмі хутка сталі рэальна ажыццяўляць нацыянальную палітыку, бо і ў часы СССР адносна актыўна ёю займаліся; літоўцы думалі, вучыліся і чыталі шыльды на ўстановах і шыльды з назвамі вуліц на роднай мове. Адразу пасля атрымання свабоды Літва перажыла цяжкія эканамічныя часы, жыла ў холадзе, голадзе, але не страціла свайго гонару. Сур'ёзных пытанняў, што да прыгнёту нацыянальных меншасцяў, там амаль не ўзнікала. Так магло бы быць і ў нас, каб не злыя сілы, якія паднялі вэрхал (1993–1996) адносна прыгнёту рускамоўных у Беларусі.

Паводле статыстыкі, у Літве пражывае крыху больш за 36 тысяч беларусаў, 1,2% (2011, для параўнання — у 1989 годзе іх было 63 тыс.). Гэта значна менш, чым у Латвіі, але ў той жа час у Літве дзейнічае ўдвая больш беларускіх асяродкаў (звесткі ЗБСБ), што, магчыма, сведчыць аб большай аседласці беларусаў у Літве. У адной толькі Вільні існуе 10 асяродкаў, яны ёсць таксама ў такіх месцах, як Друскінінкай, Вісагінас, Тракай, Клайпеда, Шальчынінкай, Шаўляй, Швянчоніс, Вальчунай, Каўнас, Пабрадзе.

З Літвой нас аб'ядноўвае агульная, амаль 600-гадовая гісторыя сумеснага жыцця ў ВКЛ, і гэтую гісторыю немагчыма нават дзяліць. Быў час (1991–1995), калі «Віціс» і «Пагоня», як гербы дзяржаў Літвы і Беларусі, красаваліся на будынках у гарадах і вёсках абедзвюх краін. Будзем спадзявацца, што літоўцы ў недалёкім будучым не будуць спрачацца, калі мы будзем выкарыстоўваць той жа самы ці амаль той самы герб «Віціс-Пагоню», які калісьці быў у адной нашай агульнай дзяржаве, ВКЛ, у якой выкарыстоўвалася старабеларуская пісьмовая мова (не літоўская і не жмудзінская). Ды ёсць і многа другіх рэчаў, якімі літоўцы маглі бы падзяліцца. Прыкра, напрыклад, слухаць, калі ў Навагрудак прывозяць літоўскіх дзяцей, каб распавядаць, што Навагрудак — гэта старажытная сталіца Літвы, дзе каранаваўся літоўскі кароль Міндоўг. Навагрудак — горад беларускі.

Вельмі прыемна, што дыялог пачаўся. За апошні час праведзена многа навуковых канферэнцый, на якіх абмяркоўваюцца праблемы агульнай гісторыі, этнаграфіі, культуры (Адам Міцке-

віч і нацыянальныя культуры, 1998). Сёння ўжо мала знойдзеш беларусаў — прыхільнікаў вяртання Вільні і Віленскага краю. Але цяжка пагадзіцца, што Адам Міцкевіч — гэта выдатны літоўскі паэт. Здаецца, у такім выпадку ў беларусаў ёсць больш падстаў заяўляць, што ён наш, беларускі паэт, бо нарадзіўся на беларускай зямлі, на якой людзі, што жылі там у той час, зваліся ліцвінамі.

У адным з раздзелаў сваёй манаграфіі Т. Снайдэр напісаў, што нацыяналізм прыйдзе ў Беларусь тады, калі беларусы пачнуць змагацца за «свайго» Міцкевіча (T. Snyder, 2003, p. 283): «Only when Mickiewicz is (falsely) presented in Minsk as a modern Belarusian, as he is today portrayed (falsely) in Warsaw or Vilnius as a modern Pole or Lithuanian, will we have a sign that Belarusian nationalism has arrived», г. зн. што беларусы будуць мець шанц стаць нацыяй, калі ўсвядомяць, што Адам Міцкевіч — гэта «іх» паэт. Як бы каму гэтага і не хацелася, але беларусы ганарацца беларуска-ліцвінскім паходжаннем сусветна вядомага паэта Адама Міцкевіча, які пісаў свае геніяльныя творы на польскай мове. Паэт, які нарадзіўся ў Навагрудку праз тры гады пасля падзелу Рэчы Паспалітай, вучыўся ў Вільні і ніколі не жыў у Варшаве і Кракаве, пісаў свае творы, абапіраючыся на беларускі фальклор, гісторыю і традыцыі, не ў апошнюю чаргу належыць да Беларусі. Усе тры народы: беларускі, літоўскі і польскі — маюць роўнае права (пастаўлены па алфавіту) называць Адама Міцкевіча сваім нацыянальным паэтам, які належыць да сусветнай культуры. Важна, каб з гэтым пагадзіліся палякі і літоўцы.

Нацыянальная эліта Літвы, як і эліты Латвіі і Украіны, адбудоўваючы свае нацыянальныя дзяржавы, а таксама дзеячы палітыкі і культуры Польшчы, краіны, якая адыгрывае ўсё большую ролю у Еўрапейскім саюзе, добра разумеюць праблемы нацыянальнага будаўніцтва, якія мае беларуская нацыя. Таму такія стрымана-афіцыйныя палітычныя і эканамічныя адносіны з сучасным урадам Беларусі, які, эксплуатуючы ўсходні вектар знешняй палітыкі, заснаваны нават не на панславянскай, а на неасавецкай ідэалогіі, пакідае ў загане развіццё сваёй нацыі.



Вынікам такой палітыкі з'яўляецца ўсё большая асіміляцыя насельніцтва Рэспублікі Беларусь у расійскую палітыку і культуру.

### *Польшча (насельніцтва — 38 325 000; 2012)*

Польшча паўстала зараз моцнай нацыяй, з якой усё больш лічацца еўрапейцы. Колькасць насельніцтва Польшчы за апошнія 20 год не скарацілася, а нават падрасла (табліца 1), пры тым што доля саміх палякаў крыху зменшылася паміж 2002 і 2011 гадамі, з 96,7% да 93,9% (–826 тыс.). Часткова гэтыя страты былі кампенсаваны прыехаўшымі людзьмі другіх нацыянальнасцяў, што сведчыць аб адкрытасці і прывабнасці Польшчы для іміграцыі. Трэба адзначыць, што крыху больш за мільён палякаў пастаянна знаходзяцца ў ад'ездзе (выязджаюць на 6–7 месяцаў на заробкі за мяжу; у кастрычніку 2012 года беспрацоўе ў Польшчы было 12,5%). Нацыянальная эліта праз многія цяжкасці і іспыты збудавала нацыянальную дзяржаву: адмовілася ад ідэі вяртання «ўсходніх крэсаў», балюча вырашыла спрэчныя пытанні з украінцамі (каля 140 тыс. украінцаў было перасяленa ўнутры Польшчы падчас аперацыі «Вісла» ў канцы 50-х гадоў), пазней падтрымлівала ідэі незалежнасці для Украіны і Беларусі, ствараючы магчымы буфер ад расійскай пагрозы. Многія з ідэй будаўніцтва новай Польшчы нарадзіліся вакол часопіса «Культура», які запачаткаваў Ежы Гедройц (J. Giedroyc) з прыхільнікамі. Ён абараняў і будаваў Польшчу, а не развальваў і не нападаў на Расію, як гэта спрабуюць паказаць нават цяпер, пасля яго смерці, крытыкі ў Расіі (А. Семёнов, 2012).

У Беларусі пражывае 294 549 палякаў (2009). Частка з іх зарганізавана ў саюзы палякаў, якіх на Беларусі два: «чэсны саюз» і «нячэсны саюз». Зразумела, што ёсць што: калі не падтрымліваеш дзейную ўладу, то ты вораг (як і «нячэсны» саюз пісьменнікаў, апазіцыянеры, нацыяналісты, адмарозкі, пятая калона — наогул 37-ы год).

На 2011 год па ўсёй Польшчы налічвалася ўсяго 46 тыс. беларусаў (разам з другой заяўленай этнічнасцю), і ў параўнанні з 1989 годам іх колькасць амаль не змянілася (49 тыс.). Большасць беларусаў у Польшчы пражывае ў Беластоцкім ваяводстве.

Для даведкі: паводле перапісу 1931 года, там налічвалася 1 263 300 жыхароў, з іх 66,9% палякаў, 16,3% беларусаў і 12,1% яўрэяў (D. Bockowski, 2009). Такім чынам, у гэтым ваяводстве 80 год таму назад пражывала каля 206 тыс. беларусаў, але, відаць, працэсы асіміляцыі непазбежныя. Беларускія суполкі зараз можна знайсці як у Беластоцкім рэгіёне (Беласток, Бельск-Падляскі, Гайнаўка, Крынкі), так і ў такіх гарадах, як Познань, Люблін, Варшава, Кракаў. У Польшчы дзейнасць беларускіх і іншых суполак рэгулюецца законам.

Польшча і зараз працягвае палітыку падтрымкі ў дачыненні як да Украіны, так і да Беларусі, і не таму, што ўсё яшчэ баіцца войскаў з Усходу, а таму што сама нядаўна была ў такім жа становішчы і, вызваліўшыся ад таталітарызму, хоча і можа дапамагчы, кіруючыся агульначалавечымі каштоўнасцямі свабоды, братэрства і роўнасці. Фінансавая і арганізацыйная падтрымка тэлевізійнай праграмы «Белсат», радыё «Рацыя», навучанне беларускіх студэнтаў у польскіх вузах, арганізацыя навуковых форумаў палітычнага і культуралагічнага кірункаў, спрашчэнне візавага рэжыму — вось канкрэтныя пункты падтрымкі нацыянальных сіл і развіцця дэмакратыі ў Беларусі. Беларусы — народ міралюбівы, ім няма з кім ваяваць унутры дзяржавы і навонкі. Таму падтрымка, адкуль бы яна ні ішла, працуе на будучыню Беларусі.

### *Украіна (насельніцтва — 45 559 235; 2012)*

Украіна мае даволі моцную эканоміку, валодае значнымі прыроднымі і людскімі рэсурсамі, урадлівай зямлёй, і ў перспектыве можа прыстойна ўліцца ў эканоміку Еўропы. Украіна займае 1-е месца у Еўропе па тэрыторыі (603 700 кв. км) і 6-е па колькасці насельніцтва (45,5 млн; пасля Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Іспаніі); для параўнання, Беларусь займае 13-е месца (207 600 кв. км) і 16-е месца (9,5 млн) адпаведна.

Паводле апошняга перапісу (2001), на Украіне жыло 276 тыс. (0,6%) беларусаў, што ў параўнанні з 1989 годам (440 тыс., 0,9%) меней на 164 тыс. Беларускія суполкі дзейнічаюць амаль ва ўсіх абласных цэнтрах Украіны і ў некаторых невялікіх гарадах (Вінніца, Івана-Франкоўск, Ізяслаў, Кіеў, Кіраваград, Ковель, Луганск, Львоў, Палтава, Роўна, Севастопаль, Сімферопаль, Харкаў, Херсон, Чарнаўцы, Чарнігаў, Чаркасы, Ялта).



Што да будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, то Украіна і Беларусь знаходзяцца ў вельмі падобным стане: эканамічны і палітычны ўціск Расіі, моўнае пытанне. Але ў адрозненне ад Беларусі ўсе чатыры прэзідэнты Украіны (Л. Краўчук, Л. Кучма, В. Юшчанка, В. Януковіч) не выступалі за палітычны саюз з Расіяй, не ставілі пад сумнеў, што ўкраінская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай мовай, паступова, крок за крокам ідуць на еўраінтэграцыю. На Украіне пакуль ёсць значны падзел паміж прамаскоўскім усходам і нацыянальна моцным захадам, з'ява, якой, здаецца, няма ў Беларусі. Прычым падзел гэты ідзе не толькі па моўным прызнаку, але і па менталітэце (*аб чым сведчыць вайна, распачатая Расіяй на ўсходзе Украіны*).

Прэм'ер-міністр Украіны М. Азараў у снежні 2012 года паведаміў, што на долю краін Мытнага саюза (Расія, Беларусь, Казахстан) прыпадае 60 млрд даляраў украінскага экспарту, а на краіны Еўрасаюза — 40 млрд. Прытым ён заявіў, што ў краіны Мытнага саюза пастаўляецца тое, што не прадаецца на другіх рынках. У гэтым сэнсе Беларусь праяўляе адносна Расіі нават большую самастойнасць (у 2011 г. экспарт у Расію склаў толькі 34%).

Прадказанні Т. Снайдэра (T. Snyder, 2003, p. 291) былі такімі, што далучэнне Украіны, Беларусі і РФ да ЕС не можа адбыцца раней за 2040 год. Аднак гэта можа здарыцца і хутчэй, калі сачыць за нядаўнімі заявамі еўрапейскіх палітыкаў аб магчымай асацыяцыі Украіны ў ЕС у 2013 годзе. Калі Украіна вытрымае эканамічную і палітычную (*а цяпер і ваенную*) баталію з Расіяй, а значыць, будзе мець умовы для будаўніцтва сапраўды незалежнай, нацыянальнай дзяржавы, тады для Беларусі таксама застаецца шанец на станоўчы сцэнарый.

### *Расія (насельніцтва — 142 938 285; 2010)*

У Расіі пражывае 521 тыс. беларусаў (2010). У буйных гарадах і абласных цэнтрах Расіі дзейнічаюць каля 50 беларускіх супо-

лак, з іх у Маскве налічваецца сем, у Новасібірску — чатыры, у Санкт-Пецярбургу — дзве (паводле ЗБСБ). У свой час, на пачатку XX стагоддзя, беларускія суполкі ў Санкт-Пецярбургу «Круг беларускі» (1902–1904, Б. Эпімах-Шыпіла, В. Іваноўскі, А. Пашкевіч, Ф. Умястоўскі), «Загляне сонца і ў наша ваконца» (1906–1914, В. Іваноўскі) адыгралі значную ролю ў аднаўленні беларускай нацыі. Ці здарыцца падобнае зараз — пакажа час. Апошні скандал у Іркуцку, дзе мясцовыя ўлады пачалі прыціскаць актыўны беларускі асяродак, сведчыць аб тым, што аўтарытарны рэжым, відаць, дзейнічае ў цесным кантакце з расійскімі ўладамі для кантролю нават над культуралагічнымі беларускімі асяродкамі на тэрыторыі Расіі.

Развіццё нашай нацыі ў многіх аспектах залежыць ад адносін з Расіяй, супердзяржавай, якая аказвае моцны ўплыў не толькі на рэспублікі былога СССР, якія набылі 21 год таму назад незалежны статус, але і на еўрапейскія дзяржавы. І хаця тэрыторыя і людскі патэнцыял Расійскай імперыі ў выглядзе СССР значна зменшыліся, але небяспека эканамічнага ціску з боку Расіі і падпарадкавання сваіх нядаўніх брацкіх рэспублік аж да страты іх незалежнасці і суверэнітэту хвалюе нацыянальныя эліты не толькі Беларусі.

Для такой насцярожанасці ёсць добра вядомыя гістарычныя падставы. У канцы XII стагоддзя на паўночны ўсход ад Кіеўскай Русі знаходзіліся Растова-Суздальская, Уладзімірская і Мурамская землі, на якіх пазней, у XIII–XV стагоддзях, пачала фарміравацца Маскоўская дзяржава. Стварэнне маскоўскай дзяржавы праходзіла пад значным уплывам Залатой Арды. Фактычна Залатая Арда дыктавала ўмовы існавання княстваў Паўночна-Усходняй Русі, даравала князям ярлык на кіраванне, збірала даніну з земляў, вызначала палітыку. Да таго ж панаванне Залатой Арды праходзіла на фоне пастаяннай міжусобіцы паміж княствамі Паўночна-Усходняй Русі; так, Цвярское паўстанне (1327) было жорстка задушана войскам, прыведзеным з Арды маскоўскім князем Іванам Калітой. І нават параза татараў 8 верасня 1380 года падчас Кулікоўскай бітвы не скончыла іх панаванне, якое яшчэ доўжылася каля 100 год. Толькі ў 1476 годзе Іван III



перастаў плаціць Залатой Ардзе даніну, а 1480 год лічыцца датай падзення мангола-татарскага прыгнёту.

У канцы XV стагоддзя панаванне Залатой Арды значна зменшылася. Пачынаючы ад Івана III (1462–1505), які пачаў называцца «великий князь всея Руси», а пазней ад Івана IV (Жахлівага), які атрымаў тытул цара (1547), маскоўская дзяржава ўсталявалася і пачала пашырацца на поўнач, усход і поўдзень. Іван III пачаў з захопу і ліквідацыі Наўгародскай рэспублікі (1478), вывезшы з Ноўгарада ў Маскву вечавы звон. Далей былі Цвер (1485), Разань (1521), Казанскае ханства (1552), Астрахань (1556), Вялікая Нагайская Арда (1557), Сібірскае ханства (1582), Пегая Арда (1619).

І толькі заходні напрамак на канец XV стагоддзя быў яшчэ непасільны для Масквы. Бо там існавала моцная дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ). Са згоды папы рымскага Інакенція IV 6 ліпеня 1253 года ў Наваградку каранаваўся кароль літоўскі Міндоўг. Фактычна, людзі, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Літвы, утварылі моцнае княства. У склад гэтай новай еўрапейскай дзяржавы ўвайшлі і землі Полацкага і Смаленскага княстваў, этнічна заселеныя беларусамі. Трэба адзначыць, што Полацкае княства, як і Наўгародская рэспубліка, заўжды праводзілі самастойную ад Кіеўскай Русі палітыку (IX–XII стагоддзі). Гэта дзяржава, ВКЛ, у адрозненне ад Маскоўскай, ніколі не зведала татара-мангольскага прыгнёту і развівалася ў зусім іншых умовах. Аднак, у выніку пагроз з боку Масковіі ВКЛ вымушана было пайсці ў 1569 годзе на ўтварэнне федэрацыі з Каралеўствам Польскім, якая называлася Рэч Паспалітая, што ў перакладзе на сучасную беларускую мову азначае «Садружнасць», па-ангельску — Commonwealth. Пры гэтым ад ВКЛ пад уладу польскай кароны адышлі землі Левабярэжнай Украіны. Трэцяга траўня 1791 года была прынята Канстытуцыя Садружнасці — першая праява дэмакратыі такога роду для ўсёй Еўропы.

Па разліках (I. C. Pogonowsky, 1987), у 1493 годзе ў ВКЛ і Каралеўстве Польскім было 7,5 млн жыхароў, з іх 3,25 млн палякаў, 3,75 млн рутэнаў (г. зн. украінцаў і беларусаў), і 0,5 млн літоўцаў. У 1618 годзе, з пашырэннем тэрыторыі Рэчы Пас-

палітай паводле Дэўінскай дамовы, у Садружнасці было ўжо 12 млн жыхароў, з іх палякаў — 4,5 млн, украінцаў — 3,5 млн, беларусаў — 1,5 млн, літоўцаў — 0,75 млн, прусаў — 0,75 млн, яўрэяў — 0,5 млн, лівонцаў — 0,5 млн. У 1717 годзе, пасля страты часткі тэрыторый, колькасць насельніцтва Садружнасці знізілася да 9 млн, прыблізна 4,5 млн складалі палякі, 1,5 млн — украінцы, 1,2 млн — беларусы, 0,8 млн — літоўцы, 0,5 млн — яўрэі, 0,5 млн — іншыя. Такім чынам, у 1717 годзе каля трэці насельніцтва ВКЛ складалі ўкраінцы, каля 30% — беларусы і каля 18% — літоўцы.

Часы росквіту Садружнасці (двух народаў) прыпалі на пачатак XVII стагоддзя, бо далейшае яе развіццё было спынена з усходу — Масква рушыла на захад. Што мы мелі з таго часу?

1. Трынаццацігадовую вайну (1654–1667) з Маскоўскім царствам, пасля якой на нашых землях, землях ВКЛ, знікла палова насельніцтва і пачаўся заняпад Садружнасці.

2. У канцы XVIII стагоддзя (1795) Садружнасці зусім не стала, бо была захопленая і падзеленая паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Прычым амаль усе беларускія землі (за выключэннем Беласточчыны) адышлі пад руку расійскай імператрыцы Кацярыны II.

3. Садружнасць знікла, але беды на гэтым не скончыліся: вынікам далейшых рэпрэсій у Паўночна-Заходнім краі ў 30-х гадах XIX стагоддзя была страта прывілеяў беларускай шляхтай, знішчэнне ўніяцкай царквы, да якой адносілася каля 70% беларускага насельніцтва, забарона дзеяння Статута ВКЛ і забарона беларускай мовы.

4. Дзяржаўнасць на тэрыторыі Садружнасці ВКЛ і Польскага каралеўства перастала існаваць аж да 1918 года, калі не лічыць стварэнне Часовага ўрада на тэрыторыі ВКЛ падчас вайны 1812 года.

5. Далей было станаўленне дзяржаўнасці (БНР, 1918; БССР, 1919) і перыяд адраджэння ў 30-х гадах XX стагоддзя, які скончыўся рэпрэсіямі ў дачыненні да свядомай беларускай эліты, развал СССР, дэкларацыя незалежнасці Беларусі (1991), моцны перыяд адраджэння беларускай нацыі ў 1991–1994 гадах, пасля якога да гэтага часу працягваюцца рэпрэсіі і негатыўныя адносіны неасавецкай улады да ўсяго беларускага.

6. Да таго ж дадаюцца ўступленне Беларусі ў Арганізацыю Дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ), спробы аднаўлення саюза Расіі і Беларусі, эканамічны ціск з боку Расіі — усё гэта стварае нервовыя абставіны ў дачыненні да ўсталявання і далейшага будавання сапраўды незалежнай і суверэннай беларускай нацыянальнай дзяржавы.

На сёння эканамічныя адносіны Беларусі з Расіяй і Еўрасаюзам пакуль што збалансаваныя. Так, па звестках Міністэрства замежных спраў, беларускі экспарт у 2011 годзе ў Расію склаў 13,7 млрд. даляраў (34% ад усяго беларускага экспарту), а ў краіны Еўрасаюза (ЕС) у параўнанні з 2010 годам практычна падвоіўся і склаў 15,7 млрд даляраў (прырост да ўзроўню 2010 года — 8,1 млрд). Тавараабарот Беларусі з Расіяй у 2011 годзе склаў 38,6 млрд даляраў (44,9% ад усяго аб'ёму беларускага знешняга гандлю), а з краінамі ЕС за 10 гадоў — з 2001 да 2011 — павялічыўся ў дзесяць разоў, склаўшы ў 2011 годзе 24,4 млрд даляраў. Такім чынам, доля Расіі ў эканоміцы Беларусі, калі ацэньваць па экспарту і агульнаму тавараабароту, не перавышае 45%.

Аднак ніхто не возьмецца абсалютна адкінуць страхі і гарантаваць немагчымасць расійскай інвазіі (ваеннай, эканамічнай) у Беларусь. Варта нагадаць, што Расійская імперыя прырастала і пасля захопу Садружнасці, у XIX стагоддзі — Каўказам (1859–1878) і Сярэдняй Азіяй (1854–1885), у XX стагоддзі ў часы існавання СССР — тэрыторыяй Заходняй Беларусі і Украіны і краінамі Прыбалтыкі (1939–1940), пасля Другой сусветнай вайны — краінамі Усходняй Еўропы, і нядаўна — Абхазіяй і Паўднёвай Асеціяй (2008) (*і Крымам у 2014 годзе*).

Добра вядомы лідар ЛДПР яшчэ нядаўна заклікаў, каб рускі салдат памыў ногі ў Індыйскім акіяне.

Не дзіўна, што 70% палякаў нават у 1994 годзе, ужо пасля развалу Берлінскай сцяны, баяліся ваеннай пагрозы з боку Расіі, і толькі ўступленне Польшчы ў НАТА ў сакавіку 1999 года крыху супакоіла польскую грамадскасць. Тым не менш супраць

магчымага захопу Беларусі Расіяй сведчаць наступныя факты, якія базуюцца на:

1) статусе нашай краіны як дзейнага сябра Арганізацыі Аб’яднаных Нацый;

2) непарушнасці дзяржаўных граніц у Еўропе паводле Заключнага акта аб бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (Хельсінкі, 1975);

3) гарантыях бяспекі, дадзеных Беларусі Расіяй, Вялікабрытаніяй і ЗША, у сувязі з Дамовай аб нераспаўсюджванні ядзернага ўзбраення. У дадатковым мемарандуме, падпісаным 5 снежня 1994 года, у прыватнасці, гаворыцца, што:

«Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь свае абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта АБСЕ паважаць незалежнасць, суверэнітэт і існуючыя граніцы Рэспублікі Беларусь;

Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць свае абавязацельства ўстрымліваццa ад пагрозы сілай або яе прымянення супраць тэрытарыяльнай цэласнасці або палітычнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і што ніякія іх узбраенні ніколі не будуць выкарыстаны супраць Рэспублікі Беларусь, акрамя як у мэтах самаабароны або якім-небудзь іншым чынам у адпаведнасці са Статутам Арганізацыі Аб’яднаных Нацый;

Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь свае абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе ўстрымліваццa ад эканамічнага прымушэння, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду».

У сувязі з гэтым мемарандумам можна як жарт успрымаць прапанову Прэзідэнта Пуціна ў 2005 годзе аб далучэнні Беларусі да Расіі шасцю губернямі. Дарэчы, урад Беларусі ніяк афіцыйна не адрэагаваў на гэта, значыць дзесьці, падыспадам, такая небяспека не выключаецца (напрыклад, праз арганізацыю аб’яднаўчага рэферэндуму). Такія версіі (напрыклад, пра «шапку Манамаха») ужо абмяркоўваліся раней у сродках масавай інфармацыі. Ніхто і ніколі не даруе ўдушэння свабоды, знішчэння роднай мовы і гандлю незалежнасцю і суверэнітэтам.



Але нават калі б уявіць, што гэта далучэнне губернямі магчыма, трэба, каб была выканана яшчэ адна ўмова — каб у самой Расіі было адменена права нацый і народаў на самавызначэнне, і паўсюдна былі ўведзены губернатарствы. Апошняе ўвесь час прапануе лідар ЛДПР сп. Жырыноўскі. Здаецца, у Расіі ўжо скасаваны дзве ці тры нацыянальныя вобласці. Да таго ж уведзены 8 федэральных акругаў і 11 эканамічных раёнаў, якія нівеліруюць нацыянальную прыналежнасць насельніцтва ў гэтых адміністрацыйных падзелах. Але ці пагодзяцца Татарстан і яшчэ 20 нацыянальных рэспублік Расійскай Федэрацыі, у якіх пражывае больш за 20 мільёнаў чалавек, ператварыцца ў губернатарствы? Калі ўзгадаць прыклад Чачні і рэальную сітуацыю сёння на Каўказе, то гэта малаверагоднае рашэнне (хіба што зноў «па-савецку» правядуць рэферэндумы).

Прэзідэнт Пуцін 20 снежня 2012 года падчас прэс-канферэнцыі на пытанне журналісткі з Татарстана аб магчымасці новага тэрытарыяльнага падзелу РФ прама не адказаў, а пачаў з таго, што раней у Расіі не было нацыянальна-тэрытарыяльных утварэнняў, што былі губерні і што ўсё функцыянавала нядрэнна, што падзел на гаспадарчыя суб’екты мае сэнс, але вырашэнне нацыянальнага пытання заўжды адчувальная праблема і павінна вырашацца паводле законаў самімі суб’ектамі ці галасаваннем на рэферэндуме, ці рашэннем адпаведнага парламента. У той жа час ім 19 снежня 2012 года падпісаны Указ «О стратегии государственной национальной политики Российской Федерации на период до 2025 года», дзе, напрыклад, канстатуецца, што ў РФ выкарыстоўваецца 277 моў і дыялектаў, у дзяржаўнай сістэме адукацыі выкарыстоўваецца 89 моў, з іх 30 — у якасці моў навучання, 59 — у якасці вучэбнага прадмета.

Асаблівасці нацыянальнага складу Расійскай Федэрацыі сведчаць таксама супраць магчымасці стварэння панславянскай дзяржавы з удзелам Украіны, Беларусі. Але ў той жа час вы не знойдзеце і ніякіх сігналаў падтрымкі ў будаўніцтве і ўмацаванні новых нацыянальных дзяржаў, у прыватнасці Беларусі і Украіны, як з боку дзейнай расійскай улады, так і з боку любых расійскіх лібералаў-дэмакратаў. Для іх могуць быць дрэннымі Лукашэнка ці Януковіч, але яны спяць і бачаць свае шавіністычныя сны аб зноў жа пашыранай Расійскай імперыі, няхай сабе і за кошт суседніх славянскіх народаў. Ім выгадней бачыць гэтыя краіны васаламі, але не свабоднымі, незалежнымі нацыянальнымі дзяржавамі.

Нягледзячы на істотную розніцу ў развіцці Беларусі і Расіі (на працягу шасці соцень гадоў, з сярэдзіны XIII і да канца XVIII стагоддзя, мы жылі ў розных дзяржавах, як і да гэтага перыяду не мелі нічога агульнага), гістарычна нам наканавана быць суседзямі. У эпоху глабалізацыі, і рэальна ацэньваючы эканамічныя стасункі паміж Расіяй і Беларуссю, якія працягваюцца з часоў Савецкага Саюза, можна канстатаваць, што альтэрнатывы супрацоўніцтву з усходнім суседам, пры збалансаванай палітыцы на другіх напрамках, не прагледаецца. Адзінае, што гэта супрацоўніцтва мусіць быць раўнапраўным і ўзаемавыгадным.

## III. Моўнае пытанне

*Ключавыя словы: стан мовы, мадэлі існавання мовы*

Агульная мова, якой карыстаецца насельніцтва дзяржавы, з'яўляецца адной з галоўных характарыстык нацыі. У значнай ступені менавіта ад вырашэння гэтага пытання — ці загавораць беларусы па-беларуску — залежыць не толькі канчатковае станаўленне беларускай нацыі і магчымасць рэальнага будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, але і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь. Сёння гэтае пытанне для многіх беларусаў вельмі балючае і крыўднае.

Старабеларуская пісьмовая мова ВКЛ трансфармавалася ў сучасную літаратурную мову ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Гэта магло б адбыцца крыху і раней, аднак у Садружнасці беларуская шляхта карысталася польскай мовай, мовай дамінуючай культуры, і хіба што дазваляла сабе размаўляць на тутэйшай мове з сялянамі. А апошнія два стагоддзі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў гарадах, а пазней і ў мястэчках запанавала руская мова. Але нават двух кароткіх перыядаў беларускага адраджэння (20–30-я і 90-я гады мінулага стагоддзя) было дастаткова, каб беларусы пачулі прыгажосць і ўсвядомілі адметнасць нашай роднай мовы.

Аднак сённяшні стан беларускай мовы нават значна горшы, чым пасля абвяшчэння незалежнасці ў 1991 годзе, і выклікае вялікую трывогу. Нашы суседзі і гістарычныя партнёры Польшча і Літва цвёрда ўсталяваліся як сучасныя нацыі; Беларусь, знаходзячыся пад ціскам Расіі (мова, культура, маскультура), мае вельмі кепскую сітуацыю, што да самаідэнтыфікацыі як нацыі. Нацыі-імперыі ў мінулым выкарыстоўвалі палітыку «афіцыйнага нацыяналізму: мадзьярызацыю, японізацыю, русіфікацыю», каб узаконіць свае прэтэнзіі на нацыянальнае права і ідэнтычнасць і прыхаваць разыходжанні паміж нацыямі і каралеўскімі дынастыямі (B. Anderson, 1983). Нейкім чынам русіфікацыя, якая пачалася 200 год таму назад, працягваецца на Беларусі да гэтага часу.

Ці адчувае сябе беларус беларусам мацней, чым гэта было 20 год таму назад? Калі не, то што за насельніцтва пражывае на тэрыторыі Беларусі? У чым можна назіраць праявы беларускай нацыі — у масавым выдавецтве беларускай літаратуры, у развіцці беларускага кіно, у беларускім школьніцтве і студэнцтве? Якія вынікі ў станаўленні і развіцці сучаснай беларускай нацыі мы маем за апошнія 20 год?

1. Развіццё беларускай мовы — мовы карэннай нацыі і праўдзівае паданне старажытнай гісторыі і культуры не з'яўляюцца прыярытэтам дзяржавы.

2. Дзяржаўныя чыноўнікі і абсалютная большасць гарадскіх жыхароў ужываюць толькі рускую мову, што вядзе да вынішчэння рэшткаў беларускасці ў краіне.

3. У 2009 годзе асноўнай мовай зносінаў 70% беларусаў назвалі расійскую мову, беларускую мову ўжывае дома ўсяго 23%

насельніцтва. Доля беларусаў, якія беларускую мову назвалі роднай, значна знізілася, з 73,6% у 1999 годзе да 53,2% у 2009 годзе.

4. У Мінску толькі 2% школьнікаў навучаецца ў беларускіх класах, а па ўсёй краіне — толькі 19%. Паводле Таварыства беларускай школы ў Магілёве, у адзіным на ўвесь абласны цэнтр беларускім класе на роднай мове навучаецца толькі адна дзяўчынка (Радыё «Свабода», 27 снежня 2012 г.). Тое ж самае прыблізна назіралася ў Гародні перад пачаткам 2012/13 навучальнага года.

5. Выкладанне гісторыі ў школах і ўніверсітэтах базуецца на кароткай гістарычнай памяці, звязанай з Вялікай Айчыннай вайной і акупацыяй Заходняй Беларусі Польшчай. Старажытная і сярэднявечная гісторыя краіны рэвізавана па савецкаму тыпу (а раней падавалася па расійскаму тыпу).

6. У савецкія часы, у 1970 годзе, агульны тыраж беларускамоўных кніг складаў 9 мільёнаў асобнікаў, альбо 40%, рускамоўных — 16 мільёнаў (60%) (Радыё «Свабода», 13 снежня 2007 г.). У 2012 годзе за дзевяць месяцаў агульны наклад быў амаль такім жа, 25,3 мільёна, але на беларускай мове было надрукавана толькі 3,4 мільёна кніг, альбо 13,5%, і 81,5% — на рускай мове (В. Ругайн, ЕўраРадыё, 13.11.2012), гэта значыць, што доля кніг на роднай мове знізілася за апошнія 40 год у тры разы!

7. Патрыятычныя сілы не маюць агульнай стратэгіі, скіраванай на супольную працу ў станаўленні беларускай нацыі. Адсутнічае нават жаданне крытычна ўспрымаць вынікі сацыялагічных апытанняў, праведзеных НІСЭПД праф. Манаева. Спробы сцвярджаць, што дзякуючы актыўнай дзейнасці апазіцыі адбыўся байкот апошняй выбарчай кампаніі (хаця б у Мінску), нічым іншым, як самападманам, не з'яўляюцца. Да таго ж улада мае сёння моцны рэпрэсіўны аппарат, і пасля 19 снежня 2010 года патрыятычныя сілы апынуліся разгромленымі. Шмат хто быў вымушаны пакінуць радзіму. Нацыянальна-патрыятычныя сілы адціснуты аўтакратамі неасавецкага тыпу далёка на край будаўніцтва дзяржавы, і не нацыянальнай дзяржавы, а дзяржавы цывільнай.

8. Інфармаванасць насельніцтва Беларусі, за выключэннем афіцыйнай прапаганды, вельмі нізкая:



- у краіне пры насельніцтве ў 9,5 мільёна чалавек практычна адсутнічаюць незалежныя СМІ, а тыя, што яшчэ выжываюць, выдаюцца невялікімі накладамі («Народная воля» — 28 000, «Новы час» — 7000, «Наша Ніва» — 6000, часопіс «Дзеяслоў» — 1000) і балансуюць паміж папярэджаннямі быць зачыненымі і пажаданнямі друкаваць дазволеную інфармацыю;
- электронныя медыя, Хартыя'97, радыё «Свабода» і незалежнае тэлебачанне «Белсат» вымушаны працаваць з-за мяжы;
- незалежныя сайты ў інтэрнэце наведваюць толькі 3% беларусаў, а чытаюць незалежныя газеты не болей за 1% беларусаў.

Хто вінаваты ў такой сітуацыі — дзяржава ці адзін асобны чалавек? Безумоўна, вінаваты ўсе. А самі беларусы? Вінаваты — і таксама безумоўна. Але пры належнай моўнай дзяржаўнай палітыцы гэтага пытання не ўзнікала б. Грамадзяне і чыноўнікі Беларусі станоўча прынялі Закон аб мовах (1990), але затым, з вяртаннем кіраўнікоў неасавецкага тыпу, падняўся гвалт аб прыцясненні правоў рускамоўнага насельніцтва. Праз рэферэндум праціснулі другую афіцыйную мову, рускую. Здаецца, у абодвух выпадках дзяржава павінна была браць на сябе адказнасць за зберажэнне мовы тытульнай нацыі, але ў апошнім выпадку гэтыя «клопаты» сталі проста знішчальнымі для яе.

І справа не ў недахопе сродкаў для развіцця беларускай мовы, а ў нежаданні кіруючых дэнацыяналізаваных сіл гэта рабіць. Добры пачатак у перыяд адраджэння (1991–1994) не атрымаў развіцця ў апошнія 20 год. Дзяржава не спрыяе развіццю беларускасці, а калі якія дзеянні і ёсць, то яны маюць дэкларатыўны характар. Што да будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы — у сучаснай Беларусі няма нацыянальнага лідара, няма прапаганды і падтрымкі грамадскага настрою. А без падтрымкі дзяржавы гэта наогул зрабіць ці магчыма. Тыя праграмы і сродкі, якімі карыстаюцца афіцыйныя ўлады, відавочна недастатковыя для ўтрымання неабходнага ўзроўню беларускасці ў краіне. І гэта тычыцца не толькі мовы тытульнай нацыі. Прывядзём яшчэ адзін прыклад: не без падтрымкі ўлады (нават на ўзроўні Адміністрацыі Прэзідэнта) чатыры гады таму назад у раённым цэнтры

Паставы «аднекуль з неба» з'явіліся казакі для патрулявання вуліц і навядзення парадку. Заўважце, гэта адбылося нават значна раней, чым у Маскве, дзе гэта ініцыятыва распачалася ў мінулым, 2012 годзе (*а ўжо ў 2015 годзе казацкі атаман Улаховіч балатаваўся на пасаду прэзідэнта Беларусі*). У Беларусі былі эпізоды, звязаныя з дзейнасцю прышлых казакаў, але каб тут завяліся аселыя казакі, як гэта характэрна для Расіі ці Украіны, то гісторыя гэтага не адзначыла.

Што рабіць у такой сітуацыі? Аднымі заклікамі «Давайце размаўляць па-беларуску» многа не даб'ешся. Гонар тым людзям, якія ў такой кепскай сітуацыі штосьці робяць для выратавання мовы тытульнай нацыі. Шмат робіць Таварыства беларускай мовы (ТБМ). Паводле слоў сп. А. Трусава (Радыё «Свабода», 27 снежня 2012 г.), да чэмпіянату свету па хакеі 2014 года афармленне чыгуначнага вакзала ў Берасці будзе зроблена на беларускай мове, і менавіта дзякуючы намаганням ТБМ імя Францішка Скарыны. Перад гэтым, вынікам дзейнасці ТБМ было выданне Правіл дарожнага руху, а таксама мытных дэкларацый па-беларуску. Здавалася б, непрыкметныя праекты робіць ТБМ: выпускае каляндарыкі, маркі, змагаецца за выкарыстанне роднай мовы ў дзяржаўных установах. Але гэтай працы проста няма цаны! На жаль, гэта ўсё робіцца не высілкамі дзяржавы, што ў краіне з дзвюма афіцыйнымі мовамі было б натуральна, а высілкамі грамадскай арганізацыі. Як нядаўна на радыё «Свабода» сказаў старшыня ТБМ Алег Трусаў, ён падзяляе кіруючае чынавенства пароўну, 50 на 50; у паловы прыхільнае стаўленне да беларускай мовы, у паловы — абыякавае; «а сярод іх ёсць і адкрытыя ворагі беларушчыны».

Адносіны да роднай мовы з боку дзяржавы ў Беларусі найгоршыя з краін-суседзяў. Пытанне аб мове не стаіць у Літве, Польшчы і Расіі. У Латвіі латышскую мову абараняюць ад рускай, на Украіне за родную мову дэпутаты б'юцца ў Радзе; у Беларусі ж актыўная дзяржаўная палітыка ў дачыненні да зберажэння беларускай мовы адсутнічае. Прэзідэнт Назарбаеў заявіў у снежні 2012 года («Наша Ніва», 14 снежня 2012 г.), што Казахстан да 2025 года пяройдзе на лацініцу; паводле ягоных слоў, гэта «паслужыць не толькі развіццю казахскай мовы, але і ператворыць яе ў мову сучаснай інфармацыі». Пры гэтым ён таксама заклікаў беражліва ставіцца да расійскай мовы і заявіў, што «валоданне ёй з'яўляецца гістарычнай перавагай». І ў Казахстане ніякага ляманту з боку Расіі пакуль не назіраецца. Пры тым трэба адзначыць, што за перыяд з 1989 да 2009 года доля тытульнай нацыі ў Казахстане павялічылася з 39,7% да 63,1%, а доля іншых нацыянальнасцяў зменшылася: рускіх — з 37,8% да 23,7%, узбекаў — з 2,0% да 2,9%, немцаў — з 5,8% да 1,1%, украінцаў — з 5,4% да 2,1%, татараў — з 2,0% да 1,3%, беларусаў — з 1,1% да 0,4%.



Цяжка ўявіць лёс беларускай мовы. Але відавочна, што ён будзе незайздросным без падтрымкі дзяржавы і будзе залежаць ад шэрагу ўмоў і часу. Якія варыянты можна мець?

1. Калі сітуацыя з роднай мовай будзе існаваць у такім жа выглядзе пры той самай уладзе на працягу хаця б аднаго пакалення і калі яе не абараняць, то беларуская мова фактычна знікне (што значна павялічыць пагрозу з'яднання з рускамоўнай тэрыторыяй у рамках нейкіх саюзаў). Балансаванне ўрада паміж Усходам і Захадам прывяло да таго, што ў 2012 годзе Беларусь зноў павярнулася на ўсход, і ў гэтым зацікаўлена і спрыяе гэтаму ўсё тая ж Расійская імперыя. І хоць мэты ўрадаў Беларусі і Расіі могуць быць розныя, але канчаткова, у доўгатэрміновым кантэксце, абедзве сілы працуюць на знішчэнне нацыі.

2. Другая мадэль — на працягу якіх дваццаці год беларуская мова будзе зберагацца толькі ў нацыянальна свядомых асяродках і мець абмежаванае карыстанне («ірландскі варыянт»). Дамінуючай будзе, як і зараз, руская мова. Ці магчыма будзе ўтрымаць беларускую культуру пры такім варыянце — гэта вялікае пытанне.

3. Трэцяя мадэль — сітуацыя будзе такая ж кепская, але пры новай палітычнай волі ў нейкі час з'явіцца магчымасць аднаўлення беларускай мовы («чэшскі варыянт»).

4. Чацвёртая мадэль — праз выбары ці рэвалюцыю — у бліжэйшы час малаверагодная. Надзея на тое, што змена сітуацыі

магла б адбыцца пры чарговых выбарах (2001, 2006, 2010 *і 2015*), не спраўдзілася. Некалькі спробаў патрыятычных сіл падняць насельніцтва кожны раз за некалькі месяцаў да надыходзячых «справядлівых» выбараў не знайшлі падтрымку. Спадзявацца на наступныя выбары — гэта значыць чакаць чарговых закладнікаў, якімі, да прыкладу, быў раней сп. А. Казулін, а цяпер сп. М. Статкевіч і шмат іншых.

*Для даведкі:* ірландская нацыя сёння ўяўляе сабой дзяржаву з насельніцтвам 4,6 млн (2011), ірландцамі сябе лічаць 86,9%, але ірландскую, першую афіцыйную мову, назвалі роднай толькі 11% жыхароў, ды і то толькі дзякуючы аднаму раёну краіны. Большасць жа насельніцтва (94%) карыстаецца другой афіцыйнай мовай, англійскай.

Чэшская мова на канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя была на мяжы вымірання, аднак пасля ўтварэння новай дзяржавы, Чэхаславакіі, пасля Першай сусветнай вайны, дзякуючы намаганням нацыянальнай эліты, чэшская мова была адноўлена. У Чэхіі жыве 10,5 млн чалавек (2009), з іх 94% — чэхі і 4% — славакі. Афіцыйная мова — чэшская.

Урэшце, якой бы мадэлі ні прытрымлівацца, нацыянальна-патрыятычным сілам застаецца рабіць максімальна магчымае, каб зберагчы родную мову і ўтрымаць беларускасць. Надзея на будучыню ёсць, бо ўжо пайшло другое тысячагоддзе ад першых знакаў нашай дзяржаўнасці — а мы існуём. І хаця апошнія два стагоддзі беларускі народ паспытаў моцны гуманітарны прэс, яшчэ застаецца крытычна-мінімальная праслойка нацыянальных сіл, і гэта дазваляе спадзявацца, што змены калісьці адбудуцца. На працягу апошніх двух стагоддзяў вядома незлічоная колькасць фактаў, якія сведчаць аб спробах суседзяў, Польшчы (у міжваенны перыяд на тэрыторыі Заходняй Беларусі) і Расіі, асіміляваць адну з самабытнейшых этнічных груп на зямлі, беларускую (Л. Лыч, 1995; В. Швед, 2002; М. Крыжаноўскі, 2008). Спробы гэтыя працягваюцца да сённяшняга дня. Прывядзём пару вядомых фактаў:

«Зраўняць Заходні край ва ўсіх адносінах з унутранымі велікарускімі губернямі» — такую задачу меў «Заходні Камітэт», утвораны імператарам Мікалаем I пасля ўдушэння паўстання 1830–1831 гадоў;

«Что не доделал русский штык — доделает русская школа и церковь» — так казаў генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю М. Мураўёў пасля ўдушэння паўстання 1863–1864 гадоў;

«Ни черта не понятно!», «Чем быстрее все мы будем разговаривать по-русски, тем быстрее построим коммунизм» — так рэагаваў М. Хрушчоў на прамову К. Мазурава на беларускай мове ў 1959 годзе падчас святкавання 40-годдзя БССР.

«Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут ничего делать, кроме как разговаривать на нём, потому что по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык — бедный язык. В мире существует только два великих языка — русский и английский» — з выступлення А. Лукашэнкі на сесіі Гомельскага гарсавета 1 снежня 1994 года («Народная газета», 1 лютага 1995 г.). Вось такая эвалюцыя.

Зберагчы тое, што маем, — гэта задача мінімум для нацыянальных сіл, задача максімум — несці веды пра гісторыю, традыцыі, родную мову ў народ цяпер, толькі тады можна спадзявацца на поспех і, магчыма, нават выйсці на «чэшскі варыянт» у будучыні.

## IV. Высновы

Сёння няма добрых падстаў сцвярджаць, што існуе моцная беларуская нацыя. Хаця такія характарыстыкі нацыі, як тэрыторыя і прыналежнасць да этнічнай беларускай групы, прысутнічаюць, але іншыя, як карыстанне Мовай і ўсведамленне сябе беларусамі, — моцна аслаблены ці нават адсутнічаюць. Нягледзячы на вялікую долю грамадзян, якія лічаць сябе беларусамі, што з'яўляецца добрым грунтам для нацыянальнага будаўніцтва, беларуская нацыя ў цэлым не выглядае моцнай, прыдушаная расійскай культурай, без значных праяў нацыянальнай волі і гонару. Доля нацыянальна свядомых людзей у агульнай масе насельніцтва даволі тонкая і пакуль дастатковая толькі для таго, каб мінімальна падтрымліваць ідэі беларускасці, але недастатковая, каб змяніць свядомасць усяго грамадства. Час ідзе,

губляецца пакаленне, якое яшчэ пачувае сябе беларусамі. Такім чынам, можна казаць пра тое, што для рэальнага будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў бліжэйшым часе няма падстаў.

Таксама відавочна, што немагчыма збудаваць нацыянальную дзяржаву без удзелу дзяржаўных установаў. Пакуль няма прыкметаў таго, што ў сённяшнім урадзе Беларусі ёсць нейкія праграмы па развіцці беларускасці. Нягледзячы на некаторыя дэкларатыўныя заявы, падтрымка і развіццё беларускасці не з'яўляецца рэальнай дзяржаўнай палітыкай. Калі змены не адбудуцца на працягу 10–20 год, то грамадства будзе ўяўляць сабой дэнацыяналізаваную цывільную дзяржаву. Русіфікацыя, якая пачалася 200 гадоў таму назад, працягваецца на Беларусі да гэтага часу. Сучасны ўрад Беларусі, эксплуатуючы ўсходні вектар знешняй палітыкі, які заснаваны на неасавецкай ідэалогіі, пакідае ў загане развіццё сваёй нацыі, вынікам якой з'яўляецца ўсё большая асіміляцыя беларусаў у расійскую палітыку і культуру. Фактычна Беларусь ідзе па шляху пабудовы рускамоўнай цывільнай дзяржавы, што, у сваю чаргу, можа скончыцца рэальнай стратай суверэнітэту праз далучэнне да іншых рускамоўных тэрыторый. Ці магчыма зберажэнне і развіццё беларускай культуры ў рускамоўным асяроддзі — гэта пытанне даволі рытарычнае і недарэчнае.

Нашы суседзі, Латвія і Літва, за 20 год незалежнасці зрабілі вельмі шмат у нацыянальным будаўніцтве і ў многім могуць быць для нас прыкладам, як і Польшча, якая на сённяшні момант аказвае вельмі істотную падтрымку ў развіцці дэмакратычных інстытутаў. Нацыянальнае будаўніцтва сталася магчымым нават у такіх краінах, як Латвія і Казахстан, дзе доля этнічных тытульных нацый была крытычна малой. Украіна вырашае амаль тыя ж самыя праблемы, што і Беларусь, у пытаннях развіцця дзяржаўнасці і нацыі. Ад таго, які будзе вынік вырашэння існуючых супярэчнасцяў паміж Украінай і Расіяй, будуць часткова залежаць і знешнія ўмовы існавання Рэспублікі Беларусь. Амаль усе краіны-суседзі, за выключэннем Расіі, спачуваюць і дапамагаюць у станаўленні дэмакратыі ў Беларусі, спрыяючы такім чынам стварэнню новых магчымасцяў для развіцця нацыі. У Расіі, на жаль, ні ва ўрадзе, ні сярод ліберал-дэмакратаў няма сіл, якія б шчыра падтрымалі самастойнасць Беларусі. Дваццаць два гады таму назад беларусы нарэшце вырваліся з-пад 200-гадовай апекі Расійскай імперыі і атрымалі рэальны шанец вярнуцца да дзяржаўнасці, якую яны мелі на працягу некалькіх стагоддзяў. Але, як і раней, з боку Расіі ўсё яшчэ зыходзіць небяспека для беларускай незалежнасці. І хоць ёсць шэраг умоў і фактаў, якія не дазваляюць думаць пра сцэнарый захопу краіны, але абсалютна выключыць такую верагоднасць ніхто не можа. Нягледзячы на адносную збалансаванасць на гэты час беларускай эканомікі паміж Расіяй і астатнім светам, тое ж самае можна сказаць і пра эканамічную незалежнасць і самастойнасць.



Відаць, нацыянальныя лідары вымушаны прызнаць, што магчымасць рэальнай пабудовы нацыянальнай дзяржавы застаецца пакуль што толькі тэарэтычнай нават у аддаленым часе. З пункту гледжання беларускай мовы праз нейкі час нацыянальная дзяржава магла б усталявацца па «ірландскаму тыпу» ці па «чэшскаму тыпу». Але і тэарэтычная магчымасць не можа быць рэалізавана ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, бо патрабуе часу і сур'ёзнай кансалідацыі і асветы насельніцтва Рэспублікі Беларусь. І гэта не залежыць ад таго, хто ёсць пры ўладзе, бо немагчыма гэтыя задачы ажыццявіць у кароткі тэрмін. Гэта значыць, што трэба распрацоўваць як каротка-, так і доўгатэрміновыя праекты, скіраваныя на дасягненне патрэбных для збудавання нацыянальнай дзяржавы змен. І гэта не толькі родная мова. Нацыю не збудаваць, калі беларусы не будуць ведаць даўнішнюю гісторыю свайго народа: што Адам Міцкевіч — гэта і беларускі нацыянальны паэт, якім яго лічаць таксама палякі і літоўцы; што беларусы могуць ганарыцца многімі выбітнымі землякамі як мінулага, так і сучаснасці, якіх несправядліва прысвоілі суседзі, сарамліва пра гэта маўчаць і не хочуць падзяліцца; што мы адметная, старажытная нацыя, здольная самастойна вырашаць свае жыццёвыя праблемы, як роўная і вольная сярод другіх нацый.

Нацыянальнай эліце застаецца зберажэнне і ўзбагачэнне тых каштоўнасцей, якія ўжо напрацаваны, і іх доўгатэрміновае, на працягу хаця б аднаго пакалення, укараненне ў народную

свядомасць. Тое, што робіцца ў гэтым напрамку на сённяшні дзень, — гэта вельмі добра, але недастаткова. Думаецца, што важную ролю ў стварэнні інфармацыйнай прасторы можа адыграць і беларуская дыяспара. Без асветніцкай працы сярод большасці беларускага насельніцтва тэарэтычная магчымасць будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы рэалізавана быць не можа.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «САКАВІК»*, № 1, сакавік 2013 г., с. 4–29.*


## Summary

***Piotra Murzionak. «The Ways to the Nation-State» (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», March 2013, issue 1, pp. 4–29)***

There is no evidence today to suggest that there is a strong Belarusian nation. Such characteristics of the nation as a territory, ethnic Belarusian groups are present, while others such as the use of native language and recognition themselves as Belarusians are very weak or even absent. Despite the relatively large homogeneity of Belarusians in the country, which is a good basis for nation-building, Belarusian nation as a whole is not strong, «dumb», suppressed by Russian mass culture, without manifestations of national will and honour. A part of the national conscious people is pretty thin and it is only sufficient yet to support the Belarusian idea at a minimum level and it is insufficient to change the consciousness of society as a whole. In addition, there is no overall strategy to work together in the development of the Belarusian nation. As time passes, lost momentum and the generation that still feels themselves as Belarusians. Thus, we can say that under any circumstances for the actual construction of the nation state in the near future there is no serious basis. It is also obvious that it is impossible to build the nation-state without the participation of state itself. Now there is no indication that the denationalized government has a desire to perform some changes. Development of Belarusian culture, despite some declarative statements, is not a real official policy. If no changes occur in the 10–20 years, the society will be a denationalized civil state. Rusification which began 200 years ago continues in Belarus so far. Modern Belarusian government exploiting the eastern vector of foreign policy, which is not based even on pan-Slavic, but on neo-Soviet ideology, suppresses the development of nation, which in turn leads the population of Belarus into assimilation by Russian politics and culture. In fact, Belarus is on the way of building a Russian-speaking civil state, which in turn can result in a real loss of its sovereignty by associating with other Russian speaking territories. Possible savings and the development of Belarusian culture in Russian-speaking environment — it's a rhetorical question, and quite ridiculous.

Our neighbours, Latvia and Lithuania for 20 years have done a lot in the nation-building and in many ways can be an example for us as well as Poland from which we have substantial support. Nation-building has become possible even in countries such as Latvia and Kazakhstan, where the proportion of ethnic titular nations was critically low. Ukraine solves almost the same problems as Belarus in the development of state and nation. On what will be the result of solving the existing conflict between Ukraine and Russia will partly depend on the external conditions of existence of Republic of Belarus. Almost all neighbouring countries, except Russia, sympathize and help in the development of democracy in Belarus, thus contributing to the creation of new opportunities for the development of the nation. Twenty-two years ago Belarusians finally broke out of 200-year tutelage of the Russian Empire and got a real chance to return to the state, which they have had for centuries. But as always, on the part of Russia the danger still comes for the Belarusian independence. And although there are a number of conditions and facts that do not allow such a scenario to think about, but absolutely exclude this possibility no one can. The same can be said about the economic independence and autonomy despite the balance of the Belarusian economy between Russia and the rest of the world at this time.


* Тут і далей: першыя шэсць нумароў часопіса мелі назву «САКАВІК»; пачынаючы з 7-га нумара часопіс па рашэнню рэдакцыі змяніў назву на «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ». Аўтарам падчас напісання кнігі (2016) зроблены некаторыя дапаўненні ў адпаведнасці з новымі фактамі.

Apparently, national leaders have to recognize that in the current conditions the possibility of building a real national state remains only theoretical. In terms of the language the nation-state could be established in the future on ‘Ireland type’ or ‘Czech type’. But the theoretical possibility can’t be realized in the next decades, as it requires time and significant consolidation and education of the population of Belarus. It does not depend on who is in power, because it is impossible to carry out these tasks in a short period of time. This means that it is necessary to develop both short-and long-term projects aimed at achieving the conditions and changes to build the nation-state. And it’s not just the language. The nation can’t be built if Belarusians will not know the ancient history of his people: that Adam Mickiewicz is their national poet, as he is considered by the Poles and Lithuanians as well; that Belarusians can be proud of many prominent countrymen both past and present who were unjustly appropriated by neighbours who are shamefully silent on this point and do not want to share now; that we are distinctive, ancient nation able to solve own vital problems as free and equal nation among the other nations.

National elite remains the storage of values that already gained, their enrichment and long-term implementation in the national consciousness at least during one generation. What is being done in this area to date this is very good, but not enough. It seems that an important role in creating an information space can play Belarusian diaspora. Without the education of majority of Belarusian population theoretical possibility of nation-state building can’t be realized.

# ЦІ БЫЎ РУРЫК У ПОЛАЦКУ?

*Ключавыя словы: усходнія славяне, размежаванне, усходнеславянская цывілізацыя, еўразійская цывілізацыя*

***Кароткі тлумачальны слоўнік:***

Рутэны — славяне, якія ў V–IX стагоддзях н. э. рассяліліся ва Усходняй Еўропе, пераважна на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Украіны.

Русь, варагі — прышлыя людзі, якія ўдзельнічалі ў кіраванні славянамі.

Велікаросы, маларосы, беларусы — групы славян, раздзеленыя па этнічным прызнаку ў XVIII–XIX стагоддзях.

Беларусы, украінцы — усходнія славяне, якія засяляюць сучасныя тэрыторыі сваіх дзяржаў.

Русь, Кіеўская Русь — феадальная дзяржава, існаваўшая ў X–XII стагоддзях вакол Кіева і часткова на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Масковія (Паўночна-Усходні край) — тэрыторыя ў басейне рэк Акі і Волгі, дзе ў 1263–1547 гадах было заснавана Маскоўскае княства.

«Цывілізацыя — вялікае грамадства, якое жыве ў аўтаномным, невыразным увасабленні (заўважна-незаўважным), якое не з’яўляецца часткай большага грамадства і існуе на працягу доўгага перыяду часу» (Targowski, 2009; пераклад з анг. П. М.).

Па пытаннях тэрміналогіі глядзіце таксама: «The Origins of the Slavic Nations: A review of modern historiography and major sources on Varangian controversy and other Scandinavian concepts of the origins of Rus» by R. Zakharii (2002); «Premodern Identities in Russia, Ukraine and Belarus» by S. Plokhy (2006); «Towards a composite definition and classification of civilization» by A. Targowski (2009).

## Уступ

Сёлета, у дзень афіцыйнага свята яднання Беларусі і Расіі, прагледаючы відэазапіс інтэрв'ю з грамадзянамі Мінска наконт іх адносін да гэтай падзеі, адзначыў, што большасць людзей старэйшага пакалення казалі пра шмат агульнага ў дзвюх суверэнных на сёння краінах, маючы на ўвазе жыццё ў СССР і апошнюю вайну, і што трэба жыць разам, г. зн. зноў яднацца. Толькі некаторыя са старэйшых людзей выказвалі думку, што мы можам жыць асобна, справімся. У той жа час моладзь была больш радыкальнай і падтрымлівала ідэю незалежнай і самастойнай Беларусі.

Такія палярныя думкі абумоўлены не толькі жыццёвым досведам і ўплывам дзяржаўнай прапаганды, але і розным узроўнем адукаванасці-свядомасці людзей. Гэтая розніца ў падыходах да ацэнкі стану грамадства, відаць, базуецца на выкарыстанні інфармацыі, што вынікае з кароткатэрміновай і доўгатэрміновай гістарычнай памяці. Відавочна, што кароткатэрміновая памяць існуе дзякуючы прапагандзе, якая існавала падчас СССР і ў вялікай ступені была звязана з Другой сусветнай вайной. Так, нядаўняя агульная гісторыя была. Але рабіць высновы аб еднасці і аб'яднанні абедзвюх краін толькі на гэтых гістарычных фактах было б не зусім правільна. Калі зазірнуць у даўнейшую гісторыю, малавядомую для большасці беларусаў, то будзе відавочным, што мы — розныя па вельмі многіх прызнаках (этнічных, гістарычных, культурных, рэлігійных). Гісторыя Расійскай дзяржавы пісалася ў часы імператрыцы Кацярыны II, г. зн. у той перыяд, калі Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) як форма беларускай дзяржаўнасці перастала існаваць. І інтэрпрэтацыя беларускай гісторыі ў працах таго часу была зусім не на карысць беларусаў. А што ж было да часоў Кацярыны II? У лепшым выпадку частка беларусаў цяпер ведае пра існаванне ВКЛ, але дэталёва не азнаёмлена з гэтым перыядам гісторыі сваёй краіны.



## Геапалітычныя межы паміж усходнімі славянамі і еўразійскімі народамі ў канцы IX стагоддзя н. э.

На сёння дзяржавы, у якіх славяне складаюць большасць насельніцтва, займаюць значную тэрыторыю Сярэдняй, Паўднёвай і Усходняй Еўропы (Балгарыя, Беларусь, Боснія і Герцагавіна, Македонія, Польшча, Расія, Славакія, Славенія, Сербія, Украіна, Харватыя, Чарнагорыя, Чэхія). Ёсць некалькі тэорый аб паходжанні ўсходніх славян, пачынаючы ад таго, што яны пайшлі ад скіфаў ці готаў, што яны стала пражывалі на амаль тых жа тэрыторыях, якія займаюць і зараз, і, нарэшце, што яны паступова мігравалі з раёнаў Сярэдняй Еўропы на поўдзень, усход і часткова на поўнач. У наш час лічаць, што славянскі этнагенез фарміраваўся на даволі вялікай тэрыторыі, якая распасціралася ад Одэра на захадзе да Дуная на поўдні і аж да Дняпра на ўсходзе (F. Curta, 2001; P. Geary, 2003).

На жаль, пра раннюю гісторыю ўсходніх славян вядома нямнога, і ў асноўным з-за адсутнасці на той час сваёй пісьменнасці і, як вынік, адсутнасці дакументаў, што сведчылі б аб гісторыі іх перамяшчэння і рассялення. Магчыма, гэту раннюю гісторыю дапамогуць з часам адкрыць археолагі ці нават генетыкі. У артыкуле размова будзе ў асноўным пра ўсходніх славян, у дачыненні да якіх версія пра іх міграцыю ў V–VII стагоддзях н. э. з раёнаў Палаб'я (цяпер Памеранія ў Германіі) і Віслы ў месцы сучаснага пражывання на сёння даволі распаўсюджаная. Аднак некаторыя даследчыкі лічаць малаверагодным, што за такі кароткі час (з 500 да 650 г. н. э.) славянскія плямёны змаглі засяліць/заняць тэрыторыю Усходняй і Цэнтральна-Усходняй Еўропы, тым больш што славяне былі землярobамі і з гэтай прычыны павінны былі весці аседлы стыль жыцця (G. Halsall, 2006). Апошняе можа сведчыць пра тое, што славянскія плямёны стала пражывалі на ўказаных тэрыторыях на працягу доўгага часу.

Таму існуе тэорыя, што ў V–VII стагоддзях гэта была ўжо другая хваля славян, якія далучаліся да аседлых славян, прыйшоўшых сюды раней. Адной з прычын другой хвалі міграцыі славян мог быць прыход у Еўропу з цэнтральнай Азіі гунаў у

370 годзе н. э. Базуючыся на даступных крыніцах інфармацыі, можна казаць, што славянскія плямёны з Палаб'я і Віступы рухаліся з захаду на ўсход дзвюма групамі: у прыватнасці, А. Шахматаў (1919) лічыў, што плямёны протаславян складалі дзве вялікія групы — заходніх славян і ўсходне-паўднёвых. Можна меркаваць, што заходняя група, паступова рухаючыся на поўнач, паўночны ўсход і ўсход, займала тэрыторыю сучаснай Беларусі, Пскоўскіх, Наўгародскіх і Смаленскіх зямель. Другая ж, ідучы на паўднёвы ўсход і поўдзень, паступова засяляла тэрыторыі сучаснай Валыні, Карпат і Украіны (мы прытрымліваемся традыцыйнага падыходу ў вызначэнні славян). Усходнія славяне паступова занялі тэрыторыю (гл. карту 1), якую пазней гісторыкі назвалі Кіеўскай Руссю.

У перыяд рассялення (V–IX стст.) і падчас існавання Кіеўскай Русі падзялення ўсходніх славян на групы па моўным прызнаку яшчэ не было. На той час яны называліся русінамі, рутэнамі. Аднак на аснове археалагічных даследаванняў іх падзяляюць на плямёны. Мяркуюць, што славянскія плямёны, якія ішлі на паўночны захад Усходняй Еўропы (дрыгавічы, драўляне, дулебы, крывічы, палачане), сутыкаліся і асіміляваліся з балцкімі плямёнамі (гэта тыя славяне, якія далі пачатак сучасным беларусам). Некаторымі аўтарамі абгрунтоўваецца балцкая тэорыя паходжання беларусаў (А. Дзермант, З. Санько, 2005; В. Деружинский, 2009; М. Голденков, 2009). Славяне, што дасягнулі Кіева і памежных тэрыторый (драўляне, паляне), далі пачатак сучасным украінцам. Славянскія плямёны, што пазней рухаліся на поўнач, паўночны ўсход і ўсход (ільменскія і наўгародскія славяне, крывічы, радзімічы, севяране), дайшлі да тэрыторый, якія займалі фіна-ўгорскія плямёны; гэтыя славянскія плямёны далі пазней пачатак яшчэ адной галіне ўсходніх славян, якіх назвалі велікаросамі. Відавочна, што рух гэтай групы славянскіх плямён на поўнач і ўсход стрымліваўся як прыроднымі фактарамі, не зусім прыдатнымі для земляробства (лясы, стэпы, халодны клімат), так і адсутнасцю колькаснай перавагі славян, дастатковай на той час для таго, каб не знікнуць за фіна-ўгорскімі плямёнамі, якія займалі гэтыя тэрыторыі (мардва, мары, весь, мяшчэра, мурама). Асіміляцыя «славян-велікаросаў» з гэтымі плямёнамі (асіміляцыя першай хвалі) была адной з прычын размежавання ўсходніх славян (гл. карту 1).



Рух на поўдзень і паўднёвы ўсход ад Кіева быў немагчымым, і не таму, што ў тым напрамку былі не вельмі прыдатныя для земляробства бяскрайнія стэпы, а таму, што гэтыя стэпы былі даўнім месцам пражывання і дзейнасці качэўнікаў. Чарнаморска-Каспійскі стэп (раней яго называлі «Дзікім полем», плошчай каля 1 млн кв. км) цягнецца ад усходніх межаў Румыніі і далей па паўднёвых частках сучаснай Малдовы, Украіны, Расіі да паўночна-заходняга Казахстана і Урала. Чарнаморска-Каспійскі стэп далей на ўсходзе далучаецца да Казахскага стэпу і, такім чынам, з'яўляецца часткай велізарнага Еўразійскага стэпу. На працягу тысячагоддзяў ваяўнічыя плямёны качэўнікаў рухаліся па гэтым стэпе з усходу на захад і нават дасягалі і захоплівалі значныя рэгіёны Еўропы.

З усходу на захад, змяняючы эпохі і адзін аднаго, ішлі скіфы (700–200 да н. э.), сарматы (200 да н. э. — 200 н. э.), гуны (370–453 н. э.), аланы (500–1100 н. э.), авары (600–800 н. э.), хазары (600–1000 н. э.), а пазней печанегі (800–1100 н. э.), кіпчакі і куманы (XI–XIII стст.), манголы Чынгісхана (XIII–XV стст.) (N. Riazanovsky, 1993). Як лічылі некаторыя расійскія гісторыкі (Л. Гумілёў, класічныя еўразісты), і качэўнікі, і стэпы, якія яны займалі, адыгралі велізарную ролю ў далейшым станаўленні і развіцці Расіі. У нашы дні толькі на тэрыторыі Еўразійскага стэпу жывуць шматлікія народы аўтаномных рэспублік Расіі (башкіры, мары, мардва, татары, удмурты, чувашы, адыгейцы, асеціны, балкары, інгушы, кабардзінцы, калмыкі, карачаеўцы, чачэнцы, чаркесы). Такім чынам, можна казаць, што Расія, уключыўшы на працягу доўгай гісторыі ўсе гэтыя еўразійскія тэрыторыі і насельніцтва, што іх засяляла, з'яўляецца пераемніцай еўразійскага руху з усходу на захад.

## Ці быў Рурык у Полацку, альбо Як чытаць гісторыю?

На канец IX стагоддзя на тэрыторыі рассялення паўднёва-ўсходніх славян з’явіліся ўмовы для стварэння феадальнай дзяржавы пад назвай Кіеўская Русь. Тэрмін Кіеўская Русь (яшчэ Старажытная Русь) ужываецца многімі вучонымі ў навуковых публікацыях і папулярнай літаратуры для азначэння старадаўніх зямель Русі, размешчаных вакол Кіева, што на сёння ўваходзяць у склад сучаснай Украіны і часткова Беларусі (R. Zakharii, 2002; S. Plokhy, 2006). Трэба заўважыць, што тэрыторыя сучаснай Расіі (як і само слова Расія) не мае дачынення да Русі, нягледзячы на тое, што гэта версія актыўна прапануецца і выклікае шматлікія спрэчкі ва Усходняй Еўропе. Усё, з чаго пачыналася Расія, называлася Масковія (Суздальская, Мурамская, Растоўская землі). Тарас Шаўчэнка ў адносінах да Расіі ўжываў тэрмін Маскоўшчына, і, відаць, меў для гэтага падставы таксама. Тым не менш версія пра адзіны славянскі народ культывуецца на працягу апошніх двух стагоддзяў як былымі, так і сучаснымі славянафіламі, панславістамі і еўразістамі, як на прасторах, якія займаюць усходнія славяне, так і па-за іх межамі.

Падмена азначэнняў Русь-Расія пачалася ў пачатку XVII стагоддзя, і найбольш у часы кіравання імператрыцы Кацярыны II (гады на троне, 1762–1796). На яе загад пачалі пісаць гісторыю Расіі, уключна з распрацаванай Г. Ф. Мюлерам нарманскай тэорыяй паходжання Русі і гісторыямі Расіі, складзенымі В. Н. Тацішчавым (1686–1750), М. М. Карамзіным (1766–1826), С. М. Салаўёвым (1820–1879). Гэтыя і іншыя працы выкарыстоўваліся і выкарыстоўваюцца для абгрунтавання адбыўшагася «аншлюса» Рэчы Паспалітай і «воссоединения» ўсходніх славян («великороссов, малоросов и белорусов»), зацвярджэння славянскага характару Расійскай імперыі і гістарычнай пераемнасці ад Русі/Кіеўскай Русі да Расіі.

Паводле нарманскай тэорыі, вялікая роля ў стварэнні краіны (Русі/Кіеўскай Русі) прыпісвалася скандынавам-варагам і немцам — гэтыя прышлыя людзі называліся русь. Нарманская



тэорыя больш распаўсюджана сярод заходніх вучоных, скандынаўскіх і германскіх (H. Arbman, T. Arne, O. Hötzsch, K. Rahbek Schmidt, A. Stender-Petersen, G. Stöckl), сярод рускіх эмігрантаў-гісторыкаў (N. Beliaev, V. Kiparsky, V. Moshin, P. Struve, M. Taube, A. Vasiliev, G. Vernadsky), сярод польскіх гісторыкаў (H. Paszkiewicz) (гл. R. Zakharii, 2002).

Да ліку нарманістаў, прадстаўнікоў «славянскай» школы, залічаюць М. М. Карамзіна, М. П. Пагодзіна, А. А. Куніка. Сярод антынарманістаў можна адзначыць вучоных, якія лічылі, што паходжанне русі мае хазарскія карані, угорскія, фінскія (В. М. Тацішчаў), літоўскія (М. І. Кастамараў), гоцкія. С. М. Салаўёў сцвярджаў, што русь была вядома на берагах Чорнага мора задоўга да прыходу Рурыка з братамі. Многія з гэтых тэорый маюць цяпер толькі пазнаваўчы характар. Ёсць і неанарманісты (G. H. Jankuhn, V. Moshin, Y. Vernadsky і іншыя), якія, у асноўным не адмаўляючы нарманскую тэорыю, казалі пра паступовыя змены ў кіраванні славян чужаземцамі (мірная каланізацыя). Савецкія гісторыкі ў асноўным былі антынарманістамі (B. Grekov, V. Mavrodin, A. Nasonov, Tikhomirov, M. Artamonov, B. Rybakov, D. Likhachev); яны адмаўлялі нарманскую тэорыю з-за яе «ненавуковасці». У пачатку XX стагоддзя ўкраінскі вучоны М. Грушэўскі, адстойваючы свае нацыянальныя інтарэсы, цвердзіў, што нарманская тэорыя не мае ніякай гістарычнай асновы. Больш падрабязна аб спрэчках нарманістаў і антынарманістаў глядзіце гістарычныя агляды (R. Zakharii, 2002; Л. Клейн, 2009).

Але гісторыкі расійскага паходжання, якой бы тэорыі ні прытрымліваліся (нарманскай ці антынарманскай), спрачаючыся аб вытоках улады на славянскіх землях, аб пераважнай ролі прышэльцаў-варагаў ці саміх славян, што тут жылі, атаясамліваюць гісторыю Кіеўскай Русі з гісторыяй сучаснай Расіі. І галоўная іх мэта, як відаць, зацвердзіць міф/легенду пра славянскае паходжанне расіян і паказаць законнасць пераходу ўлады ад Кіеўскай Русі да князёў Масковіі і цароў Маскоўскага царства, пачынаючы ад Рурыка і да пачатку XVII стагоддзя, калі на змену Рурыкавічам прыйшлі Раманавы. Нацыянальную ідэнтычнасць маларосаў і беларусаў прыйшлося прызнаць, каб называць сябе

велікаросамі, але аб нацыянальнай дзяржаўнасці беларусаў, жыўшых у Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XVIII стагоддзя і інкарпарыраваных у склад Расійскай імперыі, у кнігах расійскіх гісторыкаў не згадвалася. Відавочна, што гістарычная навука ў гэтым выпадку выконвала палітычны заказ. Даўно вітае такая класічная думка, што той, хто піша гісторыю, той кантралюе сучаснае.

Не прымаючы чыйго б то ні было боку ў спрэчках нарманістаў ці антынарманістаў, відавочна, што ў гісторыі, напісанай спецыяльна для Расіі, ёсць шмат прабелаў, якія не дазваляюць разглядаць яе праўдзівай у адносінах да Беларусі. Гісторыю, якую нам доўгі час афіцыйна падавалі, была гісторыяй Расійскай дзяржавы. З дня заснавання Імперскай Акадэміі навук Пятром І у 1725 годзе амаль усе прэзідэнты акадэміі былі вучоныя, запрошаныя з Захаду: L. Bluementrost (1725–1733) (першы прэзідэнт), затым H. K. von Keiserling (1733–1734), J. A. von Korff (1734–1740), K. von Brevern (1740–1741), K. G. Razumovsky (з гетманату 1746–1798), H. L. von Nicolay (1798–1803). З 50 членаў Акадэміі навук у 1725–1786 гадах толькі пяць акадэмікаў былі расійцамі (В. Е. Адодуров, Г. Н. Теплов, С. П. Крашенинников, В. К. Тредьяковский, М. В. Ломоносов) (S. Werrett, 2000), астатнія былі ў асноўным немцамі, уключна з Герхардам Фрыдрыхам Мюлерам, кіраўніком гістарычнага дэпартамента, якому і было даручана пісаць гісторыю Расіі (працаваў у акадэміі з 1725 па 1783 год).

У аснове гісторыі Расіі, якую пісалі Карамзін, Салаўёў, ляжыць нарманская тэорыя («О народах издревле в России обитавших», 1788), аўтарам якой з'яўляўся Г. Ф. Мюлер. Паводле гэтай тэорыі, вялікая роля ў стварэнні краіны (Кіеўскай Русі, а не Расіі) прыпісвалася скандынавам-варагам і немцам. Менавіта гэта тэорыя/міф/легенда была знаёма беларусам і ўкраінцам з часоў Расійскай імперыі, нягледзячы нават на тое, што савецкія гісторыкі былі антынарманістамі. Чаму так дзіўна адбылося? Напэўна, віной таму зноў жа палітычная заангажаванасць пытання. Відавочна, што трэба было падтрымліваць славянскасць і славянскае адзінства, якое ляжала ў аснове Расіі і СССР (як пераемніка расійскай імперскай спадчыны), у абодвух выпадках



безумоўна падтрымліваемае праваслаўем. Пры кожных новых умовах існавання імперыі мы бачым змену тэарэтычных гістарычных дэкарацый: так, на этапе імператрыцы Кацярыны ІІ патрэбна была кіруючая роля скандынаваў і немцаў у кіраванні славянамі, у савецкія часы, паміж дзвюма войнамі, трэба было трымаць адзінства славянскага духу. Нездарма падчас Другой сусветнай вайны выйшаў фільм пра Аляксандра Неўскага, які пабіў тэўтонскіх рыцараў (немцаў) на Чудскім возеры, хаця роля яго ў расійскай гісторыі трактуецца неадназначна (ад святога да здрадніка — святога як абаронцы праваслаўя, і здрадніка — бо заключыў дамову з Залатой Ардой і пагадзіўся на васальнае становішча княстваў Паўночна-Усходняга краю/Масковіі).

Як сведчаць крыніцы (М. Белявский, 1955), з гісторыяй Расіі, якую пісалі нямецкія вучоныя, быў не згодны Ламаносаў, які звінавачваў Мюлера ў фальсіфікацыі. Ламаносаў лічыў, што русы прыйшлі з славянскіх зямель, а не былі варагамі. Паміж гэтымі вучонымі ішла зацятая вайна, вынікам якой было нават часовае звальненне Ламаносава з універсітэта. Толькі першая частка першага тома «Древней Российской истории», якую пісаў Ламаносаў, ужо пасля яго смерці была выдадзена Г. Мюлерам, а архівы Ламаносава прапалі. Трэба адзначыць, што Г. Мюлер кіраваў архівамі Акадэміі навук з 1766 года да канца свайго жыцця. Падобнае адбылося і з працамі В. М. Тацішчава (1686–1750): Г. Мюлер выдаў пяць тамоў расійскай гісторыі па запісах Тацішчава пасля яго смерці. Зноў жа, як і ў выпадку з архівам Ламаносава, рукапіс Тацішчава таксама загадкава знік, як і даўнішнія і нікому зараз не вядомыя летапісы, па якіх гэтыя рукапісы пісаліся. У лепшым выпадку, гэтыя працы маглі рэдагавацца ці перапісвацца. Магчыма, гэта невыпадкова, што ў надрукаванай працы Ламаносава яго погляды дзіўным чынам адпавядаюць поглядам самога Мюлера. Дык аб чым яны тады спрачаліся? Гэтыя факты не для таго, каб кінуць цень на таго ці іншага вучонага, удзельніка напісання расійскай гісторыі. Не. Гэта спроба знайсці каштоўную і праўдзівую інфармацыю, якая вельмі важная для сучаснага развіцця ўсходнеславянскіх дзяржаў.

Адпраўным пунктам для нарманскай тэорыі быў Нестараўскі летапіс. Летапіс «Повесть минувших лет» (ПМЛ), які датуецца 1113 годам, пісаўся манахам Нестарам, а магчыма і не ім адным (лічаць, што гэта была калектыўная праца; R. Picchio, 1981). ПМЛ пісаўся абапіраючыся на недайшоўшыя летапісы, паданні, візантыйскія дакументы. Першыя згадкі пра славян у Нестараўскім летапісе адносяцца да 862 года. Гэта значыць, летапіс пісаўся больш чым праз 250 гадоў пасля падзей, якія маглі тады адбывацца. У летапісе апавядаецца пра прыход вікінгаў/варагаў, якіх славяне запрасілі на княжанне. Тры паўміфічныя браты, Рурык, Трувар і Сінеус, у 862 годзе сталі кіраваць у Ноўгарадзе, Ізборску і Белавозеры. Аднак ніякіх пазнейшых звестак пра двух апошніх братоў нідзе няма.

Больш таго, сучаснае прачытанне тэксту ПМЛ дае наступнае тлумачэнне імёнам «Rurik, Sineus en Truvor» як «Рурык, яго радня і кампаньёны» («Rurik, sine hus, en tro(gna) vär(ingar)», сканд.; «Rurik, his house/relatives, and true companions», англ.) (Л. Кацва, А. Юрганов, 1996). Кацярына II, якая, вядома ж, верыла ў гэту тэорыю, загадала нават вырабіць медаль у гонар Трувара, на ліцавым баку якой быў уяўны партрэт Рурыка, а на тылавой частцы — насыпны Трувараў курган і надпіс: «До днесь памятен», а ўнізе «Трувор скончался в Изборске в 864 году». Вось так, чалавека з гэтым імем, магчыма, і не было, а медаль — ёсць. Што тычыцца самога Рурыка, то яго слядоў таксама пакуль нідзе не знайшлі. Першапачатковая версія знаходжання Рурыка ў Ноўгарадзе не пацвердзілася. Тым больш што сучасны Ноўгарад, паводле археалагічных даследаванняў, з’явіўся толькі ў другой палове X стагоддзя, як не было ў той час і Белавозера, дзе мог кіраваць «Сінеус». Ёсць гіпотэза, што Рурык заснаваў сваё паселішча на берагах Ладагі, аднак, зноў жа, пакуль доказаў гэтаму няма. Магчыма, што Рурык, як Трувар і Сінеус, гэта выдуманая асоба. Так што ці існаваў фізічна чалавек па імені Рурык у канцы IX стагоддзя — гэта вялікае пытанне. Але з падачы Мюлера гэта ідэя была падхоплена расійскімі гісторыкамі, і князі-Рурыкавічы праіснавалі ў Маскові да канца XVI стагоддзя.



Чытаем Карамзіна: «Рюрик прибыл в Новгород, Синеус на Белоозеро в область Финского народа Веси, а Трувор в Изборск, город кривичей. Смоленск, населенный также кривичами, и самый Полоцк оставались еще независимыми и не имели участия в призвании варягов. Следственно, держава трех владетелей, соединенных узами родства и взаимной пользы, от Белоозера простиралась только до Эстонии и Ключей Славянских, где видим остатки древнего Изборска. Сия часть нынешней С. Петербургской, Эстляндской, Новогородской и Псковской Губерний была названа тогда Русью, но имени Князей Варяго-Русских. Чрез два года [в 864 г.], по кончине Синеуса и Трувора, старший брат, присоединив области их к своему Княжеству, основал Монархию Российскую». Такім чынам, у той час, калі не было ні Масквы, ні Белавозера, ні Ноўгарада, і, магчыма, нават ні Трувара, ні Сінеуса, то Рурык, паводле інтэрпрэтацыі Карамзіна, заснаваў ні многа ні мала «Монархию Российскую», а сам Карамзін назваў *Русью* тэрыторыю, якая так ніколі не называлася. І ўсё ж Полацк і Смаленск як у ПМЛ, так і ў гісторыі Карамзіна не ўпамінаюцца як гарады, якія запрашалі варагаў на княжанне.

У дадатак Карамзін напісаў, што Полацк быў незалежным, а значыць, прызнаваў, што гэты горад меў сваю, незалежную ад Кіева гісторыю, а тым больш ад гісторыі Расіі, куды аўтаматычна, па зразумелых цяпер «імперскіх традыцыях», уключалася гісторыя Кіеўскай Русі. Вольную інтэрпрэтацыю ПМЛ мы знаходзім і ў С. М. Салаўёва (1820–1879): «До нашего начального летописца дошло очень мало преданий о княжении Рюрика. Он знает только, что по прошествии двух лет от призвания младшие братья — Синеус и Трувор умерли, и всю власть принял один старший Рюрик; эта власть простиралась уже на кривичей западно-двинских, то есть полочан на юге, на мерю и морому на северо-востоке». У «Повести временных лет» у перакладзе акадэміка Ліхачова гэта частка гучыць інакш: «Через два же года умерли Синеус и брат его Трувор. И принял всю власть один Рюрик, и стал раздавать мужам своим города — тому Полоцк, этому Ростов, другому Белоозеро. Варяги в этих городах — находники, а коренное население в Новгороде — словене, в

Полоцке — кривичи, в Ростове — меря, в Белоозере — весь, в Муроме — мурома, и над теми всеми властвовал Рюрик». Мы бачым, што Рурык направіў свайго «мужа» ў Полацк, але ці трапіў ён туды і ці рабіў ён што там — зусім невядома. І ў той час калі па Карамзіну Полацк быў незалежным, то па Салаўёву «полочане на юге» ўжо знаходзіліся пад уладай Рурыка. Атрымліваецца, што нейкім чынам Рурык раздаваў гарады, якія яму не належалі.

Можна моцна сумнявацца ў тым, што прыйшоўшыя нешматлікія вікінгі/варагі маглі сур'ёзна ўплываць на развіццё славянскіх плямён, якія жылі тут здаўна. Хаця ёсць гіпотэза, што яны кантралявалі гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі», але, на думку яе аўтара, скандынаўскія калоніі здаваліся «выспачкамі ў моры» полацкіх крывічоў, наўгародскіх славенаў альбо кіеўскіх палянаў (А. Котлярчук, 2002).

Можна знайсці яшчэ шмат супярэчнасцяў у вольнай трактоўцы мінулага расійскімі гісторыкамі, але відавочна, што гэтыя гісторыі-апавяданні, выкарыстоўваючы дакументальныя матэрыялы, падводзяць чытача да галоўнай думкі, што дзяржаўнасць Расіі пачыналася ад Рурыка і Кіева. Адна справа — вольная інтэрпрэтацыя найбольш вядомага і старэйшага ўсходнеславянскага летапісу, няхай сабе нават напісанага з хібамі. А другая заключаецца ў тым, што летапіс гэты (ПМЛ) некалькі разоў перапісваўся і перарабляўся. Так, да прыкладу, паказана, што з часоў княжання ў Кіеве Уладзіміра Манамаха (1113–1125), ад якога ў далейшым пайшла лінія маскоўскіх князёў-Рурыкавічаў, ПМЛ дапрацоўваўся манахам Сільвестрам і іншымі кніжнікамі ў інтарэсах Манамахавічаў (спачатку ў Кіеве, а пасля ў Ноўгарадзе ў час праўлення там Мсціслава, сына Манамаха) (P. Cross, O. Sherbowitz-Wetzor, 1953; О. Толочко, П. Толочко, 1998). Так узнікалі новыя рэдакцыі ПМЛ, якія ў далейшым былі ўключаны ў Лаўрэнцьеўскі (1377) і Іпацьеўскі (пачатак XV стагоддзя) летапісы, і натуральна, што гэта дапоўненая інфармацыя з дадатковымі тлумачэннямі трапляла ў расійскія падручнікі гісторыі.

Прыведзеныя прыклады з ПМЛ з неадназначнай трактоўкай падзей мінулага, растыражыраваныя па ўсім свеце, не з'яўляюцца адзінымі і наводзяць на думку аб крытычным прачытанні мінулай гісторыі і вызначэнні праўдзівых падзей на Беларусі і Украіне, асабліва ў кантэксце, для каго створаныя міфы былі выгаднымі. Вядома ж, не адмаўляецца той факт, што ПМЛ і яго пазнейшыя версіі з'яўляюцца важнымі для вывучэння гістарычнымі дакументамі, якія адлюстроўваюць змены і наслаенні той эпохі.



*Увесь артыкул апублікаваны ў часопісе «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 2, чэрвень 2013 г., с.3–43.*

*Пашыраная версія артыкула апублікавана ў трэцім нумары часопіса, верасень 2013 г., с. 40–61.*

# АДУКАЦЫЙНЫ ПРАЕКТ «РАЗАМ»

Два месяцы таму часопіс «САКАВІК» запрасіў вас да ўдзелу ў асветніцкім праекце «РАЗАМ». Гэты праект скіраваны на асвету насельніцтва ў пытаннях гісторыі і культуры. Пакуль што база даных складаецца сябрамі часопіса, але не так хутка, як думалася. Мы ўсё ж разлічваем на вашу шчырую зацікаўленасць у асветніцкім праекце «РАЗАМ» і на ваш удзел у яго выкананні з тым, каб атрымалася па плану. Ніжэй мы падаём апісанне праекта «РАЗАМ», апублікаванага ўпершыню на вэб-сайце www.sakavik.net 19 красавіка 2013 года.

## Праект «Разам»

Радзіму мала любіць — яе трэба бараніць!

Часопіс «САКАВІК» запрашае чытачоў **да ўдзелу ў асветніцкім праекце «Разам»**.

Далейшае існаванне суверэннай і незалежнай Беларусі ў значнай ступені залежыць ад узроўню свядомасці беларускага грамадства, і таму асвета насельніцтва з'яўляецца важнейшай задачай у кароткай і ў доўгатэрміновай перспектыве. На сённяшні дзень існуе шэраг інфармацыйных дзяржаўных і недзяржаўных рэсурсаў, скіраваных у пэўнай меры на дасягненне гэтай мэты. На працягу апошніх 25 год выйшлі ў свет кнігі па гісторыі У. Арлова (2005), В. Дзеружынскага (2009), М. Ермаловіча (1990, 2003), Г. Сагановіча (1995), А. Тараса (2008), А. Трусава (2009), В. Чаропкі (2002, 2005), выпушчаны такія выданні, як «100…» і «150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі» (З. Санько, І. Саверчанка, 1999), «Мысліцелі і асветнікі Беларусі» (1995), асветніцкія ініцыятывы рэалізоўвалі Таварыства беларускай мовы і «Малады фронт», апублікавана «Стратэгія развіцця беларускай мовы ў ХХІ стагоддзі», працуе шэраг вэбсайтаў.

**І ўсё ж!**



Часопіс «САКАВІК» прапануе новы асветніцкі праект «РАЗАМ», таму што лічыць, што існуючых рэсурсаў усё яшчэ недастаткова. Што новага плануе часопіс у праекце, мэтай якога з'яўляецца далейшая асвета насельніцтва па важнейшых пытаннях беларускай гісторыі і культуры?

Такіх навінак у праекце «РАЗАМ» — тры:

першая — гэта кароткі фармат падаваемай інфармацыі (фактычна фармат улёткі);

другая — удзел саміх чытачоў у стварэнні базы даных;

трэцяя — уніфікаванасць падаваемай інфармацыі пры максімальным удзеле электронных і неэлектронных сродкаў масмедыя ў яе распаўсюдзе.

Хтосьці можа сказаць, што «знайшоўся яшчэ нейкі дзіўны праект», «нічога не атрымаецца», «каму гэта трэба?». Хтосьці яшчэ скажа, што інфармацыі падобнага тыпу хапае. Гэта так. Але ці даступныя гэтыя матэрыялы? Якімі накладамі выдадзеныя? Ці ва ўсіх бібліятэках іх можна знайсці? Колькі жадаючых іх шукае?

Крытыкі і папрокаў будзе шмат. Але давайце паспрабуем.

Выкананне праекта плануецца ў два этапы:

**І этап** — стварэнне электроннай базы даных (красавік 2013 — сакавік 2014 года);

**ІІ этап** — распаўсюд падрыхтаванай інфармацыі (ад красавіка 2014 года і далей).

**І этап:** Стварэнне асноўнай базы пачалі сябры часопіса. На нашым сайце www.sakavik.net вы знойдзеце прыклады інфармацыйных улётак, каб зразумець іх скіраванасць і прыблізную форму. Мы вельмі чакаем і запрашаем вас да актыўнага ўдзелу ў праекце «РАЗАМ». Прозвішчы чытачоў — аўтараў прапаноў, па іх жаданні, будуць апублікаваны на старонках часопіса і адзначаны памятным адрасам часопіса. У выкананні задач праекта могуць прымаць удзел не толькі асобы, але і арганізацыі ў краіне і за мяжой, незалежна ад іх палітычных, рэлігійных, расавых або іншых сімпатый.

З улікам стану грамадства матэрыялы рыхтуюцца на беларускай мове. Матэрыялы павінны быць інфармацыйнымі і

кароткімі, на адну старонку. Матэрыялы могуць падавацца ў выглядзе малюнкаў, дыяграм, табліц, графікаў, тэкстаў. Тэматыка матэрыялаў павінна быць скіравана на асвятленне важнейшых момантаў з гісторыі і культуры беларускага народа, якая б сцвярджала яго самабытнасць і адметнасць, стварала гонар за свой край. У матэрыялы, напрыклад, можна ўключаць інфармацыю пра летапісцаў, князёў, знакамітых людзей, пра вытворчасць трактароў «Беларусь», пра народныя святы і г. д.

Падчас стварэння асноўнай базы даных і на заключнай стадыі (студзень–сакавік 2014 г.) часопіс будзе браць кансультацыі ў прафесіяналаў у розных галінах, а таксама раіцца з прадстаўнікамі арганізацый і сродкаў масавай інфармацыі для таго, каб дапоўніць і канчаткова прыняць змест падаваемых матэрыялаў.

**II этап:** Другі этап будзе больш складаны, бо звязаны з распаўсюдам падрыхтаванай інфармацыі і запатрабуе згоды і яднання ўсіх удзельнікаў пры яго выкананні. Ідэя выкарыстання электронных сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) не новая, але як яшчэ можна рэалізаваць новы асветніцкі праект? Доля сем'яў, якія на 1 студзеня 2012 года мелі персанальныя камп'ютары, склала ў Беларусі 46,4%, з іх доступ да інтэрнэту мелі 40,3% (www.telegraph.by ад 16 мая 2012 г.). Не хацелася б, каб рэалізацыя праекта вылілася ў пустую і доўгую дыскусію пра асобы, пра ідэалістаў і г. д. Мы верым, што ідэя знойдзе сваіх прыхільнікаў. Прапануемая схема вельмі простая (гл. ніжэй): падрыхтаваныя матэрыялы будуць размяшчацца ва ўсіх даступных электронных і неэлектронных СМІ ў спецыяльным раздзеле пад агульнай для ўсіх СМІ назвай і на самай справе не запатрабуе многа месца і высілкаў. Пры разуменні і згодзе ўдзельнічаць у праекце электронным сайтам трэба толькі даць месца для раздзела, а неэлектронным СМІ — гэтыя матэрыялы перадрукаваць (на першы погляд, гэта вельмі простыя і выконваемыя задачы). Патэнцыйнымі ўдзельнікамі праекта «РАЗАМ» могуць быць сябры партый і недзяржаўных грамадскіх арганізацый (НГА), карыстальнікі інтэрнэту, электронныя СМІ («Хартыя'97», радыё «Свабода», «Беларускі партызан»), персанальныя і групавыя вэб-сайты, газеты «Народная воля», «Наша Ніва», «Новы час», «Белорусы и рынок», грамадзяне краіны, а таксама беларуская дыяспара. За межамі Беларусі, у краінах, дзе карыстанне інтэрнэтам у асноўным неабмежавана, пражывае каля 1,5 мільёна грамадзян Беларусі, якія маюць цесныя сувязі са сваякамі і сябрамі на радзіме. Агульная колькасць чальцоў партый у Беларусі складае 65–70 тыс., з іх большая частка, каля 40 тыс., уваходзіць у Ліберальна-дэмакратычную партыю. Гэта таксама няшмат. Але калі аб'яднаць усе названыя рэсурсы **разам**, то праект можа быць паспяхова рэалізаваны. Распаўсюд падрыхтаванай інфармацыі праз самаперавыданне не выключаецца. На гэтай стадыі не патрабуюцца лідары. Кожны чытач можа прыняць рашэнне сам.






Канчатковая мэта — дасягнуць праз 3–5 гадоў узроўню чытаемасці і пазнаваемасці падрыхтаваных матэрыялаў не менш за 30%. Праект не ёсць часовай кампаніяй, ён доўгатэрміновы, разлічаны на гады і патрабуе разумення і высілкаў усіх удзельнікаў. Ва ўмовах абмежаванага доступу да радыё і тэлебачання і неістотнага распаўсюду незалежнай, дазволенай інфармацыі праз «Беларусьдрук» гэты праект уяўляе сабой яшчэ адну магчымасць нешта рэальна і пастаянна рабіць для асветы насельніцтва.

Каментарый да змешчаных на сайце прыкладаў інфармацыйных улётак:

У інфармацыйнай улётцы № 1 «ПЕРЫЯДЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ» гаворка ідзе аб тым, што беларуская дзяржаўнасць існуе на працягу X–XXI стагоддзяў, **11 стагоддзяў!!!**, за выключэннем перыяду з 1798 па 1917 год, калі беларуская тэрыторыя была захоплена Расійскай імперыяй і называлася Паўночна-Заходнім краем.

У інфармацыйнай улётцы № 3 «БЕЛАРУСЬ. РАСІЯ. МЫ — РОЗНЫЯ» даюцца тры важнейшыя адрозненні ў гісторыі паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй:

Полацкае княства (960) утварылася на два стагоддзі раней, чым княствы Паўночна-Усходняй Русі (Наўгародская рэспубліка, 1136 г.; Уладзіміра-Суздальскае княства, 1157 г.).

Беларускія землі ніколі не былі пад Залатой Ардой, тады як княствы Паўночна-Усходняй Русі 240 год, з 1240 па 1480 г., жылі пад уладай Залатой Арды і плацілі ёй даніну.

Славяне на тэрыторыі Беларусі асімляваліся з балцкімі плямёнамі, тады як на землях Паўночна-Усходняй Русі славяне асімляваліся спачатку з фіна-ўгорскімі плямёнамі, а пазней з цюркскімі народамі.

*Ад аўтара:* У бібліятэцы часопіса запачата інфамарцыйная бібліятэка, якая на сённяшні дзень уключае чатыры серыі слайдаў («Беларуская дзяржаўнасць», «Полацкае княства», «Беларусы ў часы Вялікага Княства Літоўскага», «Замкі Беларусі») і шаснаццаць улётак на тэмы гісторыі і сучаснага стану беларускай нацыі. Каментарыяў і заяў на ўдзел у праекце пакуль не значыцца, але мы верым, што прапанавая схема асветы насельніцтва яшчэ будзе працаваць.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе*
*«САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»,*
*№ 2, чэрвень 2013 г., с. 46–53.*



## Summary

***Piotra Murzionak. «Educational Project RAZAM» (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», June 2013, issue 2, p. 46–53)***

The purpose and ultimate outcome of this project is to create a comprehensive database on Belarusian history and culture for educational purposes. The database will represent a collection of concise (one electronic page) articles, each dedicated to one of the most prominent and representative events in the history of Belarusian people. Thus, each article would be oriented to emphasise the uniqueness and distinctiveness of Belarusian people as a nation and, therefore, inspire and encourage cultivation of a true national pride. There are two main stages in the development of the project «RAZAM» («ALTOGETHER»): data collection and data distribution (starting from April 2014). During the first stage the information will be collected from different sources and will be accumulated and stored under one title as a unified database of cumulative resources. Distribution is a critical part and, it is thought, a number of institutions will participate in this process. Among these institutions might be electronic mass-media, periodicals, resources of political parties and non-government organizations. Individuals as well are thought to play an important role in the process distribution. The goal of the project is to make sure that at least 30% of the published material is read and acknowledged by the Belarusian population. Readers' participation in the creation of the database is also welcomed.

# УСХОДНЕСЛАВЯНСКАЯ БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ
## *Гіпотэза і факты*

Абгрунтоўваецца існаванне асобнай усходнеславянскай еўрапейскай цывілізацыі на сучасных тэрыторыях Беларусі і Украіны. Крытычнымі фактарамі ў размежаванні ўсходнеславянскай (беларуска-ўкраінскай) цывілізацыі і еўразійскай (расійскай) цывілізацыі былі мангола-татарскае нашэсце і ўзнікненне Вялікага Княства Літоўскага, княства, якое выратавала ўсходніх славян ад еўраазіяцыі. Відавочна, што залічэнне Беларусі і Украіны ў наш час да артадаксальнай, усходняй ці еўразійскай/рускай цывілізацыі, нягледзячы на шэраг характэрных для гэтых краін прызнакаў заходняй цывілізацыі, патрабуе перагляду, бо зроблена на падставе міфаў і высноў, зробленых у выніку тэндэнцыйнага тлумачэння з пагляду расійскай геапалітыкі трыадзінства трох славянскіх народаў («великороссов», «малоросов» і «белорусов»), сцвярджэння славянскага характару Расійскай імперыі, гістарычнай пераемнасці ад Кіеўскай Русі да Расіі, ролі Масковіі ў аб’яднанні ўсходніх славян.

## I. Фактары, якія спрыялі ўтварэнню ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый

### *1. Міграцыя і размежаванне ўсходнеславянскіх плямёнаў*

Як абмяркоўвалася ў артыкуле «Ці быў Рурык у Полацку?» (*П. Мурзёнак. Ці быў Рурык у Полацку? 2013*), ёсць некалькі тэорый паходжання ўсходніх славян. Паводле адной з найбольш распаўсюджаных тэорый, усходнія славяне міграваліў V–VII стст. н. э. з раёнаў Палаб’я (цяпер Памеранія ў Германіі) і Вістулы на даволі вялікую тэрыторыю з межамі ад Одэра на захадзе да



Дуная на поўдні і аж да Дняпра на ўсходзе (F. Curta, 2001; P. Geary, 2003). Іншыя аўтары прытрымліваюцца той думкі, што паколькі славяне былі земляробамі і вялі аселы вобраз жыцця, то малаверагодна, што за такі кароткі час яны змаглі засяліць/заняць тэрыторыю Усходняй і Цэнтральна-Усходняй Еўропы; на падставе гэтага яны заключаюць, што ў V–VII стст. гэта была ўжо другая хваля міграцыі славян, якія далучаліся да аселых славян, прыйшоўшых сюды раней (G. Halsall, 2006).

Паводле А. Шахматава (1919), славянскія плямёны з Палаб’я і Вістулы рухаліся з захаду на ўсход дзвюма групамі. Можна меркаваць, што адна з іх займала тэрыторыю сучаснай Беларусі, Пскоўскіх, Ноўгарадскіх і Смаленскіх зямель, а другая паступова засяляла тэрыторыі сучаснай Валыні, Карпат і Украіны. Лічаць, што ў канцы IX ст. славяне занялі тэрыторыю, якую пазней гісторыкі назвалі Кіеўскай Руссю. Аднак у перыяд рассялення і падчас існавання Кіеўскай Русі падзяленне ўсходніх славян на групы па моўнаму прызнаку яшчэ не было. Усходніх славян «дакіеўскага і кіеўскага перыяду» (русіны, рутэны) можна адносіць да адной этнанацыянальнасці (S. Plokhy, 2006), але, відаць, ужо ў гэты перыяд пачыналася іх падзяленне і можна думаць, што гэты працэс стаў больш выразным з распадам Кіеўскай Русі ў канцы XI ст.

На падставе археалагічных і іншых даследаванняў усходніх славян падзяляюць на плямёны. Мяркуюць, што такія славянскія плямёны, як дрыгавічы, драўляне, дулебы, крывічы, палачане, сутыкаліся і асіміляваліся з балцкімі плямёнамі (відаць, гэта тыя славяне, якія далі пачатак сучасным беларусам). Хаця некаторымі аўтарамі абгрунтоўваецца балцкая тэорыя паходжання беларусаў (А. Дзермант, С. Санько, 2005; В. Деружинский, 2009; М. Голденков, 2009). Іншыя славянскія плямёны, драўляне, паляне, дасягнулі Кіева і памежных тэрыторый, асіміляваліся з сарматамі і, верагодна, далі пачатак сучасным украінцам. Ільменскія і наўгародскія славяне, крывічы, радзімічы, севяране, рухаючыся на поўнач, паўночны ўсход і ўсход, дайшлі да тэрыторый, якія займалі фіна-ўгорскія плямёны, і асіміляваліся з гэтымі плямёнамі, даўшы пачатак велікаросам. У адным з

урыўкаў ПМЛ («Повесть минувших лет») пазначана, што на азёрах (Растоўскае, Белавозера, Клешчына) і каля ракі Ака жывуць плямёны, якія гаворяць на сваёй (не-славянскай) мове (чудзь, мера, весь, мурама, чарамісы, мардва, перм, пячэра, ям, літва, зімігола, корсь, нарова, лівы) і якія плацяць дань русі; гэта значыць, што славяне з Наўгародчыны і Дняпра, прыходзячы на землі Паўночна-Усходняга краю, непазбежна асіміляваліся з неславянскімі плямёнамі.

Асіміляцыя «славян-велікаросаў» з фіна-ўгорскімі плямёнамі (асіміляцыя велікаросаў першай хвалі, другая хваля асіміляцыя была пазней з цюркскімі народамі) была адной з прычын размежавання ўсходніх славян. Такім чынам, раздзяленне ўсходніх славян на «беларусаў, маларосаў і велікаросаў» адбылося не ў канцы XVIII і пачатку XIX ст. (паводле традыцыйнай гісторыяграфіі), а, відавочна, пачалося значна раней, яшчэ да распаду Кіеўскай Русі.

### *2. Міжусобныя войны як прычына раздзялення ўсходніх славян*

Феадальная раздробленасць была не толькі адной з прычын распаду Кіеўскай Русі, але і перадумовай далейшага этнанацыянальнага падзелу ўсходніх славян. Кіеўская Русь не была адзінай дзяржавай. У ёй існавалі тры цэнтры: Кіеў, Полацк і Ноўгарад, паміж якімі пастаянна ішлі войны і барацьба за першынство. Войны не спрыялі яднанню славян, а наадварот, памножаныя на племянныя асаблівасці, вялі да лакальнай канцэнтрацыі насельніцтва вакол мясцовых лідараў і традыцый, да кантролю над займаемымі тэрыторыямі і да фарміравання новых этнасаў з развіццём моўнай дыферэнцыяцыі. Гісторыя Кіеўскай Русі, больш падрабязна пацверджаная дакументамі, пачынаецца з князя Ігара (княжыў з 912 па 945 год, напачатку пад апекай князя Алега). Праўда, доказаў таго, што ён быў сынам Рурыка, апроч прыведзенага апісання ў ПМЛ, няма. Відавочна, што князь Ігар быў, як і тое, што ў яго быў бацька, які ўвайшоў у гісторыю пад імем Рурыка і ад якога пайшло мноства Рурыкавічаў, уключна з лініяй маскоўскіх князёў і цароў. Але ў прынцыпе гэта нічога не



мяняе — ці быў Ігар сынам Рурыка, ці сынам другога чалавека. Галоўнае, што ён быў кіеўскім князем, які пашыраў свой уплыў на землі, населеныя славянамі.

Ці была Кіеўская Русь моцнай у час праўлення князя Ігара? Калі лічыць, што князь Ігар здзейсніў два паходы на Канстанцінопаль, то магчыма, што Кіеўскае княства пачынала ўсталёўвацца, хаця яно яшчэ было ў значнай залежнасці ад хазар. У сярэдзіне IX ст. хазары кантралявалі тэрыторыю на поўдзень ад умоўнай лініі Смаленск–Мурам і валодалі Курскам, Чарнігавам і Кіевам. Усе гэтыя гарады плацілі хазарам даніну. Нават пасля таго, як у 967 г. кіеўскі князь Святаслаў I (сын Ігара) разбіў хазараў і захапіў іх сталіцу Аціл, гэта не выратавала Кіеў ад далейшага змагання з печанегамі, якія прыйшлі на змену хазарам. Але менавіта з гэтага моманту можна казаць пра пачатак росквіту Кіеўскай Русі, які назіраўся ў часы кіравання князя Святаслава (945–972) і княгіні Вольгі (945–969, як апякун), князёў-братоў Яраполка (972–980) і Уладзіміра (980–1015) і Яраслава Мудрага (1019–1054). Лічаць, што ў часы кіравання Яраслава Мудрага насельніцтва Кіеўскай Русі налічвала каля 7–8 мільёнаў жыхароў. Яго ўлада была асабліва моцнай у бліжэйшых да Кіева княствах, такіх, як Чарнігаўскае, Пераяслаўскае, Галіцкае. У той жа час нельга пагадзіцца з тым, што Кіеўская Русь была цэльнай феадальнай дзяржавай.

Сярод трох цэнтраў (Кіеў — Полацк — Ноўгарад) Полацк займаў сваё незалежнае і спецыфічнае становішча. Яраслаў Мудры быў князем кіеўскім, наўгародскім і растоўскім, але не быў князем полацкім. Дык ці быў Полацк пад Кіевам? Першым вядомым полацкім князем быў Рагвалод (920–978). Паводле адной з гіпотэз, Рагвалод быў варагам (Арлоў, 2005), паводле другой — сынам полацкай княгіні Прадславы, які пасля смерці маці прыняў княжанне, вярнуўшыся ў вотчыну «из заморья» (Ермаловіч, 1990). Князь Рагвалод і яго сям'я былі знішчаны кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам. Уладзімір быў вельмі жорсткім і ў барацьбе за ўладу забіў свайго роднага брата Яраполка, у той час вялікага князя кіеўскага. Дачка полацкага князя, князёўна Рагнеда, стала палонніцай і жонкай кіеўскага князя ва ўзросце

13 год і нарадзіла яму князёў Ізяслава Уладзіміравіча (полацкі князь з 988 па 1001), Яраслава Мудрага (вялікі князь кіеўскі з 1019 па 1054), Усевалада (князь уладзіміра-валынскі), Мсціслава (князь чарнігаўскі і цьмутараканскі), а таксама князёўнаў Прадславу (узяла шлюб з чэшскім князем Баляславам III) і Праміславу (выйшла замуж за ўгорскага прынца Ласла Сара Лысага). Нават калі мець на ўвазе толькі Яраслава Мудрага, які княжыў у Кіеве 35 гадоў, то можна казаць пра значную ролю, якую адыграла княгіня Рагнеда ў станаўленні Кіеўскай Русі. Калі Уладзіміра лічаць хросным бацькам Кіеўскай Русі, то княгіня Рагнеда, у такім разе, з'яўляецца маці Кіеўскай Русі. Іх сын Ізяслаў, стаўшы полацкім князем (986–1001), працягваў праводзіць незалежную ад Кіева палітыку, пачатую ягоным дзедам, князем Рагвалодам. Варта пачытаць манаграфіі М. Ермаловіча, расійскіх гісторыкаў, каб пераканацца ў тым, што не было дзесяцігоддзя, каб Полацк не ваяваў з Ноўгарадам ці Кіевам.

Найбольшага росквіту Полацкае княства мела пры княжанні Усяслава Чарадзея (княжыў з 1044 да 1101 г.). Кароткі перыяд (1068–1069) Усяслаў Чарадзей, князь полацкі, нават княжыў у Кіеве. Многія даследчыкі сёння лічаць, што Полацкае княства IX–XIII стст. з'яўляецца першай формай дзяржаўнасці на беларускай зямлі. Такім чынам, выключаючы кароткі перыяд барбарскага нападу князя Уладзіміра на Полацк, можна лічыць, што Кіеў не кантраляваў дзейнасць Полацкага княства. Інакш кажучы, над Полацкам праплыў толькі цень Рурыка. Гэтая незалежнасць Полацка ад Кіева ёсць аб'ектыўным пазітыўным фактарам ці, калі хочаце, добрай падставай для беларусаў не ўдзельнічаць у змаганні за наследаванне ў поўнай меры гістарычнай спадчыны Кіеўскай Русі, якое зараз вядзецца паміж Украінай і Расіяй.

У рамках гістарычнай Кіеўскай Русі ішлі пастаянныя войны і паміж іншымі княствамі. У выніку гэта феадальная структура рассыпалася адразу пасля смерці Яраслава Мудрага. Зямля была падзелена на малыя ўдзелы паміж ягонымі сынамі, якія пачалі варагаваць паміж сабой, што і стала пачаткам распаду Кіеўскай Русі. Барацьба непасрэдна за кіеўскі пасад таксама спрыяла гэтаму ў значнай меры (пераемнасць кіеўскай княскай пасады з'яўляецца адным з прынцыповых момантаў у звязку гістарычных спрэчак Кіеўская Русь — Расія).



Трэба ведаць, што на тыя часы ўлада ў Кіеве перадавалася на праве старшынства ў родзе, г. зн. ад старэйшага да малодшага ва ўсім родзе, а не ад бацькі да сына. У 1093 г. уладу прыняў старэйшы па ўзросту князь Святаполк Ізяславіч Тураўскі, дваюрадны брат Уладзіміра Манамаха (1053–1125). Пасля смерці Святаполка ў 1113 г. на кіеўскі пасад па праву старшынства прэтэндавалі князі Давід (1050–1123) і Алег (1053–1115) Святаславічы, якія былі дваюраднымі братамі Уладзіміра Манамаха па другой лініі (Давід быў на тры гады старэйшы за Уладзіміра, а Алег быў ягоным аднагодкам). Аднак пасад заняў Уладзімір Манамах. Паводле расійскіх гісторыкаў, у прыватнасці С. Салаўёва, — па запрашэнню старэйшын і са згоды кіеўскага народа. Гэта значыць, менавіта пачынаючы ад Уладзіміра Манамаха была парушана ратацыйная сістэма змены ўлады. Парушэнне правіл наследавання прывяло да таго, што ў гэтыя спрэчкі і ў вайну паміж сабою ўцягнуліся Алегавічы з Чарнігава, Манамахавічы з Пераяслаўля, Ізяславічы з Турава/Валыні і полацкія князі.

За 45 год, пачынаючы ад 1125 да 1169 г., князі з розных родаў змяняліся на кіеўскім пасадзе 21 раз, некаторыя з іх, пасля зацятай барацьбы, пабывалі там па тры разы (напрыклад, Юры Далгарукі — сын Уладзіміра Манамаха, Ізяслаў Давыдавіч, Расціслаў Мсціславіч, Вячаслаў Уладзіміравіч). Нават Алегавічы сумелі даказаць сваё права на кіеўскі пасад (Усевалад і Ігар Алегавічы, 1139–1146); хаця, як напісана ў расійскіх крыніцах, яны (Алегавічы) «прымусілі» Манамахавічаў прызнаць сваё права. Дастаткова прачытаць 1-ю і 4-ю главы II тома «Истории России с древнейших времен» С. Салаўёва («О княжеских отношениях вообще» і «События при правнуках Ярослава»), каб зразумець прычыны гэтых сварак.

Нашчадкі Уладзіміра Манамаха прыклалі рукі і да літаральнага знішчэння самога горада Кіева: у 1169 г. Кіеў быў зруйнаваны войскам растова-суздальскага князя Андрэя Багалюбскага (унук Уладзіміра Манамаха і сын Юрыя Далгарукага — заснавальніка Масквы), а ў 1203 г. Кіеў быў разрабаваны Рурыкам

Расціславічам (праўнукам Манамаха па другой лініі) разам з Алегавічамі ды полаўцамі. Трэба таксама ўзгадаць, што Рурык Расціславіч займаў з перапынкамі вялікі кіеўскі пасад аж шэсць разоў. І нарэшце, у канцы 1240 г. Кіеў захапілі ды зруйнавалі мангольскія войскі Батыя.

Такім чынам, міжусобіцы паміж княствамі Кіеўскай Русі былі адным з галоўных фактараў у яе распадзе. Распад Кіеўскай Русі прывёў да ўмацавання існаваўшых і стварэння ў гэтых умовах новых усходнеславянскіх цэнтраў са сваімі спецыфічнымі рысамі. Абасобленасць і самастойнасць Полацкага княства (прататып будучай беларускай дзяржавы) яшчэ больш узмацнілася, як узмацнілася і Валынска-Галіцкае княства (прататып будучай украінскай дзяржавы). На паўночным усходзе, на землях фіна-ўгорскіх плямён, утварыліся Наўгародская рэспубліка (1136), дзе існавала абмежаваная княская ўлада, і Уладзіміра-Суздальскае княства (1157), першае княства Паўночна-Усходняга краю, якое стала ядром будучай Масковіі. Але гэта адбылося амаль праз 200 год пасля ўсталявання Полацкага і Кіеўскага княстваў.

### *3. Мангола-татарскае нашэсце і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага — галоўныя фактары размежавання ўсходніх славян*

Нашэсце мангола-татараў было адным з ключавых фактараў, раздзяліўшым усходніх славян на дзве цывілізацыі — усходнеславянскую/беларуска-ўкраінскую і еўразійскую/расійскую. І гэта мяжа паміж цывілізацыямі лёгка праглядаецца, калі прасачыць, якія тэрыторыі, захопленыя мангольскай імперыяй, апынуліся ў васальнай залежнасці і якія засталіся вольнымі ад заваёўнікаў з Еўразійскага стэпу. Вызначальнай асаблівасцю мангольскага паходу было тое, што манголы мінулі княствы, размешчаныя на тэрыторыі сучаснай Беларусі і часткова Украіны. У выніку, гэта вылілася ў тое, што ўсходнія славяне, якія жылі на тэрыторыі Беларусі і Украіны, у адрозненне ад жыхароў Паўночна-Усходняга краю, не мелі таго жыццёвага парадку, які ўсталёўваўся манголамі, і больш таго — засталіся ўбаку ад змяшання з цюркскімі народамі (гл. карту 2).



К сярэдзіне XIII ст. усходнія славяне, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, апынуліся ў сферы ўплыву Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), а княствы на паўночным усходзе і на поўдні трапілі пад уплыў заваёўнікаў-качэўнікай Залатой Арды. Сваім прыходам манголы спрыялі аддзяленню славян-«велікаросаў», якія падпалі пад іх уладу на два з паловай стагоддзі (аж да 1480 г.), ад другіх усходніх славян, славян-«беларусаў», вольных ад манголаў, і славян-«украінцаў», частка якіх трапіла на 100 год пад уплыў манголаў-качэўнікаў, але пасля таго, як у 1362 г. войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам князя Альгерда разбілі мангола-татараў каля Сініх Водаў, украінскія землі былі вызвалены з няволі. Такім чынам, паўднёвыя і паўднёва-заходнія часткі былой Кіеўскай Русі паступова былі ўключаны, разам з тэрыторыяй сучаснай Беларусі, у склад ВКЛ, якое адыграла адметную ролю ў аб'яднанні ўсходнеславянскіх зямель. У ВКЛ у канцы XIV ст. толькі адзін з дзевяці жыхароў быў жмудзінскага паходжання (K. O'Connor, 2003), г. зн. амаль усе астатнія былі рутэнамі. Старабеларуская мова была афіцыйнай мовай ВКЛ. Пачынаючы з XIV ст. поўная назва ВКЛ гучала як Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. На той час слова «рускае» азначала рутэнскае, якое па гістарычнай недарэчнасці перайшло ў карыстанне толькі да Расіі. ВКЛ спыніла «еўраазіяцыю» вялікай часткі славян, будучых беларусаў і ўкраінцаў. Такім чынам, аб'яднанне ўсходніх славян у рамках ВКЛ было галоўным фактарам утварэння і зберажэння ўсходнеславянскай еўрапейскай цывілізацыі (гл. карту 3).

Расія як дзяржава мела свой пачатак на землях, размешчаных на паўночны ўсход ад Кіеўскай Русі (Суздальская зямля, яна ж Залессе, Растоўская зямля, Мурамская зямля). Гэта былі аддаленыя раёны, аддзеленыя ад Кіеўскай Русі лясамі і прыдатныя для земляробства. Там жылі адносна неваяўнічыя фіна-ўгорскія плямёны, з якімі прышлыя славяне асіміляваліся і пазней утварылі першае на гэтых землях княства (Суздальскае, 1157 г.). Тое, што гэтае княства ўтварылася на два стагоддзі пазней за Полацкае і Кіеўскае княствы, сведчыць аб павольнай міграцыі ўсходніх славян з захаду на ўсход, а з другога боку — такі працяглы час

спрыяў іх мірнай асіміляцыі з лакальным насельніцтвам. У свой час М. Пагодзін (1800–1875), адзін з ідэолагаў панславізму, сцвярджаў, што славяне ў Расіі былі фактычна перасяленцамі з Кіеўскай Русі, якія пад ціскам мангола-татараў вымушаны былі мігрyваць у рэгіён будучай Масковіі. Фактычна, ён адмаўляў існаванне ўкраінскага народа, кажучы, што ўкраінцы прыйшлі на землі былой Кіеўскай Русі пазней, у XV–XVI стст., з Карпатаў. Але гіпотэза Пагодзіна аб такой масавай міграцыі славян не была пацверджана (S. Plokhy, 2006).

Відавочна, што асіміляцыя славян будучай Масковіі ў істотнай ступені паскорылася з мангола-татарскім нашэсцем і фактычна прывяла да яшчэ большага адмежавання ад усходніх славян будучых Беларусі і Украіны. Пачынаючы з гэтага перыяду стала выразным фарміраванне новай усходнеславянскай цывілізацыі на базе рутэнаў (беларусаў і ўкраінцаў) і еўразійскай цывілізацыі (якая пачалася з маскоўскіх зямель). Мангола-татарскае нашэсце прыпала прыблізна на перыяд распаду Кіеўскай Русі, але не было яго прычынай, як уважаюць некаторыя гісторыкі. Шэраг фактаў сведчаць аб узаемадзеянні Масковіі з Ардой на працягу 240 гадоў. Манголы, вярнуўшыся з паходаў на захад у Еўропу, спыніліся ў Ніжнім Паволжы, дзе заснавалі Сарай-горад — сталіцу Залатой Арды. У 1243–1246 гг. княствы вакол Кіева і княствы Паўночна-Усходняга краю прызналі залежнасць ад Залатой Арды, г. зн. сталі яе васаламі. Князь Яраслаў, вялікі князь Уладзімірскі, у 1245 г. запрапанаваў рускім князям прызнаць хана Батыя сваім царом. У 1246 г. князь Яраслаў быў атручаны ў Ардзе, а ягоны сын Аляксандр Неўскі заключыў саюз з Ардой у 1257 г. Паводле Л. Гумілёва, Арда і рускія княствы дамовіліся аб стварэнні абароннага альянсу супраць тэўтонскіх рыцараў і паганскіх літоўцаў. З часу заключэння такой дамовы, амаль праз 20 год пасля паходу Батыя, падпарадкаваныя княствы пачынаюць плаціць даніну Залатой Ардзе, а ардынскія ханы выдаюць ярлыкі на княжанне ў Паўночна-Усходнім краі.

З гісторыі вядома, што ўзаемадзеянне паняволеных княстваў з Ардой было не толькі разбуральным. Аляксандр Неўскі быў прыёмным сынам хана Батыя і названым братам сына хана — Сартака, манголы змагаліся супраць рыцараў у «лядовай бітве», хаця наўгародцы, князем якіх быў Аляксандр Неўскі, плацілі дань Ардзе (С. Баймухаметов, 2004). У Сараі, дзякуючы Аляксандру Неўскаму, устанаўліваецца падвор'е праваслаўнага епіскапа. Такім чынам, праваслаўная вера стала існаваць у Ардзе афіцыйна. Мангольскі двор часта наведвалі рускія князі і нават жылі там (яраслаўскі князь Фёдар Чорны, 1233–1299). Знатныя сем'і з аднаго і другога боку радніліся. Напрыклад, Юры Далгарукі, князь суздальскі (1149–1157), яшчэ задоўга да панавання Арды ажаніўся з дачкой палавецкага хана. Юры Данілавіч, князь маскоўскі, дзякуючы жаніцьбе з сястрой хана Узбека атрымаў ярлык на вялікага князя ўладзімірскага (1319–1322). З другога боку, вяльможы з Арды ехалі на землі княстваў і там радніліся са славянскімі сем'ямі; акадэмік А. Халікаў (1992) склаў спіс з больш як 500 знатных расійскіх фамілій, якія пайшлі ад татар (Абдулавы, Агаровы, Алмазавы, Анічкавы, Апраксіны, Аракчэевы, Балакіравы, Баскакавы, Батурыны, Блахіны, Булгакавы, Буніны, Бухарыны, Глінскія, Дзяржавіны, Жданавы, Злобіны, Зубавы, Карамзіны, Караулавы, Купрыны, Мініны, Мічурыны, Пажарскія, Растапчыны, Рахманінавы, Сабуравы, Скрабіны, Суворавы, Тацішчавы, Тургеневы, Тухачэўскія, Уланавы, Ушаковы, Ціміразевы, Цютчавы, Чаадаевы, Шадрыны, Шарамецевы і іншыя). У апошні час дыскутуецца пытанне аб татарскім паходжанні Івана IV (Жахлівага), Барыса Гадунова і Пятра I (Г. Абдулаева, 2011; И. Гарифуллин, 2012). Можна меркаваць, што паступовая ассіміляцыя славян з цюркскімі народамі (другая хваля ассіміляцыі) нараўне з асіміляцыяй першай хвалі з угра-фінскімі плямёнамі (мардва, весь, мера, мокша, эрзя, мяшчэра, мурама і іншыя) былі характэрнымі прыкметамі станаўлення велікарускага этнасу і маскоўскай дзяржавы.

На пачатку XIV ст. у Сараі — сталіцы Залатой Арды — пражывала 600 000 жыхароў (Encyclopedia Britannica), а ў Маскве ў 1350 г. — 30 000. Масковія паступова шмат пераймала ў Арды ў кіраванні дзяржавай: праводзіла ваенныя, грашовыя і падатковыя рэформы, вучылася ваеннаму майстэрству і, нарэшце, пераняла аўтарытарны і цэнтралізаваны стыль кіравання.

Маскоўскае княства ўтварылася ў 1263 г., у час панавання Залатой Арды, і не насуперак Ардзе, а дзякуючы ёй, праз 23 гады пасля захопніцкага паходу Батыя. Масковія і Залатая Арда карысталіся міжусобіцамі паміж княствамі Паўночна-Усходняга краю; так, Цвярское паўстанне (1327) было жорстка задушана войскам, прыведзеным з Арды маскоўскім князем Іванам Калітой. Гэты князь дзякуючы гісторыкам увайшоў у гісторыю Расіі як збіральнік Русі. Як можна казаць, што ён «збіраў славян», у дадзеным выпадку цверычоў, калі ён рабіў гэта з дапамогай карнага мангольскага войска?

Залатая Арда ў нейкім сэнсе была штучнай і няўстойлівай дзяржавай. Яе насельніцтва складалася з мардвы, славян, грэкаў, балгар, якія жылі асела ў раёне Волгі, а таксама з цюркскіх плямён-качэўнікаў (полаўцы/кіпчакі, татары, туркмены, кіргізы). Да таго ж Арда была значна аслаблена ўнутранай барацьбой Тахтамыша і Тамерлана ў канцы XIV ст., і гэта прывяло да таго, што Масква з васальнага становішча апынулася ў паўвасальным. І гэта не сталася вынікам перамогі на Куліковым полі. Нават параза мангола-татараў 8 верасня 1380 г. падчас гэтай бітвы не скончыла іх панаванне; яно доўжылася яшчэ каля 100 год.

З другога боку, Масква, з усталяваннем васальнага Татарскага княства ў Касымаве, фактычна заявіла аб сваёй ролі як пераемніцы Залатой Арды (G. Vernadsky, 1968, p. 17). Такім чынам, цяпер ужо васальнае Касымаўскае ханства існавала на землях Масковіі на працягу амаль 250 гадоў (1452–1681, сучасная Разанская вобласць). Гэта быў першы набытак ад вялікай Еўразіі і першы крок Масковіі ў заваяванні народаў Еўразійскага стэпу і Паўночнай Азіі з наступным фарміраваннем еўразійскай цывілізацыі. У нашы дні толькі на тэрыторыі Еўразійскага стэпу жывуць шматлікія народы аўтаномных рэспублік Расіі (башкіры, мары, мардва, татары, удмурты, чувашы, адыгейцы, асеціны, балкары, інгушы, кабардзінцы, калмыкі, карачаеўцы, чачэнцы, чаркесы). Такім чынам, можна казаць, што Расія, уключыўшы на працягу доўгай гісторыі ўсе гэтыя і іншыя еўразійскія тэрыторыі і насельніцтва, што іх засяляла, з'яўляецца пераемніцай еўразійскага руху з усходу на захад.



## II. Адносіны паміж усходнеславянскай і еўразійскай цывілізацыямі ў XIV–XIX стст.

Пасля развалу Залатой Арды, які адбыўся па ўнутраных прычынах, Масковія атрымала свабоду дзеянняў і скіравала свае захопніцкія інтарэсы на раздробленыя і раскіданыя па Еўразійскім стэпе ханствы: Казанскае ханства (1552), Астраханскае ханства (1556), Вялікая Нагайская Арда (1557), Сібірскае ханства (1582), Пегая Арда (1619). У выніку, ужо ў канцы XVI ст. тэрыторыя Маскоўскай дзяржавы складала каля 5,5 млн кв. км з насельніцтвам каля 9–10 мільёнаў чалавек (тады як у 1450 г. было толькі 430 тысяч кв. км. з насельніцтвам 3 млн чалавек).

Аднак у XIV–XVIII стст. не магло адбывацца пашырэння Масковіі на захад, бо там існавала моцная дзяржава, Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ). Гэта дзяржава ў адрозненне ад Масковіі амаль не зведала татара-мангольскага прыгнёту і развівалася ў зусім іншых умовах. У 1569 г. ВКЛ разам з Каралеўствам Польскім утварылі федэрацыю — Рэч Паспалітую/Садружнасць Двух Народаў, якая стала адной з найбуйнейшых краін у Еўропе. Тая крытыка, што беларусы былі пад пятой у палякаў, не мае сур'ёзных доказаў. ВКЛ да заключэння Люблінскай уніі (1569) была ў многіх адносінах незалежным княствам, а пасля — у Рэчы Паспалітай — мела доўгі час сапраўдную аўтаномію. Нават пасля захопу ВКЛ у канцы XVIII ст. царскі рэжым Расійскай імперыі не адважваўся яшчэ 30 год пасягаць на правы і свабоды людзей: дзейнічаў Статут ВКЛ, існавалі інстытут шляхецтва і ўніяцкая царква (больш за 70% беларусаў на той час былі ўніятамі).

Звернемся да дэмаграфічных звестак на канец XV ст., г. зн. да часу, пасля якога пачалося паступовае далучэнне тэрыторый цюркскіх народаў да Масковіі. Яны сведчаць, што ў ВКЛ у 1493 г. пражывала прыблізна 3,75 мільёна рутэнаў, г. зн. беларусаў і ўкраінцаў (I. Pogonowsky, 1987). У той жа прыблізна перыяд у Масковіі (1450) было каля 3 млн жыхароў, а ў 1500 г., пасля далучэння суседніх княстваў-супернікаў — Наўгародскай рэспублікі (1478) і Цвяры (1485), — 6 млн жыхароў (Большая

СЭ, 1969–1978). Колькі з іх было славян — невядома, бо поруч з маскавітамі жылі комі, удмурты, татары, мары, чувашы, мардва, карэлы і іншыя фіна-ўгорскія народы, але калі экстрапаліраваць вынікі апошняга перапісу насельніцтва Расіі (2010), то славян магло быць максімум 4,8 млн (77,7% рускіх ад 6 млн). Такім чынам, суадносіны славян Масковіі да славян беларусаў і ўкраінцаў маглі быць даволі блізкімі (як 1,3:1).

У 1618 г., з пашырэннем тэрыторыі Рэчы Паспалітай паводле Дэўінскай дамовы, у ёй налічвалася ўжо 12 млн жыхароў, з іх украінцаў — 3,5 млн і беларусаў — 1,5 млн (доля рутэнаў складала 41%, 5 млн з 12 млн). Вайна Масковіі з ВКЛ (1654–1667) забрала палову насельніцтва Беларусі (з 2,9 млн засталося 1,4 млн) (Г. Сагановіч, 1995). У канцы XVIII ст. Рэчы Паспалітай зусім не стала. Землі Беларусі адышлі пад уладу расійскай імператрыцы Кацярыны II. Паводле сучасных разлікаў, у Рэчы Паспалітай/Садружнасці ў 1770 г. пражывала 11–14 млн чалавек (R. Bideleux, I. Jeffries, 1998; J. Lukowski, H. Zawadski, 2001), у Расійскай імперыі ў 1762 г. — 19 млн, а ў 1800 г. — ужо 35,5 млн (M. Falkus). Лёгка палічыць, адкуль узяўся гэты прырост, калі прыпомніць, што Садружнасць была падзелена паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй, дзе Расіі дасталася ўся тэрыторыя і насельніцтва сучасных Беларусі і Украіны; гэта значыць, што яны былі сілай захоплены і апынуліся ў складзе еўразійскай імперскай Расіі і адначасова замест еўрапейскага статусу «набылі» еўразійскі.

Гісторыя Расіі — гэта пастаянная тэрытарыяльная экспансія падчас існавання Маскоўскага княства (1263–1547), Рускага царства (1547–1721), Расійскай імперыі (1721–1917), Савецкай Расіі (1917–1922), Савецкага Саюза (1922–1991), Расійскай Федэрацыі (з 1991). Прырастанне і змены расійскага насельніцтва былі не толькі колькаснымі, але і якаснымі. Зараз у многанацыянальнай Расіі, паводле афіцыйнай статыстыкі, пражывае больш за 180 народаў. Простыя разлікі паказваюць, што суадносіны колькасці велікаросаў (рускіх) да ўкраінцаў і беларусаў на працягу пяці стагоддзяў растуць на карысць велікаросаў. Так, калі ў канцы XV ст. гэта прапорцыя магла быць 1,3:1 (гл. вышэй), то паводле расійскага перапісу 1897 г. суадносіны велікаросаў/рускіх (55,7 млн) да украінцаў і беларусаў (22,4 і 5,9 млн адпаведна) (падлічаных па моўным крытэрыі) складалі прыблізна 2:1, а па перапісу СССР 1989 г. гэта прапорцыя (па нацыянальным крытэрыі) была ўжо 2,7:1 (рускія — 145,5 млн; украінцы — 44,2 млн, беларусы — 10,0 млн). З гэтых разлікаў бачна, што за пяць стагоддзяў адносная колькасць велікаросаў прырастала ў два разы хутчэй у параўнанні да беларусаў і ўкраінцаў. Праведзеныя разлікі зроблены па самым мяккім сцэнары, і відавочна, што гэты прырост не можа быць растлумачаны толькі асіміляцыяй, а сведчыць, хутчэй за ўсё, аб прамым залічэнні іншых народаў у папуляцыю славян-велікаросаў (рускіх). Па сённяшні дзень многія расіяне адмаўляюць асіміляцыю славян-велікаросаў з фіна-ўгорскімі і цюркскімі народамі. Хаця нядаўнія даследаванні паказалі істотную розніцу ў размеркаванні генетычнага матэрыялу і наяўнасць градыента з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход на тэрыторыі Паўночна-Усходняга краю, з якога і пачыналася Расія, што сведчыць аб міграцыі славян і аб іх асіміляцыі з народамі Расіі неславянскага паходжання (B. Malyarchuk et al., 2004; O. Balanovsky et al., 2008). Многія даследчыкі апошняга часу, якія вывучаюць Расію, уключаючы расійскіх класічных еўразістаў і неаеўразістаў, бачылі ці бачаць яе ў будучым як еўразійскую краіну, якой яна ёсць на самай справе. Беларусы разам з украінцамі ўтвараюць усходнеславянскую еўрапейскую цывілізацыю.



## III. Характарыстыка ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый

Паводле праведзенага аналізу можна заключыць, што пад уплывам шэрагу фактараў усходнія славяне раздзяліліся і сфарміравалі дзве цывілізацыі — усходнеславянскую еўрапейскую цывілізацыю (беларуска-ўкраінскую) і еўразійскую цывілізацыю (расійскую). Аб'ектыўнымі фактарамі, якія спрыялі ўтварэнню гэтых цывілізацый, былі: племянныя асаблівасці ўсходніх славян; асіміляцыя ўсходніх славян з лакальнымі плямёнамі; міжусобныя войны паміж землямі і княствамі; мангола-татарскі прыход, які быў гістарычным працягам руху качэўнікаў з

Еўразійскага стэпу; узнікненне Вялікага Княства Літоўскага — аб'яднальніка ўсходніх славян. У нашы дні ўсходнеславянская цывілізацыя прадстаўлена дзвюма адносна гамагеннымі ў этнічным плане дзяржавамі — Беларуссю і Украінай, а еўразійская — Расіяй і краінамі, якія прытрымліваюцца ідэалогіі еўразіянізму. Мы вылучаем тры перыяды ў развіцці абедзвюх цывілізацый: дакіеўскі і кіеўскі, перыяд фарміравання і сучасны перыяд (табліца 1).

*Табліца 1*

***Перыяды развіцця***
***ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый***

| *Перыяд* | *Кароткае апісанне* |
|---|---|
| Перыяд «дакіеўскі і кіеўскі» | Першапачатковае размежаванне ўсходніх славян у IX–XI стст. на аснове асаблівасцяў плямёнаў саміх славян, іх асіміляцыя з лакальнымі плямёнамі і міжусобіцы паміж землямі і княствамі |
| Перыяд фарміравання | Утварэнне ў XIII–XIV стст. усходнеславянскай еўрапейскай цывілізацыі (беларуска-ўкраінскай) і пачатак фарміравання ў XIII–XV стст. еўразійскай цывілізацыі (сучасная Расія і краіны, якія падзяляюць цяпер ідэі еўразіянізму) |
| Сучасны перыяд | Працягваецца да нашага часу |

Усходнеславянская цывілізацыя пачала фарміравацца з часоў міграцыі славян з Сярэдняй Еўропы — ужо ў перыяд іх рассялення на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Украіны. Можна лічыць, што ўсходнеславянская цывілізацыя існуе на працягу васьмі стагоддзяў, пачынаючы з сярэдзіны XIII ст., тады як еўразійская цывілізацыя толькі пачынала фарміравацца. Трэба адзначыць некаторыя асаблівасці ў сучасным перыядзе развіцця ўсходнеславянскай цывілізацыі, якія тычацца больш за ўсё «ўкраінскай» яе часткі: яны абумоўлены, па-першае, часовай акупацыяй манголa-татарамі часткі сучаснай Украіны (1240–1362), і, па-другое,



асаблівасцямі ўкраінскага нацыянальна-вызвольнага руху ў часы гетманата пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. (Б. Хмяльніцкі, І. Мазепа).

Можна вылучыць некалькі асноўных момантаў, якія сведчаць аб істотнай розніцы ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый і адначасова з'яўляюцца доказамі іх існавання (табліца 2). Усходнеславянская цывілізацыя значна старэйшая і існуе амаль на тры стагоддзі дольш, чым еўразійская, у асноўным па дзвюх прычынах: 1) па прычыне павольнай міграцыі славян на землі будучай Масковіі, аб чым сведчыць і значна больш позняе ўтварэнне Суздальскага княства ў параўнанні да Полацкага і Кіеўскага княстваў; 2) васальнай залежнасцю Масковіі ад манголa-татараў на працягу 240 гадоў. Аб такіх адрозных прызнаках, як асіміляцыя і змены ў тэрыторыі рассялення, гаварылася ў артыкуле вышэй. Насельніцтва на тэрыторыі Беларусі і Украіны было і ёсць на працягу амаль васьмі стагоддзяў у значнай ступені этнічна аднародным, тады як на землях Паўночна-Усходняга краю славяне асіміляваліся спачатку з фіна-ўгорскімі плямёнамі, а пазней з цюркскімі народамі (першая і другая хвалі ассіміляцыі адпаведна). Прынцыповая розніца ў складзе насельніцтва ў наш час заўважна пры разліках суадносінаў славян да іншых этнічных груп (30:1 і 24:1 для Беларусі і Украіны адпаведна і 4,8:1 — для Расіі) і суадносінаў вернікаў-хрысціян да вернікаў-мусульман (90:1 ці 180:1 і 27:1 для Беларусі і Украіны адпаведна і 7:1 — для Расіі). Пры разліках у групу славян былі ўключаны велікаросы, балгары, беларусы, палякі і ўкраінцы (аналагічныя вынікі атрымаліся пры разліках суадносінаў долі тытульнай нацыі да долі іншых этнічных груп (не паказана; рэлігійная прыналежнасць да ісламу была выбрана для разлікаў таму, што для ўсіх груп параўнання меліся адпаведныя лічбы).

Ёсць шэраг прызнакаў, характэрных як для беларуска-ўкраінскай цывілізацыі, так і для заходняй цывілізацыі. Прыналежнасць Беларусі да заходняй цывілізацыі мае дастаткова навуковых доказаў (N. Bekus, 2011; В. Куплевіч, 2013). Тое ж можна казаць і пра Украіну (Szporluk, 2001), як і пра істотную розніцу паміж Украінай і Расіяй (Z. Kohut, 2001). В. Куплевіч у

сваім аглядзе вылучае 15 асноўных палажэнняў, якія сведчаць аб еўрапейскасці беларусаў, уключна з 1000-гадовай беларускай гістарычнай традыцыяй, наяўнасцю еўрапейскіх цывілізацыйна-творчых працэсаў у Беларусі (Адраджэнне, Рэфармацыя, Контррэфармацыя, уніятызацыя, Асветніцтва), наяўнасцю еўрапейскіх інстытутаў (соймаў, магдэбургскага права, ратушаў), наяўнасцю мадэрнага нацыяўтварэння, інтэграцыяй беларускіх эліт у агульнаеўрапейскую палітычную, культурную, эканамічную часа-прастору і г. д. Асобнага даследавання патрабуе вывучэнне менталітэту, паводзін, традыцый, характэрных для прадстаўнікоў абедзвюх цывілізацый. Відавочна, што вынікі разлікаў і параўнанняў па прыведзеных параметрах для Беларусі і Украіны вельмі падобныя паміж сабой і адрозніваюцца ў значнай ступені ад еўразійскіх.

*Табліца 2*

***Параўнанне ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый***

| | *Усходнеславянская цывілізацыя* | *Еўразійская цывілізацыя* |
|---|---|---|
| Працягласць існавання | больш за восем стагоддзяў | каля пяці стагоддзяў |
| Тэрыторыя расселення | істотна не змянялася | павялічылася ў дзясяткі разоў |
| Асіміляцыя ўсходніх славян | з балтамі, з сарматамі | з фіна-ўгорскімі і цюркскімі народамі |
| Суадносіны славян (вялікаросы, балгары, беларусы, палякі, украінцы) да прадстаўнікоў іншых этнічных груп* | для Беларусі — 30:1 (96,8%:3,2%); для Украіны — 24:1 (96%:4%) | для Расіі — 4,8:1 (82,7%:17,3%) |
| Суадносіны вернікаў-хрысціян да вернікаў-мусульман** | для Беларусі — 90:1 (а); для Беларусі — 180:1 (б); для Украіны —27:1 | для Расіі — 7:1 |
| Прызнакі прыналежнасці да заходняй цывілізацыі (гл. тэкст) | + | – |
| Менталітэт | адрозны*** | |



*Заканчэнне табліцы 2*

* Разлікі зроблены на падставе вынікаў перапісу насельніцтва: Беларусь (2009), Расія (2010), Украіна (2001).
** Разлікі зроблены на падставе наступнай інфармацыі: для Беларусі — (а) Bureau of Democracy, Human Rights and Labor. International Religious Freedom Report 2010. Belarus. U.S. Department of State; (б) Республика Беларусь в зеркале социологии. Сборник материалов социологических исследований за 2011 год. Минск: Бизнесофсет, 2012, с. 44; для Украіны — «РЕЛІГІЯ І ВЛАДА В УКРАЇНІ: ПРОБЛЕМИ ВЗАЄМОВІДНОСИН». Інформаційно-аналітичні матеріали до Круглого столу на тему: «Державно-конфесійні відносини в Україні, їх особливості і тенденції розвитку» (2010). URL: http://www.razumkov.org.ua/upload/prz_2011_Rlg_smll.pdf; для Расіі — Атлас религий и национальностей России (2012). Данные социологического исследования. URL: http://ru.wikipedia.org/ wiki; исследовательская служба «Среда», www.sreda.org.
*** А. Згерскі (2014), А. Кашо (2015).

Ёсць шэраг падыходаў да класіфікацыі цывілізацый (A. J. Toynbee, 1934; S. Huntington, 1993; B. Kuzik, Y. Yakovets, 2006; A. Targowski, 2009; В. Куплевіч, 2013). Паводле S. Huntington, ёсць восем цывілізацый: заходняя, артадокс, ісламская, кітайская, індыйская, японская, лацінаамерыканская і афрыканская (на поўдзень ад Сахары). S. Huntington адносіў Беларусь і Украіну да артадокс-цывілізацыі. Аднак гэта спрэчны момант. Як гаварылася вышэй, па шмат якіх рысах усходнеславянскую еўрапейскую цывілізацыю (беларуска-ўкраінскую) можна аднесці да заходняй цывілізацыі. Аб тым, што Беларусь не ўпісваецца ў еўразійскую ці артадокс-цывілізацыю, сведчаць таксама прапановы другіх аўтараў аб існаванні асобнай беларускай цывілізацыі (А. Мальдзіс, 2003) ці памежнай цывілізацыі (L. Titarenko, 2009).

Паводле B. Kuzik, Y. Yakovets, на пачатку XXI ст. варта казаць пра ўтварэнне лакальных цывілізацый пятага пакалення; аўтары падзяляюць іх на тры групы: заходняя група — заходнееўрапейская, усходнееўрапейская, паўночнаамерыканская, лацінаамерыканская і акіянічная; усходняя — кітайская, японская, індыйская, будысцкая і ісламская; і змешаная — еўразійская (руская), і афрыканская (на поўдзень ад Сахары). Калі прытрымлівацца іх класіфікацыі, то Беларусь, як і Украіну, можна залучыць ва ўсходнееўрапейскую цывілізацыю, і, як паказана ў нашым артыкуле, нават больш спецыфічна — ва ўсходнеславянскую еўрапейскую цывілізацыю. Аднак паважаныя аўтары з Расійскай акадэміі занеслі абедзве краіны ў еўразійскую/рускую цывілізацыю: гэта бачна на мапах перспектыўнага развіцця гэтай цывілізацыі (адзначана аж да 2050 г.); абгрунтаванняў уключэння на мапы Беларусі і Украіны пры гэтым не даецца.

Па класіфікацыі, прапанаванай A. Targowski (2009), Беларусь і Украіну, на нашу думку, можна было б аднесці да заходнецэнтральнай цывілізацыі, па прычынах апісаных вышэй, а не да ўсходняй — куды аўтар адносіць абедзве краіны разам з Расіяй і Балгарыяй. Вызначэнне цывілізацыі па A. Targowski складаецца з мноства чыннікаў, але калі ў вызначэнні месца Беларусі і Украіны бралася за аснову пераважаючая рэлігія (праваслаўная), то трэба было б улічваць суадносіны праваслаўя з іншымі рэлігіямі. Да прыкладу, суадносіны паміж праваслаўем і ісламам сярод вернікаў Расіі і Балгарыі складаюць прыблізна 6:1 і 7:1, тады як сярод вернікаў на Украіне і Беларусі — 50:1 і 150:1 адпаведна (разлікі П. М.).

У постіндустрыяльным грамадстве ў эпоху глабалізацыі роля лакальных цывілізацый значна мяняецца і іх будучыня залежыць ад характару адносін паміж імі — ці гэта будуць канфлікты, ці ўзаемадзеянне. Умовы для развіцця ўсходнеславянскай еўрапейскай цывілізацыі былі больш спрыяльнымі ў часы Б. Ельцына. Аднак думаецца, што пачатыя Б. Ельцыным рэформы, як і рэформы Пятра І, былі «несапраўднымі» бо не адпавядалі каштоўнасцям еўразійскай Расіі (амаль ва ўсе часы, пачынаючы ад Аляксандра Неўскага, Расія дэманстравала антызаходнюю рыторыку). Ельцынскі перыяд змяніўся на час няўпэўненасці і пераходу да новай еўразійскай палітыкі, якая ўключала змену празаходняй арыентацыі на антызаходнюю і якая часткова адлюстроўваецца зараз у арганізацыі Еўразійскага эканамічнага саюза. Як нядаўна было адзначана (B. Kuzik, Y. Yakovets, 2006), заходняя цывілізацыя ўключыла ў сваю сферу балтыйскія краіны і на чарзе стаяць Украіна, Малдова і Грузія (v. II, p. 69). Пра Беларусь увогуле ні слова. Аўтары дадаюць таксама, што яшчэ не сфармулявана стратэгія развіцця Расіі на XXI ст. Там жа аўтары прадказваюць магчымы падзел еўразійскай/рускай цывілізацыі, дзе Сярэдняя Азія можа перайсці пад уплыў ісламскай цывілізацыі, а Далёкі Усход і Сібір — пад уплыў кітайскай, японскай і паўночнаамерыканскай цывілізацый. У такім выпадку, як сцвярджаюць аўтары, ад еўразійскай цывілізацыі нічога не застанецца, а будзе руская ці ўсходнеславянская цывілізацыя (відаць таму ў іх класіфікацыі было дадзена падвойнае азначэнне цывілізацыі — еўразійская/руская?). Тыя ж аўтары, гаворачы пра «рускую» цывілізацыю, відаць, маюць на ўвазе падключэнне ў гэту цывілізацыю беларусаў і ўкраінцаў.



Спробы расійскіх даследчыкаў пазнаць глыбей сваю гісторыю ў пераходны перыяд падлягалі сур'ёзнай крытыцы. Так здарылася з канцэпцыяй Тартарыі, краіны, існаваўшай, паводле аўтараў, у паўночнай частцы Азіі (Г. Носовский, А. Фоменко, 1999; И. Агранцев, 2005) (канцэпцыя прызнана спецыяльнай камісіяй пры Расійскай акадэміі навук ненавуковай; Комиссия, 2007). Палітызаванасць гэтага пытання праглядаецца.

Перыяд няўпэўненасці ў расійскай стратэгіі змяніўся аднаўленнем еўразійскай ідэалогіі. Відавочна, што рух еўразійскай цывілізацыі назад, на ўсход, быў вымушаным, ці, з пункту гледжання сучасных еўразістаў, памылковым («Развал СССР — это крупнейшая геополитическая катастрофа мира»). Відавочна, што новыя еўразісты, як і класічныя, будуць працягваць рэалізацыю сваёй ідэалогіі, каб узаконіць існаванне і пашырэнне імперыі. Яшчэ М. Данілеўскі (1822–1875) разглядаў Расію як асобную цывілізацыю, якая павінна абсарбіраваць і асіміляваць Еўропу, заклікаў славян вызваліцца з-пад турэцкага і германскага ўплы-

ву і ўтварыць Славянскую імперыю — фактычна асіміляваць заходнюю цывілізацыю, якая была «ў духоўным распадзе». Канчатковай мэтай класічных еўразістаў было пакончыць «з культуральнай гегемоніяй Захаду», дэманструючы перавагу Усходу.

Ідэалогія еўразіянізму была заснавана рускімі эмігрантамі ў 20-х гадах мінулага стагоддзя (князь М. Трубяцкой (1890–1938), Л. Карсавін (1882–1952), П. Савіцкі (1895–1968), Г. Вярнадскі (1887–1973), Р. Якабсон (1896–1982), П. Суўчынскі (1892–1985)). Сярод больш позніх прыхільнікаў гэтай тэорыі можна назваць Л. Гумілёва (1912–1992), А. Панарына (1940–2003) і сучаснікаў: А. Дугіна, В. Суркова, Н. Назарбаева, С. Караганава. Галоўнымі тэзамі класічнага еўразіянізму былі: асобная, уласцівая толькі для Расіі, еўразійская культура, якая ёсць асновай рускай цывілізацыі; ідэалогія, заснаваная на хрысціянскай праваслаўнай рэлігіі і культуры, якая адлюстроўвае нацыянальныя інтарэсы; унікальны лёс Расіі, які вызначаецца яе геастратэгічным месцам, як мостам паміж Азіяй і Еўропай; спецыфічная этнаграфічная сумесь еўразійскіх народаў. Яны нават казалі, што Расія не з'яўляецца па-сапраўднаму славянскай краінай. Гэта было вялікім здзіўленнем і нават «шокам» для B. Haggman, заходняга вучонага, зусім нядаўна (B. Haggman, 2011):

«Furthermore Russia was not a European society. Also (shockingly), the classical authors of the movement argued that it was not even genuinely Slavic».

Што ж тут шакіруючага, калі нават самі расіяне гэта прызнаюць? Аднак на Захадзе да гэтага часу чытаюць міфы і легендыклішэ пра Рурыкаў, пра славянскую краіну-Расію, напісаныя славянафіламі XVIII–XIX стст. Падрабязна гісторыю ідэалогіі еўразіянізму глядзіце ў нядаўніх аглядах (M. Laruelle, 2006; F. Matern, 2007; P. Pryce, 2013).

Класічныя еўразісты не прызнавалі права Беларусі і Украіны на незалежнасць у 20-я гады мінулага стагоддзя, разглядаючы народы гэтых краін як асобныя галіны рускага народа, і ў той жа час адзначалі вялікую ролю цюркскіх народаў у развіцці Расіі. Аб тым, што рускія бліжэй да неславянскіх людзей і што



імперыя Чынгісхана трансфармавалася ў Маскоўскую імперыю, пісаў Л. Гумілёў: «Военный и политический опыт Чингисхана, слившись с русским православием, в XIV веке дал жизнь Московской Руси» (з прадмовы да кнігі Э. Хара-Давана, 1992). У сваю чаргу, П. Савіцкі ў пісьме да Л. Гумілёва пісаў: «Я ўсё яшчэ разглядаю нашага вялікага і грознага бацьку Чынгісхана як адну з найвялікшых фігур ва ўсёй гісторыі перадленінскай Еўразіі. Толькі Ленін пераўзыйшоў яго па сваіх маштабах і моцы сваёй мэты» (цыт. па: M. Laruelle, 2006). Ідэі класічных еўразістаў не знайшлі падтрымкі ў СССР, ды яны і самі суцішыліся, бо ўбачылі, што пасля Другой сусветнай вайны Еўразія-Расія пашырылася аж да сярэдзіны Еўропы, г. зн. фактычна адбывалася рэалізацыя іх ідэі.

Аднак якіх бы поглядаў ні прытрымліваліся расійскія гісторыкі і лідары (нарманскай ці антынарманскай тэорыі, еўразійскай, славянафільскай ці панславісцкай плыні), мала хто з іх не разглядаў Кіеў/Кіеўскую Русь, як сваю вотчыну ў гістарычным аспекце. З пункту гледжання сённяшняга дня гэта не зусім адпавядае рэчаіснасці, а менавіта існаванню незалежнай дзяржавы Украіны, якая ў першую чаргу мае падставы на гісторыю Кіеўскай Русі. Бо прызнанне таго факта, што сучасная Расія не мае ніякага дачынення да Кіеўскай Русі, вядзе ў дзень сённяшні да абсалютнага прызнання самастойнасці Украіны і Беларусі і, як вынік, да страты прэтэнзій на гэтыя славянскія тэрыторыі і да страты «абгрунтаванага» гістарычнага ўплыву на гэтыя краіны, чаго імперскае мысленне сабе дазволіць не можа. Ідэя славянафілаў, панславістаў і еўразійцаў уключна з рускімі нацыянал-патрыётамі лічыць Расію славянскай краінай («Руская Расія») ці краінай з вядучай роллю славян прывяла да крызісу ў тлумачэнні сучаснай сітуацыі, калі, з аднаго боку, у складзе былой Расійскай імперыі адсутнічаюць Беларусь і Украіна — краіны ўсходнеславянскай цывілізацыі, а з другога — трэба вырашаць нацыянальныя пытанні ў самой Расіі. Імперскае мысленне знаходзіцца ў супрацьвазе з нармальным лагічным працэсам асэнсавання сябе як еўразійскай дзяржавы, што на самай справе вяло б да яе ўмацавання.

Для ўсходнеславянскай цывілізацыі важна, як да яе будзе адносіцца ў такой сітуацыі заходняя цывілізацыя. Амаль да нядаўняга часу ўсё, што знаходзілася на ўсход за лініяй Брэст–Львоў, называлася многімі на Захадзе Расіяй, нават не Савецкім Саюзам. Гэта зараз пакрысе прыходзіць асэнсаванне, што ўсходнеславянскі мір не быў адзіным і што там ёсць свае цывілізацыйныя каштоўнасці, якія нельга ўсе агулам прыпісаць да Еўразіі ці Масквы. Ад таго, ці будзе заходняя цывілізацыя зацікаўлена ў падтрымцы самастойнага развіцця ўсходнеславянскай цывілізацыі і яе магчымага руху на Захад, залежыць будучыня гэтай цывілізацыі. Калі такой падтрымкі не адбудзецца, то яна можа быць праглынута еўразійскай цывілізацыяй, як і многія тэрыторыі і народы ў XV–XX стст. Нягледзячы на заявы Прэзідэнта Казахстана Н. Назарбаева, што ствараемы Еўразійскі саюз — гэта эканамічны, а не палітычны саюз, у народаў усходнеславянскай цывілізацыі, беларускага і ўкраінскага, застаецца гістарычна абгрунтаваная насцярожанасць, выкліканая рухам па напрамку ўсход-захад, нягледзячы на тое, што ва ўмовах глабалізацыі агрэсія і захопы ў значнай ступені павінны быць цывілізавана абмежаванымі. Недахопам усходнеславянскай цывілізацыі на сёння ёсць тое, што дзве яе кампаненты, Беларусь і Украіна, працуюць рознанапраўлена і не скаардынавана. Але нічога не стаіць на месцы — шматвекавое развіццё ўсходнеславянскай еўрапейскай цывілізацыі мае свой працяг.

Аўтар выказвае шчырую падзяку за падтрымку і каштоўныя заўвагі Наталіі Баркар, Ніне Дарашэнка, Галіне Туміловіч і Сяргею Чыгрынаву.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 3, верасень 2013 г., с. 40–61.*

*Англійская версія апублікавана ў часопісе Comparative Civilizations Review, No 73: Fall, 2015, pp. 51–76: Piotr Murzionak «Evidence for Belarusian-Ukrainian Eastern Slavic Civilization».*



## Summary

***Piotra Murzionak «Eastern-Slavic Belarusian-Ukranian Civilization. Hypothesis and Facts (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», September 2013, issue 3, pp. 40–61)***

The article explains the existence of a separate East Slavic civilization in the modern European territories of Belarus and Ukraine.

The Slavs migrated to Eastern Europe in the fifth to ninth centuries; under the influence of various factors, they separated and formed two civilizations — East Slavic (Belarusian/Ukrainian) and Eurasian.

The disengagement of the Eastern Slavs was determined by the characteristics of their tribes, natural conditions of the Eastern European plain and the Eurasian steppes, assimilation to local tribes, internecine wars between lands and kingdoms, the influence of the Mongol Empire, and the emergence of the Grand Duchy of Lithuania as a unifying factor for the Eastern Slavs.

It seems that the ethno-national division of the Eastern Slavs began in the tenth and eleventh centuries, regardless of the processes of formation of Kievan Rus’, and even before its collapse. This division emerged between the Slavs living in what is now Ukraine and Belarus, and the Slavs who had migrated to the North-East (the territory of the future Muscovy), where they mingled during «first wave» assimilation with Finno-Ugric peoples (Mordvins, Mari, Vepsians, Meshchera, and Muromians). A second wave of assimilation with the Turkic peoples continued for centuries, as under the rule of the Golden Horde and later, the Muscovy Slavs were separated even further from the Slavs of Belarus and Ukraine.

Muscovy/Russia’s Eurasian culture is based on interpenetration, lifestyles, mentalities, traditions and knowledge amongst Slavic and Finno-Ugric and Turkic peoples. We can assume that Russia, including during the long history of the Eurasian territory and its population, is the successor of the Eurasian movement from east to west. However, many Russians still consider Russia, in defiance

of the facts, an exclusively Slavic nation, and do not recognize the separate existence of the Belarusian and Ukrainian ethnicities.

Infighting between the principalities of Kievan Rus' was one of the major factors in its decay, but perhaps counterintuitively, it led to the strengthening and separation of coeval centers (the principalities of Polotsk and Galicia-Volhynia) and to the creation of new feudal formations of the future Muscovy (the Republic of Novgorod, and the Principality of Rostov-Suzdal). The Belarusian and Ukrainian Slavs preserved their identity and civilization largely because of the Grand Duchy of Lithuania (GDL) which actually united the Eastern Slavs after the collapse of Kievan Rus'. At the time that sort of unifying role could not have been performed by Muscovy, itself a vassal dependent on the Mongol Golden Horde.

East Slavic civilization is nearly three centuries older than Eurasian, both because of the slow migration of the Slavs to the future lands of Muscovy (as evidenced by a much later formation of Suzdal compared to the principalities of Polotsk and Kiev) and due to Muscovy's status as a Tatar vassal for over 240 years. The population of Belarus and Ukraine, dating back almost eight centuries, is largely ethnically homogeneous and has been resident in the same territory, while the North-Eastern Slavs were assimilated in Russia, first by the Finno-Ugric tribes, and later with the Turkic peoples.

A principal difference between the populations of the two civilizations is understood at present by calculating the ratio of the Slavs to other ethnic groups, and the ratio of Christians to Muslims. Belarus and Ukraine are assigned to the Orthodox, eastern or Eurasian/Russian civilization (although they share a number of characteristic features of Western civilization) on the basis of myths and conclusions resulting from the interpretation of historical facts viewed from the prism of geopolitics.

These myths address the assumed trinity of the three Slavic nations —'Great Russians,' 'Little Russians' and 'White Russians'. They are based on the supposed Slavic character of the Russian Empire, historical continuity between Kievan Rus' and Russia, and Muscovy's claim for a role in the union of the Eastern Slavs which is no historical true.



The development of civilization requires a long time, and it is clear that East Slavic European or Belarusian-Ukrainian civilization will take its redundant proper place during the era of global change in the world through the understanding and co-operation of its constituent parts, which still have a great deal in common.

# БЕЛАРУСЬ. 2013.
# СПАТКАННЕ З РАДЗІМАЙ

## Уступ

Гэтым летам, праз 15 гадоў жыцця ў Канадзе, першы раз наведаў Беларусь. Мая вандроўка доўжылася тры тыдні ў другой палове жніўня — пачатку верасня з наведваннем гарадоў Мінска, Полацка, Наваполацка, Брэста, Паставаў, Пружанаў, Маларыты, Камянца. Вядома ж, шмат пабачыў і падчас паездак на аўтамабілях і цягніках па тэрыторыі некалькіх раёнаў Мінскай, Віцебскай і Брэсцкай абласцей. Ніжэй мае ўражанні ад спаткання з Радзімай пасля доўгага расстання і аналіз сітуацыі і тых змен, што адбыліся ў Беларусі за гэты час.

## Эмоцыі

Напачатку коратка пра найбольш яркія моманты знаходжання ў Беларусі. Ужо ў першую раніцу, калі мяне пабудзілі сваімі «размовамі» мае любімыя птушкі, сарокі (якіх, на жаль, няма ў ваколіцах Атавы), я зразумеў, што маё падарожжа пройдзе пад дэвізам «Адпачываю Радзімай». Ранішняе «сутыкненне» з сарокамі, як і іншыя шчаслівыя моманты сустрэчы са знаёмым і родным у далейшым, было вельмі кранальным і прыемным. Гэта былі і ластаўкі пад страхой хаты нашых суседзяў, дзе я спыніўся на адну толькі ноч у роднай вёсцы; яны чамусьці па чарзе заляталі і выляталі з гнязда, што знаходзілася пад самай страхой, гуляючы і носячыся ў паветры і як бы развітваючыся з родным куточкам. Была і вясковая лазня і размовы пасля яе за позняй вячэрай. І сустрэчы з вяскоўцамі, сябрамі і раднёй. Чаго толькі вартая нечаканая сустрэча з цёткай ля хаты майго прадзеда Ігната Мурзёнка — прама над хатай, менавіта ў гэты



час, сімвалічна кружылася з паўсотні буслоў, якія звычайна ў гэты час збіраюцца ў вырай. І квітнеючы прыгажун Мінск. А якія жанчыны! Незлічоная колькасць «мадэлек», якія на абцасіках неслі сваю прыгажосць па брукаваных ходніках горада. І яшчэ шмат прыемных дэталяў, што прыносілі сустрэчы з Радзімай. Кожны момант і кожны дзень!

## Вёска

Ступіў з асфальту ў мяккую траву,
Адчуў бы ў вёсцы цвёрдую зямлю;
З дзяцінства вёску родную люблю —
Трымае свет мой, у якім жыву.

Свае развагі пра змены ў краіне за 15 год пачынаю з вёскі, дзе нарадзіўся і дзе прайшлі лепшыя ў жыцці дзіцячыя і юнацкія гады. Не сакрэт, што шмат вёсак знікла з картаў, асабліва ў Віцебскай вобласці, дзе вёскі ў сваёй большасці невялікія, да 40 двароў. Так, знікла вёска майго дзеда, Чарэмушнікі Падзісеныя ў Пастаўскім раёне. Такі ж лёс чакае і вёску майго прадзеда, вёску Сямёнавічы, што ў Шаркаўшчынскім раёне: там пражываюць цяпер толькі людзі старэйшага ўзросту — летам чацвёра мужчын і тры жанчыны, а на зіму застаюцца толькі двое мужчын. Астатнія з'язджаюць да дзяцей, бо не маюць сіл трымаць цяпло ў хаце ў зімовую сцюжу. Пры мне ў вёску прыехала аўталаўка і нешматлікія жыхары вёскі куплялі тавары першай неабходнасці.

Дабрацца да «паміраючых» вёсак, дарэчы як і да іншых, вельмі складана. Рэгулярныя аўтобусныя рэйсы ў вёскі Пастаўскага раёна вельмі нячастыя, 1–2 разы на тыдзень. Калісьці праз маю вёску, Дварчаны, кожны дзень было з дзясятак рэйсаў з Пастаў на Лынтупы, Гадуцішкі, Нарач, Вярэнькі. Відаць, няма каму ездзіць, а другой прычынай можа быць занадта дарагое паліва (8–9 тыс. рублёў за літр, каля 1 долара). У той жа час кошт праезду мясцовым транспартам недарагі і, магчыма, з цяжкасцю пакрывае выдаткі. Так, напрыклад, праезд цягніком ад Варапаева да Полацка (140 км) каштаваў толькі 10 тысяч рублёў, г. зн. крыху больш як адзін долар. Відавочна, што такія нізкія кошты абумоўлены сацыяльнай палітыкай улады, скіраванай на падтрымку

неабходнага ўзроўню мясцовых паездак, тады як кошты праезду на міжнародных маршрутах на парадак вышэйшыя.

Характэрна, што ў калгасных гаспадарках маюцца аўтобусы для падвозу сялян на працу, на палі, на фермы. Гэтыя ж аўтобусы выкарыстоўваюцца для дастаўкі ў школы дзяцей з вёсак, дзе школ няма ці яны зачыненыя з-за малой колькасці дзяцей. Напярэдадні новага навучальнага года па Беларускім тэлебачанні паказалі першыя аўтобусы, выпушчаныя МАЗам і прызначаныя спецыяльна для перавозкі дзяцей. 60 такіх аўтобусаў было дастаўлена ў беларускую глыбінку; відавочна, што гэта не так і многа (10 аўтобусаў на вобласць), але ж першыя клапатлівыя крокі зроблены. Балюча было бачыць школу, дзе я вучыўся, бо яе вокны і дзверы былі замураванымі, каб папярэдзіць яе фізічнае знішчэнне (знайшліся аматары, якія пачалі расцягваць падлогу, сталяванне і ўсё, што дрэнна ляжала). У лепшыя гады ў гэтай васьмігодцы, пабудаванай напачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, навучалася да 120 дзяцей. На жаль, працэс вымірання вёсак і, адпаведна, закрыццё школ непазбежны падчас сучаснай глабальнай урбанізацыі.

Уклад жыцця тутэйшых, карэнных сялян змяніўся мала. Тыя з іх, якія маюць сілы, здароўе і не п’юць, жывуць нядрэнна. Але такіх гаспадароў засталося нямнога. Да прыкладу, калі пры савецкай уладзе ў вёсцы Дварчаны ў прыватным статку налічвалася да 60 кароў, то на сёння ў вёсцы толькі 9 кароў. Статка цяпер няма, пастухі непатрэбныя, бо кароў навязваюць на лузе хто дзе можа. Трымаючы дзвюх кароў, свіней, сады і агароды, добрыя гаспадары маюць капейку і магчымасць вывучыць сваіх дзяцей, бо будучыні для іх у вёсцы бачаць не ўсе. Вядома, што працы са сваёй гаспадаркай вельмі многа. Назіраючы з самага ранку за хатнімі клопатамі пары спрытных гаспадароў, бачыў, як зладжана яны працуюць; кожны з іх мае свае функцыі, рухі іх дакладныя, але не павольныя, бо трэба паспець зрабіць вельмі многа, перад тым як яшчэ пайсці і на працу ў калгас. Але ж і аддачу маюць — кожны дзень здаючы ў дзяржаву да 40 літраў малака (па 3000 рублёў за літр), толькі ад каровак можна за месяц атрымаць прыбытак ад 350 да 400 долараў (3–3,5 млн рублёў).



Але ж калі такой гаспадаркі няма ці яна невялікая, то пры заробку ў 1,5 млн у зімні час пражыць у калгасе шмат цяжэй. На жаль, у гэтым годзе на вёску звалілася бяда ў выглядзе афрыканскай чумы свіней. Як будуць жыць беларусы без «кумпяка, каўбас, сала» — уявіць вельмі цяжка. Аднак яшчэ больш цяжка і прыкра было чуць, што гэтая «свіная праблема» больш важная ў вёсцы, чым праблема беларускай мовы.

Сярод істотных зменаў, якія адбыліся на вёсцы, трэба адзначыць будаўніцтва аграгарадкоў. Толькі ў 2006–2008 гадах у Беларусі было пабудавана 666 аграгарадкоў. Новыя, «прэзідэнцкія» дамы заўважны ў многіх існуючых вёсках, якія ўтвараюць своеасаблівыя мікрараёны. Я бачыў іх ва ўсіх раёнах, дзе толькі праязджаў, — яны бачны здаля, абкладзеныя белай цэглай, з рознакаляровымі дахамі, з тыповымі прыбудовамі. Такі мікрараён ёсць і ў Дварчанах, ён збудаваны на заходнім краі вёскі. У гэтых аграгарадках побач з выхадцамі з тутэйшых месцаў жыве многа прышлых людзей. Некаторых з іх можна аднесці да людзей неўладкаваных, непаспяховых, са складаным лёсам. Магчымай прычынай іх «непаспяховасці» з’яўляецца п’янства. Частка з гэтай катэгорыі людзей, па прычыне парушэнняў дысцыпліны або з-за нізкіх заробкаў, часта мігрыруюць з аднаго калгаса ў другі, дзе назіраецца недахоп працоўнай сілы. Да прыкладу, розніца ў заробках даярак паміж калгасамі ў летні сезон можа быць вельмі істотнай (ад 2 да 5 млн рублёў). Як правіла, заробкі даярак у зімні перыяд у два разы меншыя. Праца даярак, якія маюць каля 60 кароў у групе, цяжкая — улетку кожная дойка раніцай і вечарам займае каля трох гадзін. Пры недахопе механізатараў падчас сяўбы і ўборкі ўраджаю з гарадскіх арганізацый у адміністрацыйным парадку мабілізуюцца спецыялісты, хто мае досвед у гэтых сезонных работах. Падчас уборкі камбайнер можа зарабіць за 2–3 тыдні ад 10 да 20 млн рублёў. Большасць сельскагаспадарчай тэхнікі, якая працуе на палетках, айчыннай вытворчасці (Мінскага трактарнага завода, Лідсельмаша, Гомсельмаша). У канцы жніўня палі былі ўжо ўпарадкаваныя і вёска рыхтавалася да новага сезону — палі заворваліся, засяваліся азімыя.

Многія з людзей у аграгарадках жывуць толькі за кошт калгасных заробкаў і не вядуць уласную гаспадарку. Тым не менш асноўная маса дамоў у аграгарадках у належным стане, у парадку. Быў здзіўленым сведкам наяўнасці газона ў адным з такіх дамоў, гаспадары якога нават маюць газонакасілку. Такім чынам, паступова ў вёсцы становіцца ўсё менш карэнных гаспадароў сялян і расце доля «наёмных сялян». Можна казаць, што апошнія ўтвараюць новую катэгорыю працаўнікоў вёскі. У нейкім сэнсе гэта катэгорыя нагадвае працаўнікоў саўгасаў, што былі ў мінулыя савецкія часы. Фермерскія гаспадаркі пакуль што не граюць вялікай ролі і выпрабляюць нязначную долю прадукцыі ў краіне (толькі 6,1% гародніны, 4,3% воўны, 2% бульбы, 1,4% збожжа і цукровых буракоў, 0,5% мяса) (Сельское хозяйство Республики Беларусь, 2011).

Тыя высілкі, якія зрабіла дзяржава для вёскі, даюць свой плён. Па-першае, людзі атрымалі нейкія гарантыі ў вырашэнні жыллёвай праблемы — з цягам часу яны маюць права нават выкупіць жыллё ва ўласнасць. Па-другое, значна павысілася вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі: ураджайнасць збожжавых за апошнія тры пяцігодкі (1996–2000, 2001–2005, 2006–2010) вырасла з 20 цэнтнераў на гектар да 25,3 і 30 цэнтнераў адпаведна. Валавая вытворчасць збожжавых і зернебабовых, мяса і малака павялічылася на пару дзясяткаў працэнтаў падчас апошняй пяцігодкі (2006–2010) у параўнанні з папярэдняй (2001–2005), калі пачынала дзейнічаць дзяржаўная падтрымка вёскі. Пару апошніх год (2010, 2012) былі атрыманы рэкордныя ўраджаі збожжа, па 9 млн тон (Сельское хозяйство Республики Беларусь, 2011). Колькі можа працягвацца такая сітуацыя на вёсцы, прагназаваць цяжка. Але відавочна, што такая мадэль пакуль што паспяхова працуе.

## Горад

Калі вы зойдзеце на сайты беларускіх пасольстваў за мяжой, то знойдзеце, што галоўнае, на што напіраюць, расказваючы пра Беларусь, — гэта «чысціня і парадак». Сапраўды, усе, хто вяртаецца з гасцей, адзначаюць чысціню нашага Мінска. Магу пацвердзіць, што гэта тычыцца не толькі Мінска. Тое ж можна сказаць і пра Брэст, Полацк і раённыя цэнтры, якія я наведваў таксама. Да прыкладу, быў прыемна здзіўлены, калі на другаснай вуліцы ў Паставах чалавек ва ўніформе прыбіраў з ходнікаў яблыкі, якія нападалі з прыватнага саду. Справа не толькі ў чысціні вуліц, якая падтрымліваецца камунальнымі службамі (вы можаце пабачыць на вуліцах шмат людзей у аранжавай вопратцы-ўніформе). Адчуванне чысціні ўзмацняецца новымі прыгожымі будынкамі, новай архітэктурай. Да таго ж на панэлях дамоў у цэнтры Мінска, Брэста намаляваны сюжэты на тэмы беларускай гісторыі. Вечарам дамы ў цэнтры Мінска выглядаюць нават казачна, бо падсвечаны рознакаляровай гамай. Цудоўна выглядаюць у дзённы час дамы ў Брэсце, панэлі якіх размаляваны ў колеры, што радуюць пагляд. Безумоўна, нельга выключыць і культуру саміх беларусаў, бо ад іх паводзін і выгляду таксама складаецца вобраз чыстых і прыгожых беларускіх гарадоў, якія абсалютна па праву можна называць еўрапейскімі.



У які б раён Мінска ні паехаў — паўсюль ідзе будаўніцтва. Нават у нядзелю вечарам у Верхнім горадзе працавалі людзі, машыны, краны. Відавочна, што такое шырокае будаўніцтва патрабуе інвестыцый. У размовах з людзьмі часта чуў пра пакупкі ўласнасці ў розных рэгіёнах рэспублікі расійскімі людзьмі. У сваім інтэрв'ю ад 13 верасня 2013 года («Інтэрфакс») старшыня праўлення Ашчаднага банка Расіі Г. Грэф адзначыў, што за апошнія тры гады гэты банк інвеставаў у эканоміку Беларусі 14 млрд долараў (3 млрд у 2013 годзе). Відавочна, што шматлікія казіно ў Мінску існуюць на расійскія грошы. Можна думаць, што ігорны бізнес дае нядрэнны прыбытак у дзяржаўную казну. Відавочна, што існуюць і іншыя расійскія крыніцы фінансавання беларускіх праектаў. Аднак, калі доля ўсяго расійскага капіталу, укладзенага ў эканоміку краіны, будзе за межамі дапушчальнага, то можа стварыцца пагроза эканамічнай незалежнасці Беларусі (адказ на пытанне пра долю расійскіх грошай у агульным аб'ёме інвестыцый могуць даць эксперты). Для падтрымкі стабільнага і збалансаванага развіцця эканомікі Беларусі патрэбны альтэрнатыўныя інвестыцыі. Урад праводзіць палітыку заахвочвання

прыцягнення грашовых рэсурсаў з іншых краін. Толькі за апошнюю дэкаду жніўня ў Мінск прыязджалі на перамовы прэзідэнты Балівіі і Шры-Ланкі, высокія дэлегацыі з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і Кітая, прэм'ер-міністр Мясніковіч знаходзіўся з візітам у Манголіі.

Дзяржава спрабуе выціснуць максімум з існаваўшай сацыялістычнай мадэлі вядзення гаспадаркі. У той жа час яна шукае шляхі для развіцця беларускага бізнесу. На чарговым пасяджэнні Савета па развіцці прадрымальніцтва ў Беларусі старшыня савета дырэктараў ААТ «Амкадор» А. Шакуцін адзначаў наступнае:

«…Нельга будаваць заводы па савецкіх прынцыпах», «Поўная адсутнасць кваліфікаваных кадраў. А значыць, мы сёння павінны адбіраць найбольш "галавастых", адпраўляць на Захад вучыцца. Пасля яны будуць прыязджаць і вучыць іншых», «…беларуская вытворчасць утрымлівае да 40% лішніх людзей» (Звязда, 27 жніўня 2013 г.). Віцэ-прэм'ер Беларусі П. Пракаповіч пацвердзіў, што «колькасць людзей насамрэч большая, чым патрэбна». Толькі за першае паўгоддзе ў Міністэрстве прамысловасці вызвалілася больш за 10 тысяч чалавек. П. Пракаповіч таксама заявіў, што ўжо сёлета чвэрць валавога ўнутранага прадукту (ВУП) павінна быць атрымана ад прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу. Плануецца, што гэта лічба будзе павялічвацца (у 2015 годзе — не меней за 30%, а ў наступнай пяцігодцы «прыватны бізнес павінен ствараць 50% ВУП»).

На здзіўленне, у Мінску набудавана і будуецца шмат супермаркетаў. Цэны ў іх даволі кусачыя, і здавалася б, што пры сярэднім заробку ў 500 даляраў там не ўбачыш шмат наведвальнікаў (у адным з нумароў «КП у Беларусі» за жнівень падавалася інфармацыя па сярэдніх заробках, якія ў Мінску былі каля 700 долараў і каля 500 долараў па абласцях). Аднак жа вечарам у адным з такіх супермаркетаў Мінска было людна і касы працавалі. Многія з тых людзей, з якімі я сустракаўся, маюць магчымасць паехаць на адпачынак на Азоўскае ці на Чорнае мора або адправіцца ў турнэ ў якую-небудзь еўрапейскую краіну. Камунальныя паслугі ў Беларусі да гэтага часу даволі танныя: калі ўмоўна ўзяць пенсію ў 2,5 млн рублёў, то камунальныя паслугі будуць забіраць ад яе 5–15% (для 2–3-пакаёвай звычайнай кватэры нават у зімні сезон гэта складзе 125–375 тыс. рублёў, або прыблізна 15–35 долараў). Беларускі народ працавіты, цярплівы і, відаць, мае вялікія рэсурсы для выжывання. Перажыўшы ў пачатку 2011 года дэвальвацыю амаль у 300%, ён чакае яшчэ адну, якая прагназуецца цяпер ў 20–30%. Не дай Бог, канешне, калі такое станецца, але зноў, відаць, сцерпяць, бо дэвальвацыя будзе ў дзесяць разоў меншая, чым папярэдняя.



## Культура

За год да майго ад'езду ў Канаду мне пашанцавала праехаць па некалькіх заходніх раёнах Беларусі. Наведваючы Ружаны, Косава, безнадзейна думалася, што няўжо палацы канцлера ВКЛ Льва Сапегі (заснаваны ў 1598 г.) і графа Вандаліна Пуслоўскага (1838), якія яшчэ на той час не рассыпаліся зусім, дачакаюцца лепшых часоў. Якое ж было маё прыемнае здзіўленне, калі, прыехаўшы ў гэтыя месцы праз 16 год, пабачыў рэканструяваны фасадны будынак палацавага комплексу ў Ружанах, дзе працягваюцца далейшыя работы па рэканструкцыі другой забудовы з правага крыла комплексу (рэканструкцыя пачата ў 2008 г.). Такую ж прыемнасць адчуў у Косаве, як тым, што ўжо многа зроблена, так і маштабам рэканструкцыі. Да таго ж побач з Косаўскім палацам адноўлена сяліба, дзе нарадзіўся і жыў Тадэвуш Касцюшка. Тады, 16 гадоў таму назад, на гэтым месцы быў невялічкі манумент, на якім было напісана: «В доме, стоявшем на этом месте, в 1746 году родился Т. Костюшко — видный политический деятель Польши» (падкрэслена мной). Зараз на гэтым месцы збудаваны дом-музей Т. Касцюшкі з гаспадарчым будынкам і студняй і пастаўлены вялікі валун з наступным надпісам:

*«1746.04.02–1817.15.10*
*Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына, нарадзіўся*
*Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка,*
*вялікі сын беларускай зямлі,*
*які ў далейшым стаў нацыянальным героем Польшчы, ЗША,*
*ганаровым грамадзянінам Францыі.*
*Удзячныя нашчадкі».*

Уражвае сваёй веліччу і значнасцю манумент у гонар 1000-годдзя Брэста, пастаўлены ў 2009 годзе ў абласным цэнтры на вуліцы Савецкай; па перыметры асновы манумента на 12 бронзавых дошках прыведзены асноўныя звесткі аб гісторыі горада, пачынаючы з часоў, калі ён знаходзіўся ў складзе Уладзіміра-Валынскага і Тураўскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага, і да нашых часоў.

Вельмі прыемнай была і вандроўка па Полацку: у цудоўным стане Сафійскі сабор і Еўфрасіннеўскі кляштар, езуіцкі калегіум, аддаены зараз Полацкаму ўніверсітэту, велічна стаяць у горадзе новыя манументы Францыску Скарыне, Еўфрасінні Полацкай, князю Усяславу. У храме Святога Спаса, што ў Еўфрасіннеўскім манастыры, інтэнсіўна вядуцца рэстаўрацыйныя работы (удалося заглянуць усярэдзіну і пабачыць 5–6 рэстаўратараў, што працавалі на розных узроўнях храма на рыштаваннях).

Відавочна, што нават ва ўмовах крызісу ў дзяржаве знаходзяцца сродкі, каб аднаўляць і будаваць помнікі і музеі. У Мінску прыемна было адкрыць для сябе, што экспанаты Нацыянальнага мастацкага музея зараз размешчаны не толькі ў асноўных памяшканнях, але і ў нядаўна дабудаваным будынку; цікава было паглядзець як на архітэктуру дабудовы, так і на выставы, якія дзейнічалі на той дзень у музеі: «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага», «Слуцкія паясы», «Выстава трох абразоў са збораў найбуйнейшых музеяў Беларусі», персанальную выставу У. Пракапцова «Струны прасторы і часу». Два гады таму назад была адчынена новая мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага, у якой падчас майго візіту праходзіла выстава А. Кузьміча «Светаносны лік мадонн». У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (адкрыты ў маі 1998 года) наведаў выставу Вольгі Бабурынай «Правы выцінанкі».

Шкада, што час вандроўкі ў Беларусь быў даволі кароткім. Калі б яе можна было б падоўжыць, то наперадзе былі б наведванні тэатраў Мінска, дзе спектаклі ідуць па некалькі разоў на тыдзень. Тым не менш яшчэ да прыезду ў Беларусь было запланавана схадзіць на адкрыццё сезона ў Нацыянальным тэатры оперы і балета, і менавіта на прэм’еру новага балета «Вітаўт» (музыка В. Кузняцова, лібрэта А. Дударава). Быў аншлаг, але сябры набылі білеты загадзя. Цікавы факт: напярэдадні спектакля літоўцы, праз газету «Lietuvos rytas», выказалі сваё незадавальненне тым, што беларусы лічаць князя Вітаўта «беларускім героем». Тэматыка і сюжэт, музыка, дэкарацыі, масавыя сцэны ў спектаклі прынеслі вялікую асалоду. Паводле інфармацыі, гэты спектакль хутка будзе пастаўлены ў Тракайскім замку, так бы мовіць, «у натуральных умовах».



## Мова

Хоць пра стан беларускай мовы напісана шмат, але ў яе абарону трэба ўсё ж пісаць і пісаць. Свае думкі адносна моўнай праблемы часткова выказаў нядаўна ў першым нумары часопіса «Сакавік» (Мурзёнак П. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. III. Моўнае пытанне, 2013), таму тут падаюцца толькі кароткія нататкі, зробленыя падчас вандроўкі па Беларусі.

Што было прыемна:

- Чуць аб’явы на беларускай мове, якія рабіліся сцюардэсамі ў самалётах «Белавія» (двойчы, калі ляцеў з Рыма ў Мінск і з Мінска ў Рыгу);
- Чуць аб’явы прыпынкаў на беларускай мове ў метро і ў грамадскім транспарце ў Мінску;
- Бачыць назвы населеных пунктаў і назвы вуліц у Мінску па-беларуску;
- Аднойчы ў аўтобусе чалавек, які запытаўся, «на какой остановке ему лучше выйти, чтобы попасть к Академии наук», на мой адказ па-беларуску раптам з задавальненнем пачаў размаўляць са мной і прачытаў нават верш па-беларуску, праехаўшы яшчэ некалькі лішніх прыпынкаў;
- Чуць перадачы правадной сеткі Беларускага радыё — такія знаёмыя з дзяцінства;
- Чуць, як святары і амаль дзве тысячы вернікаў маліліся па-беларуску ў Пастаўскім касцёле падчас цырымоніі ўшанавання мошчаў св. Тэрэзы;
- Слухаць беларускія мелодыі ў падземным пераходзе ў выкананні дзвюх дзяўчынак, якія адмовіліся ад узнагароды за

музыку (сапраўды, каля дзяўчатак не было «шапкі»), бо, як аказалася, іграюць бясплатна;

- Як некаторыя сябры спрабавалі размаўляць са мной па-беларуску (амаль добра атрымоўвалася).

Вось, здаецца, і ўсё.

Што не спадабалася:

- Нідзе не чуў гучання роднай мовы ў Мінску (на вуліцах, у транспарце);
- Па-ранейшаму кіраўніцтва дзяржавы амаль не ўжывае беларускую мову;
- Амаль усе шыльды на магазінах і рэклама падаюцца на рускай мове;
- Дзеці ў вёсцы па-беларуску не размаўляюць, гэта збольшага нейкая помесь рускай мовы, засмечанай беларускімі словамі, гэтакая «руская трасянка»;
- На чыгунцы, якая з'яўляецца стратэгічным аб'ектам, зараз усе аб'явы і назвы станцый на рускай мове;
- Ужо трэці год запар дзяўчынка Каця вучыцца адна ў адзіным беларускім класе Магілёва, у горадзе, які налічвае каля 370 000 жыхароў.

У дадатак прыпамінаецца нядаўняя прэс-канферэнцыя, на якой кіраўніку дзяржавы было зададзена пытанне пра стан беларускай мовы ў краіне, на што быў раздражнёны адказ, што «у нас нет никаких проблем с *беларускай мовай*». Сапраўды, атрымліваецца па-сталінску, што няма мовы — няма і праблемы. За мінулыя 15 год стала значна меншай надзея на аднаўленне і ўжыванне мовы тытульнай нацыі ў грамадстве.

## Мараль

Нягледзячы на шмат якія пазітыўныя змены, што адбыліся за апошнія 15 гадоў, у Беларусі яўна чагосьці бракуе. Нават калі пакінуць па-за развагамі катастрафічна кепскія адносіны грамадства да беларускай мовы, маральны стан грамадства павінен быў бы быць, у адпаведнасці з законамі эвалюцыі, значна лепшым, маю на ўвазе адносіны людзей адзін да аднаго, адносіны



да падзей, што адбываюцца ў суседніх краінах і ў цэлым свеце, пачуццё справядлівасці, рэлігійную талерантнасць і г. д.

Як і раней, на экранах тэлевізараў падчас чарговых «разганяяў» можна ўбачыць нізка апушчаныя галовы міністраў ці іншых асоб вышэйшага рангу, уключна з афіцэрамі — кіраўнікамі сілавых структур. Відавочна, што дэпрэсіўны настрой падчас «разганяяў», магчыма, часткова ці поўнасцю перадаецца «вертыкальна» на галовы грамадзян, паступова губляючы негатыўны запал, спускаючыся аж да ніжэйшага ўзроўню, да народных мас, якія там, унізе, не адчуваюць ці не хочуць успрымаць, што там калышацца ў вярхах. Тыя, хто мае заробкі, блізкія да сярэдніх па краіне, не дбаюць ні пра мову, ні пра незалежнасць, ні пра беларускую ідэнтычнасць. Усё вырашыць бацька. Хіба толькі, што на кухні традыцыйна крытыкуюць урад, і толькі найбяднейшыя, з заробкам менш за 1,5 млн рублёў, выказваюць элементы пратэсту.

У нядаўнім апытанні, якое праводзіў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, адказы беларусаў пра іх стаўленне да палітыкі размеркаваліся наступным чынам: маё жыццё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй не ўдзельнічаю, таму што гэта бескарысна (23,7%) ці небяспечна (11,1%); маё жыццё слаба залежыць ад палітыкі (22,5%); я не цікаўлюся палітыкай (34,2%). Такім чынам, 91,5% апытаных да палітыкі абыякавыя. Каментуючы гэтыя вынікі, эксперты інстытута нагадалі, што «старажытныя грэкі называлі сваіх суайчыннікаў, якія не цікавяцца грамадскімі справамі і не ўдзельнічаюць у сходах грамадзян, "ідыётамі"» («Народная воля», 3 верасня 2013 г.). Відавочна, што асноўная частка беларускага насельніцтва жыццём задаволена і не дбае і не цікавіцца ні ўнутранай, ні знешняй палітыкай. Людзі, з якімі даводзілася размаўляць, у большасці пазбягаюць ці баяцца размоваў на гэтыя тэмы, бо на самай справе не хочуць ніякіх змен у сваім сённяшнім жыцці.

Чорнымі плямамі ляжаць на Беларусі нераскрытыя знікненні дзеячаў апазіцыі, знаходжанне ў турме кандыдата ў прэзідэнты М. Статкевіча, марны стан паміраючай беларускай мовы. Вясной і восенню 1999 года зніклі фізічна вядомыя ў краіне людзі — В. Ганчар, Ю. Захаранка, А. Красоўскі. Як нядаўна заявіў юрыст

Г. Паганяйла («Хартыя’97», 13.02.2013), «мы зыходзім з таго, што ўсе агульнакрымінальныя версіі расследаваны і не знайшлі пацверджання. Засталася нерасследаванай адна працоўная версія — палітычна матываваная. Яна заключаецца ў датычнасці вышэйшых службовых асобаў дзяржавы да выкраданняў людзей». У наступным, 2014 годзе мінае тэрмін даўніны па расследаванні крымінальных спраў зніклых беларускіх апазіцыянераў, але адказу на пытанне, хто гэта зрабіў і дзе падзеліся целы зніклых, няма. Вось так, целаў няма — і праблемы няма. Выходзіць, што хутка і юрыдычна праблема будзе закрыта? Усё ж цяжка ўявіць, што гісторыя з цягам часу можа спісаць адказнасць за адсутнасць «праблемы мовы і праблемы целаў» у беларускай дзяржаве. Брат майго дзеда, Мурзёнак Сяргей Ігнатавіч, маладым дзецюком пайшоў з Заходняй Беларусі ў Саветы за лепшай доляй, вывучыўся на настаўніка, працаваў народным суддзёй 54-га ўчастка Мінска. Знік у жніўні 1937 года. Тое, што ён быў асуджаны 17 лістапада 1937 года да вышэйшай меры як польскі шпіён, а яшчэ праз пяць дзён расстраляны ў Мінску, хоць і праз некалькі дзясяткаў гадоў, але стала вядома (Л. Маракоў). На жаль, родныя ніколі не дазналіся, дзе яго магіла, але найбольш верагодна, ён пахаваны ў Курапатах.

Трэцяга ліпеня насельніцтва Беларусі святкуе Дзень Незалежнасці, якое яно бяздумна ўсталявала на гэты дзень падчас справакаванага рэферэндуму. Незалежнасці ад каго — ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Так, вызваленне Мінска ад захопнікаў трэба святкаваць. Але ж у гісторыі Беларусі ёсць шмат іншых слаўных дат, якія маюць прамое дачыненне для самага важнага дзяржаўнага свята (25 сакавіка, 27 ліпеня, 25 жніўня). Магчыма беларускія людзі прынялі б другое рашэнне з гэтай нагоды, калі б былі належным чынам праінфармаваны і адукаваны. Але насельніцтвам, якое належным чынам інфармавана, было б значна цяжэй кіраваць. Не апошнюю ролю ў дэзынфармацыі людзей Беларусі граюць журналісты, што працуюць у афіцыйных сродках масавай інфармацыі. Якая мараль у журналістаў БТ, якія праз пару дзён пасля арышту топ-менеджара «Уралкалія» сп. Баўмгертнера абвінавацілі апазіцыю ў тым, што тая патрабуе вызвалення гэтага чалавека, кажучы, што, маўляў, вось так «пятая калона» клапоціцца аб дабрабыце краіны і беларускіх шахцёраў. Ніякай спасылкі на прозвішчы, даты, арганізацыі, хто, калі і дзе гэта сказаў, — поўная непавага да саміх сябе, да прафесійнай падачы інфармацыі, ды яшчэ ставячы кляймо «пятай калоны» на людзей, якія туды ніяк не адносяцца. У гэтыя ж дні ў «Советской Белоруссии» можна было знайсці цэлую старонку трафарэтных савецкіх абвінавачванняў у адрас кіраўніцтва «Уралкалія» з боку працоўных; магчыма, яно і заслугоўвала гэтага, але чамусьці выглядала, што тыя абвінавачванні напісаны ў адным стылі, як бы адной рукой. У той жа газеце амаль кожны дзень публікуюцца прапагандысцкія антыамерыканскія, антызаходнія матэрыялы ў стылі халоднай вайны, быццам свет і не мяняўся апошнія 40–50 гадоў і галоўны вораг яшчэ пагражае менавіта адтуль.



Як было ўжо адзначана, назвы вёсак і гарадоў і вуліц у многіх населеных пунктах даюцца па-беларуску, што вельмі радуе. Аднак выключэннем быў горад Полацк. Там бачыў толькі адну вуліцу па-беларуску — гэта вуліца Еўфрасінні Полацкай, якая ідзе ад цэнтра горада да аднайменнага манастыра. Відаць, рэштка сумлення ў полацкага кіраўніцтва засталася, інакш было б падпісана, як і паўсюдна на шыльдах іншых вуліц, па-руску.

Баюся, што гэта прыклад не адзіны і яшчэ ёсць шмат беларусафобаў сярод вертыкальнага чынавенства ў іншых беларускіх гарадах. Беларусафобія праяўляецца не толькі на вуліцах. Падчас прэм’еры балета «Вітаўт» атрымаў праграму спектакля на дзвюх мовах, рускай і англійскай. Здавалася б, тэматыка спектакля вельмі ж ужо беларуская, ды і ўсе замежныя гледачы змаглі б прачытаць праграму па-англійску, дык не, знайшліся беларусафобы і ў Нацыянальным тэатры оперы і балета, відаць, «засаромеліся» таго, што інфармацыя пра балет, які, магчыма, стане міравым шэдэўрам, будзе дадзена на беларускай мове. Абсурдным выглядаюць і рэпетыцыі ў беларускіх тэатрах на рускай мове, тады як самі спектаклі ідуць на роднай мове.

## Заключэнне

Беларусь выглядае сучаснай еўрапейскай краінай. У ёй прыгожыя людзі, вёскі і гарады, цудоўная прырода. За апошнія 15 год краіна стала значна прыгажэйшай і багацейшай.

Многа сродкаў дзяржава ўклала ў падтрымку сяла (будаўніцтва аграгарадкоў, пастаўка айчыннай сельскагаспадарчай тэхнікі), што прывяло да значнага павышэння вытворчасці сельгаспрадукцыі. Уклад жыцця карэнных сялян змяніўся нязначна, аднак трэба адзначыць, што ў вёсцы з'явілася новая катэгорыя «наёмных» працаўнікоў і што для правядзення сезонных работ у адміністрацыйным парадку мабілізуюцца неабходныя спецыялісты з горада. Доля прыватнага бізнесу ў эканоміцы Беларусі невялікая, не больш за 3% на вёсцы і каля 20% у горадзе. Верагодна, што цяжкасці, звязаныя са зменамі ў структуры эканомікі, яшчэ наперадзе. Шмат зроблена ў аднаўленні турыстычных аб'ектаў, уключаючы музеі, даўнейшыя закінутыя палацы. Відавочна, што дасягнутыя поспехі з'яўляюцца вынікам як звычайнага эвалюцыйнага развіцця грамадства, так і тых высілкаў, якія рабіліся ўрадам. Не прызнаваць апошняе — гэта значыць пачынаць спрэчку аб тым, што было б, калі б развіццё краіны ішло па іншым шляху.

Можна адзначыць, што ў Беларусі ёсць значная колькасць беларусафобаў. Нягледзячы на адсутнасць афіцыйнай забароны на ўжыванне беларускай мовы, праявы дзейнасці беларусафобаў можна назіраць вельмі часта (гл. прыклады вышэй: назвы вуліц у Полацку, праграма балета «Вітаўт», аб'явы і назвы станцый на чыгунцы і інш.). З другога боку, моўная праблема заўважна цяпер і ў вёсках, дзе дзеці размаўляюць на «рускай трасянцы», што азначае згоду бацькоў на такую ненатуральную моўную трансфармацыю. У дзяржаве поўная беларускамоўная катастрофа — адсутнічае сапраўднае, раўнапраўнае ўжыванне роднай мовы, што сталася вынікам бяздзейнасці ўладаў.

Нельга канстатаваць, што ў беларускай дзяржаве існуе маральнае адзінства. У краіне людзі церпяць за свае палітычныя погляды. Пераважная большасць беларускага насельніцтва не цікавяцца будучыняй сваёй краіны і сваіх дзяцей, а жывуць



сённяшнім днём, які, верагодна, іх задавальняе. Магчыма, памяркоўным беларусам дадаецца і абыякавасць, што выцякае з ваганняў кіраўніцтва паміж Усходам і Захадам. Гэтаму спрыяе дзяржаўная прапагандысцкая машына, выкарыстоўваючы старыя падыходы часоў халоднай вайны. Магчыма, што сённяшняму настрою ў грамадстве адпавядала б будаўніцтва нейтральнай дзяржавы, што, між іншым, прапісана ў артыкуле 18 Канстытуцыі: «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву нейтральнай». Аднак іншыя маральныя прынцыпы выкарыстоўваюцца для вызначэння напрамку развіцця дзяржавы (удзел у ваенных блоках, будаўніцтва «ліній Сталіна», антызаходняя прапаганда). Гэта ў значнай меры аддаляе магчымасць далучэння Беларусі да сям'і еўрапейскіх народаў, дзе дзейнічаюць іншыя маральныя каштоўнасці.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе*
*«САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»,*
*№ 3, верасень 2013 г., с. 3–23.*

## Summary

***Piotra Murzionak. «Belarus. 2013. Date with the Homeland» (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», September 2013, issue 3, pp. 3–23)***

Belarus is the modern European country. It has beautiful people, villages, cities, gorgeous nature. Over the past 15 years the country has become much more beautiful and more prosperous. Obviously, the achievements are the result of normal evolution of the society and the result of efforts undertaken by the government as well. Not to recognize the latter would mean to start a dispute about what would have happened if the development of the country had undertaken a different way.

The government has invested a lot of money to support the village, which in turn led to a significant increase in the quality of life of farmers and to the significant growth of agricultural productivity. Although the general life style of native farmers has not significantly changed, some positive changes have been implemented in the

organization of farming and agriculture related activities: contracting jobs have been introduced on the farms as well as essential specialists from the cities are mobilized through administrative resources for the periods of peak seasons.

The share of the private sector in the economy of Belarus is small, not more than 3% in the village and around 20% in the city. It is likely that difficulties associated with the changes in the structure of the economy are yet to come.

Significant successful efforts have been undertaken in the restoration and preservation of historic and heritage sites, museums and conservation areas, as well as transforming these places into the attraction sites and tourist destinations.

However, outside impression of spotlessness and order disagrees with chronic hidden and unresolved problems in the society. One of them is the disastrous state of the Belarusian language. Ignoring the importance and significance of the consistent and uniform use of the native tongue, the government's inactivity and negligence with this respect contributes to the gradual but imminent extinction of the language. The slow disappearance of the Belarusian language is noticeable even in the villages, where children now speak «Russian trasyanka», which clearly indicates the indifferent and careless position of the parents with respect to such an unnatural linguistic transformation. In part, belarusophobs contribute to the process of the language extinction. Despite the absence of the official ban on the use of the Belarusian language, the manifestations of belarusophobs' activities can be observed very often (see examples for street names in Polotsk, synopsis of the ballet 'Vytautas', advertising and railway station names, etc.).

Another problem is the absence of solidarity among Belarusian people in terms of their self-identification as Belarusians, as well as with respect to the importance of emphasising the sovereignty of the State on the global political arena. In the country, people are suffering for their political views. The vast majority of the Belarusian population, perhaps with the exception of youth, is not interested in the future of their country and do not relate the future of their children to the political standing and overall economic well-being



of the State. People live taking one day at a time (which probably suits them), without giving too much thought of what is going to happen tomorrow. The state propaganda machine that use sold approaches of the Cold War also contributes to that. Most likely that today's public sentiment would be consistent with the construction of a «neutral» state, the position that in fact is stated in the Article 18 of the Constitution: '«The Republic of Belarus aims at making its territory a nuclear-free zone, and the state — neutral». However, different moral principles are used in determining the direction of the development of the state (participation in war alliances, construction of 'Stalin Lines', an anti-Western propaganda). This approach greatly postpones the opportunity for Belarus to join the family of European nations where different moral values are exercised.

# БЕЛАРУСКАСЦЬ І МЕНТАЛЬНАСЦЬ ЦЫВІЛІЗАВАНЫХ КРАІН

Азначэнне «беларускасць», на нашу думку, цалкам адпавядае паняццям беларускай ментальнасці ці ментальнасці народа і будзе ў роўнай ступені ўжывацца ў артыкуле. Паколькі ментальнасць народа нельга выхаваць за адно ці два пакаленні, то можна меркаваць, што ментальнасць людзей, насяляўшых тэрыторыю сучаснай Беларусі, фармавалася ўжо тады, калі не было сфармулявана паняцце аб саміх беларусах і аб беларускім этнасе. Рэтраспектыўна можна, здаецца, казаць пра тое, што беларускасць мае свае генетычныя карані даўжынёй у тысячы гадоў.

Кожны народ ці этнас здольны скласці ўяўленне аб сваёй ментальнасці і ахарактарызаваць яе. Звычайна, калі запытацца, якая ментальнасць у беларусаў, у галаву прыходзяць пару слоў для яе характарыстыкі, і ў першую чаргу памяркоўнасць, талерантнасць, пачуццё справядлівасці. Падумаўшы, яшчэ можна дадаць: міралюбівасць, згода. Далей узнікаюць пытанні: а што маецца на ўвазе пад гэтымі словамі: памяркоўнасць ці абыякавасць? Талерантнасць якая — рэлігійная, расавая і ў якой ступені? Згода з чым — са смяротным пакараннем? Ці дапаўняюць гэтыя характарыстыкі такія маральныя каштоўнасці, як свабода, дэмакратыя, адсутнасць этнічных і расавых прымхаў, раўнапраўныя адносіны да жанчын? Іншымі словамі — ці адпавядае беларуская ментальнасць, альбо беларускасць, глабальным тэндэнцыям змены мыслення і паводзін чалавецтва ў нашы дні?

Відавочна, што ментальнасць людзей на зямлі значна змянілася, і не толькі таму, што з’явіліся новыя фактары, якія ўплываюць на яе фармаванне (праблемы экалогіі, адносіны да сексуальных меншасцяў, дзейнасць рэлігійных канфесій і іншых транснацыянальных палітычных, эканамічных, культурных і сацыяльных



структур), але і таму, што ў многіх цывілізаваных краінах выраслі патрабаванні да выканання тых маральных прынцыпаў, пры рэалізацыі якіх у канчатковым выглядзе складаецца новая ментальнасць чалавецтва. Яшчэ паўсотні год таму назад у ЗША квітнела расавая сегрэгацыя, а сёння прэзідэнт гэтай краіны — Барак Абама, афраамерыканец; у дзеючы парламент Канады абраны 76 жанчын (25%), тады як у канцы XIX стагоддзя яны не мелі нават права выбіраць. Амаль сто гадоў таму назад Аркадзь Смоліч (1891–1938) пісаў, што «Беларус быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыні, калі справядлівасць запануе між народамі, але быў мала падгатаваны да змагання за быт, за жыццё, якое ішло вакол яго і яго коштам, але на яго шкоду». Хацелася б думаць, што беларускасць за апошняе стагоддзе змянілася ў лепшы бок таксама.

У якіх умовах развівалася беларускасць у даўнейшы і нядаўні час? Несумненна, яна істотна змянялася на працягу вякоў пад уплывам розных фактараў: пад уплывам рэлігіі — праваслаўя і каталіцызму, пратэстанцтва і ўніяцтва; пад каласальным уплывам культур Польшчы і Расіі (як негатыўным, так і пазітыўным). І нарэшце, беларускасць развівалася ва ўмовах барацьбы Рыма і Візантыі, ці, іначай, Захаду і Усходу, якая ў найбольшай меры прадвызначыла на сёння няўпэўненую, «памяркоўную» беларускасць. Бо знаходжанне на мяжы абяскровіла беларускую нацыю да той ступені, што яе беларускасць за апошняе стагоддзе пачынала ці магла развівацца толькі ў надзвычайных умовах і абставінах:

- стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі стала магчымым ва ўмовах грамадзянскай вайны, у час, калі Мінск быў акупаваны германскімі войскамі;
- беларусізацыя 20–30-х гадоў мінулага стагоддзя праходзіла ў час няўпэўненасці савецкай улады і правядзення ёю новай эканамічнай палітыкі;
- элементы аднаўлення беларускасці былі заўважны ў Мінску, Слоніме, Баранавічах, іншых гарадах падчас нямецкай акупацыі 1941–1944 гадоў;

- стварэнне суверэннай Рэспублікі Беларусь было адным з вынікаў развалу Савецкага Саюза;
- хваля Беларускага Адраджэння 1991–1994 гадоў мела вялікі поспех ва ўмовах разгубленасці ўнутраных і знешніх праціўнікаў нацыянальнага будаўніцтва.

Вызначэнне беларускай ментальнасці ў наш час мае адну істотную асаблівасць — ацэньваць гэтую ментальнасць даводзіцца ў рускамоўных беларусаў. Беларускі народ, як і многія другія народы, фармаваўся ў канцы XIX стагоддзя па моўным прызнаку. Паводле перапісу 2009 года, 83,7% насельніцтва краіны вызначала сябе беларусамі, і здавалася б, што такая вялікая этнічная аднароднасць ёсць добрым грунтам як для ўдасканалення беларускасці, так і для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. Аднак, нягледзячы на гэта, ідэнтыфікацыя беларусаў як нацыі мае пакуль толькі тэарэтычную перспектыву; у краіне будуецца цывільная рускамоўная дзяржава (П. Мурзёнак. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. І. Ці магчыма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы? 2013). У Беларусі — беларускамоўная катастрофа: адсутнічае сапраўднае, раўнапраўнае ўжыванне роднай мовы, што сталася вынікам амаральнай бяздзейнасці ўладаў, дзейнасці беларусафобаў і, безумоўна, абыякавых адносін насельніцтва Рэспублікі Беларусь да сваёй мовы.

Паўстае парадаксальнае пытанне аб магчымасці развіцця беларускай ментальнасці або беларускасці ва ўмовах цяперашняга будаўніцтва цывільнай дзяржавы без беларускай мовы, без важнейшага кампанента, які якраз і павінен быў бы ў значнай меры прадвызначаць ментальнасць беларускага народа. Неверагодна, але хочацца спадзявацца, што гэта будзе магчыма ў нейкай, пакуль што незразумела якой форме, якую трэба яшчэ выпрацаваць, але не ў форме самападману, інакш прыйдзецца задаваць другое пытанне: менталітэт якога народа ці насельніцтва будзе выхоўвацца без роднай мовы? У ідэале добра было б усвядоміць таксама, каб мова, на якой будзе «менталіцца» і ўкараняцца гэта форма-стратэгія, мела корань «беларус».

Нас сёння цікавіць рэальны стан беларускасці, бо ад правільнай яе ацэнкі будзе залежаць выбар стратэгіі і шляхоў яе выхавання. Здавалася б, для развіцця беларускасці ёсць дастатковыя ўмовы: краіна набыла самастойнасць і незалежнасць, існуе значная этнічная і гістарычная база для развіцця і станаўлення беларускасці: пасля падзення Берлінскай сцяны адчыніліся дзверы і людзі атрымалі магчымасць ездзіць па свеце, за апошнія гады краіна стала багацейшай і прыгажэйшай. Аднак, нягледзячы на адкрытасць мяжы, Беларусь застаецца закрытай для дыялогу з цывілізаванымі краінамі свету па вядомых прычынах. Развіццё беларускасці стрымліваецца састрэлымі стэрэатыпамі, якія складаюць аснову дзяржаўнай ідэалогіі, — у першую чаргу гэта ідэі славянскага адзінства (праўда, чамусьці не ўсе славянскія краіны-суседзі запрашаюцца ў гэта адзінства), выкарыстанне кароткатэрміновай гістарычнай памяці, звязанай пераважна толькі з Другой сусветнай вайной, працяг палітыкі інтэрнацыяналізму ў адносінах да некаторых краін (Венесуэла, Куба, Сірыя), якая праводзілася яшчэ ў савецкія часы.



Пры вызначэнні напрамку развіцця дзяржавы выкарыстоўваюцца такія прыёмы і маральныя прынцыпы (будаўніцтва «ліній Сталіна», антыамерыканская і антызаходняя прапаганда), якія ў значнай ступені аддаляюць магчымасць далучэння Беларусі да сям'і цывілізаваных народаў, дзе дзейнічаюць іншыя маральныя каштоўнасці. Можна было б думаць, што беларускасць, выкарыстоўваючы ідэалы хрысціянства і сапраўднага інтэрнацыяналізму, пастунова ішла б да прыняцця агульнапрынятых маральных каштоўнасцяў. Аднак, такое адчуванне, што Беларусь спынілася на стадыі савецкага інтэрнацыяналізму, які быў скіраваны толькі на «сваіх», на сяброў, якіх тады было паўсвету, а другая палова свету, адпаведна, была запоўнена ворагамі; пошукі ворагаў працягваюцца і зараз, калі пазнаёміцца, напрыклад, са зместам амаль кожнага нумара газеты «Советская Белоруссия».

Відавочна, што развіццё беларускасці стрымліваецца і знешнімі фактарамі, і ў прыватнасці паступовым уцягваннем краіны ў Еўразійскі саюз, ідэалагічнай базай для якога з'яўляюцца ідэя многапалярнасці свету і еўразійская ідэалогія. Канчатковай мэтай еўразізму, паводле класічных ды й сучасных еўразістаў,

з’яўляецца пакончыць «з культуральнай гегемоніяй Захаду», дэманструючы перавагу Усходу. Такім чынам, на прасторах СНД, замест кааперацыі з цывілізаванымі краінамі, аднаўляецца як канфрантацыя часоў халоднай вайны, так і імперскае мысленне, пад якія падпадаюць і памяркоўныя беларусы.

У нядаўнім аглядзе мы абгрунтавалі гістарычную прыналежнасць беларусаў да ўсходнеславянскай, а не да еўразійскай цывілізацыі (П. Мурзёнак. Усходнеславянская беларуска-ўкраінская цывілізацыя, 2013); з праведзенага там аналізу вынікае, што ментальнасць людзей, якія належаць да гэтых цывілізацый, будзе таксама адрозніваецца, што, магчыма, адыграе сваю ролю ў выбару напрамку развіцця краіны ў будучыні. На сёння доля грамадзян Беларусі, якія б бачылі сябе ў Еўразійскім ці ў Еўрапейскім саюзе, аднолькавая, каля 37% (С. Нікалюк, Радыё «Свабода», 4 кастрычніка 2013 г.) (*адказы на гэта пытанне увесь час вагаюцца, вясной 2016 года лічбы складалі 25% і 52% адпаведна*). Маецца дастаткова навуковых доказаў, якія сведчаць аб еўрапейскасці беларусаў і аб іх прыналежнасці да заходняй цывілізацыі (N. Bekus, 2011; В. Куплевіч, 2013).

Відавочна, што развіццё беларускасці павінна брацца за аснову пры будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы. Аднак будаўніцтва нацыі не з’яўляецца рэальнай дзяржаўнай палітыкай, хаця ў асноўных прынцыпах развіцця Рэспублікі Беларусь гаворыцца, што «ў краіне ажыццяўляецца паслядоўны курс па фарміраванні ідэалогіі беларускай дзяржавы, крышталізацыі беларускай нацыянальнай ідэі». Выглядае так, што нават некаторыя дэкларатыўныя заявы і дзеянні, якія сталі прыкметнымі ў апошнія гады (заявы аб умацаванні незалежнасці краіны, будаўніцтва плошчы Дзяржаўнага Сцяга), робяцца вымушана ў залежнасці ад абставін і асабліва ад зменаў у адносінах з Расіяй. Сучасны ўрад Беларусі, большы час эксплуатуючы ўсходні вектар знешняй палітыкі, пакідае ў загане развіццё беларускасці і, як след, развіццё сваёй нацыі, у выніку чаго адбываецца ўсё большая асіміляцыя насельніцтва Рэспублікі Беларусь у еўразійскую палітыку і культуру.



У апошні час беларуская дзяржава дэманструе элементы рэлігійнай дыскрымінацыі. Ніхто не аспрэчвае, што Беларусь — краіна пераважна праваслаўная. Аднак відавочна, што праваслаўная царква мае значныя прэферэнцыі: звярніце ўвагу на новыя вялізныя храмы, узведзеныя ў Мінску з дапамогай дзяржавы; штосьці не было чуваць, каб такую ж падтрымку мелі каталіцкія ці пратэстанцкія цэрквы. Паводле звестак Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь, да той ці іншай рэлігіі адносілі сябе ў 2010 годзе 58,9% грамадзян, з іх 82,5% былі праваслаўнымі (48% ад агульнай колькасці насельніцтва), 12% католікі (7% ад агульнай колькасці), 4% — іншыя рэлігіі (Государственный департамент США. Доклад о свободе религии за 2010 год, раздел 1, англ.). Магчыма, выконваючы заказ ці выкарыстоўваючы іншую методыку, Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на наступны год даў зусім іншыя лічбы, якія на 60% перавышалі даныя Камітэта па агульнай колькасці вернікаў у краіне, у асноўным за кошт праваслаўных (паводле даных цэнтра, у 2011 годзе, 93,5% грамадзян адносілі сябе да той ці іншай рэлігіі, з іх 81% былі праваслаўнымі (76% ад агульнай колькасці насельніцтва), 10,5% католікі (10% ад агульнай колькасці), 2% — іншыя рэлігіі (іўдаізм 1%, пратэстантызм і іслам па 0,5%) (Сборник материалов социологических исследований за 2011 год, 2012, с. 44).

У краіне з’явіўся клуб праваслаўных міліцыянераў («Наша Ніва», 8 кастрычніка 2013 г.). Цікава, што, па прыведзенай інфармацыі, гэтае аб’яднанне ці клуб створаны ў рамках праграмы супрацоўніцтва паміж Міністэрствам унутраных спраў і Беларускай праваслаўнай царквой, падпісанай яшчэ 10 гадоў таму назад. На многіх урачыстасцях (напрыклад, на прыняцці воінскай прысягі) можна бачыць прысутнасць святароў, якія выконваюць царкоўныя абрады. Але святары ці ўсіх канфесій раўнапраўна прадстаўлены на такіх цырымоніях? А з другога боку, якім чынам улічваюцца рэлігійныя ці атэістычныя пачуцці грамадзян, якія не адносяць сябе ні да якой рэлігіі, а яны, па даных Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі

Беларусь, складаюць істотную долю (41,1%). Відавочна, што канстытуцыйныя правы гэтых грамадзян парушаюцца (Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь: «Артыкул 4. …Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян»). Можна прыводзіць іншыя прыклады наўмыснага ўмяшання дзяржавы ў розныя сферы гуманітарнай дзейнасці, якія негатыўна ўплываюць на фармаванне ментальнасці беларусаў: добра вядомая гісторыя з прыцясненнем Саюза палякаў сведчыць аб этнічнай дыскрымінацыі ў краіне.

У выніку, нягледзячы на шмат якія пазітыўныя змены, што адбыліся за гады незалежнасці ў беларускім грамадстве, яго маральнасць магла б быць, у адпаведнасці з законамі эвалюцыі, значна лепшай, калі мець на ўвазе адносіны людзей адзін да аднаго, адносіны да падзей, што адбываюцца ў суседніх краінах і ў цэлым свеце, пачуццё справядлівасці і свабоды, рэлігійную талерантнасць і г. д. Многія грамадзяне Беларусі, якія маюць заробкі, блізкія да сярэдніх па краіне, жыццём задаволены і не дбаюць ні пра мову, ні пра незалежнасць, ні пра беларускую ідэнтычнасць, не цікавяцца ўнутранай і знешняй палітыкай краіны. У нядаўнім апытанні, якое праводзіў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, 91,5% апытаных беларусаў выявілі сябе абыякавымі да палітыкі («Народная воля», 3 верасня 2013 г.). Можна канстатаваць, што пераважная большасць беларускага насельніцтва, бадай за выключэннем моладзі, не цікавіцца будучыняй сваёй краіны і сваіх дзяцей.

Гэта «палітычная» абыякавасць адлюстроўваецца на культуральных кампанентах ментальнасці. Паводле апытання, праведзенага Лабараторыяй Новак і Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў у 2010 годзе (Belarus Digest, 08-02-2013), беларусы не такія ўжо і талерантныя, як гэта можа ўяўляцца. У Беларусі няма такой ксенафобіі, якая назіраецца ў сталіцы суседняй усходняй дзяржавы, але 46% беларусаў лічыць, што трэба абмежаваць прыток замежных працоўных у краіну. Толькі 20% беларусаў пагадзіліся б пажаніць сваіх дзяцей з прадстаўнікамі другой расы. Гэтыя лічбы — вынік толькі тэарэтычных меркаванняў беларусаў, бо яны зараз пражываюць у амаль абсалютным асяроддзі белага насельніцтва (беларусы — 83,7%, расіяне — 8,3%, палякі — 3,1%, украінцы — 1,7%; разам 96,8%). Складана ўявіць, што вынікі апытання былі б лепшымі, калі дапусціць у рэальнасці, што прадстаўнікі другіх рас складаюць хаця б 15% ад агульнай колькасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь і жывуць побач. Амаль тыя ж вынікі беларусы дэманструюць у сваёй нецярпімасці да нетрадыцыйных рэлігій, да гомасексуалаў.



Хаця ў Беларусі няма бачных супярэчлівых адносін паміж асноўнымі канфесіямі, праваслаўнай і каталіцкай, аднак у той жа час 57% беларусаў выступаюць за абмежаванне распаўсюду такіх рэлігій, як харэ крышна ці будызм. У прынцыпе, непрымальнасць беларусамі «незнаёмых» рэлігійных напрамкаў (не беручы пад увагу экстрэмальныя) не адпавядае Дэкларацыі правоў чалавека. Больш за 60% беларусаў падтрымліваюць крымінальны пераслед гомасексуалаў і толькі 6% згодны на тое, каб геі мелі тыя ж самыя правы, што і астатнія грамадзяне краіны. І нарэшце, сумна вядомыя вынікі рэферэндуму 1996 года пра адмену смяротнага пакарання — 80,44% беларускага насельніцтва сказалі тады «не» яго адмене. Нерэпрэзентатыўнае апытанне на радыё «Свабода» (кастрычнік 2013 г.), якое мае больш падрыхтаваную групу слухачоў (маладую, адукаваную), суцяшае толькі крыху — непераканаўчыя 56% за адмену смяротнага пакарання. Улічваючы прыведзеныя факты і тое, што ментальнасць нацыі складаецца з ментальнасці індывідуумаў, можна адзначыць, што ментальнасць беларускага народа і кіраўніцтва дзяржавы ў значнай ступені супадаюць па многіх кампанентах.

А што ж мы маем у пазітыве пры вызначэнні беларускасці? Цярплівасць! Так, гэта, відаць, адна з характэрных якасцяў. Да прыкладу, у 2011 годзе беларусы цярпліва перанеслі дэвальвацыю ў амаль 300%. Бадай што толькі аднойчы, у красавіку 1991 г., можна было назіраць масавыя дэманстрацыі і мітынгі рабочых, якія былі рэакцыяй на павышэнне цэнаў на прадуктовыя і прамысловыя тавары. На вуліцы Мінска выйшлі каля

100 тысяч прадстаўнікоў рабочага класа з пратэстам супраць росту цэн і з патрабаваннем змены ўрада. Але ў апошнім выпадку цярпенне людзей лопнула з прычыны пагрозы іх фізічнаму выжыванню, што ніяк да характарыстыкі ментальнасці беларусаў не належыць. Часам думаецца, што не свабода, а элементарнае выжыванне з'яўляецца галоўным пытаннем для беларусаў.

Але з другога боку, пакідаючы па-за ўвагай біялагічны інстынкт фізічнага выжывання, можна казаць і пра феномен беларускай ментальнасці выжывання, выпеставаны і адшліфаваны на працягу стагоддзяў. Каб выжыць, трэба быць яшчэ працавітым, спакойным, пазбягаць экстрымаў і канфліктаў, быць спагадлівым, разважлівым — у цэлым быць памяркоўным. Памяркоўнасць, магчыма ад прыроды, але і дадаткова адаптаваўшаяся падчас бальшавіцкіх і польскіх праследаў, падчас войнаў (дзве вайны з немцамі, безліч войнаў з Масковіяй, адна толькі вайна 1654–1657 гадоў забрала палову беларускага насельніцтва), відаць, прадвызначае спосаб жыцця беларусаў, іх прыстасаванне да тых умоў існавання, дзе памкненні да свабоды заўжды караліся ці караюцца. І хаця, будучы памяркоўным, вольным не станеш, беларускую ментальнасць выжывання ў гэтым кантэксце цяжка апраўдаць, але магчыма зразумець. Можна меркаваць, што дзякуючы менавіта ёй яшчэ зберагаецца мінімальны ўзровень беларускасці, аб чым сведчаць некалькі спроб беларускага адраджэння ў мінулым стагоддзі, і магчыма, што яе яшчэ ўдасца аднавіць і памножыць у гэтым стагоддзі. Выхаванне і развіццё беларускасці, сцвярджэнне годнасці і самабытнасці беларусаў спрычыняцца ў будучыні і да будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, што патрабуе працяглага часу, кансалідацыі сіл нацыянальнай эліты і ўдзелу самой дзяржавы.

Па сваёй адукаванасці і нават па ўзроўні жыцця Беларусь магла б адпавядаць еўрапейскім стандартам, чаго нельга яшчэ сказаць пра ўзровень ментальнасці. Беларусы недастаткова талерантныя ў адносінах да прадстаўнікоў іншых этнасаў, рас, рэлігій, сексуальных меншасцяў, не падтрымліваюць у большасці адмену смяротнага пакарання. Усе гэтыя аспекты беларускай ментальнасці, альбо беларускасці, патрабуюць далейшага выхавання, без чаго складана спадзявацца на разуменне народаў цывілізаваных краін у эпоху глабалізацыі. Улічваючы, што па многіх аспектах дзяржава не праводзіць адпаведную гэтым каштоўнасцям палітыку, не выпадае разлічваць на хуткае выпраўленне сітуацыі. Тыя нязначныя парасткі беларускасці, якія яшчэ зберагаюцца і распаўсюджваюцца прадстаўнікамі нацыянальнай эліты, падаўляюцца страхамі аб страце незалежнасці і суверэнітэту краіны, катастрафічным станам беларускай мовы, уціскам расійскай культуры.



Рэсурсы, якія ёсць у прадстаўнікоў нацыянальнай эліты, невялікія як па колькасці людзей, якія займаюцца гэтымі праблемамі, так і па сродках давядзення да насельніцтва прапаноўваемых ідэй па выхаванні беларускасці. Падтрымка з боку інстытутаў цывілізаваных краін неабходная, але не вырашальная. Відавочна, што дадзеная завочная канферэнцыя з'яўляецца адным з цікавых падыходаў да абмеркавання існуючых праблем і генерацыі новых ідэй у галіне беларускасці. Хочацца верыць, што апроч традыцыйных публікацый больш кансалідавана для асветніцкай працы сярод беларускага насельніцтва будзе выкарыстоўвацца інтэрнэт. Паводле інфармацыі Міжнароднага тэлекамунікацыйнага саюза, у Беларусі інтэрнэтам карыстаецца 47% насельніцтва — гэта нямала (хоць з гэтым паказнікам краіна займае 79-е месца ў свеце са 192 краін). На сёння гэта амаль адзіны рэальны інструмент для шырокага данясення інфармацыі да беларусаў. Аднак у беларускай інтэрнэт-прасторы няма салідарнасці — вы з цяжкасцю можаце падаць неабходную інфармацыю на такія папулярныя сайты, як радыё «Свабода» і «Хартыя'97», што нельга растлумачыць толькі карпаратыўнымі інтарэсамі гэтых арганізацый, недастатковы і абмен інфармацыяй паміж сайтамі. Сярод прыярытэтных напрамкаў для паляпшэння ментальнасці беларусаў, апроч такіх пастаянных і галоўных, як веданне роднай мовы і гісторыі, трэба вызначыць як мінімум змаганне за адмену смяротнага пакарання. Да разумення апошняй праблемы цывілізаваныя краіны ідуць дзясяткі гадоў.

Але гэта не значыць, што астатнія праблемы менш важныя і што іх трэба адкласці на пазней. Мэтазгодным было б стварэнне стратэгіі развіцця Беларускасці, як гэта зроблена ў адносінах да Мовы («Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі». URL: http://www.tbm-mova.by/mova.html).

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, № 4, снежань 2013 г., с. 40–49.*

*Матэрыялы артыкула прадстаўлены на завочнай канферэнцыі «Трансфармацыя ментальнасці грамадзян Беларусі ў кантэксце выклікаў XXI стагоддзя», Мінск, 2013.*

## Summary

***Piotra Murzionak. «Belaruskasc and Mentality of Civilized Countries» (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», December 2013, issue 4, pp. 40–49)***

It is evident that Belarusian mentality or Belaruskasc existed for ages. However, the question is how it has changed during the last century and to what degree it corresponds to the mentality of modern society. It is clear that the development of Belaruskasc has been substantially impacted and greatly delayed due to a specific historical condition such as being on the borderline of the constantly colliding powers of Byzantium and Rome, in other words everlasting conflict between East and West. Being consistently affected by ever-changing influences of the two sides, Belarus as a nation has been drained and almost exhausted its own potential for selfidentification. The episodic development of Belaruskasc in the 20th century became possible mainly due to several not always favourable external factors which happened to have minor beneficial effect on the process. Belarusian nation is still not established. The biggest challenge for the improvement and progress in the development of Belarusian mentality (Belaruskasc) nowadays is that the process is occurring in Russian-speaking environment. Despite of the country's independence, solid ethnic and historical foundation, Belarus is still beyond the «Berlin wall», remaining unprepared for a meaningful dialogue with civilized societies.



Although revival and reinforcement of the Belarusian mentality is clearly one of the key factors for nation building, it is not the only factor that impacts the process of the development of the Belarusian State. It appears Belarus government demonstrates some religious intolerance by favouring mainly Orthodox church. Belarusian government creates an environment where 91,5% of population are not at all interested in external and internal politics of the state. Additionally, Belarusians demonstrate certain levels of intolerance towards representatives of other ethnic groups, «unknown» religions, sexual minorities, and mainly do not support the elimination of death penalty. This intolerance may not be readily accepted and justified, but can be reasonably explained by the already discussed phenomenon of the continuous battle of Belarusian nation in the attempts to safeguard its mental survival, which in the course of centuries of suppressions has become an instinct of self-preservation and which has helped to protect a minimal level of Belaruskasc.

It is assumed that literacy of the population and even quality of life to some extent may be comparable to European standards. Unfortunately this cannot be said about mentality. National elite does not possess enough resources to support the development of required mentality level. Ideally, this would be a task for the state's government itself. Support of the external institutions is important but not ultimate. The role of electronic mass media in the development of Belaruskasc, as well as the creation of special strategy for this purpose is being discussed.

## НАЦЫЯ І СВАБОДА

*Да 225-годдзя прыняцця Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна*

**Свабода для нацыі — як глыток вады кожны дзень!**
**За свабоду нацыі трэба змагацца!**
**Свабодай нельга гандляваць!**

### Уступ

Прынятая 26 жніўня 1789 г. падчас Французскай рэвалюцыі Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна гарантавала шэраг індывідуальных і палітычных свабод, грамадскую бяспеку, падзел каралеўскай улады. У Дэкларацыі запісана (арт. 4): «Свабода азначае магчымасць чалавека рабіць усё, што не стварае праблем іншым людзям: так, ажыццяўленне натуральных правоў кожнага чалавека абмяжоўваецца толькі магчымасцю іншых грамадзян карыстацца тымі ж самымі правамі. Такія абмежаванні вызначаюцца выключна законам». Гэта палажэнне — добрая ілюстрацыя разумення свабоды ў сучасным грамадстве.

Гаворачы пра свабоду, мы вольна ці міжволі звязваем яе з другімі вельмі блізкімі паняццямі, такімі, як дэмакратыя і права. Прывядзём некалькі вызначэнняў, што ёсць свабода: «адсутнасць падпарадкаванасці замежнаму панаванню або дэспатычнаму ўраду»; «права дзейнічаць, казаць ці думаць так, як хто-небудзь хоча, без перашкод і абмежаванняў»; «не быць у турме або ў рабстве»; «стан, у якім не церпяць уздзеяння канкрэтнай непажаданай рэчы» і інш.

Свабода можа ўключаць некалькі чыннікаў ці некалькі ўзроўняў, такіх, як нацыянальная свабода, палітычныя свабоды і правы, грамадзянскія ці індывідуальныя свабоды і правы. Нацыянальная свабода — важнейшая частка свабоды, якая базуецца



на жаданні нацыі кіраваць самой у сваім краі; іншымі словамі, нацыянальная свабода перш за ўсё прадугледжвае свабоду ад чужаземнага кантролю.

Грамадзянскія свабоды і правы ўключаюць у сябе права на жыццё, эканамічную свабоду, права на роўнасць перад законам, права на свабоду і асабістую недатыкальнасць, права выбіраць стыль жыцця.

Палітычныя свабоды — гэта права на свабоду перакананняў, права прымаць удзел у кіраванні дзяржавай. Як відаць, свабод і правоў ёсць многа, і чым большымі свабодамі і правамі карыстаецца чалавек, тым вышэйшы ўзровень развіцця нацыі-дзяржавы, бо чалавек ад прыроды народжаны быць свабодным.

Свабода не заўжды была ўніверсальнай каштоўнасцю. Можна мець нацыянальную свабоду без наяўнасці ці пры абмежаванасці палітычных і індывідуальных свабод (Ірак у часы С. Хусэйна) ці, напрыклад, як у Спарце, мець нацыянальную і палітычную свабоды без індывідуальнай свабоды. Відавочна, што ідэальным была б нацыя-дзяржава, у якой усе тры катэгорыі свабод былі збалансаваны і дзейнічалі разам.

Абмяркоўваючы сітуацыю з правамі і свабодамі ў сучасных, склаўшыхся нацыях-дзяржавах, трэба заўважыць, што няма краін з абсалютнымі свабодамі, заўжды якія-небудзь свабоды парушаюцца ці іх бракуе. Абмежаванасць свабоды вынікае з прыроды існавання грамадстваў, якія прынялі мадэлі абмежавання многіх правоў і свабод з мэтай рэгулявання адносін паміж яго грамадзянамі. Пры гэтым, відаць, не важна, якога прытрымліванца пункту гледжання на прыроду чалавека ці людзей, якія складаюць гэта грамадства (G. N. Diem, 1998). Так, калі Т. Хобс (Thomas Hobbes, 1588–1679) бачыў чалавека эгаістычным, драпежным і эксплуататарскім, то іншы погляд на прыроду чалавека выказваў Дж. Лок (John Locke, 1632–1704), які ўяўляў людзей грамадства свабоднымі, роўнымі і без праяў агрэсіі аднаго чалавека ў адносінах да другога з выкарыстаннем сілы, падману альбо іншымі шляхамі.

Паводле Дж. Лока, чалавек вымушаны дэлегаваць частку сваіх правоў дзяржаве, бо сам не можа забяспечыць сваё існаванне

ў стане натуральнай свабоды, г. зн. уступае ў адносіны з дзяржавай, якія абмяжоўваюць яго свабоду. У такія ж узаемаадносіны ў грамадстве ўступае і чалавек, ахарактарызаваны Т. Хобсам: чалавек дзейнічае, каб задаволіць свае апетыты, часам за кошт іншых, імкнучыся атрымаць уладу не дзеля ўлады, а для таго, каб выкарыстаць яе і атрымаць вынікі, якія яго задавальняюць. Такім чынам, у абедзвюх мадэлях чалавек вымушаны ўступаць у сацыяльны кантракт з другімі людзьмі і з дзяржавай для ўтварэння цывільнага грамадства. Як вынік, чалавек у цывільным грамадстве вымушаны абмяжоўваць стан натуральнай свабоды (па Локу) ці апетыты па задавальненні сваіх карысных мэтаў (па Хобсу). Абсалютную свабоду магчыма ўявіць хіба толькі ў грамадстве без дзяржаў і межаў (анархія, камунізм).

Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна, прынятая 225 гадоў таму назад, аказала значны ўплыў на прыняцце многіх прававых дакументаў, што тычацца правоў і свабод, у прыватнасці Канстытуцыі ЗША (1787), Канстытуцыі Рэчы Паспалітай (1791), Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (ААН, 1948). Цікава, што СССР, Беларусь, Украіна і некаторыя краіны-сатэліты пры прыняцці Усеагульнай дэкларацыі ўстрымаліся і настойвалі на ўключэнні ў Дэкларацыю толькі эканамічных і сацыяльных правоў, тады як заходнія краіны прапаноўвалі замацаваць у ёй грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды.

Якімі былі і ёсць нацыянальная, палітычныя і індывідуальныя свабоды ў Беларусі? Які ўплыў маюць палітычныя і індывідуальныя свабоды на праяўленне нацыянальнай свабоды і ў якой меры яны могуць спрыяць нацыянальнаму будаўніцтву?

## Кароткая перадгісторыя свабод у беларускім мінулым

Калі ўжываць тэрмін «індывідуальныя свабоды» да часоў Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і Рэчы Паспалітай, то яны рэгуляваліся феадальнымі законамі. Гэтыя рэгулы мелі дачыненне ў асноўным да адносінаў паміж самімі феадаламі, бо просты люд быў несвабодным і бяспраўным. Большасць людзей, што жылі з зямлі, як і паўсюль у Еўропе, былі



прыгоннымі. У XIV–XV стст. сяляне на беларускіх землях былі пазбаўлены ўласнасці на зямлю, былі толькі землекарыстальнікамі, а зямлёй валодалі дзяржава, царква і феадалы.

На тэрыторыі Беларусі з 1588 г. дзейнічаў III Статут ВКЛ, які замацоўваў феадальны грамадскі лад і наяўнасць двух асноўных класаў: феадалаў і феадальна-залежных сялян. Сялян можна было прадаваць, абменьваць, закладваць. Прыгоннае права ў такім выглядзе праіснавала на нашых землях амаль трыста гадоў. У гарадах людзі жылі крыху вальней. Амаль усе буйныя гарады Беларусі па волі феадалаў атрымалі да сярэдзіны XVI ст. магдэбургскае права: насельніцтва гарадоў вызвалялася ад павіннасцяў, якія замяняліся грашовым падаткам. Магдэбургскае права спрыяла развіццю рамёстваў і гандлю.

Гісторыя парламентарызму і палітычных свабод на беларускіх землях істотна карацейшая ў параўнанні, напрыклад, з Англіяй, дзе парламент, як пастаянна дзеючая ўстанова, аформіўся ў часы кіравання караля Эдуарда I (1272–1307) і дзе ў далейшым, падчас англійскай рэвалюцыі (1640–1660), былі закладзены асновы парламенцкага ладу, якія існуюць у Вялікабрытаніі да гэтага часу. Палітычны лад ВКЛ уяўляў сабой феадальную манархію на чале з вялікім князем, які ўзначальваў узброеныя сілы, аб'яўляў вайну, заключаў мір, мог уступаць у саюзы з іншымі дзяржавамі. У XIV ст. пры ім існавала велікакняжацкая рада, якая мела дарадчыя функцыі.

Паводле Статута ВКЛ, улада ў краіне падзялялася на заканадаўчую (сойм), выканаўчую (вялікі князь, адміністрацыйны апарат) і судовую (трыбунал ВКЛ, земскія і падкаморскія суды). Такім чынам, у другой палове XVI ст. у ВКЛ склалася парламенцкая манархія. Статут дэклараваў удзел простых людзей у выбранні гаспадара, аднак іх не дапускалі ў сойм, а ўдзел у палітычным жыцці, калі такі і быў, абмяжоўваўся мясцовымі справамі. Побач з законамі ВКЛ дзейнічалі вышэйшыя законы Рэчы Паспалітай, канстытуцыйнай, саслоўнай манархіі на чале з выбарным каралём. У соймы Рэчы Паспалітай і ВКЛ праходзілі выбары.

Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, прынятая 3 мая 1791 г. (была другім у свеце канстытуцыйным законам пасля Канстытуцыі ЗША (1787) і першым у Еўропе), не паспела дзейнічаць, бо ў выніку трох падзелаў (1772, 1793, 1795) паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй сама Рэч Паспалітая перастала існаваць. Такім чынам, 220–240 год таму назад беларускія землі ўпершыню ў гісторыі трапілі пад расійскую акупацыю. Аднак яшчэ доўга пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай на беларускіх землях (да 1840 г.) дзейнічалі некаторыя палажэнні Статута ВКЛ. На той час былі брутальна парушаны многія правы і свабоды, па якіх жылі беларусы ў ВКЛ, і ў першую чаргу рэлігійныя свабоды і ўжыванне мовы. Як вядома, уплыў каталіцызму на працягу двух стагоддзяў, пачынаючы з Берасцейскай уніі (1596), прывёў да таго, што паступова амаль 75% беларускага насельніцтва сталі належаць да ўніяцкай царквы. З акупацыяй Расіяй сучасных тэрыторый Беларусі, Польшчы і Украіны па рашэнні сінода ў Полацку (1839) уніяцкая царква ў Беларусі ў адзіны момант перастала існаваць і ўсе прыходы былі пераведзены ў праваслаўе. Пасля трох паўстанняў (1794, 1830–1831 і 1863), мэтай якіх было аднаўленне Рэчы Паспалітай, беларусы былі пазбаўлены права ўжываць беларускую мову як у афіцыйных дакументах, так і ў сістэме адукацыі.

Па стану на 1860 г. большасць насельніцтва Расіі складалі сяляне (49,5 млн з 60,9 млн, або 81%), з іх амаль палова (23 млн) былі прыгоннымі. На мінскіх, магілёўскіх, віцебскіх, смаленскіх землях прыгоннымі ў гэты час былі больш за 55% сялян. Доля прыгонных сялян на гродненскіх і віленскіх землях была крыху меншай і вагалася паміж 35–55%. Цар Аляксандр II падпісаў дэкрэт аб ліквідацыі прыгоннага права ў Расійскай імперыі 19 лютага 1861 г. , аднак працэс вызвалення рабоў на самай справе ішоў аж да канца XIX ст. Для параўнання, скандынаўскія краіны ніколі не мелі прыгоннага права. Англія адмяніла яго ў 1600 г., Францыя — у 1789 г. У большасці еўрапейскіх краін прыгоннае права было адменена у канцы XIX ст.

Беларусы пад расійскай акупацыяй не ведалі і палітычных свабод. У гарадах Расіі не было магдэбургскага права і мясцовага самакіравання, калі не лічыць Наўгародскае і Пскоўскае веча, дзейнасць якіх была спынена пасля захопу княстваў Масковіяй (цары Іван III (1478) і Васілій III (1510) адпаведна). Да 1480 г. на працягу амаль трох стагоддзяў Масковія знаходзілася пад уплывам Залатой Арды, нават маскоўскія князі атрымоўвалі ад яе ярлык (дазвол) на кіраванне сваімі землямі, гэта значыць збіралі са сваіх княстваў даніну для Залатой Арды ў абмен на дазволеную ўладу. Прынцыпы аўтарытарнага кіраўніцтва, панаваўшыя ў Залатой Ардзе, былі перанесены на Масковію. Парламентарызм прыйшоў у Расію вельмі позна. Першая дзяржаўная дума-парламент у Расіі, якаяператварыла самадзяржаўную Расію ў парламенцкую манархію, пачала працаваць у 1906 г. У Расіі ніколі не было свабоды ў сучасным разуменні, і гэта абумоўлена як гістарычнымі, персанальнымі, так і эканамічнымі ўмовамі. Павага да законаў і агульнапрынятых нормаў да гэтага часу не знаходзяць значнай падтрымкі як у кіраўніцтве, так і ў народа Расіі (G. Diligensky, S. Chugrov, 2000).

Такім чынам, узровень індывідуальных і палітычных свабод на тэрыторыі Беларусі ў канцы XIX і пачатку XX ст. быў вельмі нізкім. У гэты ж перыяд толькі пачыналася зараджэнне беларускай нацыянальнай ідэі ў асяродках Санкт-Пецярбурга і Вільні, і, відавочна, яно не магло моцна развівацца ва ўмовах прыгнечанасці нацыянальных свабод у царскай Расіі.

Сучасная гісторыя беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнай свабоды вельмі кароткая — яна пачалася ў сакавіку 1918 г. з абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і ў студзені 1919 г. — з утварэння БССР. За мінулыя амаль 100 гадоў Беларусь стала дзяржавай, а была нікім — «Северо-Западным краем». Дзякуючы беларускаму нацыянальнаму руху, гістарычнаму моманту — рэвалюцыі 1917 г. і сталінскім ідэям нацыяўтварэння ў СССР, беларускаму адраджэнню 20–30-х і 90-х гадоў, беларусы паступова з этнасу ператвараюцца ў нацыю.

Ці адчувалі сябе беларусы на працягу апошніх дзесяцігоддзяў свабоднымі? Адказ будзе несуцяшальным. Беларускія сяляне жылі без прыгоннага права нядоўга. Рэвалюцыя 1917 года, якая праходзіла пад лозунгам «Зямля — сялянам», скончылася ства-

рэннем калгасаў, якія ўяўлялі сабой новую форму прыгоннага права. Вясковыя людзі былі бяспраўнымі і беззямельнымі. Сяляне заставаліся прыгоннымі-рабамі, бо не маглі з'ехаць з вёскі без дазволу; у СССР да 1974 г. 62,6 млн жыхароў вёскі старэй за 16 год (36% ад колькасці ўсяго насельніцтва) не мелі пашпартоў, а г. зн., не маглі свабодна перамяшчацца нават у межах Саюза. У савецкі перыяд фармальна дзейнічалі Канстытуцыі РСФСР (1918), СССР (1924 з дапаўненнямі ў 1927 г., 1936, 1977) і Канстытуцыі БССР (1919, 1927, 1937, 1978), дэклараваўшых правы і свабоды. Аднак нават там былі выключэнні. Так, напрыклад, у Канстытуцыі БССР 1927 г. (арт. 71) быў шэраг абмежаванняў выбарчых правоў для «чуждых элементов»:

«Не избирают и не могут быть избранными, хотя бы они и входили в одну из перечисленных категорий: а) лица, прибегающие к наёмному труду с целью извлечения прибыли; б) лица, живущие на нетрудовой доход, как-то: проценты с капитала, доходы с предприятий, поступления с имущества и т. п.; в) частные торговцы, торговые и коммерческие посредники; г) монахи и духовные служители религиозных культов всех исповеданий и толков; д) служащие и агенты бывшей полиции, отдельного корпуса жандармов и охранных отделений, члены царствовавшего в России дома, а также лица, руководившие деятельностью полиции, жандармерии и карательных органов…»

Маючы гарантаваныя канстытуцыямі свабоды, людзі, якія пачыналі цікавіцца пытаннямі нацыянальнай свабоды, плацілі за гэта жыццём ці высылкай у далёкія раёны, дзе, як рабы, рылі «беламорканалы» і будавалі «днепрагэсы». Асноўная маса народу ніколі не мела ўласнасці, што поўнасцю выбіла з людзей ініцыятыўнасць і адказнасць за вырашэнне эканамічных і сацыяльных праблем сям'і. Адсутнасць права на ўласнасць, эканамічных і палітычных свабод прывялі да таго, што людзі звыкліся з кіруючай роляй дзяржавы і адзінай партыі. Галасаваць хадзілі, бо баяліся пакарання за няўдзел, выбіралі без выбару, бо не было альтэрнатыўных кандыдатаў, да таго ж на час выбараў у буфеты завозілі дэфіцытныя прадукты (напрыклад, мандарыны). Здавалася, што пасля 1991 г., калі Беларусь стала свабоднай і незалежнай ад Расійскай імперыі, адбудуцца значныя перамены. І яны пачаліся, нават выбары першага прэзідэнта краіны ўзрушылі і паднялі людзей. Ды атрымалася гістарычная памылка, змены не прыйшлі, усё засталося па-ранейшаму. Фактычна, не адмаўляючы палітычныя і грамадзянскія свабоды, беларусам прапаноўваецца «чарка і шкварка».



## Фактары, ад якіх залежыць нацыянальная свабода

### *Нацыянальная эліта*

Сёння Беларусь — незалежная, суверэнная краіна і ў гэтым сэнсе фармальна — нацыянальна свабодная. Супярэчнасці ўзнікаюць пры параўнанні вызначэнняў нацыянальнай свабоды, як гэта разумеюць прадстаўнікі нацыянальнай эліты, з той фармальнай нацыянальнай свабодай, якая існуе і ўмацоўваецца зараз у рускамоўнай цывільнай дзяржаве Беларусь.

Паводле розных меркаванняў, у краіне існуюць дзве беларускія ідэнтычнасці, ці этнасы (абарыгенаў-этнанацыяналістаў і «крэолаў»; М. Рабчук, 2012), дзве культуры (культура-1, культура-2; А. Астапенка, 2013), дзве арыентацыі («гордые белорусы», ці «националисты», і «разочарованные белорусы», ці «космополиты»; O. Manajew, J. Drakochrust, 2012), два варыянты ідэнтычнасці, нацыянальны і постсавецкі-заходнярускі (Р. Радзік, 2013), дзве групы людзей (свядаміты і несвядаміты; В. Воранаў, 2013). Г. Туміловіч (2013), разглядаючы праблему беларускай ідэнтычнасці, адзначыла, што пад уплывам асобы кіраўніка краіны адчуванне «“коллективного одиночества” и определяет во многом форму, в которой развивается сегодня национальное белорусское сознание». Падаецца, што падобныя азначэнні існуючых рэальнасцяў даволі дакладна адлюстроўваюць сітуацыю. Краіна падзелена даследчыкамі на дзве часткі: адна частка, каля 25–30% насельніцтва, ідзе за нацыянальнай элітай (В. Вілейта, 2005); другая частка, большая, складаецца з прыхільнікаў сённяшняга кіраўніцтва дзяржавы. Абедзве гэтыя

часткі, ці ідэалогіі, выкарыстоўваюць розную гістарычную і культурную базу для будаўніцтва дзяржавы, якую яны ўяўляюць як нацыянальную. Нацыянальная эліта карыстаецца доўгатэрміновай гістарычнай памяццю (Полацкае княства, ВКЛ, станаўленне беларускай нацыі канца XIX — пачатку XX ст., беларусізацыя 20–30-х і 90-х гадоў XX ст.), тады як сучаснае кіраўніцтва для ўсталявання сваёй перавагі выкарыстоўвае кароткатэрміновую гістарычную памяць (калектывізацыя і індустрыялізацыя савецкіх часоў, Вялікая Айчынная вайна, цяжкасці пасляваеннага перыяду).

Відавочна, што прасавецкая частка, якая зараз знаходзіцца пры ўладзе, усякімі шляхамі спрабуе прынізіць прадстаўнікоў нацыянальнай эліты, якіх бачыць сваімі канкурэнтамі і ворагамі. Многімі працяг такой сітуацыі бачыцца незваротным (М. Рабчук, 2012). У нядаўнім артыкуле, зыходзячы з рэалій, было выказана меркаванне, што будаўніцтва нацыянальнай беларускай дзяржавы ў перспектыве магчыма (П. Мурзёнак. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. І. Ці магчыма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы? 2013). Трэба толькі дадаць, што калі б працэс беларускага неаадраджэння 1991–1994 гг. працягваўся, то відавочна, што пытання аб «крэольскай» дзяржаве не ўзнікала б.

З практычнага пункту гледжання, далейшае падзяленне на «вашых і нашых» не будзе спрыяць умацаванню нацыянальнай свабоды для краіны. Нягледзячы на пастаянны ўціск з боку ўлады на прадстаўнікоў нацыянальнай эліты і на тое, што яны робяць, нацыянальная эліта з'яўляецца адным з галоўных станоўчых фактараў у прыбліжэнні сапраўднай нацыянальнай свабоды, бо нясе ў сабе глыбокую гістарычную, культурную і генетычную праўду пра беларускую нацыю.

### *Нацыяналізм і сучаснае будаўніцтва нацый*

Нараджэнне новых нацыянальных дзяржаў у канцы XIX — пачатку XX ст. у Еўропе было рэальным дзякуючы як нацыянальным сілам, якія імкнуліся да свабоды, так і спрыяльным гістарычным умовам (развал Аўстра-Венгерскай, Атаманскай



і Расійскай імперый, Першая сусветная вайна). Лічыцца, што нацыяўтварэнне ў постмадэрны перыяд немагчыма. Сёння нацыяналізм на захадзе бачыцца ў адмоўным сэнсе, як праявы ксенафобіі, нацыянал-фашызму і г. д. Фактычна, на захадзе баяцца нацыяналізму і патрыятызму, нягледзячы на тое, што самі перажылі эпоху станаўлення нацый.

Аднак заходнія меркі не заўжды падыходзяць да сучасных новаўтвораных дзяржаў. Таму яркі прыклад — будаўніцтва на нашых вачах нацыянальных дзяржаў на тэрыторыях былой Югаславіі і СССР, якое адбылося і працягваецца сёння. Нацыяналізм, скіраваны на будаўніцтва нацыі, па многіх прычынах ёсць з'ява пазітыўная, пры ўмове павагі да правоў і свабод як карэннай нацыі, так і нацыянальных меншасцяў; бо цяжка ўявіць свет без дзяржаў і нацый у бліжэйшыя 50–100 гадоў. Здаецца, што на Захадзе не зусім разумеюць асаблівасці сучаснага нацыяўтварэння ў постсавецкіх краінах: Беларусі, Казахстане, Латвіі, Украіне. І хоць другая спроба за апошнія 10 год асягнуць сапраўдную нацыянальную свабоду на Украіне зараз падлягае вялікаму іспыту, аднак ёсць тэарэтычныя і практычныя падставы сцвярджаць, што нават у наш час нацыянальнае будаўніцтва працягваецца. Ніхто не можа спыніць гэты працэс, нават імперская Расія.

### *Фактар мірнага суіснавання*

Адным з фактараў, які мог бы спрыяць нацыянальнай свабодзе, з'яўляецца адносна доўгі перыяд мірнага суіснавання. Магчымасць ужывання ядзернай зброі сёння можна ўявіць толькі пры пагрозе існаванню краін, якія ёй валодаюць. У іншых выпадках, здаецца, ужыванне ядзернай зброі немагчыма, калі падпарадкоўвацца здароваму сэнсу і досведу яшчэ нядаўніх глабальных і лакальных войнаў (Другая сусветная, карэйская, ірана-іракская, югаслаўская, іракская, афганская, расійска-грузінская, а цяпер і расійска-ўкраінская). Аднак, як паказала ваенная агрэсія Расіі супраць Украіны, гэты фактар значнай ролі не мае. З тых краін, якія гарантавалі бяспеку і суверэнітэт Украіне (Расія, ЗША, Вялікабрытанія), Расія парушыла гэтую міжнародную дамову, а ЗША і Вялікабрытанія выявілі сябе

банкрутамі, бо не змаглі выканаць дадзеныя імі абавязкі. Такая ж дамова ёсць і для Беларусі, але з гэтага часу можна казаць, што гарантаў у свеце няма, калі ацэньваць тыя недастатковыя і неадэкватныя дзеянні ў адказ на агрэсію Расіі як з боку падпісантаў гэтай дамовы, так і з боку іншых краін заходняй дэмакратыі (*артыкул быў падрыхтаваны у пачатку 2014 г., зараз, на май 2016 г., сітуацыя змянілася і міжнародная супольнасць аказвае ціск на агрэсара, прыняўшы санкцыі супраць Расіі*).

### *Фактар глабалізацыі*

Працэс глабалізацыі, які характарызуе далейшае развіццё імперыялізму (капіталу), здаецца, мог бы з'яўляцца фактарам, які размывае дзяржаўныя межы і пагражае існаванню маленькіх і вялікіх нацый. Усё ж, на прыкладзе ЕС, гэтага пакуль не назіраецца. Скасаванне межаў паміж шэрагам дзяржаў ЕС (Шэнгенскае пагадненне ад 1985 г.) не вядзе да ліквідацыі нацыянальнай ідэнтычнасці, да прыкладу, люксембуржцаў ці нарвежцаў. Наадварот, зараз назіраецца тэндэнцыя да адасаблення і адмежавання ад агульнай прасторы ЕС, па крайняй меры ў дачыненні да ўжывання грашовай адзінкі еўра (Вялікабрытанія). Варта нагадаць і крытыку ў адрас будучыні ЕС, маючы на ўвазе нават магчымы выхад некаторых краін з гэтай супердзяржаўнай структуры (Грэцыя, Чэхія, *цяпер і Вялікабрытанія*). Можна, аднак, меркаваць, што ў бліжэйшай перспектыве (30–50 гадоў) глабалізм-імперыялізм не будзе адмоўна ўплываць на існаванне нацый і нацыянальнай свабоды. Капітал зацікаўлены мець розныя рынкі і розныя ўмовы існавання нацый, дзе б ён мог памнажаць свае грошы.

### *Знешнія фактары і падвойныя стандарты*

Маленькія краіны заўжды апыналіся пад уплывам больш магутных суседзяў, нягледзячы на тое, якія сілы, цэнтрабежныя ці цэнтраімклівыя, пераважалі ў саміх краінах. Знешнія фактары прыводзілі да падзелу вялікіх і маленькіх нацый (Германія, Карэя, Асеція), і наадварот, яны не дазваляюць падзеленым нацыям



заснаваць сваю дзяржаўнасць і асягнуць нацыянальную свабоду (курды, палесцінцы).

Знешні фактар, як для Беларусі, так і для Украіны, зараз мацнейшы з Усходу, бо Захад, у пагоні за грашыма, губляе каштоўнасці і здраджвае тым прынцыпам, на якіх пачынаў будавацца. Сёння лозунгі свабоды і дэмакратыі збіваюцца на рэйкі рэальнай палітыкі, пад якой фактычна маецца на ўвазе звычайны гандаль дэмакратычнымі і гуманітарнымі каштоўнасцямі ў абмен на эканамічныя выгады (Германія – Расія – Шрэдэр – балтыйскі нафтаправод і іншыя прыклады). Фактычна, гэтага ж чакаюць ад урадаў і звычайныя грамадзяне такіх краін. Падвойныя стандарты ўжываюцца амаль усімі краінамі, уключна з краінамі — дэпазітарыямі ядзернай зброі, прэтэндуючы на стварэнне іншых полюсаў чалавечага развіцця (Расія, Кітай). Балансаваць у гэтай сітуацыі Беларусі, Украіне і іншым постсавецкім рэспублікам складана.

Палітыку неакаланіялізму, якую раней ужывалі імперыі, якія распаліся (Брытанія, Францыя), цяпер працягвае ўжываць Расія ў адносінах да нядаўніх суседзяў па СССР. У ход пайшлі не толькі эканамічныя пагрозы, але і прамая ваенная агрэсія, на гэты раз у адносінах да Украіны. Міжнародная супольнасць, нарэшце, заўважыўшы праблему пасля адкрытай агрэсіі (так падаецца на першы погляд), працягвае гандаль за Украіну з Расіяй (усяго за нейкіх 15–20 млрд даляраў, з-за намеру Украіны падпісаць у Вільні пагадненне аб асацыяцыі з ЕС у лістападзе 2013 г.). Закрэслены маральныя прынцыпы падтрымання свабод, ідзе адкрытая купля-продаж. Гандаль працягваецца, і гэта відаць па тых паўмерах і нерашучых кроках, якія робяць і ЕС, і ЗША ў адказ на акупацыю і анексію Крыма Расіяй.

Трэба заўважыць, што акупацыя Крыма Расіяй адбылася насуперак Міжнароднай дамове 1994 г. аб гарантыях бяспекі і суверэнітэту для Украіны і Беларусі, падпісанай Расіяй, Вялікабрытаніяй і ЗША. Расія, у мінулым «жандар Еўропы», працягвае выконваць функцыі задушэння свабоды ў наш час, разглядаючы незалежную Украіну як сваю вотчыну. Відавочна парушэнне міжнародных правоў і існуючага парадку. Расія вярнулася да

рэалізацыі еўразійскай ідэі і працягвае рух з усходу на захад, які то сціхаў, то ўзнаўляўся з часоў Залатой Арды. Абараняць рускамоўнае насельніцтва можна паўсюдна, не толькі на Украіне, а і ў Беларусі, Казахстане, Латвіі, Эстоніі і прыцісnуць з дапамогай зброі імкненне гэтых краін да нацыянальнай свабоды. Зараз цяжка прадбачыць магчымыя наступствы ўварвання Расіі на тэрыторыю Украіны: аналітыкі разглядаюць як верагоднасць Трэцяй сусветнай вайны (Усход–Захад, Візантыя–Рым), так і развал многанацыянальнай Расіі (83 суб'екты, больш за 190 народаў і народнасцяў).

Зусім нядаўна свет быў сведкам дзвюх чачэна-расійскіх войнаў (1994–2000). Калі б такія войны ішлі ў Афрыцы ці Лацінскай Амерыцы, то яны, па савецкіх мерках, называліся б нацыянальна-вызвольнымі. Аднак дзве нацыянальна-вызвольныя вайны, якія вёў чачэнскі народ з Расіяй, скончыліся тым, што чачэнцаў цяпер у свеце ў асноўным уяўляюць як тэрарыстаў, у лепшым выпадку сепаратыстаў (гэта пры ўмове права нацыі на самавызначэнне і аддзяленне). Трэба нагадаць, што падчас гэтых войнаў загінулі каля 200 000 мірных грамадзян Чачні (з іх каля 40 тыс. дзяцей) і каля 20 000 расійскіх вайскоўцаў. Вядома, свет стаміўся ад войнаў і хоча стабільнасці, міру і дабрабыту. Аднак сёння з цяжкасцю хтосьці можа адрозніць нацыянальна-вызвольны рух ад тэрарызму, пад які спісваюць усё, і з гэтым моўчкі пагаджаюцца краіны ў любой частцы свету, баючыся ў першую чаргу за сваю тэрытарыяльную цэласнасць. Зноў жа, працуюць падвойныя стандарты.

Здавалася б, у гэтых гістарычных умовах (ціск Расіі і нерашучасць Захаду) і на далёкую перспектыву найлепшым выхадам для Беларусі была б заява аб нейтральнасці ў Еўропе, што і прапісана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (артыкул 18: «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай»). Гэта б дазволіла зняць пастаянны ўціск еўразійскай Расіі і ўвайсці ў сям'ю еўрапейскіх народаў з яе дэмакратычнымі інстытутамі. Для гэтага Беларусь многа мае: адукаваных і культурных людзей, развітую інфраструктуру, выгадную тэрыторыю. Аднак хто забяспечыць «мірны ядзерны парасон»? Як асягнуць нейтральнасць, калі нацыянальная свабода дзяржавы знаходзіцца пад пагрозай дзеяння чужых войскаў, расквартараваных на яе абсягах? Гэта пагроза з'яўляецца самым небяспечным адмоўным фактарам уплыву на нацыянальную свабоду.



### *Унутраныя фактары і беларуская свядомасць*

Па ацэнках міжнародных незалежных арганізацый, Беларусь па паказчыку дэмакратыі займае 141-е месца ў свеце і ўваходзіць у групу краін з аўтарытарным рэжымам, па паказчыку эканамічнай свабоды — 150-е, па паказчыку свабоды прэсы — 168-е (табліца 1). Парушэнне свабод адзначаюць і праваабаронцы ў Беларусі (М. Пастухоў, С. Пульша, 2013; Беларускі праваабарончы Хельсінкскі камітэт. URL: http://belhelcom.org/node/19158). І гэта не дзіўна, усе старыя парадкі, якія існавалі ў савецкі час, перайшлі ў спадчыну да новаўтвораных дзяржаў, дзе сістэма кіравання і нават ідэалогія і самі кіраўнікі не змяніліся.

У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя амаль існавала новая існасць — савецкая нацыя. У 1991 г. 69% беларускага насельніцтва лічыла сябе савецкімі людзьмі, і толькі 24% ідэнтыфікавала сябе належнымі да Рэспублікі Беларусь (L. Titarenko, 2007). У той жа час дэкларавалася развіццё нацыянальных культур, але яно было ў дазволенай меры і не магло перайсці межы магчымага аддзялення нацыі-народа са складу СССР. Шараговыя грамадзяне нават не заўважалі наяўнасці палітычных свабод, бо імі рэальна не карысталіся.

*Табліца 1*

**Паказчыкі свабоды і развіцця ў Беларусі**

| *Паказчык* | *Узровень* | | | |
|---|---|---|---|---|
| Freedom in the World (свабода ў свеце, 2014) | *свабодныя* (88 краін): Канада, Літва, Латвія, Польшча* | *часткова свабодныя* (59 краін): Арменія, Грузія, Кіргізстан, Малдова, Украіна | *несвабодныя* (48 краін): Беларусь, Расія, Казахстан, Азербайджан, Таджыкістан, Туркменістан, Узбекістан | |
| Index of Economic Freedom (паказчык эканамічнай свабоды, 2014) | *свабодныя*: Канада | *большасцю свабодныя*: Грузія, Літва, Латвія, Эстонія | *умерана свабодныя*: Азербайджан, Арменія, Польшча, Казахстан, Кіргзстан | *большасцю несвабодныя*: Таджыкістан (139), Расія (140), Беларусь (150) |
| Press Freedom Index (паказчык свабоды прэсы, 2012) | *добры стан*: Канада, Нарвегія | *здавальняючы*: ЗША, Латвія, Літва, Польшча, Эстонія | *значныя праблемы*: Венгрыя, Румынія | *цяжкі стан*: Украіна (116), Расія (142), Казахстан (154) |



*Заканчэнне табліцы 1*

| *Паказчык* | *Узровень* | | | |
|---|---|---|---|---|
| Democracy Index (індэкс дэмакратыі, 2012) | *поўная дэмакратыя* (25 краін): Нарвегія (1), Канада (8), Паўдн. Карэя (20), ЗША (21) | *недастатковая дэмакратыя* (54 краіны): Эстонія (34), Літва (42), Польшча (44), Латвія (47), Малдова (67) | *гібрыдны рэжым* (37 краін): Украіна (80), Грузія (93), Кіргізстан (106), Арменія (114) | *аўтарытарны рэжым* (51 краіна): Расія (122), Куба (127), Азербайджан (139), Беларусь (141), Кітай (142), Казахстан (143), Паўночная Карэя (167) |
| Human Development Index (індэкс развіцця чалавека, 2013) | *вельмі высокі*: Нарвегія (1), Канада (11), Фінляндыя (21), Эстонія (33), Польшча (39), Літва (41), Латвія (44) | *высокі*: Беларусь (50), Расія (55), Казахстан (69), Грузія (72), Украіна (79), Азербайджан (82), Арменія (89) | *сярэдні*: Кітай (101), Туркменістан (102), Малдова (108), Узбекістан (114), Кіргізстан (125), Таджыкістан (126) | *нізкі*: Пакістан (146), Камерун (150), Йемен (160), Малаві (170), Афганістан (175), Цэнтральна-Афрыканская Рэспубліка (180) |

*У табліцы для параўнання прыведзены звесткі для суседзяў і іншых краін.

У той жа час сацыяльная абароненасць людзей і эканоміка краіны былі даволі высокімі. Невыпадкова па індэксу чалавечага развіцця большасць рэспублік былога СССР знаходзяцца зараз сярод краін з высокім і вельмі высокім узроўнем (індэкс разлічваецца на падставе чатырох паказчыкаў — працягласці жыцця, колькасці гадоў навучання ў школе, рэальнага працягу навучання ў школе (у гадах) і нацыянальнага даходу ў разліку на кожнага чалавека). Па гэтаму індэксу Беларусь займае 50-е месца ў свеце (2013). Адзначаны дысананс паміж узроўнямі свабод і ўзроўнем жыцця можа сведчыць аб недастатковым развіцці палітычнай культуры і традыцый як у кіраўніцтва, так і ў шараговых грамадзян гэтых краін, што ў значнай меры абумоўлена савецкай спадчынай.

Адносіны саміх беларусаў да свабод вельмі нявызначаныя, аморфныя (табліца 2). Так, 65,2% насельніцтва лічыць, што паляпшэнне эканамічнага стану краіны важнейшае за незалежнасць (29,3%). Гэта значыць, што свабода не з'яўляецца галоўнай каштоўнасцю для большасці беларусаў, хаця яны і аддаюць невялікую перавагу свабодзе над роўнасцю (54,3%). Падтрымліваючы ў большасці дэмакратыю (75,3%) і тое, як яна развіваецца ў краіне (50,4%), больш за палову беларусаў (61,6%) не супраць аўтарытарнага стылю кіравання. Відавочна, што яны не ўспрымаюць аўтарытарны рэжым як пагрозу дэмакратычным свабодам, аднак і не прымаюць ваенную дыктатуру (за — толькі 13,1%).

Менавіта з моцным лідарам, а не з палітычнымі партыямі беларусы звязваюць лепшыя надзеі. Тая падтрымка, якую партыі маюць з боку насельніцтва, знаходзіцца на ўзроўні статыстычнай пагрэшнасці. Гэта ўвогуле і не дзіўна, калі ва ўмовах існуючага рэжыму партыі не маюць свабоднага доступу да масавых сродкаў інфармацыі і зазнаюць пастаянны ўціск з боку ўлады. Аднак і актыўнасць саміх партый вельмі нізкая. Прайшлі выбары ў мясцовыя органы ўлады. На выбарчых участках працавалі каля 60 000 сяброў камісій; ад апазіцыйных партый было пададзена крыху больш за 300 заявак на ўдзел у камісіях (прыблізна 0,5%), ды ўлада скасавала колькасць заявак у 10 разоў і засталося 0,05% сяброў у камісіях. Нямая сцэна?! Гэта яшчэ адна прычына таму, што 91,5% насельніцтва ўвогуле не цікавяцца пытаннямі палітыкі краіны. А з другога боку, якія выбары? Гэта не жарт: «Кіраўніку дзяржавы быццам стала сорамна мець 90% на прэзідэнцкіх выбарах 2006 г., дык ён просіць старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі, ну зрабіце хаця б 80%». Вось і ўсе выбары. Паколькі сілы палітычных партый, апазіцыйных ці «пазіцыйных», невялікія, таму ўмацаванне нацыянальнай свабоды ў вельмі нязначнай меры зараз падтрымлівае аўтарытарнае кіраўніцтва.



*Табліца 2*

***Сучасны беларускі партрэт свабод***

| *Характарыстыка* | *Факты* | *Спасылка* |
|---|---|---|
| Эканамічны стан краіны больш важны, чым яе незалежнасць | Для 65,2% больш важна паляпшэнне эканамічнага стану Беларусі, тады як для 29,3% — незалежнасць краіны | «Новости НИСЭПИ». Вып. 1. III, 2013, с. 32. |
| Прыхільны да свабоды | 54,3%, выбіраючы паміж свабодай і роўнасцю, выбралі свабоду | О. Иванюто і інш. (2013, с. 258) |
| Прыхільны да дэмакратыі | 75,3% упэўнены, што дэмакратыя лепш, чым іншыя формы кіравання дзяржавай; 50,8% задаволены тым як дэмакратыя развіваецца ў краіне; 63,6% лічаць, што да дэмакратыі трэба ісці шляхам паступовых рэформ, а не рэвалюцыйных змен; 73% станоўча ставяцца да дэмакратычнай палітычнай сістэмы; 69,6% гатовы прымаць удзел у выбарах, выканаць грамадзянскі абавязак | О. Иванюто і інш. (2013, с. 261, 263) |

*Заканчэнне табліцы 2*

| *Характарыстыка* | *Факты* | *Спасылка* |
|---|---|---|
| Апалітычнасць | 91,5% апытаных беларусаў былі абыякавымі да палітыкі, іх адказы размеркаваліся наступным чынам: маё жыццё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй не ўдзельнічаю, таму што гэта бескарысна (23,7%) ці небяспечна (11,1%); маё жыццё слаба залежыць ад палітыкі (22,5%); я не цікаўлюся палітыкай (34,2%) | Дадзеныя НІСЭПД («Народная Воля», 3 верасня 2013 г.). |
| Не падрымліваюць палітычныя партыі | Узровень падтрымкі палітычных партый вагаецца ад 0,3% (аграрная партыя) да 3,7% (ліберальна-дэмакратычная партыя) | О. Иванюто і інш. (2013, с. 264) |
| Адносіны да дыктатуры | 61,6% станоўча ставяцца да моцнага лідара, аднак толькі 13,1% былі б задаволены, каб у краіне была ваенная дыктатура | О. Иванюто і інш. (2013, с. 261) |
| Не талерантныя | Да іншых рэлігій, рас, сексуальных паводзін | П. Мурзёнак. Беларускасць і ментальнасць цывілізаваных краін (2013) |

«Ціха» ідэнтыфікуючы сябе беларусамі, людзі не ідуць змагацца за нацыянальную свабоду ці за палітычныя правы, бо, з аднаго боку, за іх усё вырашаюць, а з другога, відаць, іх задавальняе стан эканамічнай і індывідуальнай свабоды (фактычна, ідзе падмена паняццяў індывідуальных і палітычных свабод). Можна меркаваць, што нявызначанасць беларусаў у дачыненні да палітычных і нацыянальнай свабод перайшла ў спадчыну ад Расіі і савецкай сістэмы за апошнія два стагоддзі. Гэта нявызначанасць ці абыякавасць, з'яўляецца адным з негатыўных фактараў, які ўплывае на развіццё беларускай нацыі.



### *Рэлігія*

Не адмаўляючы права кожнага чалавека верыць у свайго Бога, можна меркаваць, што пасля Грэцыі і Рыма рэлігія ў значнай ступені затармазіла на доўгі час развіццё чалавечых каштоўнасцей, уключна са свабодай. Рэлігія не спрыяе развіццю нацыянальнай свабоды па трох прычынах: а) бо знаходзіцца па-над нацыямі-народамі-дзяржавамі; б) распальвае варожасць паміж людзьмі нават аднаго этнасу; в) не ўлічвае інтарэсы нерэлігійных людзей і атэістаў. Хоць час крыжовых паходаў скончыўся, аднак міжканфесійная барацьба працягваецца.

Нягледзячы на пазітыўныя пастулаты, якія рэлігійныя канфесіі ў большасці прапаведуюць, яны распальваюць варожасць паміж людзьмі. Спробы выкарыстоўваць адну рэлігію для ўмацавання дзяржаўнасці ці нацыянальнай свабоды ў краінах, дзе жывуць людзі з рознымі веравызнаннямі, заўжды сканчаюцца міжканфесійнымі канфліктамі (Францыя ў мінулым, пратэстанты супраць каталікаў; Беларусь прайшла праз паганства — праваслаўе — каталіцтва — пратэстантызм — уніяцтва — зноў праваслаўе; сучаснае сутыкненне паміж праваслаўем і ісламам у Расіі; паміж праваслаўем і праваслаўем на Украіне; паміж ісламам і іўдаізмам, паміж ісламам і каталіцызмам у шэрагу краін: ЦАР, Уганда, Філіпіны, Пакістан, Егіпет).

Прыклады краін, дзе абсалютная большасць насельніцтва належыць да адной канфесіі (напрыклад, Польшча, Філіпіны), з'яўляюцца выключэннем. Аднак нават у Філіпінах, дзе менш за 5% людзей належаць да ісламу, час ад часу ўзнікаюць узброеныя канфлікты за самавызначэнне. Не адмаўляючы ў праве гэтым людзям на самаідэнтыфікацыю (не нацыянальную, а рэлігійную), можна толькі адзначыць, што ў аснове многіх ваенных канфліктаў ляжыць рэлігійная неталерантнасць. У Беларусі, паводле Канстытуцыі, няма дзяржаўнай рэлігіі, аднак прэферэнцыі тым не менш аддаюцца праваслаўю. Як прэферэнцыі праваслаўю, так і прыцясненні пратэстантаў, Саюза палякаў (і каталікоў адпаведна) з'яўляюцца памылковымі рашэннямі ўрада, бо не вядуць да нацыянальнай згоды ў дзяржаве, а значыць, памяншаюць умовы для нацыянальнай свабоды і бяспекі.

Рэлігійныя свабоды ёсць важнейшым кампанентам індывідуальных правоў і свабод. Аднак трэба адзначыць, што рэлігія не ёсць агульнай каштоўнасцю для ўсіх. На сённяшні дзень значная доля людзей да рэлігіі ніяк не ставіцца. Так, напрыклад, у Францыі, паводле неафіцыйных апытанняў (2012, WIN-Gallup International), толькі 37% насельніцтва — веруючыя людзі, 34% — нерэлігійныя і 29% (?!) — атэісты, г. зн. 63% насельніцтва не ёсць актыўнымі вернікамі. У Беларусі такіх людзей — 41%, у Расіі — 34%, на Украіне — каля 25% («День», 2002. URL: http://www.cerif.com.ua/). Такім чынам, можна казаць, што рэлігійныя свабоды калі і ўплываюць на нацыянальную свабоду, то ў канчатковым выглядзе толькі ў адмоўным сэнсе.

### *Прыватная ўласнасць і алігархічны капітал*

Не адмаўляючы гуманітарныя каштоўнасці, погляды на прыроду чалавека, выказаныя Дж. Локам, можна меркаваць, што новыя рынкавыя адносіны будуць з'яўляцца важным фактарам ва ўмацаванні нацыянальнай свабоды. Як упаміналася вышэй, аднымі з асноўных заваёў французскай рэвалюцыі былі гарантыі свабоды індывіда і абарона прыватнай уласнасці. Так склалася на беларускіх землях, што прыватная ўласнасць амаль адсутнічала (за выключэннем кароткага перыяду ў канцы XIX — пачатку XX ст. і ў 20–30-я гг. XX ст. у Заходняй Беларусі). Відавочна, што прыватная ўласнасць патрабуе зусім іншага пачуцця свабоды і тыпу адказнасці чалавека перад сям'ёй і дзяржавай, чым пры дзяржаўнай ці калгасна-кааператыўнай формах уласнасці, што існуюць у Беларусі на працягу амаль сотні апошніх гадоў. На сёння ў Беларусі адбываюцца змены ў бок набыцця прыватнай уласнасці і павышэння яе прадукцыйнасці, аднак доля гэта яшчэ невялікая.

Нягледзячы на моцнае ўздзеянне знешніх фактараў з усходу, якія зараз дамінуюць над заходнімі, узнікаючы ў рамках уладных структур беларускі капітал будзе вымушаны абараняць сваю ўласнасць ад размывання капіталам больш моцных суседзяў. Такім чынам, можна чакаць, што ўмацаванне дзяржаўнасці і нацыянальнай свабоды будзе адбывацца як з прычыны ўзрастання долі алігархічнага капіталу ў Беларусі, так і з прычыны простых біялагічных рэфлексаў самазберажэння, маю на ўвазе магчымую агрэсію ці, калі хочаце, ваенную альбо эканамічную анексію Беларусі Расіяй. Праўладныя прыхільнікі развіцця беларускай дзяржавы рана ці позна таксама будуць вымушаны падключыцца да аднаўлення нацыянальных каштоўнасцяў, не абумоўленых толькі гісторыяй савецкага перыяду і часоў Вялікай Айчыннай вайны.



Панславянскія аб'яднаўчыя прэтэнзіі на беларускае лідарства на прасторах СНД у часы Ельцына скончыліся з прыходам у Расію аўтакратычнай каманды, палітыкай якой з'яўляюцца спробы аднаўлення імперыі. Упершыню за 20 апошніх год аб неабходнасці ўмацавання нацыі нядаўна выказваўся кіраўнік Беларусі («Наша Ніва», 17.10.2013). Да таго ж трэба нагадаць будаўніцтва Палаца Незалежнасці і плошчы Дзяржаўнага Сцяга ў 2013 г. у Мінску. Гэта яшчэ не дастатковыя сігналы, але ў хуткім часе можна будзе чакаць і больш сур'ёзныя. Такім чынам, можна спадзявацца, што прасавецкі характар развіцця дзяржавы паступова пачне мяняцца і набываць нацыянальны колер.

## Заключэнне

Хто канкрэтна вінаваты ў сусветным маральным крызісе, несправядлівасці, беднасці, войнах, парушэннях свабод і правоў — ліберальныя дэмакраты, ідэі многапалярнасці, імперскія амбіцыі, рэлігія, падвойныя стандарты? Відавочна, што чалавецтва страціла агульныя мэты і парушае існаваўшыя раней прынцыпы і крытэрыі для дасягнення сваіх мэтаў. Замест новага вітка халоднай вайны і войнаў сапраўдных, прыкметы якіх становяцца ўсё больш заўважнымі, чалавецтву варта было б дамовіцца аб новых прынцыпах існавання і ўзаемадзеяння для ўсталявання міру і парадку ў свеце, аб сумесных дзеяннях супраць галечы, хвароб, прыродных катаклізмаў.

Падвойныя стандарты, якія ўжываюць наймацнейшыя дзяржавы свету, дэманструюць ігнараванне прынцыпаў дэмакратыі, справядлівасці і дабра. Дзеля сваёй эканамічнай выгады супердзяржавы гандлююць лёсам народаў, якія імкнуцца да свабоды.

Яркім прыкладам стаў сучасны канфлікт у Еўропе, выкліканы жаданнем Украіны атрымаць статус асацыяцыі з ЕС. Расія сваёй ваеннай агрэсіяй супраць Украіны прадэманстравала непавагу да міжнародных правоў і пасягае на свабоду, суверэнітэт і тэрыторыю незалежнай, нядаўна братняй, краіны. Адной з прычынаў агрэсіі Расіі з'яўляецца яе традыцыйны рух на захад, які базуецца на еўразійскай ідэалогіі, што ставіць пад пагрозу існаванне не толькі дэмакратыі і свабоды, але і існаванне нацый. Сваёй агрэсіяй Расія пацвердзіла амаль 800-гадовы падзел паміж цывілізацыямі — еўразійскай (расійскай) і ўсходнеславянскай, беларуска-украінскай. Такім чынам, нават у наш час для нацыянальнай свабоды існуе пагроза быць прыціснутай з дапамогай зброі. Чачня, Грузія, Украіна — хто наступны і калі? Падаецца, што роля нацый ці нацый-дзяржаў не будзе змяншацца, нягледзячы на тэндэнцыі стварэння наднацыянальных дзяржавападобных утварэнняў (Еўрапейскі саюз, Мытны саюз, іншыя саюзы). Тое, што працэс будаўніцтва нацый працягваецца нават у канцы XX і на пачатку XXI ст., паказваюць падзеі, якія адбываліся ў Югаславіі і адбываюцца цяпер на Украіне (лістапад 2013 — сакавік 2014 г.). Ёсць падставы сцвярджаць, што ў перспектыве нацыянальнае будаўніцтва ў Беларусі і ў іншых постсавецкіх краінах (Казахстан, Латвія) таксама будзе завершана. У значнай ступені гэта будзе залежаць ад балансу станоўчых і адмоўных фактараў, якія могуць уплываць на ўмацаванне нацыянальнай свабоды (табліца 3). Сярод найбольш моцных станоўчых фактараў уплыву можна адзначыць магчымасць сучаснага будаўніцтва нацыі і дзейнасць нацыянальнай эліты, сярод адмоўных — нізкі ўзровень палітычнай культуры, непадтрымка ўрадам дзяржаўнай беларускай мовы, пагроза магчымай агрэсіі, рэлігія. Да адмоўных фактараў уплыву можна аднесці і неталерантнасць беларусаў да людзей іншых рас, рэлігійных канфесій, паводзін (П. Мурзёнак. Беларускасць і ментальнасць цывілізаваных краін, 2013). Здавалася б, адсутнасць еўрапейскай ментальнасці — у нейкім сэнсе добры знак для здаровага нацыяналізму, бо ў такой сітуацыі нацыяналізм мог бы мець перавагу над глабальнымі працэсамі, аднак непавага да свабод шэрагу катэгорый людзей не можа спрыяць умацаванню нацыянальнай свабоды.



*Табліца 3*

***Фактары ўплыву на нацыянальную свабоду***

| *Фактары ўплыву на нацыянальную свабоду* | *Моц уплыву станоўчы «+» адмоўны «–»* | *Каментарый* |
|---|---|---|
| **Станоўчыя фактары** | | |
| Магчымасць будаўніцтва нацыі | ++++ | Краіны былой Югаславіі; Украіна (працягваецца), Беларусь, Казахстан, Латвія (у перспектыве) |
| Нацыянальная эліта | +++ | Роля магла б быць значна большай пры ўдзеле настаўнікаў і іншых інтэлектуальных сіл |
| Падтрымка насельніцтвам ідэі незалежнасці | ++ | Асвета — адзіны сродак палепшыць сітуацыю |
| Падтрымка прадпрымальнікаў | + | Яны ў зародкавым стане, але іх роля будзе расці |
| Рэальная патрымка партый | + | На ўзроўні пагрэшнасці, за выключэннем партый БНФ |
| Падтрымка ўрада | + | Намінальная, дэкларавана «крышталізацыя нацыянальнай ідэі», аднак намеры і дзеянні слабыя |
| **Фактары, якія не маюць істотнага ўплыву** | | |
| Глабалізацыя | ± | Капітал не цікавяць нацыянальныя пытанні |
| Вёска | ± | На жаль, вёска памірае (беднасць, урбанізацыя, люмпенсяляне), высыхае Моўная крыніца нацыі |

*Заканчэнне табліцы 3*

| *Фактары ўплыву на нацыянальную свабоду* | *Моц уплыву станоўчы «+» адмоўны «–»* | *Каментарый* |
|---|---|---|
| Мірнае суіснаванне або ядзернае стрымліванне | ± | Быў бы моцным фактарам пры падтрымцы краін заходняй дэмакратыі |
| **Адмоўныя фактары** | | |
| Нізкі ўзровень палітычнай культуры | – – – – | Вынік акупацыі Расіяй Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай, савецкая спадчына |
| Непадтрымка дзяржаўнай Мовы урадам | – – – – | Мова — галоўны элемент асягнення нацыянальнай свабоды. Адной гісторыі недастаткова |
| Знешнія фактары | – – – – | Непрадказальная магчымая агрэсія. Узброенных сіл недастаткова для абароны |
| Рэлігія | – – – | У краіне няма роўнасці канфесій, прэферэнцыю мае праваслаўе. Не улічваецца думка неактыўных вернікаў і атэістаў, доля якіх складае 41% |
| Дзейнасць «пятай калоны» | – – | Заходне-русізм, расійская культура, іншае |
| Ментальнасць беларусаў | – – | Невысокая талерантнасць. Нельга быць свабодным, не паважаючы правы людзей іншых рас, рэлігій, паводзін |



Адносіны беларусаў да свабоды характарызуюцца нявызначанасцю і абумоўлены адсутнасцю палітычнай культуры і традыцый, расійскай і савецкай спадчынай; падтрымка насельніцтвам ідэй дэмакратыі спалучаецца са станоўчымі адносінамі да аўтарытарнага стылю кіравання.

Толькі асэнсоўваючы наяўнасць грамадзянскіх свабод і практычна выкарыстоўваючы палітычныя свабоды, чалавек можа асягнуць значнасць нацыянальнай свабоды. Можна меркаваць, што існуе іерархія свабод (індывідуальныя — палітычныя — нацыянальная), але базу, аснову свабод складаюць індывідуальныя свабоды і правы. Падмена грамадзянскіх свабод і правоў сацыяльна-эканамічнымі правамі разам з адсутнасцю палітычнай культуры і традыцый перапыняе працэс дасягнення нацыяй свабоды, вядзе да страты нацыянальнага гонару, нежадання падтрымоўваць даўнейшую гісторыю і культуру, да нігілістычных адносін да сваёй нацыі і яе свабоды. Узровень палітычных правоў і свабод і нацыянальнай свабоды — гэта ўзровень актыўнай працы нацыянальных эліт. У Беларусі ўмовы для такой працы неспрыяльныя.

Баланс станоўчых і адмоўных фактараў у Беларусі, па нашых разліках, скіраваны ў адмоўны бок. Ключавымі фактарамі, якія могуць змяніць рух вагаў у станоўчы бок, з'яўляюцца перш за ўсё ўнутраныя фактары, а менавіта разуменне насельніцтвам, прадпрымальнікамі, кіраўніцтвам дзяржавы важнасці ўмацавання нацыянальнай свабоды. У павышэнні сілы ўплыву станоўчых фактараў важная роля належыць асвеце насельніцтва і нараджэнню волі і жадання ва ўрадзе. Сярод найбольш моцных адмоўных фактараў, які трэба было б паменшыць ці адмяніць, адзначым пагрозу акупацыі, аднак пры тым разуменні, якое прачнулася ў асяроддзі заходняй дэмакратыі, можна спадзявацца, што адмоўны уплыў гэтага фактару можа быць зняты на карысць маленькіх народаў і нацый. Разам з павышэннем ролі іншых станоўчых фактараў гэта б істотна змяніла рух беларусаў да нацыянальнай свабоды.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 5, сакавік 2014 г., с. 14–37.*

## Summary

***Piotra Murzionak. «Nation and Freedom» (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», March 2014, issue 5, pp. 14–37)***

Who is to blame of global moral crisis, injustice, poverty, wars, violations of rights and freedoms — liberal democrats, ideas of multi—polar world, imperial ambitions, religion, double standards? It is obvious that humanity has lost the common goals and violates the principles and criteria for the achievement of new ones. Instead of a new round of the Cold War and real wars, the signs and impacts of which are becoming more noticeable, mankind would have had to agree on new principles of existence and cooperation to establish peace and order in the world, on important joint actions against poverty, diseases and natural disasters.

Double standards that stronger nations apply to small nations show disregard for the principles of democracy, justice and goodness. For the sake of economic gain superpowers determine and often dictate peoples' fates by trading and manipulating the freedom and independence the smaller nations are striving for. A striking example of such double standard is the modern conflict in Europe caused by the aspiration of Ukraine to obtain the status of association with the EU. Russian military aggression against Ukraine has shown disrespect for international laws and infringes on the freedom, sovereignty and territory of independent, recently sister nation. One of the reasons for Russia's aggression is its traditional movement to the west, based on the Eurasian ideology that threatens the existence of not only democracy and freedom, but also nations. Russian aggression confirmed almost 800-year-old division between two civilizations — Eurasian (Russian) and Eastern Slavic (Belarusian-Ukrainian). Of those countries that guaranteed the security and sovereignty of Ukraine (Russia, U.S., UK), Russia violated international agreement, while the United States and Great Britain appeared impotent of deliver on their obligations. Thus, even in our time national freedom can be threatened by weapons. Chechnya, Georgia, and Ukraine — who is next and when?





It seems that the role of nations or nation-states will not decrease, despite of the global trend towards supranational entities (European Union, Customs Union, and other unions). Events that happened in Yugoslavia and those are now taking place in Ukraine (November 2013 — March 2014) show that the process of nation-building continues even in the late 20th and early 21st centuries. It is believed that in the future nation-building in Belarus and in other post-Soviet countries (Kazakhstan, Latvia) will also be completed. To a large extent this will depend on the balance of positive and negative factors which may affect the strengthening of national freedom. Among the strongest positive influencing factors are the mere possibility of modern nation-building as well as the activity of national elite; among the negative ones — low level of political culture, the national government's reluctance to support the Belarusian language, the threat of possible aggression, religion. Intolerance of the Belarusians towards people of other races, religions, behaviors belongs to the negative influencing factors as well. It may seem that the absence of European mentality in that sense could have been a good sign for a healthy nationalism, since nationalism-patriotism in such situation could have had an advantage over global processes. However, disrespect for diversity of some categories of people cannot assist in strengthening of the national freedom.

Particular attitude of Belarusians to freedom is characterized by ambiguity and can be explained by the lack of political culture as well as by the influences of Russian and Soviet legacy and traditions; public support of the ideas of democracy is controversially combined with a positive attitude to an authoritarian management style.

Only by acknowledging the presence of civil liberties and by adhering to political freedoms a person can grasp the significance of the national freedom. We can assume that there is a hierarchy of freedoms (individual — political — national); but rights and freedoms of the individual constitute the foundation of this hierarchy. Substitution of civil liberties and rights by socio-economic human rights, along with the lack of political culture and traditions hinders a nation from attaining its freedom, as it leads to the loss of national pride and unwillingness to preserve the ancient history and culture

as well as to a nihilistic attitude towards thenation building. Level of political rights and freedoms, and national freedom is the level of the determined activity of the national elites. However, the conditions for such activity in Belarus are unfavorable.

The allocation of positive and negative factors in the balance of forces in Belarus, according to our five-point scale calculations, inclines towards the negative side. Key factors that can alter the balance towards positive direction are primarily internal factors, namely acknowledging by the population, entrepreneurs and the state leaders of the importance of strengthening and maintaining of the national freedom. Among the strongest negative factors, that would have to be reduced or eliminated, is the threat of occupation. However, with the aroused awareness of Western democracies, there is hope, that the negative influence of this factor can be removed, for the benefit of small peoples and nations. Together with the increasing role of other positive factors, this would significantly impact the movement of the Belarusians towards establishing of their national freedom.

# ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БУДАЎНІЦТВА Ў ЧАСОПІСЕ «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»

*(Прадмова да чарговага, шостага нумара вэб-часопіса)*

Развіццю і падтрымцы беларускасці прысвечана абсалютная большасць матэрыялаў часопіса. Рэалізацыя нацыянальнага будаўніцтва немагчымая без асветы насельніцтва, без распаўсюду глыбокіх гістарычных ведаў, багатай культурнай спадчыны беларускага народа. Натуральна, што часопіс вялікую ўвагу надае і праблемам беларускай мовы. Той стан, у якім апынулася адна з прыгажэйшых і мілагучных славянскіх моў, можна назваць толькі жахлівым. І вінаваты ў гэтым як кіраўніцтва краіны, якое за апошнія 20 год толькі спрыяла яшчэ большаму яе заняпаду, так і самі беларускія людзі. Стан мовы застаецца адной з балючых тэм для беларускай эліты на працягу апошніх ста гадоў, і відавочна, што, за выключэннем кароткіх перыядаў адраджэння, яе стан за гэты час значна не палепшыўся. Тым не менш, лічачы, што мова для нацыянальнага будаўніцтва — гэта пастаянная, перманентная праблема № 1, на сённяшні дзень, каб нейкім чынам ускалыхнуць беларускі люд, высілкі павінны быць скіраваны і на другія аспекты выхавання і асветы насельніцтва, і ў першую чаргу на распаўсюд ведаў па гісторыі краіны, на развіццё патрыятызму і гонару беларускага народа.

Многія з праблем, якія ёсць у нацыянальным будаўніцтве ў Беларусі, маюць шмат агульнага з другімі постсавецкімі краінамі. Вось чаму ў гэтым годзе мы пачалі змяшчаць на сайце матэрыялы па актуальных пытаннях будаўніцтва нацыі ў Латвіі, Казахстане і, канешне, ва Украіне. Зноў жа, моўнае пытанне і ў гэтых краінах стаіць востра, але не так балюча, як у Беларусі.

Латвія на рэферэндуме адмовілася ад другой дзяржаўнай мовы, рускай; ва Украіне ўжыванне рускай мовы ўзаконена толькі ў некаторых рэгіёнах, а ў Казахстане плануецца, што ў 2025 годзе 95% насельніцтва будзе ведаць і карыстацца казахскай мовай. У нас жа з падачы кіраўніка дзяржавы беларуская мова нічога не вартая: «…по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык — бедный язык», а дзяржаўныя адносіны да роднай мовы ў цэлым непазбежна вядуць не толькі да яе знікнення, але і да паглынання і знішчэння самой беларускай нацыі еўразійскай, рускамоўнай культурай. І не важна, што 83,7% насельніцтва пакуль што лічаць сябе «ў душы» беларусамі (паводле перапісу 2009 г.). Наста Палажанка, у нядаўнім артыкуле ў «Нашай Ніве» (май 2014 г.), гаворачы аб паховінах славутага беларускага паэта Генадзя Бураўкіна, задаецца пытаннем: дзе ж нашы людзі? Адзінаццаць год таму на паховінах Васіля Быкава былі дзясяткі тысяч людзей. Што здарылася?

Нацыянальная эліта, загнаная ў гета дзяржаўнай палітыкай і абыякавымі адносінамі людзей да беларускасці, працуе на астраўках-рэзервацыях дзякуючы ахвярнасці сапраўдных беларусаў (кнігарня «ЛогвінаЎ», мастацкая суполка «Пагоня»). Але «І адзін чалавек многа можа!». Безумоўна, што нацыянальнае будаўніцтва трывае значны супраціў савецкай спадчыны, носьбітам якой засталася Расійская Федэрацыя. Але калі капнуць глыбей, то гэты супраціў ідзе ад Расійскай імперыі. Расія не хоча даваць волі як сваім шматлікім народам (права аб выхадзе з Расійскай Федэрацыі не закладзена ў Канстытуцыі, прыклад Чачня), так і сваім блізкім суседзям. Страціўшы ўплыў на краіны сацыялістычнага лагера, зараз інтарэсы імперскай Расіі скіраваны на кантроль над краінамі СНД. І асабліва зацікаўлена Расія ў кантролі над Беларуссю і Украінай. Гэта цікавасць базуецца як на старых міфах, запачатых у часы Пятра І і Кацярыны ІІ, аб пераемнасці гістарычнай спадчыны Кіеўскай Русі да Расіі і аб трыадзінстве трох славянскіх народаў, так і на геапалітычных інтарэсах. Папраўдзе Расія, у параўнанні з Беларуссю і Украінай, зусім не славянская краіна. У апублікаваных у мінулым годзе артыкулах (часопіс «САКАВІК» № 2, 3) абгрунтавана існаванне ўсходнеславянскай, беларуска-ўкраінскай цывілізацыі, якая істотна адрозніваецца ад еўразійскай (расійскай) цывілізацыі. Сённяшняя агрэсія Расіі ў адносінах да Украіны — гэта практычны доказ антаганістычнага існавання гэтых цывілізацый, канфлікт паміж якімі непазбежны. Шкада, што далейшае іх размежаванне адбываецца не мірным шляхам і з вялікімі ахвярамі. Але гэты працэс незваротны. Расія, напаўшы на Украіну, выкарыстоўвае *русский язык* як матыў і інструмент агрэсіі, эксплуатуючы «прыгнёт» рускамоўных на Украіне. Гэтай тэме прысвечаны адзін з артыкулаў свежага нумара. У ім паказана неправамоцнасць выкарыстання Расіяй рускай мовы і сваёй «славянскасці» для навязвання еўразійскай ідэалогіі Беларусі і Украіне, якія, маючы прызнакі заходняй цывілізацыі, канчаткова фарміруюць новыя нацыі ў эпоху глабалізацыі. Шкада, што Беларусь, падпісаўшы дамову аб Еўразійскім саюзе, значна запаволіла перспектыву ўступлення на шлях, на які зараз прабіваецца Украіна, наш партнёр па ўсходнеславянскай цывілізацыі.



У часопісе прыведзены вынікі двух даследаванняў, адно з іх прысвечана вызначэнню колькасці этнічных беларусаў ва ўсім свеце, а другое — асаблівасцям міграцыі беларусаў у Канаду за апошнія 30 гадоў у параўнанні з краінамі-суседзямі. Разлікі паказалі, што ў цэлым свеце жыве каля 9,5 мільёна этнічных беларусаў (амаль 8 млн на радзіме, 1,1 млн у блізкім замежжы і 0,4–0,5 млн у далёкім). Такім чынам, у замежжы жыве каля 1,5–1,6 млн беларусаў, што значна менш, чым зараз афіцыйна лічыцца. Адзначана, што беларусы ў параўнанні з суседзямі найбольш кансерватыўныя ў міграцыйным плане, што ёсць пазітыўнай з'явай для нацыянальнага будаўніцтва.

Рэдакцыя вырашыла даць пераклад на рускую мову вядомага артыкула Вацлава Ластоўскага «Што трэба ведаць кожнаму беларусу?». Чаму на рускую мову? Беларуская мова — асноўная мова часопіса, але мы змяшчаем матэрыялы на любой мове, калі тэма тычыцца напрамку часопіса (з абавязковай падачай кароткага зместу на роднай мове). Аднак рашэнне аб перакладзе Ластоўскага на рускую мову ідзе не ад добрага жыцця. Па-першае, людзей, якія чытаюць, становіцца ўсё меней. Па-другое,

рэаліі такія, што беларусы чытаюць у асноўным рускамоўную літаратуру (на рынку Беларусі 85% кніг друкуецца не на роднай, а на рускай мове). Многія ідэі Ластоўскага, адлюстраваныя ў яго артыкуле, да гэтага часу актуальныя (пераклад даецца не поўнасцю, а толькі тых яго частак, якія сугучны сучаснасці). Падыход рэдакцыі такі, што калі перакладам на рускую мову зацікавіцца хаця б адзін чалавек, які не ўзяўся б чытаць яго па-беларуску, то гэта варта рабіць. Змаганне мусіць быць за кожнага беларуса, у якога яшчэ можа прачнуцца жаданне не толькі пісаць у анкеце, што ён беларус (магчыма, толькі адчуваючы сябе грамадзянінам Беларусі ці сваю тэрытарыяльную прыналежнасць да краіны), але і паводзіць сябе як беларус.

У гэтым сэнсе асветніцкая дзейнасць, якая ажыццяўляецца праз рускамоўную літаратуру, вельмі важная. Да прыкладу, тыя кнігі, што выдаюцца на рускай мове сп. А. Тарасам, знаходзяць свайго чытача. Магчыма, там могуць быць акадэмічныя хібы і нават незаўважная шараговаму чытачу «акадэмічная няпраўда» (дарэчы, гэтыя хібы могуць быць выпраўлены якраз акадэмікамі), аднак лепш няхай пабачыць свет адна апублікаваная асветніцкая кніга, чым будуць напісаныя пад стол дзве акадэмічныя кнігі. Будзем спадзявацца, што дзяржаўная палітыка ў адносінах да беларускасці хутка зменіцца і не давядзецца спрачацца на гэту тэму.

На старонкі сайта дадалася яшчэ адна серыя слайдаў «Замкі Беларусі». Пры падрыхтоўцы серыі выкарыстаны даступныя здымкі, малюнкі, звесткі, запазычаныя з розных крыніц. Як і раней, апроч матэрыялаў самога часопіса «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» мы размяшчаем на вэб-сайце матэрыялы з другіх крыніц.

*Апублікавана ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 6, чэрвень 2014 г., с. 4–6.*

# *РУССКИЙ ЯЗЫК* СУПРАЦЬ НАЦЫЯНАЛІЗМУ БЕЛАРУСАЎ І ЎКРАІНЦАЎ

*Ключавыя словы: русский язык і этнас, нацыяналізм, Беларусь, Украіна*

## *Русский язык* — матыў і інструмент агрэсіі

*Расія — жандар для постсавецкіх краін.*

*Выкарыстанне мовы для вырашэння геапалітычных праблем у наш час неправамоцнае.*

*Руская мова як шырма для прыкрыцця інтарэсаў апошняй імперыі.*

### *Кароткая даведка*

У 2010 г. 260 млн людзей у свеце размаўлялі па-руску (3,8% ад насельніцтва планеты).

Руская мова — шостая па колькасці людзей, якія размаўляюць на ёй на планеце, пасля англійскай, кітайскай, хінду/урду, іспанскай і арабскай.

Руская мова адна з шасці афіцыйных моў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый: англійская, арабская, іспанская, кітайская, руская, французская.

Рускамоўныя людзі пражываюць у 31 краіне (англамоўныя ў 105 краінах, беларускамоўныя ў 16 краінах, украінскамоўныя ў 26 краінах).

Руская мова была адзінай дзяржаўнай мовай у былым СССР і з'яўляецца такой у сучаснай Расіі; другая афіцыйная мова ў Беларусі, Казахстане і Кіргізстане.

З ліку 260 млн рускамоўных 137,5 млн пражывае ў Расіі, 93,7 млн — у краінах СНД і Балтыі, 12,9 млн — ва Усходняй

Еўропе і на Балканах, 7,3 млн — у Заходняй Еўропе, 2,7 млн — у Азіі, 1,3 млн — на Блізкім Усходзе і ў Паўднёвай Афрыцы.

Этымалагічнае тлумачэнне і параўнанне слоў — Русь = Россия, русский = россиянин, русский язык = русский (па нацыянальнасці), русский = праваслаўны можна знайсці ў спецыяльных аглядах (S. Plokhy, 2006; R. Zakharii, 2002). Кожная з вышэйпрыведзеных пар слоў варта напісання асобнага артыкула. У маім артыкуле размова пойдзе у асноўным пра разуменне і ўжыванне слоў «русский язык = русский (па нацыянальнасці)» грамадскай супольнасцю як у сучасным, так і ў гістарычным кантэксце.

Руская мова нараўне з войскамі ўжываецца зараз супраць Украіны як інструмент для вырашэння складанага становішча, у якім апынулася Расія. Распад СССР, дзве расійска-чачэнскія вайны і расійска-грузінская вайна, падзенне міжнароднага аўтарытэту, умацаванне самастойнасці былых савецкіх рэспублік і страта Расіяй уплыву на постсавецкія краіны (магчыма, за выключэннем стварэння саюза паміж Расіяй і Беларуссю, якое амаль не абмяркоўваецца ў апошні час, а таксама Мытнага і Еўразійскага саюзаў, якія маюць шмат нявырашаных пытанняў) прывялі кіраўніцтва Расіі да неабходнасці дэманстрацыі сілы, якую яно вырашыла ўжыць да сваіх бліжэйшых суседзяў.

У сувязі з «возникшей угрозой жизни граждан Российской Федерации и российских военнослужащих, дислоцирующихся в Крыму в соответствии с международным договором» Савет Федэрацыі Расіі дазволіў свайму кіраўніку ўвесці на Украіну войскі «до нормализации общественно-политической обстановки в этой стране», гэта значыць было дадзена права распачаць вайну. Але Расія захапіла Крым задоўга да гэтага рашэння, з дапамогай «ветлівых зялёных чалавечкаў» і георгіеўскіх стужак. Цынізм і хлусня, якія суправаджаюць гэту ганебную вайну, уражваюць. Ідзе адкрытае ўмяшанне Расіі ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы. Агрэсія пашырылася на іншыя раёны Украіны, і зноў жа прысутнасць там расійскіх сіл (ваенных, спецыяльных) у радах тэрарыстаў адмаўляецца Расіяй, як гэта рабілася і ў



Крыме. Расію ніхто не прасіў умешвацца ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы. Больш за тое, Расія разам з ЗША і Вялікабрытаніяй выступалі гарантамі суверэнітэту Украіны ў абмен на вывад ядзернай зброі пасля развалу Саюза (Memorandum, 1994).

Падпарадкаваць сабе Украіну і ўкраінскі народ — вось першапачатковая мэта агрэсіі. Без Украіны моц Расіі як унутры саюзаў (Мытнага, Еўразійскага), так і па-за межамі гэтых саюзаў значна губляецца. Ціск Расіі на Януковіча і яго ўрад у пытанні падпісання асацыяцыі з Еўрапейскім саюзам у канцы 2013 г. выліўся ў чарговую рэвалюцыю на Украіне, народ якой у каторы раз спрабуе вырвацца з абдымкаў імперскай і савецкай спадчыны і знайсці сваё належнае месца ў свеце.

Відавочна, што гэта рэвалюцыя ніяк не ўваходзіла ў планы Расіі, і, каб выратаваць сітуацыю, была прыдумана ілжывая легенда спачатку аб пагрозе для грамадзян Расіі, а пасля аб пагрозе для рускамоўных. Не рускіх па нацыянальнасці і не рускамоўных украінцаў, а менавіта рускамоўных. Неправамоцнасць выкарыстання моўнага пытання (абарона правоў рускамоўных) для вырашэння спрэчных праблем у цывілізаваных краінах відавочная. Пад выдуманымі прычынамі заяўлена абарона правоў рускамоўных людзей ад фашызму і бандэраўцаў на Украіне. На якой падставе? Аб тым, каб адабраць права грамадзян украінскага ўсходу і іншых рэгіёнаў размаўляць па-руску, размовы ва ўкраінскай дзяржаве ніколі не было. Спрэчкі толькі ў тым, ці надаць рускай мове статус дзяржаўнай нараўне з украінскай мовай. Хаця трэба прызнаць, што падчас рэвалюцыйных паседжанняў Вярхоўнай Рады ў лютым 2014 г. было зроблена паспешнае рашэнне (прыпыненае пазней) аб адмене раней прынятага закона аб рэгіянальным ужыванні рускай мовы, што, дарэчы, у той жа момант было выкарыстана імперскімі расійскімі сіламі для далейшай ілжы і фальшавання.

На Украіне паводле апошняга перапісу (2001) налічвалася 8 334 141 рускамоўных грамадзян, або 17,2%. Гэта шмат, па колькасці нават больш, чым этнічных беларусаў у Беларусі. Відавочна, што разлік быў зроблены на «бліцкрыг» і на насельніцтва рэгіёнаў з найбольшай шчыльнасцю пражывання

рускамоўных (пачалі з Крыма, дзе пражывала не 100%, а 58,5% этнічных рускіх (2001), але не ў Данбасе і Луганскай вобласці, дзе большасць складаюць этнічныя ўкраінцы. Тым не менш зараз ідзе агрэсія ў гэтыя вобласці, Данецк і Луганск, і застаецца пагроза для іншых рэгіёнаў, аж да Львова. Ніхто не верыць больш словам расійскіх лідараў.

Выкарыстанне Расіяй «праблемы рускай мовы» для абароны рускамоўных на Украіне не адпавядае рэальным фактам. Як паказана ў нядаўнім артыкуле (О. Гава, 2014), гістарычна і этнічна ўсходнія і паўднёвыя рэгіёны Украіны ніяк не могуць адносіцца да «Наваросіі» ці Расіі. Доля рускіх у Луганскай, Данецкай і Адэскай абласцях, напрыклад, складае 39%, 38% і 21%, адпаведна, тады як украінцаў — 58%, 57%, і 63%. Такім чынам, больш як палова насельніцтва гэтых рэгіёнаў з'яўляюцца ўкраінцамі і, відавочна, ніколі не захочуць аб'яднацца з Расіяй, як і большая частка ўкраінскіх грамадзян, рускіх па паходжанню, якія не захочуць быць у радах «пятай калоны». Як не хочуць такога аб'ядання рускамоўныя Латвіі і Эстоніі, па крайняй меры з іх боку такіх сур'ёзных заяў не было. Праведзеныя рэферэндумы ў Луганскай і Данецкай абласцях выглядаюць проста смешнымі для нармальных людзей, але не для «зялёных шавіністычных чалавечкаў». Незалежна ад таго, на якой хто мове размаўляе, усіх нязгодных «чалавечкі» могуць прывесці да парадку, як гэта рабілася ў Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі, у Чачні, а зараз робяцца спробы прыцяснення татар і ўкраінцаў у захопленым Крыме. З пастаўкай узбраення і падтрымкай сепаратыстаў і тэрарыстаў Расія ўтварыла «новую Чачню» на ўсходзе Украіны.

Відавочнасць геапалітычных імперскіх імкненняў не выклікае сумневу — у выніку гібрыднай, інфармацыйнай і дыпламатычнай вайны адбылася анексія Крыма і падтрымліваецца сепаратызм ва ўсходняй частцы Украіны. І руская мова адыгрывае ў гэтым аркестры не апошнюю ролю, з'яўляючыся шырмай для эканамічнай, палітычнай і ваеннай агрэсіі. Расійскія шавіністы ўсіх масцей падключыліся да выкарыстання моўнага пытання для нагнятання напружанасці, да прыкладу, гумарыст Задорнаў выказаўся пра тое, што «якой жа моцнай павінна быць руская



мова, каб выклікаць Трэцюю сусветную вайну». У такім разе ўкраінскай мове трэба быць яшчэ мацнейшай, каб вытрымаць і перамагчы расійскую агрэсію.

Рускамоўныя складаюць вялікую частку насельніцтва альбо маюць значны ўплыў у іншых постсавецкіх краінах. Паводле апошніх перапісаў, у найбольш небяспечнай сітуацыі могуць знаходзіцца Латвія, дзе пражывае 586 052 рускамоўных людзей, або 26,9% ад усяго насельніцтва (2014) і Эстонія — 326 235, або 25,2% (2011). Прапорцыя рускіх у Казахстане крыху меншая: 3 793 764, або 23,7% (2009), але насельніцтва гэтай краіны пераважна карыстаецца рускай мовай (дарэчы, мэта ўрада, каб да 2020–2025 гг. 95% насельніцтва валодала казахскай мовай). Далей па прапорцыі і колькасці рускіх ідуць: Малдова — 369 896, або 9,4% (2004), Кіргізстан — 514 000 або 9% (2013), Беларусь — 785 084, або 8,3% (2009), Літва — 176 913, або 5,8% (2011), Туркменістан — 204 000, або 4% (2013), Грузія — 67 671, або 1,5% (2002), Таджыкістан — 34 838, або 0,5% (2010). Можна думаць, што калі Расійская Федэрацыя/Расійская імперыя будзе і надалей выкарыстоўваць «рускамоўны» падыход, то постсавецкія і несавецкія суседнія краіны не змогуць самастойна абараніцца ад падобнай агрэсіі і надзея застаецца толькі на падтрымку больш моцных і ўплывовых сіл свету і на ўсталяванне новага парадку.

## Гістарычная праўда і славянскасць

*Расія — найменш славянская з трох краін (Беларусь, Расія, Украіна) па прычыне найбольшай гістарычнай асіміляцыі, а яе пастаянныя прэтэнзіі быць старэйшай сястрой вынікаюць толькі з імперскіх інтарэсаў.*

*Руская мова выкарыстоўваецца як інструмент для паглынання іншых народаў, чаму спрыяе адвечная тэрытарыяльная экспансія Масковіі-Расіі.*

Пачынаючы з канца XVIII ст., з часоў Кацярыны II, у Расіі падтрымліваецца і распаўсюджваецца міф аб трыадзінстве трох славянскіх народаў: велікаросаў, маларосаў і беларусаў. Гэты міф базуецца на другім гістарычным міфе аб пераемнасці гісторыі Кіеўскай Русі да Расіі. Паводле многіх даследаванняў, ёсць доб-

рыя падставы лічыць пераемнікам Кіеўскай Русі сучасны Кіеў і Украіну, а не Масковію (M. Hrushevsky, 1997; R. Zakharii, 2002; V. Rud, 2014). Гэтаксама не адпавядае гістарычным фактам роля Масковіі ў аб'яднанні ўсходнеславянскіх зямель пасля развалу Кіеўскай Русі. Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ), а не Масковія брала пад сваё крыло «рускія землі». Дзякуючы менавіта ВКЛ беларусы і ўкраінцы былі выратаваны ад асіміляцыі з цюркскімі народамі і, такім чынам, зберaглі патэнцыял для развіцця нацый у мадэрны і постмадэрны перыяд. Аднак дзякуючы сваім памерам (тэрыторыя і насельніцтва) Расія сёння не па праву ўзяла на сябе абавязак быць славянскім ментарам для ўкраінцаў і беларусаў на правах «старэйшай сястры».

Першапачаткова ўсходнія славяне-рутэны, якія мігравалі ў V–VII стст. з раёнаў Палаб'я і Карпатаў, засялялі тэрыторыі сучаснай Украіны, Беларусі і Наўгародскую зямлю. Пазней на сучасных тэрыторыях вакол Кіева і часткова на поўдні Беларусі сфарміравалася старажытная дзяржава — Кіеўская Русь, якая, як моцная феадальная дзяржава, існавала з канца X ст. і да пачатку XII ст. (1132 г.) (фармальна Кіеўская Русь існавала да другой паловы XIII ст.). Ужо ў часы Кіеўскай Русі, а магчыма і раней, пачалося размежаванне ўсходніх славян, якое адбывалася як па моўнаму прызнаку, так і ў выніку натуральных працэсаў асіміляцыі падчас міграцыі на новыя тэрыторыі. Усходнія славяне асіміляваліся з балтамі (сучасныя беларусы), сарматамі (сучасныя ўкраінцы), з угора-фінскімі плямёнамі — мардва, мяшчэра, мера, чудзь (сучасныя велікаросы, падчас першай хвалі асіміляцыі).

Але адным з ключавых фактараў у размежаванні ўсходніх славян было нашэсце манголаў (П. Мурзёнак. Ці быў Рурык у Полацку? 2013; П. Мурзёнак. Усходнеславянская беларуска-украінская цывілізацыя, 2013). У часы панавання манголаў (1237–1480) велікаросы асіміляваліся з імі, і яшчэ ў большай ступені гэта адбывалася пасля развалу Залатой Арды і заваявання Масковіяй ў XV–XIX стст. вялізных абшараў былых ханстваў Залатой Арды на ўсход, поўнач і поўдзень, дзе пражывалі цюркскія народы (другая хваля асіміляцыі). У нашы дні толькі на тэрыторыі Еўразійскага стэпу жывуць многія народы аўтаномных рэспублік Расійскай Федэрацыі (башкіры, мары, мардва, татары, удмурты, чувашы, шматлікія народы Паўночнага Каўказа: адыгейцы, асеціны, балкары, інгушы, кабардзінцы, калмыкі, карачаеўцы, чачэнцы, чаркесы). Такім чынам, асіміляцыя велікаросаў са шматлікімі народамі падчас першай і другой хваляў асіміляцыі была істотнай і яе вынікам стала фармаванне сучаснага рускага этнасу.



Значна большая ступень асіміляцыі рускіх у параўнанні з беларусамі і ўкраінцамі лёгка праглядаецца. Калі прааналізаваць дынаміку росту колькасці беларусаў і ўкраінцаў за апошнія пяць стагоддзяў на сучасных тэрыторыях, то бачна, што яна значна адстае ў параўнанні з рускімі, што можна тлумачыць прамым пераходам людзей іншых нацыянальнасцяў/народаў/плямён да рускіх. У канцы XV ст. у Масковіі налічвалася каля 6 млн жыхароў (з іх, па нашых разліках, максімальна магло пражываць 4,8 млн славян (П. Мурзёнак. Ці быў Рурык у Полацку? 2013, с. 24), а ў ВКЛ пражывала каля 3,75 млн рутэнаў; такім чынам, суадносіны ўсходніх славян у Масковіі і ВКЛ найбольш маглі быць 1,3:1. У прынцыпе, такая прапорцыя павінна была б заставацца на працягу вякоў. Аднак прапорцыя рускіх да беларусаў і ўкраінцаў па перапісу Расіі 1897 г. была ўжо 2:1, а па перапісу СССР 1989 г. — 2,7:1 (табліца 1).

Гэтыя два перапісы (1897 і 1989 гг.) вельмі рэпрэзэнтацыйныя, бо праводзіліся амаль на адных і тых жа тэрыторыях. Прырост насельніцтва з 1897 па 1989 г. у 2,3 раза (у СССР у параўнанні з Расіяй) адбыўся ў асноўным за кошт прыросту той часткі насельніцтва, якое вызначала сябе рускімі. Тое, што мова адыгрывала і адыгрывае ў гэтым значную ролю, несумненна; нават У. Даль пісаў: «…на юге сидели славяне, а во всей Великоруссии чухны разных помолений. (…) они обрусели на глазах наших и нынешнее поколение не знает своего языка» (http://stanislaw-nik.livejournal.com/1742.html; http://svyatorus.com/istoriya/2958-istoriya-bez-moskovskih-mifov.html). У канчатковым выглядзе веданне рускай мовы ў значнай ступені асацыявалася, асабліва ў апошнія два стагоддзі, з нацыянальным самавызначэннем па формуле: веданне рускай мовы = рускі па нацыянальнасці.

*Табліца 1*

***Дынаміка суадносінаў беларусаў і ўкраінцаў да рускіх***

| | *Перапіс 1897: усё насельніцтва Расіі, 125,6 млн* | *Перапіс 1989: усё насельніцтва СССР, 285,7 млн* |
|---|---|---|
| Велікаросы/рускія, млн (%) | 55,7 (44,3%) | 147,4 (51,4%) |
| Украінцы, млн (%) | 22,4 (17,8%) | 44,2 (15,5%) |
| Беларусы, млн (%) | 5,9 (4,7%) | 10,0 (3,5%) |
| Беларусы + украінцы, млн (%) | 28,3 (22,5%) | 54,2 (19,0%) |
| Суадносіны велікаросаў да беларусаў і ўкраінцаў | 2:1 | 2,7:1 |

Гэта меркаванне пацвярджаецца і суадносінамі славянаў да іншых этнічных груп: для Беларусі гэта 30:1, Украіны — 24:1, Расіі 4,8:1 (гл. табліцу 2 на с. 78–79). На самай справе суадносіны славян да іншых этнічных груп у Расіі, улічваючы фактар «руская мова = рускі», мусілі б быць яшчэ меншымі. На тэрыторыі Расіі паступова асімілююцца ці знікаюць цэлыя народы, у асноўным угора-фінскія, на землях якіх і пачыналася Масковія (пры гэтым трэба адзначыць значны прырост народаў Паўночнага Каўказа). Так, паводле апошніх перапісаў 1989, 2002 і 2010 гг. у параўнанні з даваенным часам (перапісы 1926 і 1939 гг.) у некалькі разоў зменшылася колькасць мардвінаў, карэлаў, вепсаў, іжорцаў, няма натуральнага прыросту насельніцтва Чувашыі, Комі, Удмурціі. Без сумневу, русіфікацыя адыграла тут сваю ролю. Трэба адзначыць, што ніхто не прыпамінае ўжо такія плямёны, як мурама, мяшчэра, мера — некаторыя з якіх зліліся з усходнімі славянамі яшчэ ў XI–XII стст. і склалі аснову рускага этнасу.



У той час калі колькасць беларусаў і ўкраінцаў за перыяд з 1897 па 1989 г. павялічылася на 17,3 млн (з 28,3 да 45,6 млн), колькасць рускіх прырасла на 91,7 млн. (з 55,7 да 147,4 млн). Працэнт беларусаў і ўкраінцаў за гэты час значна зменшыўся (з 22,5% да 15,9%), а рускіх нават павялічыўся (з 44,3% да 51,4%), што пры сучаснай тэндэнцыі памяншэння натуральнага прыросту сярод белага насельніцтва толькі падтрымлівае нашы разлікі і меркаванні як аб істотнай асіміляцыі славян са шматлікімі народамі Расіі на працягу некалькіх стагоддзяў, так і аб фармальным залічэнні народаў іншых нацыянальнасцяў, што размаўляюць па-руску, у катэгорыю рускіх. Суадносіны беларусаў і ўкраінцаў між сабой пры тым застаюцца блізкімі.

Можна казаць, што колькасць рускіх-вялікаросаў-славян па паходжанні завышана як мінімум у 2–2,5 раза і з трох усходнеславянскіх краін Расія з'яўляецца найменш славянскай. Некаторыя даследчыкі лічылі, што рускія нават не ёсць славянамі (H. Paszkiewicz, 1970). Прэтэнзіі Расіі іграць ключавую ролю сярод усходніх славян гістарычна неправамоцныя, а яе спробы ў каторы раз падпарадкаваць беларускі і ўкраінскі народы, выкарыстоўваючы ваенныя, эканамічныя і «моўныя» сродкі, нецывілізаваныя і прадыктаваныя імперскімі інтарэсамі.

## Усходнія славяне ўтварылі дзве розныя цывілізацыі — усходнеславянскую беларуска-ўкраінскую і еўразійскую

*Беларусы і ўкраінцы — новыя нацыі ў Еўропе, якія складаюць разам усходнеславянскую беларуска-ўкраінскую цывілізацыю.*

*Сённяшняя вайна паміж Расіяй і Украінай адлюстроўвае істотную розніцу паміж дзвюма цывілізацыямі, усходнеславянскай беларуска-ўкраінскай і еўразійскай, — розніцу як гістарычную, так і сучасную ў выбары шляхоў далейшага развіцця, абумоўленую гістарычнымі, культурнымі і ментальнымі каштоўнасцямі.*

*Табліца 2*

**Кароткая даведка**

| | *Беларусы* | *Украінцы* |
|---|---|---|
| Насельніцтва, доля тытульнай нацыі | 9,5 млн; 83,7% (2009) | 45,5 млн; 77,5% (2001) |
| Доля рускіх у краіне | 8,6% (2009) | 17,2% (2001) |
| Мова (найбольш блізкія славянскія мовы, 84% агульнай лексікі) | Багдановіча, Барадуліна, Быкава, Геніюш, Караткевіча, Коласа, Купалы | Кацюбінскага, Стэфаніка, Кабылянскай, Украінкі, Франко, Шаўчэнкі |
| Колькасць у свеце | 9,5 млн (разлікі аўтара) | 37,5 млн на радзіме (2001) |
| Месца ў Еўропе па насельніцтву | 17-е | 7-е |
| Месца ў Еўропе па тэрыторыі | 13-е (208 000 кв. км) | 1-е (604 000 кв. км) |
| Месца ў свеце па індэксу чалавечага развіцця і ахове здароўя (2014) | 53-е<br>72-е | 83-е<br>79-е |

Беларусь і Украіна маюць вельмі многа агульнага ў сваім гістарычным развіцці. Сучасныя краіны Беларусь і Украіна пачыналіся на тэрыторыі старажытнай дзяржавы Кіеўскай Русі ў час яе росквіту ў X–XI стст. Ядром сучаснай беларускай дзяржавы было Полацкае княства, а ўкраінскай — Валынска-Галіцкае княства. Растова-Суздальскае княства, пачатак сучаснай Расіі, было ўтворана ў 1125 г., гэта значыць на два стагоддзі пазней за дзяржаваўтвараючыя княствы Беларусі і Украіны. Масковія ўзнікла на перыферыі Кіеўскай Русі пасля распаду апошняй, і ўсе намаганні мінулай і сучаснай Расіі даказаць свае прэтэнзіі на Кіеўскую Русь не маюць ніякіх падстаў. Як ужо ўпаміналася вышэй, сучасная Украіна і сёння мае абсалютную перавагу над Масквой у тым, каб называць Кіеў і Кіеўскую Русь сваёй спадчынай.



Значную ролю ў этнанацыянальным размежаванні ўсходніх славян, якое пачалося ў часы Кіеўскай Русі, адыграла дыферэнцыяцыя ўсходнеславянскіх моў. Дыферэнцыяцыі этнасаў і моў спрыяў шэраг фактараў, такіх, як міграцыя і рассяленне, прыродныя ўмовы, асіміляцыя славян з лакальнымі плямёнамі, міжусобныя войны паміж удзельнымі княствамі, якія фактычна прывялі да распаду Кіеўскай Русі. Існаваў шэраг прычын, паводле якіх развіццё ўсходніх славян пасля распаду Кіеўскай Русі пайшло рознымі шляхамі і прывяло на самай справе да фарміравання дзвюх цывілізацый — усходнеславянскай беларуска-ўкраінскай і еўразійскай (расійскай). Гіпотэза аб існаванні ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі была абгрунтавана ў нядаўніх артыкулах (П. Мурзёнак. Ці быў Рурык у Полацку? 2013; П. Мурзёнак. Усходнеславянская беларуска-ўкраінская цывілізацыя, 2013; P. Murzionak, 2015).

Галоўнымі прычынамі ў размежаванні гэтых цывілізацый былі, па-першае, мангола-татарскае нашэсце і, па-другое, утварэнне Вялікага Княства Літоўскага як аб’яднальніка ўсходнеславянскіх зямель. З’яўленне ВКЛ было процівагай Залатой Ардзе, яно спыніла рух манголаў, а ў далейшым і рух на захад еўразійскай цывілізацыі, утворанай у выніку зліцця Масковіі з астаткамі Залатой Арды і з мноствам пазней заваяваных зямель на ўсход, поўнач і поўдзень ад Масквы. Кажучы еўразійская, а не азіяцкая цывілізацыя, маем на ўвазе яе сучаснае геаграфічнае знаходжанне. Хаця па мерках канца XVIII ст. гэта цывілізацыя знаходзілася ў Азіі, бо граніца Еўропы была перанесена на ўсход да Уральскіх гор у часы Кацярыны II. Кацярына II у значнай меры спрыяла таксама стварэнню гісторыі Расійскай імперыі і зацвярджанню міфа аб пераемнасці гісторыі Кіеўскай Русі да Расіі.

Прынцыповае адрозненне ўсходнеславянскай цывілізацыі ад еўразійскай ляжыць у характары ўзаемадзення з манголамі Залатой Арды. Менавіта характар узаемадзеяння з манголамі праводзіць геаграфічную, гістарычную і цывілізацыйную мяжу паміж імі. У табліцы 2 (на с. 78–79) прыведзены шэраг фактараў, якія сведчаць аб істотнай розніцы паміж усходнеславянскай і еўразійскай цывілізацыямі. Гэта працягласць іх існавання,

тэрытарыяльны характар рассялення, асіміляцыя, суадносіны славян (балгары, беларусы, велікаросы, палякі, украінцы) да іншых этнічных груп і суадносіны вернікаў-хрысціян да вернікаў-мусульман. Адным з істотных фактараў, які адрознівае гэтыя цывілізацыі, можна назваць і наяўнасць прызнакаў заходняй цывілізацыі: адраджэнне, рэфармацыя, контррэфармацыя, уніятызацыя, асветніцтва, наяўнасць еўрапейскіх інстытутаў (соймы, магдэбургскае права, ратушы), мадэрнае нацыяўтварэнне (В. Куплевіч, 2013).

Наяўнасць прызнакаў заходняй цывілізацыі сведчыць не толькі аб тым, што гэтыя прызнакі існавалі ў мінулым, але і аб тым, што на тэрыторыі ўсходнеславянскай цывілізацыі сутыкнуліся інтарэсы Усходу і Захаду, барацьба паміж якімі, а дакладней паміж ідэямі будаўніцтва грамадства ў адносінах да свабоды, дэмакратыі, прыватнай уласнасці, ніколі не спынялася. Чым бы ні скончылася ваенная правакацыя і інтэрвенцыя з боку Расіі, відавочна, што яна дэманструе істотны і заканамерны разлом, які назіраецца не толькі паміж Усходам і Захадам, а і паміж дзвюма цывілізацыямі — еўразійскай і ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай. Канфлікт паміж Расіяй і Украінай практычна пацвердзіў існаванне дзвюх цывілізацый. Тое, што гэты канфлікт пакуль не пашырыўся на Беларусь, не азначае, што гэта не можа здарыцца ў будучым. Агрэсіўны настрой Расіі не дазваляе адкінуць гэту думку, калі мець на ўвазе прамую ваенную інтэрвенцыю і прыклад з Украінай. Тое, што эканамічная агрэсія з боку Расіі і падпарадкаванне ёю Беларусі адбываецца рэальна, не падлягае сумневу.

Нягледзячы на створаныя міфы аб трыадзінстве трох народаў і на савецкую спадчыну, падзел усходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый непазбежны, што грунтуецца на рознай гісторыі, культуры і менталітэту народаў, якія ў іх уваходзяць. Канчатковы вынік і лінія падзелу будзе залежаць не толькі ад магутных сіл, якія знаходзяцца з двух бакоў усходнеславянскай цывілізацыі, але і ад імкнення, патэнцыялу і розуму беларускай і ўкраінскай нацый.



## Развіццё дзвюх нацый ва ўмовах рускамоўнага прэсінгу

*Беларуская і ўкраінская нацыі развіваюцца.*

*Гістарычная блізкасць лёсаў абедзвюх нацый і агульная цывілізацыйная прастора вымагаюць ад Беларусі і Украіны дапамагаць адна адной у сваім развіцці.*

Непрадказальныя падзеі, якія адбываюцца на нашых вачах, хвалююць не толькі беларусаў, найбліжэйшых і родных па духу суседзяў Украіны, але і ўсіх людзей, для якіх ідэі свабоды стаяць на першым месцы і не з’яўляюцца прадметам гандлю, ілжы і двайных стандартаў. Здзяйсняецца неверагодная на першы погляд рэч, калі на нядаўнюю сястру Украіну вераломна напала «старэйшая сястра» Расія. Неверагоднасць падзеі заключаецца ў тым, што вайна ідзе паміж народамі, якія яшчэ нядаўна складалі аснову былога СССР. Якія наступствы гэтай вайны чакаць для Беларусі, Украіны і для свету ў цэлым?

Нягледзячы на вельмі трывожную і неадназначную сітуацыю на Украіне, у гістарычнай перспектыве развіццё дзвюх нацый, беларускай і ўкраінскай, трэба разглядаць аптымістычным. У гэтым аптымізме бачацца два аспекты — унутраны і знешні. Унутраны аптымізм вызначаецца гатоўнасцю грамадства Беларусі і Украіны да пераменаў. Што тычыцца ўкраінскага грамадства, то яно дзвюма рэвалюцыямі за апошняе дзесяцігоддзе даказала сваё імкненне рухацца наперад. Што да беларускага грамадства, то выглядае, што яно яшчэ недастаткова падрыхтавана ўвогуле. Тым не менш тэарэтычная верагоднасць пабудовы нацыянальнай дзяржавы ў Беларусі існуе, і яе рэалізацыя ў значнай меры будзе залежаць ад сітуацыі на Украіне (П. Мурзёнак. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. І. Ці магчыма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы? 2013).

Знешні аспект абумоўлены працягам барацьбы паміж Усходам і Захадам. Барацьба паміж Усходам і Захадам, на мяжы якой знаходзяцца і беларуская і ўкраінская дзяржавы, ніколі не прыпынялася. Зараз фронт гэтай барацьбы праходзіць па Украіне, якая можа скончыцца нават падзелам украінскай дзяржавы. Калі б

гэтыя падзеі адбываліся ў цывілізаванай форме, то можна было б прагназаваць збераджэнне статус-кво з паступовым станаўленнем дэмакратычнай Украіны, нягледзячы на тое, што ментальнасць людзей у рэгіёнах Украіны істотна розніцца. Чым далей зацягваецца процістаянне, тым больш варожымі становяцца выказванні; «усходнікі» з Украіны кажуць, што трэба будаваць кітайскую сцяну паміж «дзвюма» ці нават трыма Украінамі. Толькі ў якім месцы яе трэба будаваць, ніхто не ведае. У ходу ідуць псіхалагічныя фактары вайны, знаёмыя з савецкіх часоў: свой — не свой, нашы — ворагі, камуністы — фашысты, сталінцы — бандэраўцы, размаўляеш на роднай мове — не размаўляеш. Відавочна, што без знешняга ўздзеяння ўкраінцы, праз дыялогі, круглыя сталы, дамовіліся б. Але Расія са сваімі меркамі выключнасці ў сваім разуменні свету навязвае свае рабскія правілы жыцця, якія знешне, пад «ветлівай маскай зялёных чалавечкаў», хоча прадставіць як добрыя намеры, пры гэтым не пытаючыся ў гаспадароў дома, куды яны брутальна ўварваліся. Безумоўна, усе гэтыя развагі ў поўнай меры адносяцца да Беларусі. Нават калі ўявіць, што кіраўніка дзяржавы звядуць «ветлівыя зялёныя чалавечкі», то трэба ўсведамляць, што ўся сённяшняя структура і тэрыторыя Беларусі ў значнай ступені знаходзіцца пад ваенным кантролем Расіі. Верагодней за ўсё, што другой партызанскай вайны беларусы не прымуць і не вытрываюць. Дадайце сюды нядаўна апублікаваны спіс 19 прарасійскіх арганізацый «пятай калоны» ў Беларусі (І. Лялькоў, 2014). Ніхто не адмаўляе права на існаванне арганізацый, створаных нацыянальнымі меншасцямі. Але гэта зноў жа пры ўмове іх дзейнасці ў цывілізаваных умовах. Няма ніякіх гарантый, што пры падтрымцы грознага суседа ўсе яны дружна не выйдуць дапамагаць «зялёным чалавечкам» выбіраць губернатара «Северо-Западного края».

Такім чынам, умовы для будаўніцтва беларускай нацыі, на фоне агрэсіі Расіі ў адносінах да Украіны, значна пагоршыліся. Пры гэтым трэба мець на ўвазе ўплыў рускай мовы, які праяўляецца як знутры, так і звонку. Значная частка насельніцтва Беларусі і Украіны карыстаецца дома рускай мовай (каля 70% і 40–60% адпаведна). Дадайце сюды знешнія сродкі расійскай



масавай інфармацыі (тэлебачанне, радыё, зоркі расійскай эстрады), каб уявіць прэсінг, скіраваны на «ўніфікацыю» беларускага і ўкраінскага народаў і знішчэнне іх самабытнасці. Як прыведзена ў папярэднім раздзеле, такі прэсінг прыводзіць да знікнення ці паступовага вымірання цэлых народаў. Вядома, гэта не адбываецца аднамомантна і займае цэлыя стагоддзі. Вось чаму, каб спыніць знікненне беларускай і ўкраінскай нацый, патрэбна рабіць неадкладныя высілкі.

Нядаўняя заява кіраўніка дзяржавы, прыведзеная ніжэй, нічога не вартая і разлічана невядома на каго: «Вялікая руская мова будзе развівацца ў Беларусі, таксама як і наша родная беларуская мова. Калі мы перастанем гаварыць па-руску, мы страцім розум. Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй» («Наша Ніва», 22 красавіка 2014 г.). Каб жа гэта было сказана 20 год таму назад, калі гэты кіраўнік прыйшоў да ўлады, і каб нешта рабілася ў гэтым кірунку ў адпаведнасці з гэтым выказваннем! Аднак мы памятаем зусім іншыя словы кіраўніка з таго часу: «*Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут ничего делать, кроме как разговаривать на нём, потому что по-белорусски нельзя выразить ничего великого. Белорусский язык — бедный язык. В мире существует только два великих языка — русский и английский*» («Народная газета», 1 лютага 1995 г.). Значная эканамічная залежнасць і размяшчэнне расійскіх войскаў на беларускай зямлі — вось што характарызуе сёння стан краіны. Гэта азначае, што за 20 год Беларусь, знішчаючы лепшае беларускае, дабілася суверэнітэту пад пратэктаратам Масквы. Гэтакі Беларусістан.

Дарэмна кіраўнік Беларусі цешыцца, што амаль усе беларусы размаўляюць па-руску і таму не варта баяцца расійскай агрэсіі, як гэта адбываецца ў адносінах да Украіны. Але ж менавіта рускамоўнасць і была адным з матываў агрэсіі на Украіне. Відавочна, што небяспека для ўсходнеславянскай цывілізацыі і для беларускай і ўкраінскай нацый ідзе з Усходу, а не з Захаду. Каля 1,4 млн беларусаў (з агульнай колькасці жыхароў у 2,9 млн) загінулі толькі ў войнах з Масковіяй (1654–1657), у 30–40-я гады мінулага стагоддзя знішчана большая частка беларускай эліты.

Ці можна перакрыць страты ў мінулым горам і стратамі апошняй вайны, якую толькі і помняць у Беларусі? Справа не ў супрацьпастаўленні беларускага і ўкраінскага народаў і народаў РФ, а ў тым, каб яны мелі магчымасць жыць у свабодных краінах і паважалі выбар сваіх суседзяў.

Відаць, планы ў кіраўніка дзяржавы не скіраваны на нацыянальнае будаўніцтва, бо, як выглядала (не першы раз) у нядаўнім інтэрв'ю з Ксеніяй Сабчак (май 2014 г.), кіраўнік усё яшчэ не бачыць нацыянальнай ідэі з-пад «шапкі Манамаха (адзін раз ужо крадзенай)». Хацелася б, каб за фразамі аб мове і нацыі была не толькі вымушаная рыторыка, але і рэальныя дзеянні. Пакуль што Беларусь падпісаннем дамовы аб Еўразійскім саюзе лезе ў пашчу дракону, якому патрэбны новыя і новыя ахвяры.

Тым не менш не варта траціць надзею. Гісторыя развіваецца пастулова. Імперыя адступае і агрызаецца. Вырвацца з расійскага і савецкага палону вельмі цяжка. Людзі, што змагаюцца за сапраўдны суверэнітэт, без разбору ганьбяцца, празываюцца на Украіне бандэраўцамі, на Беларусі — бэнээфаўцамі ці фашыстамі. Замест стваральнай працы па паляпшэнні жыцця народаў Расійскай Федэрацыі працягваюцца гульні «ў рускіх і немцаў альбо нашых і ворагаў» у выглядзе беларуска-расійскіх вайсковых вучэнняў, рэалізуецца новая форма захопніцкай вайны, названая гібрыднай, на Украіне, зноў будуецца «Берлінская сцяна».

Расія сваёй агрэсіяй у адносінах да Украіны паказала свой еўразійскі твар. Відавочна, што гэта агрэсія надоўга паставіць крыж на ўтварэнні «славянскіх» саюзаў. У нармальных умовах «Славянскія базары» патрэбны для развіцця дружбы паміж народамі, але калі яны становяцца інструментамі ў палітыцы, то ўрэшце яны ператвараюцца ў сцэну для пошукаў ворагаў ці прыхільнікаў, як гэта адбываецца на конкурсах Еўрабачання ці як гэта адбывалася ў перыяд халоднай вайны. Апошняя вайна скончылася 70 гадоў таму назад. Як быццам жывём у мірны перыяд. Аднак успомнім, колькі спробаў было ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе здабыць свабоду ў краінах, што знаходзіліся пад акупацыяй СССР: ГДР (1953), Венгрыя (1956), Польшча (1956), Чэхаславакія (1967) — усе яны былі брутальна падаўлены. Для многіх са згаданых вышэй краін сітуацыя кардынальна памянялася. Аднак імперскія напады не спыніліся: аб'яўленне незалежнасці Чачні ад Расіі ў 1991 г. скончыліся дзвюма крывапралітнымі войнамі і чарговым заваяваннем Чачні (1994–1996, 1999–2009), толькі ўмяшанне заходніх краін спыніла захоп Грузіі Расіяй (2008). І вось зараз Украіна (2014).



Каб апраўдаць сваю агрэсіўнасць, у Расіі прыдумваюць прыгожыя тэрміны, такія, як «принуждение к дружбе» (Грузія, 2008), «вежливые люди», «зелёные человечки» і «защита прав русскоязычных» (Украіна, 2014). Не выключана, што расійская агрэсія можа не скончыцца толькі захопам Крыма і ўсходніх рэгіёнаў Украіны. Хвалююцца балгары, пагражаюць румынам, латышам, эстонцам — народам, якія спазналі ГУЛАГі і ўсе любаты рабскага стану. Менавіта гэтыя краіны, якія знаходзяцца бліжэй да Расіі, трубяць на ўвесь свет аб пагрозе для свабоды і дэмакратыі, у адрозненне ад заходніх краін, якія пакрысе толькі пачынаюць разумець, што адбываецца і што ім пагражае.

Відавочна, што для таго, каб адбіцца ад агрэсіўнага суседа, патрэбна дапамога. Гэта не значыць, што Украіна і Беларусь павінны адразу ўступіць у НАТА. Саюзнікі патрэбны для таго, каб стварыць умовы для дэмакратычнага развіцця краін, якія да гэтага імкнуцца. Здаецца, такое разуменне пачынае ўзнікаць на Захадзе, за выключэннем некаторых правых (Ле Пэн, Францыя), якія па нейкіх прычынах падтрымліваюць ідэі Пуціна аб «федэралізацыі» Украіны. Цікава было б пабачыць, як бы французскія правыя адказвалі на прапановы Вялікабрытаніі аб федэралізацыі Францыі, да прыкладу, даць максімум федэральнай самастойнасці Брэтані ці Гасконі… Відавочна, што «правыя французы» хуценька б страцілі свае 26% на выбарах у Еўрапарламент-2014.

Але якой бы ні была падтрымка з Захаду, Беларусі і Украіне трэба быць разам і працаваць разам. Улічваючы гістарычную блізкасць лёсаў абедзвюх краін і агульную цывілізацыйную прастору, роля Беларусі ў абароне інтарэсаў Украіны магла б быць значна большай. Аднак кіраўніцтва Беларусі заняло больш чым нейтральную пазіцыю, каля меркаваць па галасаванні су-

праць рэзалюцыі ААН, якая асуджала агрэсію Расіі ў адносінах да Украіны; *de facto* Беларусь прызнала анексію Крыма Расіяй. Падтрымка Беларусі з Украіны пасля перамогі рэвалюцыі будзе таксама найважнейшай. Сітуацыя будзе паляпшацца для абедзвюх краін — гэта паступовы і непазбежны працэс.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 6, чэрвень 2014 г., с. 7–24.*

## Summary

***Piotra Murzionak. «Russian Language Against Nationalism of Belarusians and Ukranians» (magazine «SAKAVIK: CULTURE, NATION», June 2014, issue 6, pp. 7–24)***

The Russian language, along with military means, is used as a motive and a tool of aggression in Ukraine. There is a considerable increase in the everyday use of the Russian language in Ukraine and Belarus, as well as external linguistic, cultural, economic and military pressure of Russia. How is the development of nation-states in these conditions being seen? This paper discusses the definition of the Russian language versus the word «russian=русский (by nationality)», slavyanskasts (belonging to Slavs) of the Russian ethnic group, the difference between the East Slavic and Eurasian civilizations, as well as the prospects of the development of the Belarusian and Ukrainian nations under Russian dominance.

# КОЛЬКІ БЕЛАРУСАЎ ЖЫВЕ Ў ЦЭЛЫМ СВЕЦЕ

Мэтай гэтага даследавання было вызначыць колькасць беларусаў у далёкім замежжы і ў цэлым свеце.

## Колькасць беларусаў у краіне і ў блізкім замежжы

Па нашых падліках, у блізкім замежжы жыве каля 1,1 млн беларусаў (П. Мурзёнак. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. II. Адносіны з суседзямі, 2013). Паводле перапісу 1989 г., у СССР пражывала 2,05 млн беларусаў, г. зн. за 20 апошніх год колькасць беларусаў у блізкім замежжы зменшылася ў два разы. Прычынамі гэтаму былі як адмоўны натуральны прырост (характэрны для краін з пераважна белым насельніцтвам), так і вяртанне на радзіму ці міграцыя ў далёкае замежжа. Сведчаннем вяртання беларусаў на радзіму з'яўляюцца звесткі аб зменах колькасці насельніцтва ў самой Беларусі: так, за 20 год (1989–2009) колькасць рускіх скарацілася на 557 тыс., украінцаў — на 132 тыс., палякаў — на 123 тыс., яўрэяў — на 99 тыс.; тым не менш колькасць беларусаў за гэты час не зменшылася, і нават крыху павялічылася, з 7,9 млн у 1989 г. да 8,0 млн у 2009 г.

Па звестках Белстата (A. Bobrova et al., 2012), у Беларусь у 1991–2009 гг. прыехалі 718 тыс. чалавек, а выехалі 463 тыс., г. зн. прырост склаў каля 255 тыс. чалавек. Вынікам гэтых міграцыйных працэсаў стала павышэнне долі этнічных беларусаў у краіне з 77,9% (1989) да 83,7% (2009), пры змяншэнні агульнай колькасці насельніцтва з 10,2 млн да 9,5 млн адпаведна. Падобныя працэсы назіраліся і на Украіне, доля ўкраінцаў складала 72,5% у 1989 г. і 77,8% у 2001 г. (па выніках апошняга перапісу), пры змяншэнні агульнай колькасці насельніцтва з 51,5 млн да

48,4 млн адпаведна. Для параўнання, колькасць рускіх у Расіі за гэты ж перыяд зменшылася са 119,9 млн (1989) да 111 млн (2010) (81,5% і 80,9% ад агульнай колькасці насельніцтва ў 147,3 млн і 142,8 млн адпаведна).

## Разлікі колькасці беларусаў у далёкім замежжы

Дакладных звестак аб колькасці беларусаў у далёкім замежжы няма. Як упаміналася вышэй, па афіцыйных звестках, з Беларусі выехалі ў 1991–2009 гг. 463 тыс. чалавек, аднак дакладных лічбаў аб тым, хто яны былі па этнічнай прыналежнасці і ў якія краіны падаліся, знайсці не ўдалося. Паводле дадзеных Беларускага інстытута навукі і мастацтваў (ЗША), у канцы другога тысячагоддзя ў ЗША магло пражываць каля 600–650 тыс. беларусаў па паходжанню (V. Kipel). Аднак паколькі частка беларусаў старой эміграцыі запісвалася ў палякі, расейцы, другая асімілявалася з жыхарамі краіны пражывання, то колькасць і этнічнае паходжанне іх нашчадкаў у далёкім замежжы вызначыць вельмі складана. На сайце Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» падаецца інфармацыя аб тым, што ў канцы ХХ — пачатку XXI ст. па-за межамі Беларусі, г. зн. у далёкім і блізкім замежжы, жыло каля 3,5 млн чалавек. Аднак, на маю думку, гэтыя лічбы завышаныя, калі ўлічыць прыведзеныя вышэй звесткі аб колькасці беларусаў у блізкім замежжы, 1,1 млн чалавек; відавочна, што ў далёкім замежжы іх павінна быць меней.

Мы правялі разлікі колькасці беларусаў у далёкім замежжы на падставе даступнай статыстычнай інфармацыі ў некаторых краінах і перанеслі затым гэтыя разлікі на тыя краіны, дзе тэарэтычна можа пражываць большасць беларусаў-мігрантаў. Відавочна, што гэтыя разлікі дастаткова прыблізныя і, магчыма, не ўлічваюць дынаміку і іншыя аспекты працэсаў міграцыі, аднак для чытачоў і, магчыма, для спецыялістаў гэта можа быць цікавай і карыснай інфармацыяй.

Для падлікаў выкарыстана наступная методыка: колькасць беларусаў на год перапісу пералічвалася на 10 млн насельніцтва краіны (ЗША, Канада, Чэхія), а затым атрыманыя лічбы пералічваліся на колькасць насельніцтва ў краінах свету, у якіх з найбольшай верагоднасцю маглі б жыць беларусы (табліца). У спіс краін свету ўключаны: Аргенціна (40,1 млн жыхароў паводле апошняга перапісу), Аўстралія (23,3 млн), ЗША (317,4 млн), краіны Еўропы (594,2 млн), Ізраіль (8,1 млн), Канада (35,3 млн), Новая Зеландыя (4,5 млн), з агульнай колькасцю жыхароў у 2013 г. каля 1 млрд 23 млн (у 2000 г. у гэтых жа краінах налічвалася каля 960 млн жыхароў).



*Табліца*

***Разлікі колькасці беларусаў у далёкім замежжы***

| *Краіна* | *Колькасць жыхароў* | *Колькасць беларусаў у краіне* | *Пералік на 10 млн насельніцтва краіны пражывання* | *Пералік на колькасць насельніцтва ва ўсіх краінах магчымага пражывання* |
|---|---|---|---|---|
| ЗША (2000) | 281 421 906 | 38 000 | 1350 | 129 735 |
| Канада* | | | | |
| 1991 | 27 945 000 | 2830 | 1013 | 91 143 |
| 2001 | 31 021 000 | 5110 | 1647 | 158 277 |
| 2006 | 32 723 000 | 10 505 | 3210 | 288 925 |
| 2011 | 34 342 800 | 15 615 | 4547 | 465 158 |
| Чэхія (2012) | 10 516 125 | больш за 4000 | 4000 | 409 200 |

* Статыстычныя звесткі па Канадзе паводле перапісаў: National Household Survey, 1991, 2001, 2006, 2011. Canada.

Як бачна з табліцы, колькасць беларусаў у свеце ў 2000–2001 гг., паводле разлікаў, зробленых для ЗША і Канады, магла складаць прыблізна ад 130 да 160 тысяч. Паводле афіцыйных перапісаў, у ЗША пражывала ў 2000 г. 38 000 беларусаў (U.S. Census, 2000), у Канадзе ў 2001 г. — 5110. За 10 наступных год колькасць беларусаў у Канадзе вырасла да 15 615 чалавек (National Household Survey, 2011). Пералік, зроблены на падставе колькасці беларусаў у Канадзе ў 2011 г., дае колькасць беларусаў у свеце каля 465 тыс. Гэтыя лічбы супадаюць з разлікамі па Чэхіі — каля 409 тыс. Паводле ацэнак Міністэрства ўнутраных спраў, у Чэхіі налічваецца крыху больш за 4 тыс. беларусаў. Трэцяга ліпеня 2013 г. беларусы ў Чэхіі афіцыйна прызнаныя нацыянальнай меншасцю. Паводле неафіцыйных звестак, у Чэхіі налічваецца 2 тыс. беларусаў з чэшскімі пашпартамі і яшчэ 5 тыс. — без грамадзянства гэтай краіны (K. Kascian, 29 лістапада 2013, Polskie Radio dla zahranicy). Трэба адзначыць, што і Канада, і Чэхія па сваёй міграцыйнай палітыцы — гэта, бадай, найбольш спрыяльныя краіны для міграцыі беларусаў.

Такім чынам, базуючыся на нашых разліках, можна зрабіць наступныя высновы:

- у далёкім замежжы можа пражываць каля 400–500 тыс. этнічных беларусаў;
- улічваючы, што на радзіме пражывае 7,9 млн беларусаў, у блізкім замежжы — 1,1 млн, у далёкім замежжы — 0,4–0,5 млн, то ў свеце ёсць каля 9,5 мільёнаў этнічных беларусаў;
- беларусы далёкага і блізкага замежжа разам (1,5–1,6 млн) складаюць прыблізна шостую частку (каля 16%) ад агульнай колькасці беларусаў у свеце.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе*
*«САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»,*
*№ 6, чэрвень 2014 г., с. 25–29.*



## Summary

***Piotra Murzionak. «How Many Belarusians Live Around the World» (magazine «CULTURE, NATION», June 2014, issue 6, pp. 25–29)***

Based on our evaluation, it is estimated that:

About 400,000–500,000 Belarusians live in the far abroad.

Given that 7,9 millions Belarusians live in the country, 1,1 million in the near abroad, and 0,4–0,5 million in the far abroad, it results in about 9,5 million ethnic Belarusians in the whole world.

Belarusians living in other countries (1,5–1,6 million) constitute approximately one sixth (about 16%) of the total number of Belarusians in the world.

# МІГРАЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДУ Ў ПАРАЎНАННІ З КРАІНАМІ-СУСЕДЗЯМІ

*У артыкуле паказана дынаміка зменаў колькасці беларусаў у Канадзе ў 1981–2011 гг. у параўнанні з выхадцамі з краін-суседзяў — Латвіі, Літвы, Эстоніі, Польшчы, Украіны і Расіі. Пры падрыхтоўцы артыкула выкарыстаны звесткі перапісаў насельніцтва Канады (1981, 1986, 1991, 1996, 2001, 2006, 2011).*

Напачатку прыводзім звесткі аб зменах колькасці мігрантаў у Канадзе за перыяд пасля распаду Савецкага Саюза, з 1991 па 2011 г. (табліца 1). Найбольш інтэнсіўным быў адносны прырост беларусаў (+12 735 чалавек; прырост у 5,5 раза) і расіян (+391 670 чалавек; 3,5 раза) і менш інтэнсіўным — літоўцаў (+16 620, або +51%), палякаў (+269 985, +36%), латышоў (+6910, або +34%), украінцаў (+196 870, або +19%) і эстонцаў (+1930 чалавек, або +9%). Прырост насельніцтва Канады склаў за гэты час 6 397 800 (+22,9%).

Параўноўваючы прырост колькасці мігрантаў у Канадзе адносна колькасці насельніцтва краіны-паходжання за 20 год, відавочна, што сярод краін-суседзяў беларусы найменей актыўныя ў міграцыйным плане, 134 чалавекі на 100 000 насельніцтва Беларусі. Найбольш актыўнымі былі палякі, 705 чалавек на 100 000 насельніцтва Польшчы (табліца 1). Аднак трэба ўлічваць, што павелічэнне колькасці беларусаў магло ісці і за кошт натуральнага прыросту, таму гэтыя разлікі не ў поўнай меры адлюстроўваюць толькі сам міграцыйны працэс. Такім чынам, можна канстатаваць, што беларусы ў параўнанні са сваімі суседзямі найбольш кансерватыўныя ў імкненні міграваць за межы краіны. Чым гэта можа быць абумоўлена? Любоўю да сваёй зямлі, патрыятызмам, сацыяльнымі фактарамі, неінфармаванасцю? Адназначнага адказу на гэта пытанне няма, але калі казаць пра будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, то безумоўна, што гэта



пазітыўная з’ява. Можна меркаваць, што пры адпаведных у краіне ўмовах эміграцыя беларусаў магла б быць яшчэ меншай.

*Табліца 1*

***Адносная колькасць мігрантаў з Беларусі і краін-суседзяў***

| *Краіна* | *Колькасць мігрантаў у Канадзе* | | | *Насельніцтва краіны паходжання, млн* | *Колькасць эмігрантаў на 100 000 насельніцтва краіны паходжання* |
|---|---|---|---|---|---|
| | *1991* | *2011* | *Прырост за 20 год* | | |
| Беларусь | 2830 | 15 565 | 12 735 (+550%) | 9,5 (2009) | 134 |
| Латвія | 20 445 | 27 355 | 6910 (+34%) | 2,1 (2011) | 329 |
| Літва | 32 515 | 49 135 | 16 620 (+51%) | 3,0 (2011) | 554 |
| Польшча | 740 715 | 1 010 700 | 269 985 (+36%) | 38,3 (2012) | 705 |
| Расія | 158 850 | 550 520 | 391 670 (+350%) | 143 (2011) | 274 |
| Украіна | 1 054 295 | 1 251 165 | 196 870 (+19%) | 45,6 (2012) | 432 |
| Эстонія | 21 255 | 23 185 | 1930 (+9%) | 1,3 (2011) | 148 |

На дыяграмах 1–7 паказана дынаміка зменаў колькасці беларусаў і прадстаўнікоў краін-суседзяў у Канадзе ў 1981–2011 гг.; кожны слупок уключае людзей, якія давалі адзіны адказ на пытанне аб этнічнай прыналежнасці, напрыклад беларус, ці некалькі адказаў, напрыклад беларус і літовец (заўвага: у 1981 г. было толькі адно пытанне аб этнічнай прыналежнасці). З дыяграм бачна, што характар і якасны склад мігрантаў быў розным. Прырост беларусаў і расіян ішоў як за кошт людзей, якія давалі адзіны адказ аб сваёй этнічнай прыналежнасці (беларус, рускі), так і за кошт людзей, якія на пытанне аб этнічнай прыналежнасці























давалі некалькі адказаў (дыяграмы 1, 5). У той жа час доля мігрантаў эстонцаў, латышоў, літоўцаў і ўкраінцаў з адным адказам значна паменшылася за гэты перыяд, што пры адносна невялікім абсалютным прыросце можа сведчыць аб змяншэнні долі старой эміграцыі і аб асіміляцыі з насельніцтвам Канады (дыяграмы 2–4, 7). Трэба адзначыць таксама значны прырост колькасці палякаў, які назіраўся паміж 1986 і 1991 гг. (дыяграма 6).



На пытанне «Якой мовай вы карыстаецеся дома?» (Канада, перапіс 2011 г.) толькі 3,7% беларусаў далі адказ «беларуская» (дыяграма 8). Гэтыя лічбы адпавядаюць стану ўжывання роднай мовы ў Беларусі (І. Карней, 2013). Толькі крыху лепш была справа з матчынай мовай ва ўкраінцаў (9,6%); найбольшы працэнт адзначаны для людзей, якія карысталіся дома рускай мовай (30,9%). Трэба адзначыць, што прадстаўленыя лічбы адлюстроўваюць перш за ўсё становішча ў Канадзе, а не на радзіме; многія эмігранты прымаюць правілы жыцця краіны-пражывання, Канады, асімілюючыся і нават адмаўляючыся ад сваіх вытокаў.




Беларусы ў значнай большасці, 95%, пражываюць у чатырох правінцыях Канады (2011): Антарыё (8785; 56%), Брытанская Калумбія (2135), Альберта (1965) і Квебек (1895) (табліца 2). 40% беларусаў пражывае ў Таронта (табліца 3). У табліцы 2 і 3 уключаны звесткі пра мігрантаў з іншых краін Усходняй Еўропы.

*Табліца 2*

***Колькасць мігрантаў з Усходняй Еўропы ў некаторых правінцыях Канады, паводле перапісу 2011 г.***

| | *Ontario* | *Alberta* | *BC* | *Quebec* |
|---|---|---|---|---|
| Eastern European origins | 1 219 960 | 638 385 | 515 665 | 206 360 |
| Bulgarian | 15 500 | 2300 | 3195 | 8520 |
| Беларусы | 8785 | 1965 | 2135 | 1895 |
| Czech | 39 800 | 18 910 | 19 570 | 5675 |
| Czechoslovakian, n.o.s. | 14 380 | 9470 | 7860 | 1960 |
| Estonian | 14 770 | 2860 | 3855 | 755 |
| Hungarian | 148 960 | 52 025 | 51 025 | 22 955 |
| Latvian | 16 320 | 2985 | 4115 | 1730 |
| Lithuanian | 29 315 | 5310 | 5735 | 5155 |
| Moldovan | 2645 | 690 | 735 | 3775 |
| Polish | 475 565 | 174 380 | 133 505 | 65 445 |
| Romanian | 85 115 | 29 425 | 28 330 | 41 605 |
| Russian | 186 940 | 99 780 | 120 835 | 45 115 |
| Slovak | 38 240 | 10 085 | 9950 | 4115 |
| Ukrainian | 342 005 | 345 410 | 203 585 | 32 265 |



*Табліца 3*

***Колькасць мігрантаў з Усходняй Еўропы ў некаторых гарадах Канады, па перапісу 2011 г.***

| | *Toronto* | *Edmonton* | *Vancouver* | *Calgary* | *Winnipeg* | *Montreal* | *Ottawa-Gatineau* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Eastern European origins | 541 280 | 236 300 | 230 615 | 183 545 | 176 295 | 175 545 | 83 670 |
| Bulgarian | 10 560 | 815 | 2305 | 1105 | 165 | 7510 | 1670 |
| Беларусы | 6215 | 700 | 1420 | 980 | 405 | 1645 | 995 |
| Czech | 15 220 | 5320 | 9790 | 6755 | 2915 | 4585 | 4130 |
| Czechoslovakian, n.o.s. | 4570 | 2620 | 2760 | 2405 | 1595 | 1485 | 875 |
| Estonian | 7880 | 840 | 2095 | 985 | 285 | 625 | 760 |
| Hungarian | 56 045 | 13 160 | 23 455 | 19 990 | 6635 | 19 440 | 8135 |
| Latvian | 8690 | 1005 | 1980 | 1020 | 725 | 1485 | 1115 |
| Lithuanian | 15 590 | 1900 | 2980 | 2035 | 1140 | 4425 | 1950 |
| Moldovan | 2100 | 105 | 540 | 450 | 70 | 3685 | 200 |
| Polish | 214 460 | 68 850 | 63 645 | 50 905 | 58 440 | 53 490 | 31 920 |
| Romanian | 41 165 | 9460 | 15 555 | 10 645 | 3715 | 38 080 | 6270 |
| Russian | 118 090 | 26 055 | 51 510 | 34 245 | 25 420 | 40 765 | 13 645 |
| Slovak | 13 840 | 2670 | 6155 | 3940 | 1295 | 3230 | 2525 |
| Ukrainian | 130 355 | 148 160 | 84 640 | 81 660 | 115 230 | 26 695 | 23 885 |

## Заключэнне

Колькасць беларусаў у Канадзе ў 2011 г. у параўнанні з 1991 г. вырасла у 5,5 раза, з 2830 да 15 565 чалавек. У 2011 г. 95% беларусаў пражывала ў чатырох правінцыях Канады: Антарыё (8785; 56%), Брытанская Калумбія (2135), Альберта (1965), і Квебек (1895). 40% беларусаў пражывала ў Таронта (6215). Адносны прырост колькасці людзей з Беларусі ў Канадзе за перыяд з 1991 па 2011 г., у параўнанні з суседзямі, найменшы (134 чалавекі на 100 000 жыхароў Беларусі; Эстонія — 148, Расія — 274, Латвія — 329, Украіна — 432, Літва — 554, Польшча — 705). Базуючыся на звестках па Канадзе, можна меркаваць, што беларусы даволі кансерватыўныя ў сваіх міграцыйных памкненнях.

Доля беларусаў у Канадзе, якія ўжываюць родную мову дома, невялікая (3,9%) і адлюстроўвае сітуацыю з Мовай на радзіме (для параўнання: украінцы — 9,6%, літоўцы — 15,5%, палякі —19,9%, латышы — 23,6%, рускія — 30,9%).

*Артыкул апублікаваны ў часопісе*
*«САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»,*
*№ 6, чэрвень 2014 г., с. 30–39.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Migration of Belarusians to Canada in Comparison with Neighboring Countries» (magazine «CULTURE, NATION», June 2014, issue 6, pp. 30–39)***

The population of Belarusians in Canada in 2011 has increased 5,5 times compared to 1991, from 2,830 to 15,565 people.

In 2011, 95% of Belarusians lived in four Canadian provinces: Ontario (8,785 or 56%), British Columbia (2,135), Alberta (1,965), and Quebec (1,895). 40% of Belarusians live in Toronto (6,215).

Relative increase in the number of migrants from Belarus to Canada from 1991 to 2011 was the smallest compared to the rates of immigration from neighbouring countries (Belarus: 134 migrants per 100,000 of population, Estonia — 148, Russia — 274, Latvia — 329, Ukraine — 432 Lithuania — 554, Poland — 705). By assessing the numbers above, we can assume that Belarusians



are quite conservative in their migration aspirations compared to the neighbour countries.

The proportion of Belarusians in Canada who speak their native language at home is quite small (3,9%) and reflects the language situation in the homeland (for comparison: speak at home Ukrainians — 9,6%, Lithuanians — 15,5%, Poles — 19,9%, Latvians — 23,6%, Russians — 30,9%).

# НАСТУПНЫ ПЕРЫЯД РАЗВІЦЦЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ БУДЗЕ СПРЫЯЛЬНЫМ

Рэалізацыя нацыянальнай ідэі за апошнія сто гадоў зазнала ў Беларусі спрыяльныя і неспрыяльныя перыяды, якія паслядоўна змянялі адзін аднаго. Пры гэтым трэба адзначыць, што спрыяльныя перыяды прыпадаюць на той час, калі Беларусь па розных прычынах знаходзілася ў адносна меншай залежнасці ад Расіі (табліца). Апошні спрыяльны перыяд (1991–1996) прыпаў на кароткі час непасрэдна пасля развалу Савецкага Саюза. Аднак далей настаў і зараз працягваецца неспрыяльны перыяд — заявы ўрада аб крышталізацыі нацыянальнай ідэі, якія засталіся дэкларатыўнымі, тактычныя ваганні ўрада паміж Расіяй і Захадам і прыярытэты, аддадзеныя падтрымцы панславянскай і еўразійскай ідэям, вядуць да стратэгічнай здрады нацыянальнай ідэі. Нядаўна кіраўнік дзяржавы, праз 20 год кіравання краінай, нарэшце заявіў, што яму падавалі ледзь не дваццаць розных праектаў нацыянальнай ідэі і ён не здолеў выбраць сярод іх ні аднаго.

Калі аглянуцца ў мінулае, то можна адзначыць некалькі спрыяльных перыядаў для рэалізацыі нацыянальнай ідэі. І хоць гэтыя перыяды былі непрацяглымі, аднак як падчас іх, так і ў неспрыяльныя перыяды заўжды знаходзіліся нацыянальныя сілы — нацыяналісты, якія працягвалі змагацца за нацыянальную ідэю. Такія людзі ўпершыню з’явіліся ў канцы XIX і пачатку XX ст. і падрыхтавалі глебу для таго, каб пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі усталявалася беларуская дзяржаўнасць — важнейшы набытак беларускага народа ў XX ст. (Kipel V., Kipel Z., 1988, с. 303–367). Рэвалюцыя прынесла надзею многім народам расійскіх ускраін на нацыянальнае будаўніцтва. Народы, якія былі непрацяглы гістарычны час пад расійскай акупацыяй, —



беларускі (амаль 120 гадоў), украінскі (120–160 гадоў), грузінскі (каля 120 гадоў) — аб’явілі аб утварэнні сваіх незалежных дзяржаў: Беларуская Народная Рэспубліка (1918), Грузінская Дэмакратычная Рэспубліка (1918–1921), Украінская Народная Рэспубліка (1918). Відавочна, што рух гэтых і іншых народаў да свабоды выліўся ў тое, што бальшавікі вымушаны былі займацца нацыянальнай палітыкай і замест расійскіх губерняў утварылі нацыянальныя рэспублікі, вобласці, акругі. І хаця гэтым краінам не ўдалося канчаткова вырвацца з абдымкаў Расіі і ўтварыць сапраўды незалежныя дзяржавы, як гэта, да прыкладу, зрабілі палякі пад кіраўніцтвам Пілсудскага, але гэта дазволіла ім зрабіць яшчэ адзін важны крок у гісторыі нацыянальнага будаўніцтва.

*Табліца*

***Спрыяльныя і неспрыяльныя перыяды нацыянальнага будаўніцтва****

| *Перыяд* | *Спрыяльны Неспрыяльны* | *Характарыстыка* | *Знешнія фактары* |
|---|---|---|---|
| 1918–1930 | Спрыяльны | Утварэнне БНР, БССР, Слуцкае паўстанне, развіццё нацыянальных сіл (уключна з Заходняй Беларуссю, як супраціў палякам) | Рэвалюцыя, грамадзянская вайна, новая эканамічная палітыка, польская акупацыя |
| 1930–1941 | Неспрыяльны | Сталінскія рэпрэсіі 30-х гадоў ва Усходняй Беларусі і прыцясненні палякамі ў Заходняй Беларусі | Ідэі сусветнай рэвалюцыі, Камінтэрн, калектывізацыя |

* Тут і далей пад нацыянальным будаўніцтвам разумеецца будаўніцтва нацыі, у падмурку якога ляжаць ідэі этнічнага нацыяналізму, дастасаванага да сучасных поглядаў грамадства на развіццё нацыі, і ў першую чаргу да такіх, як павага да правоў нацыянальных меншасцей і рэлігійная талерантнасць.

*Заканчэнне табліцы*

| *Перыяд* | *Спрыяльны Неспрыяльны* | *Характарыстыка* | *Знешнія фактары* |
|---|---|---|---|
| 1941–1944 | Пераважна спрыяльны | Развіццё школьніцтва, утварэнне беларускай адміністрацыі, СБМ, БАК | Нямецкая акупацыя, прыкметы грамадзянскай вайны паміж беларускімі нацыяналістамі і савецкімі партызанамі, беларусамі і палякамі з Арміі Краёвай |
| 1944–1990 | Неспрыяльны | Паступовае замяшчэнне беларускага і нацыянальнага савецкім і інтэрнацыянальным | Пасляваеннае аднаўленне, пачатак халоднай вайны, умацаванне сацыялістычнага лагера |
| 1991–1995 | Спрыяльны | Адраджэнне | Развал СССР і сацыялістычнага лагера |
| 1995 — да цяперашняга часу | Неспрыяльны | Працяг этнацыду беларусаў на карысць панславянскіх і еўразійскіх ідэй | Утварэнне новых саюзаў на тэрыторыі СНД: Мытны саюз, ЕЭС, АДКБ; войны Расіі з Чачнёй, Грузіяй, Украінай |
| наступны | Спрыяльны | Адраджэнне нацыянальнай ідэі | Працяг буданіцтва ўкраінскай нацыі. Змены адносін да будаўніцтва нацыі ў беларускім кіраўніцтве? Змяншэнне расійскага ўплыву? |



Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь, заснаваная бальшавікамі ў студзені 1919 г., з 1922 г. уваходзіла ў склад СССР і фактычна мела толькі фармальную незалежнасць. Дастаткова заўважыць, што сярод 18 чалавек, што складалі першы беларускі ўрад, было толькі сем беларусаў. Тым не менш нацыянальнымі сіламі за першыя дзесяць год савецкай улады было зроблена вельмі шмат для беларускай справы: адчыніўся першы Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1921), пачала працаваць Тэрміналагічная камісія (1921), выдаваліся беларускія слоўнікі, развіваліся беларускія школы нараўне з польскімі, жыдоўскімі і рускімі.

Аднак як новая эканамічная палітыка (НЭП), так і ўсё нацыянальнае перашкаджала стварэнню адзінства ў краіне, місіяй якой, паводле праграмы Маркса–Леніна–Сталіна, было несці ідэі камунізму для ўсяго свету. Устанавіліся неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай справы. Пачалося жорсткае прыцясненне ўсіх нацыянальна-дэмакратычных сіл на тэрыторыі СССР, дазваляючы толькі цепліцца дэкаратыўным праяўленням развіцця нацыянальных культур і пакідаючы ў загане нацыянальнае будаўніцтва народамі, якія ўваходзілі ў склад СССР. Тры вялікія хвалі рэпрэсій — у 1930, 1933 і 1937 гг. — амаль падчыстую знішчылі ці вымелі ў Сібір лепшых людзей беларускай нацыі. Як акажацца пазней, тое, што Заходняя Беларусь апынулася пад палякамі, мела два станоўчыя моманты для далейшага нацыянальнага будаўніцтва: першы момант — жыхары Заходняй Беларусі былі пазбаўлены сталінскіх рэпрэсій; другі — як вынік супраціву паланізацыі развіваліся нацыянальна свядомыя сілы. Такім чынам, цэлае пакаленне беларусаў было выратавана і часова схавана ад пільных вачэй і рук КДБ.

Сталінскія рэпрэсіі былі часова спынены Другой сусветнай вайной. Парадаксальна, але, нягледзячы на ўсе беды, якая прынесла нямецкая акупацыя беларускаму народу, гэты прамежак часу быў пераважна спрыяльным у дачыненні да «ўзмацнення і распаўсюджання нацыянальнай свядомасці» (Ю. Туронак, 2008, с. 567). Аб гэтым можна меркаваць па ўтварэнні беларускай адміністрацыі, беларускага школьніцтва, Саюза беларускай моладзі (СБМ), Беларускай краёвай арміі (БКА). Пры гэтым трэба

адзначыць, што нямецкая акупацыя суправаджалася барацьбой паміж беларускімі нацыяналістамі і савецкімі партызанамі, паміж беларусамі і палякамі з Арміі Краёвай, якая мела прыкметы грамадзянскай вайны (гэтыя пытанні патрабуюць большага вывучэння). Трэба сказаць, што немцы не лічылі магчымым поўнасцю аддаць адміністрацыйнае кіраванне беларускім нацыянальным сілам. Да таго ж існаваўшыя яшчэ да вайны беларускія групы не мелі адзінства і па-рознаму разглядалі развіццё нацыі ў тых умовах — адны з іх бачылі будучыню беларусаў разам з немцамі (Акінчыц, Ермачэнка), другія — з заходнімі дэмакратыямі ці з Польшчай (Гадлеўскі, Станкевіч, Іваноўскі, Астроўскі) (Ю. Туронак, с. 491–498). Аднак трэба верыць фактам. Пры немцах у Мінску ўсе школы былі беларускімі, у СБМ налічвалася каля 9 тыс. юнакоў і дзяўчат (Ю. Туронак, с. 96), у пачатку 1944 г. у БКА паслухмяна-прымусова запісаліся каля 50 000 грамадзян (і гэта ў той час, калі Чырвоная Армія была ўжо ў паўднёвых раёнах Беларусі (Ю.Туронак, с. 546). Натуральна, што большая частка нацыянальных сіл была вымушана ў той час пакінуць радзіму. Непасрэдна пасля вайны ў Еўропе налічвалася каля 500 тыс. беларусаў (эміграваўшых і вывезеных на працы ў Германію) (Ю.Туронак, с. 554).

Пасляваенны перыяд (1944–1990) характарызаваўся паступовым замяшчэннем беларускага і нацыянальнага — савецкім і інтэрнацыянальным. На пачатку гэтага перыяду, калі ішло аднаўленне жыцця, разбуранага вайной, гэты працэс не быў вельмі актыўным у гэтым плане, аднак далейшае развіццё СССР пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі ішло толькі на карысць станаўленню адзінай савецкай нацыі і стварэнню савецкага чалавека. З тым раслі некалькі пакаленняў савецкіх людзей. Асабліва заўважным гэта стала пасля XX з’езда камуністычнай партыі, калі было заяўлена, што новае пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме.

Вынікам такой праграмы стала далейшая русіфікацыя на ўсёй прасторы СССР, што вылілася ў Беларусі ў закрыццё беларускіх школ. Беларускія школы, пачатковыя, васьмігодкі, яшчэ заставаліся ў вёсках, аднак для атрымання сярэдняй адукацыі мне, напрыклад, трэба было ехаць у райцэнтр Паставы, дзе на той час беларускіх сярэдніх школ ужо не было. І ўсё гэта адбывалася пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і верных яе слуг у Беларусі — Мазурава, Машэрава ды іх паслядоўнікаў. Гэта ж тычыцца і выдання беларускіх кніг. Па звестках, прыведзеных у кнізе Ю. Туронка (с. 570), доля беларускамоўных выданняў за перыяд з 1950 па 1985 г. знізілася з 85% да 9%. Такая ж сітуацыя застаецца і ў наш час. Так, сапраўды, былі беларускія пісьменнікі і паэты, ганаровыя званні і ўзнагароды, але яны былі дэкаратыўнымі па сутнасці, бо не ўплывалі на свядомасць беларускіх людзей у той меры, якая была б дастатковай для нацыянальнага будаўніцтва. Поспехі ў развіцці беларускай песні «Песняроў» пад кіраўніцтвам У. Мулявіна, рускага чалавека з Чалябінска, але шчырага беларуса па свядомасці, можна разглядаць як выключэнне ў гэты перыяд.

Новы перыяд беларускага адраджэння пачаўся зусім нечакана, як падарунак лёсу. Павалілася Берлінская сцяна, развалiўся Савецкі Саюз. Зноў жа, як і пасля рэвалюцыі 1917 г., усе нацыянальныя рэспублікі, залежныя, па сутнасці, ад Расіі, імгненна аб’явілі аб сваёй незалежнасці і суверэнітэце. Не без дапамогі Беларускага народнага фронту на афіцыйных будынках у Беларусі з’явіліся нацыянальныя сімвалы — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Але разгубленасць Расіі доўжылася няшмат, толькі ў часы кіравання сп. Ельцына. Пачалі аднаўляцца розныя саюзы, у якіх цэнтральную ролю іграе Расія. Як вынік, у гэтых саюзах аддаюць перавагу не толькі інтэграцыйным эканамічным працэсам, а, як след гэтага, інтэграцыйным палітычным працэсам. Падпяванне расійскай палітыцы на знешняй арэне дапаўняецца падтрымкай еўразійскай ідэалогіі ў дачыненні як да эканамічнай, так і да ідэалагічнай «Еўразіі». Еўразійская ідэалогія ў Беларусі паступова замяшчае панславянскую ідэалогію. Як вынік, у дзяржаўнай палітыцы няма месца для нацыянальнай ідэі і выразна бачыцца этнацыд беларусаў. З прыходам новага кіраўніка Беларусі пачаўся і працягваецца неспрыяльны перыяд для нацыянальнага будаўніцтва (сучасны стан рэалізацыі нацыянальнай ідэі патрабуе асобнага аналізу). Такім чынам,

на працягу апошняга стагоддзя паслядоўна змяняліся спрыяльныя і неспрыяльныя перыяды для нацыянальнага будаўніцтва. Нягледзячы на тое, што пакуль што не даводзіцца спадзявацца на істотнае і магутнае развіццё нацыянальнай свядомасці саміх беларусаў, наступны перыяд у развіцці нацыянальнай ідэі будзе спрыяльным. Гэта абумоўлена гістарычным развіццём грамадства і ў значнай ступені адпавядае тэорыі аб цыклічнасці сацыякультурнага развіцця грамадства (М. Крукоўскі, 2013).

Вырашальным у будучым перыядзе будзе баланс паміж знешнімі і ўнутранымі фактарамі, якія ўплываюць на будаўніцтва нацыі. У многім гэта будзе вызначана станоўчым прыкладам Украіны ў нацыянальным будаўніцтве. Магчыма, што адбудуцца змены расійскай палітыкі — з экспансіяністкай на ўнутранае развіццё грамадства і задавальненне патрэб шматлікіх народаў Расійскай Федэрацыі. У залежнасці ад таго, якім будзе ціск Расіі, будзе мяняцца і тактыка сучаснага кіраўніцтва Беларусі — ад павяртання тварам да нацыянальнай ідэі да поўнай здрады ёй.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе*
*«КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»,*
*№ 7, верасень 2014 г., с. 11–16.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Next Period of the Development of National Idea Will Be Favorable» (magazine «CULTURE, NATION», September 2014, issue 7, pp. 11–16)***

The analysis of the primarily favorable and unfavorable periods of the nation-building in Belarus and their sequence during the last century was conducted. It was concluded that the next period in the development of the national idea will be favorable. This is due to the cyclical model of historical development of the society, and this conclusion is largely consistent with the Krukouski’s cyclical social and cultural development theory.

The future period will be determined by the balance between internal and external factors that affect the construction of the nation. In many ways, it will be definitely impacted by a positive example of the nation-building in Ukraine. It is also possible that there will be changes in Russian politics — from the expansionism to the internal development of the society and to the local needs of many peoples of the Russian Federation. The direction of modern Belarusian leadership will depend in large on the degree of Russia’s pressure — from pursuing the national idea to its complete disregard.

# БЕЛАРУСЬ — НЕ ЕЎРАЗІЯ, або НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ СЁННЯ

У гісторыі сучаснай Беларусі (1918–2014) былі тры кароткія, пераважна спрыяльныя перыяды для развіцця нацыянальнай ідэі: пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі (1918–1929), падчас Другой сусветнай вайны і непасрэдна пасля развалу Савецкага Саюза (1991–1995). Для апантаных крытыкаў сцверджання аб пераважна спрыяльным перыядзе для развіцця нацыянальнай свядомасці падчас 1941–1944 гг. раю звярнуцца да фундаментальнай працы Ю. Туронка «Людзі СБМ. Беларусь падчас нямецкай акупацыі» (Смаленск, 2008). Агулам спрыяльныя перыяды доўжыліся 21 год з 96 гадоў усталявання сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Не аспрэчваючы само развіццё грамадства за гэты час у галіне адукацыі, культуры, прамысловасці, тэхналогій — тое, што ў асноўным назіраецца і ў іншых краінах як непазбежны паступовы працэс развіцця цывілізацыі, астатні час можна ў цэлым характарызаваць як неспрыяльны ў адносінах да будаўніцтва незалежнай беларускай нацыі.

Як было адзначана раней, у краіне будуецца цывільная рускамоўная дзяржава. У значнай ступені гэта ідзе ад ідэі фікс кіраўніка Беларусі зрабіць краіну прыкладам для значнай тэрыторыі СНГ ці Еўразіі і самому стаць на чале новай структуры. На нядаўнім прыёме лідараў кампартый Расіі і Украіны, Зюганава і Сіманенкі, кіраўнік Беларусі заявіў: «Кто бы когда-нибудь мог подумать, что среди трёх государств, славянских, самых близких и родных народов может возникнуть такая каша на юге нашего, не побоюсь этого слова, отечества» (*мелася на ўвазе Украіна*). Ідэя нацыянальнага будаўніцтва адціскаецца на край і замяняецца знаёмым савецкім сурагатам дружбы народаў, вядома ж, пад «правільным», не шавіністычным кіраўніцтвам Расіі.



Непавага і непрыязь да ўсяго нацыянальнага ў Беларусі зыходзіць як ад кіраўніцтва дзяржавы, так і фармуецца пад ціскам знешніх абставін («скаардынаваная» палітыка з Расіяй, здача эканамічных пазіцый расійскаму капіталу, каласальны ўціск расійскай культуры); усё гэта разам, безумоўна, вядзе да поўнай здрады нацыянальнай ідэі. Калі раней яна была ў заняпадзе, таму што перавагу аддавалі развіццю панславянскай ідэі (Беларусь, Расія і Украіна), то цяпер ёсць шэраг падстаў меркаваць, што пра нацыянальную ідэю калі і будуць успамінаць час ад часу, то толькі на карысць ці ў кантэксце рэалізацыі цяпер ужо еўразійскай ідэалогіі.

Супрацьдзеянне развіццю нацыянальна-дэмакратычных сіл пачаліся з 30-х гадоў мінулага стагоддзя ва ўсім СССР і з невялікімі перапынкамі працягваюцца на амаль той жа тэрыторыі, уключна з Беларуссю, да гэтага часу. Як гэта здарылася? Савецкага Саюза ўжо даўно няма, і з 1990 г. у новых гістарычных умовах вырасла цэлае пакаленне. Развал Саюза даў другі шанец на нараджэнне новых дзяржаў, шляхам пераўтварэння з рэспублік, што ўваходзілі ў склад імперыі (першы шанец быў створаны Кастрычніцкай рэвалюцыяй). Частка постсавецкіх рэспублік скарысталіся другой падараванай магчымасцю, а частка з іх засталіся мёртванароджанымі, бо, як і раней, засталіся залежнымі ад «матушкі Расіі». Крах камуністычнай ідэі не мог прывесці да адначасовай змены светапогляду савецкіх людзей. Дамінуючая роля Расіі ў культуры (радыё, тэлебачанне, эстрада) для былых расійскіх ускраін — неўсталяваўшыхся нацыянальных дзяржаў — засталася. Новых ідэй наўзамен савецкім адразу не ўзнікла, яркіх лідараў, за якімі б пайшла асноўная маса насельніцтва, не з’явілася. Таму ў большасці постсавецкіх рэспублік (Беларусь, закаўказскія і сярэднеазіяцкія рэспублікі, Украіна) прыйшлі да ўлады былыя камсамольцы ці засталіся старыя кадры, якія прапаведавалі савецкую ідэалогію, знаёмую шырокаму колу людзей. Больш таго, гэтыя новыя кіраўнікі наследавалі і аўтарытарна-бюракратычны стыль кіравання, які існаваў раней, калі вялікай краінай правіла адна партыя.

У Беларусі адразу пасля развалу СССР з'явіліся арганізацыі, скіраваныя на вяртанне расійскага ўплыву і старых савецкіх часоў: газета «Славянский набат», Міжнародная акадэмія Еўразіі, пры Кебічу сур'ёзна разглядалася пытанне ўвядзення адзінага рубля з Расіяй, увядзення палажэння ў Канстытуцыю аб рускай мове ў якасці дзяржаўнай. Новы кіраўнік Беларусі хуценька гэта падхапіў і, не маючы магчымасці прама працаваць на аднаўленне СССР, пачаў з 1994 г. развіваць панславянскую ідэю, спачатку ў выглядзе Саюза Беларусі і Расіі. Ну, вядома ж, Ельцын станавіўся нямоглым і, відавочна, наш новы лідар бачыў сябе на яго месцы. На экскурсію ў квітнеючую лукашэнкаўскую Беларусь, каб паказаць, што так цудоўна будзе хутка ва ўсім Саюзе, звозілі і звозяць да гэтага часу журналістаў з усёй Расіі, а сам кіраўнік Беларусі пабываў у многіх чырвоных губернях Расіі. Але ў Крэмль прыйшлі да ўлады людзі з Лубянкі, і гэты напрамак «нацыянальнага будаўніцтва праз далучэнне Расіі да Беларусі» хуценька прыкрылі, пакінуўшы да гэтага часу супярэчнасці і горкі смак у вярхах абодвух саюзнікаў.

Пра нацыянальную ідэю размовы не было, наадварот, паспешна былі праведзены рэферэндумы аб рускай мове як другой дзяржаўнай і аб фактычным вяртанні да старой беларускай сімволікі. Падручныя кіраўніка дзяржавы на вачах у людзей рвалі даўнейшую гісторыю Беларусі — бел-чырвона-белы сцяг. Бел-чырвона-белыя сцягі ў Беларусі даўно забаронены, а расійскія сцяжкі раздаюцца ў многіх гарадах Беларусі, у Брэсце дык нават вывесілі расійскі сцяг на будынку крамы. Трэба адзначыць, што прарасійскіх арганізацый у Беларусі зараз налічваецца на парадак больш, чым 20 год таму (І. Лялькоў, 2014). Натуральна, гэтыя дзеі ніяк не ўкладваюцца ў падтрымку нацыянальнага.

Больш таго, нельга адмаўляць наяўнасці этнацыду беларусаў, які праводзіцца дзяржаўнымі структурамі. Калі мы адзначаем подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці, то не ў меншай ступені павінны адзначаць Аршанскую бітву, Слуцкае паўстанне і іншыя памятныя падзеі, звязаныя з абаронай не абязлічанай вялікай айчыны, а сваёй Айчыны — Беларусі. Элементы нацыянальнага яшчэ праглядаюцца на некаторых фестывалях (да прыкладу, «Іграй, гармонік і цымбалы» ў Паставах), але на іншых яны размазваюцца да такой ступені, што не маюць адпаведнага бляску і іх увогуле можна і не заўважыць («Славянскі базар», Віцебск). Свежых прыкладаў этнацыду шмат: звальненне з працы нацыянальных беларускіх лідараў (А. Чарнікевіч, А. Астроўскі), забарона праводзіць Купалле сёлета (2014) у Мінску і Барысаве (відаць, гэта занадта нацыянальнае свята), забарона нават хадзіць па вуліцы на Купалле ў нацыянальных строях. У той жа час сумеснае святкаванне Купалля прадстаўнікамі з Беларусі, Расіі і Украіны з удзелам кіраўніка дзяржавы ў Александрыі (Магілёўская вобласць) шырока падавалася ў прэсе — бо гэта ж як бы «па-нашаму», па-савецку, інтэрнацыянальна. Хаця незразумела, хто там быў з Украіны, якая знаходзіцца ў стане вайны, распаленай і падтрымліваемай Расіяй.

Яшчэ прыклады? Збудавалі «Лінію Сталіна», пусцілі расійскія войскі і парады на тэрыторыю, увайшлі ў ваенныя, палітычныя і эканамічныя блокі (АДКБ, Мытны саюз, ЕЭС), створаныя ў рамках былога СССР, дзе безумоўным лідарам з'яўляецца Расія. Калі глянуць на ваенную агрэсію Расіі да Украіны, то любому чалавеку становіцца ясна, у якім месцы апынулася Беларусь. Публічныя заявы аб тым, што патрэбна развіваць нацыянальную ідэю і нацыю, робяцца хутчэй з перапуду, якія выкліканы магчымасцю паўтарэння ўкраінскага сцэнара для Беларусі і прыкрым шкадаваннем страты ганаровага месца — кіраўніка дзяржавы памяркоўнага беларускага народа.

Варта пачытаць, што прапануе шавініст Дугін, каб зразумець, што нясе еўразійская ідэалогія для Беларусі, Украіны і для ўсёй Еўропы. У інтэрв'ю агенцтву Anna-News ад 6 мая 2014 г. ён заявіў, што «…украінцаў трэба забіваць, забіваць і забіваць. Больш ніякіх размоў не павінна быць. Гэта я вам як прафесар кажу». Дугін зараз узначальвае Міжнародны Еўразійскі рух (2004), галоўнай мэтай якога з'яўляецца падтрымка палітыкі Пуціна ў стварэнні еўразійскай суперджзяржавы, якая, вядома ж, будзе ажыццяўляцца праз «інтэграцыю» Расіі з постсавецкімі краінамі. Цяжка зразумець у нашы дні, як гэтыя фашысцкія выказванні могуць спалучацца з ідэямі неаеўразізму, якія ён

прапаведуе. Але яны добра спалучаюцца з ідэямі класічных еўразістаў (Трубецкой, Карсавин, Савицкий, Вернадский, Якобсон, Сувчинский), якія бачылі ў пачатку ХХ ст. заняпад Еўропы і падпарадкаванне яе Расіі (П. Мурзёнак. Усходнеславянская беларуска-ўкраінская цывілізацыя, 2013; *А. Кашо, 2015*).

Вайна паміж Расіяй і Украінай з'яўляецца яркім прыкладам практычнай рэалізацыі еўразійскай ідэі. Без заваёвы Украіны Нова-Еўразія не будзе ўяўляць сабой моцны новы полюс у «шматпалярным свеце». Беларусь па многіх прыкметах ўжо трапіла пад істотны ўплыў Расеі, з абдымкаў якой будзе цяжка вырвацца. Аднак шанец вырвацца ёсць, бо ён абумоўлены доўгім гістарычным развіццём Беларусі і Украіны.

Гістарычна, этнічна і ментальна беларускі і ўкраінскі народы ніяк не належаць да Еўразіі. Беларусь разам з Украінай фармуюць ўсходнеславянскую беларуска-ўкраінскую цывілізацыю, якая істотным чынам адрозніваецца ад еўразійскай (расійскай) цывілізацыі. Гэта адрозненне паміж цывілізацыямі прыкметнае і па рэальнай прапорцыі славян у Беларусі, Расіі і Украіне (П. Мурзёнак. Русский язык супраць нацыяналізму беларусаў і ўкраінцаў, 2014).

Неаеўразійская ідэалогія нясе небяспеку не толькі для ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі, а і для ўсёй Еўропы. Нягледзячы на рознасць паміж цывілізацыямі, Беларусь і Украіна маглі б і павінны былі б супрацоўнічаць з суседняй Расіяй, калі б яна не хацела прыбраць гэтыя краіны пад сябе. Відавочна, што ў ідэалогіі неаеўразізму няма месца для дзяржаўнасці ці нацыянальнага будаўніцтва Беларусі і Украіны. Зараз ідзе прамая ваенная агрэсія Расіі ў адносінах да Украіны і практычная рэалізацыя ідэй еўразізму.

Аднак ідэалагічны напор і ваенная агрэсія Расіі супраць Украіны вымушаюць цяпер нават афіцыйную беларускую навуку сарамліва адстойваць нацыянальную самабытнасць беларусаў і ўкраінцаў. Аднак якім чынам гэта адбываецца? «Крышталізацыя» нацыянальнай ідэі, афіцыйна прапісаная ў асноўных напрамках развіцця Беларусі, ніяк не працуе. Як нядаўна заявіў кіраўнік дзяржавы, яму падавалі пару дзясяткаў праектаў нацыянальнай ідэі і ні адзін яму не падышоў. Г. зн. у гэтай галіне грамадскай думкі існуе абсалютны тэарэтычны правал, які час ад часу запаўняецца тактычнымі, часовымі праектамі, вынікаючымі не з патрэб нацыі, а пад ціскам звонку.



У размове пра нацыянальную ідэю (І. Марзалюк, 2014) відавочны шэраг супярэчнасцяў, якія вынікаюць са спробы аўтара сумясціць традыцыйныя штампы расійскай і савецкай гістарыяграфіі аб адзінстве трох славянскіх народаў (да прыкладу, паўтараючы пра Кіева-Пячэрскую лаўру як агульную ўсходнеславянскую святыню, святыню для беларусаў, рускіх і ўкраінцаў) і вайной, якая ідзе сёння паміж Расіяй і Украінай. Не маючы сіл прама звінаваціць расійскую шавіністычную публіку ў агрэсіі, аўтар далікатна крытыкуе «некаторую» частку расійскай эліты за тое, што яна ў прынцыпе адкідае ідэю дзяржаўнасці для беларусаў і ўкраінцаў. Нават прыбліжаны да вярхоў сп. Р. Ёфе (G. Ioffe, 2014), які яшчэ нядаўна пісаў, што беларусы не маюць выразнай нацыянальнай ідэнтычнасці (і фактычна адмаўляючы перспектыву нацыянальнага будаўніцтва), у нядаўнім каментары пад ціскам фактаў адзначыў, што расійскі экспансіянізм з'яўляецца адным са спрыяльных фактараў у нацыянальным будаўніцтве ў Беларусі і на Украіне — як вынік супрацьдзеяння на ціск Расіі: «If, indeed, every action begets a counteraction, then Russia's expansionism is the major factor of nation-building in Russia's western neighbors. This is definitely true as far as Ukraine is concerned, and it appears to be increasingly true in seemingly conflict-free Belarus as well».

Якім жа бачыць сп. Марзалюк будучыню краіны? Заяўляючы, што Беларусь сёння — гэта цытадэль еўрапейскай культуры і маралі, робяцца высновы аб тым, што Беларусь чамусьці павінна стаць «центром социокультурной и экономической “сборки” Евразии». Чаму Еўразіі? Беларусь жа еўрапейская краіна, а не еўразійская — якімі ёсць Расія і Казахстан; відаць, аўтар мае на ўвазе пад Еўразіяй Еўразійскі эканамічны саюз. Але далей аўтар зноў супярэчыць сам сабе: «…мы должны постулировать свою национальную сверхзадачу — создать в своей стране на основе собственной традиции органический, здоровый синтез

европейского востока и запада»: па-першае, трэба падкрэсліць у цытаце словы «европейского востока», але ж не еўразійскага. Невядома таксама, які сэнс укладвае аўтар у слова «нацыянальную», у артыкуле амаль не гаворыцца пра гэта.

Затое многа гаворыцца пра саюзы ў канцэпцыі «інтэграцыі інтэграцый»: «Мы должны совместно с соседями создать свою крепость, свою экономическую, культурную и политическую цитадель». Гэта палажэнне вельмі сугучна з размытай і незразумелай канцэпцыяй «Северо-континентальной Империи» (проект «Цитадель», команда — А. Дермонт, А. Синкевич, А. Шпаковский, Е. Чурилов). Гэта канцэпцыя, за выключэннем некаторых экстравагантных ідэй, напрыклад ідэі «сверхпланетарной экспансии», у значнай ступені паўтарае тэзісы еўразійскай тэорыі («открытая на Запад, Восток, Юг; ось Париж–Берлин–Москва»). Як гэта будзе спалучацца з прыкладнай Беларуссю ў якасці «цэнтра зборкі Еўразіі», не тлумачыцца. Нацыянальнае зноў жа бачыцца як дэкларатыўная шыльда аднаўленага Саюза, хаця і ў значна ўсечаным выглядзе. 11 ліпеня 2014 г. на канферэнцыі ў Мінску «Евразийский союз: проблемы становления и перспективы развития» сп. Л. Крыштаповіч заявіў, што «…рэальная незалежнасць, суверэнітэт можа адбыцца, рэалізавацца ў рамках саюзнасці, у дадзеным выпадку мы гаворым пра Еўразійскі саюз». Не дзіўна, што ў прамовах гэтага аўтара-«заходняруса», змагара з беларускай мовай і нацыяналізмам і прыхільнікам адзінства «трыадзінага рускага народа» (З. Панкавец, URL: http://nn.by/?c=ar&i=131947) гучаць выказванні, якія поўнасцю адкідаюць даўнейшую гісторыю Беларусі, напрыклад: «Радзівілы, Сапегі, Агінскія не маюць нічога супольнага з беларускай ментальнасцю». Адмоўныя адносіны да беларускага нацыянальнага праглядаюцца ўжо ў назвах кніг гэтага аўтара, да прыкладу: «Беларусь и Россия: историософское и цивилизационное единство», «Беларусь як руская святыня». Можна было б пагадзіцца з назвай апошняй кнігі толькі ў тым выпадку, калі аўтар мае на ўвазе тое, што сучаснай Украіне і часткова Беларусі належыць спадчына Кіеўскай Русі. Калі ж гэта адносіцца да



Беларусі як да часткі «русского мира», за які Расія развязвала вайну з Украінай, — то гэта прыняць ніяк нельга.

Свядомаму абгрунтаванню нават не панславянскай, а еўразійскай ідэі замест нацыянальнай ідэі ў Беларусі спрыяюць і дзеянні некаторых партый. У адрозненне ад праграмаў КХП, партыі БНФ, БСДП (Грамада), дзе ёсць выразныя палажэнні адносна развіцця нацыі і нацыянальнай ідэі, такія палажэнні адсутнічаюць у праграмах найбольш шматлікіх партый Беларусі (Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (ЛДПБ), каля 45 тыс. сяброў; Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП), каля 4 тыс. сяброў). Праграма ЛДПБ, па-першае, прадстаўлена толькі на рускай мове; па-другое, адносна нацыі ўпамінаецца толькі тое, што «ЛДП — партия патриотов, но не национал-популистов». Словы «национал-популистов» ужываюцца яшчэ раз у праграме ў адмоўным сэнсе. Амаль тое ж самае ў праграме АГП: таксама прадстаўлена толькі на рускай мове і ні слова пра нацыянальнае будаўніцтва (у традыцыях праграмы камуністычнай партыі маецца толькі наступнае палажэнне аб культуры: «Сохранение собственной культурной идентичности в полиэтнической Европе требует от государства особых усилий по развитию белорусской национальной культуры, в том числе по расширению сферы применения белорусского языка»). 11 ліпеня 2014 г. на згаданай вышэй канферэнцыі ў Мінску намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (ЛДПБ) Алег Гайдукевіч зрабіў заяву ва ўнісон са сп. Крыштаповічам, што «Евразийский экономический союз не несёт никакого ущерба суверенитету Беларуси», робячы ў той жа час рэверанс да публікі аб тым, што «…естественно, 99% беларуского населения никогда не поддержат сдачу суверенитета — это святое».

Такім чынам, можна назваць ніякімі адносіны да нацыянальнай ідэі і яе развіцця з боку афіцыйных улад, праўладных вучоных і дэнацыянальных партый. Яны ў аднолькавай ступені абслугоўваюць ці гатовы падтрымаць еўразійскую ідэю і Еўразійскі эканамічны саюз, адштурхоўваючыся з тактычных меркаванняў аб эканамічнай мэтазгоднасці ўдзелу ў гэтым праекце. Але не трэба забываць, што за эканамічнымі кулісамі ЕЭС

сядзіць на троне еўразійская ідэя, якая не бачыць і не разумее, што існуюць беларуская і ўкраінская нацыі.

83,7% грамадзян Беларусі яшчэ вызначаюць сябе беларусамі. Але ці дастаткова гэта будзе, каб утрымаць самаідэнтыфікацыю на такім узроўні на працягу доўгага часу? На сёння нацыянальная ідэя знаходзіцца па-за ўвагай дзяржаўных структур ва ўгоду перавагам, якія атрымлівае краіна ад пастаянных тактычных захадаў. Новыя мадэлі існавання Беларусі («Цытадэль», «цэнтр зборкі Еўразіі») збіваюцца ў бок еўразізму і фактычна супадаюць з аднаўленнем еўразійскай ідэі, якая становіцца пануючай ідэалогіяй Расіі. Ідэальным было б падключэнне дзяржавы да развіцця нацыянальнай ідэі на грунце прынцыпаў, распрацаваных нацыянальнай элітай. Пытанне толькі ў тым, калі гэта адбудзецца. Адно пакаленне ўжо страчана. Калі згубім яшчэ адно, то казаць аб будаўніцтве вартаснай нацыянальнай дзяржавы будзе яшчэ складаней.

Відавочна, што роля нацый у жыцці грамадзян розных краін расце, нягледзячы на крытыку і заявы аб тым, што будаўніцтва нацый у постмадэрны перыяд немагчыма. Але якой будзе роля нацый у жыцці грамадства праз 30, 50 ці 100 гадоў? Ці будзе яна ўзрастаць ці змяншацца пад уплывам працэсаў глабалізацыі ці рэгіёналізацыі? Адказ на гэта павінны даць аб'ектыўныя навуковыя даследаванні, якія не заангажаваны кан'юнктурнымі патрабаваннямі тактычных «перамог» і не зыходзяць з геапалітычных інтарэсаў вялікіх дзяржаў. Без такой аб'ектыўнай ацэнкі далейшага развіцця краіны, якое зараз дыктуецца толькі тактычнымі праграмамі, непазбежна стратэгічная здрада нацыянальнай ідэі.

## Высновы

Беларусь і Украіна — непадзельныя часткі ўсходнеславянскай цывілізацыі — гістарычна, этнічна і ментальна істотна адрозніваюцца ад еўразійскай (расійскай) цывілізацыі.

Імкненне Расіі ўцягнуць Беларусь і Украіну ў Еўразійскі эканамічны саюз непазбежна прывядзе да існавання беларусаў і



украінцаў у рамках еўразійскай ідэалогіі, якая не прадугледжвае стварэнне для іх нацыянальных дзяржаў.

Пераключэнне дзяржавы, праўладных навукоўцаў і палітычных дзеячаў з падтрымкі панславянскай ідэалогіі на еўразійскую ідэалогію абумоўлена часовымі кан'юнктурнымі меркаваннямі эканамічнай мэтазгоднасці, якое вядзе да забыцця нацыянальнай ідэі і да адтэрмінаванай перспектывы будаўніцтва нацыянальнай беларускай дзяржавы.

Вынік вайны паміж Расіяй і Украінай, нашага партнёра па ўсходнеславянскай цывілізацыі, будзе ключавым момантам у вызначэнні будучыні як Украіны, так і Беларусі.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 7, верасень 2014 г., с. 17–25.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Belarus Does Not Belong to Eurasia or the National Idea Today» (magazine «CULTURE, NATION», September 2014, issue 7, pp. 17–25)***

Belarus and Ukraine —inseparable parts of the East Slavic civilization differ significantly historically, ethnically and mentally from the Eurasian (Russian) civilization. Russia's intention to draw Belarus and Ukraine into the Eurasian Economic Union will inevitably lead to the existence of Belarusians and Ukrainians in the framework of the Eurasian ideology which does not assume the creation of their sovereign nation-states. Switching of the state, pro-government researchers and politicians from the support of PanSlavic ideology onto the Eurasian ideology due to the temporary considerations of economic pragmatism leads to the rejection of the national idea and to the significant delay in the development of the national state. The results of the war between Russia and Ukraine, our partner in the East Slavic civilization, will become a key factor determining the future of both Ukraine and Belarus.

# ПРАДМОВА ДА ВОСЬМАГА НУМАРА ЧАСОПІСА «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»

Дарагія сябры!

У гэтым нумары вы знойдзеце шэраг артыкулаў, скіраваных на асвятленне праблем будаўніцтва беларускай нацыі.

У сваім звароце да беларускай эліты Вадзім Шышко разглядае ўзаемаадносіны фізіялагічнага і ментальнага развіцця чалавека ў дачыненні да выкарыстання беларускай мовы. Аўтар спасылаецца на думкі вядомых вучоных у гэтай галіне (Maslow, Humboldt, Sapir) і падкрэслівае важнасць працы па асвеце насельніцтва Беларусі ў супрацьстаянні глабальным працэсам, якія вядуць да знікнення моў і культур, і неабходнасці зберажэння беларускай мовы і традыцый для дзяцей, якія жывуць у час глабалізацыі.

Аляксандр Згерскі (2014) з пункту гледжання рэсентыменту абмяркоўвае прычыны, па якіх большасць насельніцтва Расіі падтрымлівае захоп Крыма і вайну на ўсходзе Украіны (рэсентымент — філасофскі тэрмін, якія абазначае маральнасць рабоў і адмоўныя чалавечыя комплексы, заснаваныя на зайздрасці ў адносінах да больш моцных і паспяховых людзей і на культываванні вобраза ворага). Аўтар піша пра наяўнасць гэтага комплексу на землях Расіі, пачынаючы з часоў Івана III, Івана IV, Пятра I. Гэты комплекс, які прыйшоў ці быў навязаны ў часы мангольскага рабства, далей захаваўся ў часы бальшавізму і Савецкага Саюза. У апошнія 10–15 гадоў праявы гэтага комплексу асабліва выразна назіраюцца ў навязванні Расіяй ідэі «русского мира» беларусам і ўкраінцам, менталітэт якіх адрозны ад менталітэту народаў Расіі.

Пётра Мурзёнак у артыкуле «В ВОЛОГДЕ! — ДЗЕ?!», спасылаючыся на папулісцкае карыстанне роднай мовай некаторымі кіраўнікамі дзяржавы (Лукашэнка, Мясніковіч, Тозік), задаецца пытаннем: хто ж будзе адказваць за правал у выкарыстанні мовы і



нацыянальнай палітыкі, калі гэтыя кіраўнікі пойдуць на пенсію? На вырашэнне пытанняў нацыянальнага будаўніцтва застаецца 30–40 гадоў, калі праводзіць гістарычныя паралелі з Квебекам і Шатландыяй. Адзначаецца, што ўсё яшчэ застаецца патэнцыял для нацыянальнага будаўніцтва, калі нацыянальная эліта будзе улічваць, што 83,7% насельніцтва краіны лічаць сябе беларусамі, і калі за аснову браць не ліберальныя і рэлігійныя каштоўнасці, а нацыянальныя інтарэсы.

Ірына Хадарэнка (І. Хадарэнка, 2014) аналізуе працэс нацыянальнага будаўніцтва ў сучаснай Беларусі з пункту гледжання спаборніцтва паміж этнічнай і агульнацывільнай канцэпцыямі нацыі. Рэалізацыя мадэлі цывільнай нацыі патрабуе ў першую чаргу яснага вызначэння нацыянальнай ідэі, мовы, сімвалаў, каштоўнасцей і традыцый. Абсалютна няправільна ўжываць як сінонімы тэрміны «нацыянальнасць» і «грамадзянства».

У артыкуле «СЛАВЯНЕ?» Вадзім Шышко абмяркоўвае ролю фіна-ўгорскіх народаў і мангола-татараў, а таксама праваслаўнай і ісламскай рэлігій у развіцці Маскоўскай дзяржавы. Выкарыстанне тэрміна «славяне» Масковіяй аўтар тлумачыць жаданнем гэтай дзяржавы падпарадкаваць сабе ў XV–XVIII стст. землі Вялікага Княства Літоўскага, на якіх пражывалі славянерутэны. Н. Карамзін і іншыя расійскія гісторыкі тэарэтычна абгрунтавалі ў XIX ст. легенду аб тым, што Расійская дзяржава была заснавана славянамі. Гэта ідэя падлягае зараз крытыцы нават у самой Расіі. Аўтар падкрэслівае, што трэба адрозніваць беларусаў, нашчадкаў асіміляваных славяна-балцкіх плямён, і велікаросаў, нашчадкаў розных этнічных груп, уключаючы фіна-ўгорскія і цюркскія народы.

Вадзім Шышко у артыкуле «ФІЗІЯЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛІЗМУ» дае абгрунтаванне і арыгінальнае вызначэнне тэрміна «нацыяналізм»: «нацыяналізм — гэта тая ж самая барацьба за выжыванне, заснаваная на жывёльным інстынкце самазахавання і падмацаваная тэхналагічным прагрэсам чалавечага розуму». На пытанне, як разумець нацыяналізм, «адказ адназначны: гэтак жа сама, як і да ўсіх астатніх нашых жывёльных патрэб. Ні ў якім разе не ігнараваць, але і без фанатызму». Інстынкт выжывання

пакуль што не працуе ў беларусаў, і далейшае распаўсюджванне «русского мира» прывядзе да фізічнага і духоўнага вымірання нашага народа. Палітыку нацыяналізму трэба ўводзіць у дзяржаве тэрмінова.

Часопіс правёў дыскусію на тэму «NATION BUILDING AND MODERNITY 2014» (на англійскай мове). У дыскусіі прынялі удзел: Ірына Хадарэнка, кандыдат культуралагічных навук, пісьменніца, грамадскі дзеяч; Інга Паповайтэ, майстар мастацтваў, Цэнтральны еўрапейскі ўніверсітэт; Антон Шэхаўцоў, даследчык, Інстытут гуманітарных навук (Аўстрыя), галоўны рэдактар кніжнай серыі «Даследаванне правых»; Пётра Мурзёнак, доктар медыцынскіх навук, галоўны рэдактар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ». Абмяркоўваліся дзве тэмы: «Нацыянальнае будаўніцтва ў постсавецкіх краінах: агульныя прыметы і розніца» і «Узаемаадносіны паміж нацыяналізмам, патрыятызмам і шавінізмам».

Рэдакцыя часопіса віншуе з 80-гадовым юбілеем сп. А. І. Храноўскага.

*Апублікавана ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 8, снежань 2014 г., с. 4–5.*

## В ВОЛОГДЕ! — ДЗЕ?!

Слухаючы песню «Вологда», уключаную ў рэпертуар ансамбля «Песняры» пад ціскам Міністэрства культуры як твор савецкіх аўтараў і стаўшую папулярнай у выкананні «Песняроў», я кожны раз думаў: ну няхай было і будзе добра ў Валагдзе, але чаму беларускія песняры замест «Вот потому-то мила мне всегда Вологда-гда-гда-гда, Вологда-гда» не спявалі б, да прыкладу: «Дзе ж ты, мая сінявокая, дзе, ў Віцебску-дзе-дзе-дзе, дзе ж яшчэ, дзе»… ці ў Горадні-дзе, ці ў Берасці-дзе?.. Гэта быў 1976 год, і прыклад з «Вологдой» сведчыць аб тым, як вырашалася нацыянальная палітыка ў савецкай дзяржаве.

Аднак Саюз разваліўся, Беларусь атрымала незалежнасць, а на першым месцы ў дзяржаўнай падтрымцы песеннай творчасці зноў перавага аддаецца рускамоўнай песні (напрыклад, «Славянский базар»). Нічога не змянілася з савецкіх часоў. Закон аб мовах, прыняты Вярхоўным Саветам на пачатку адраджэння на 10-гадовы перыяд (1990), быў свядома забыты новаабраным кіраўніком дзяржавы і яго паслядоўнікамі. Больш таго, пайшоў уціск на ўсё беларускае. Частка беларускіх паэтаў і пісьменнікаў перайшла на службу да дэнацыяльнага ўрада (ці то па прывычцы, ці то па кепскаму веданню роднай мовы). У школах Мінска не больш за 2% вучняў атрымоўваюць веды на роднай мове. Якую будучыню будзе мець беларуская нацыя пры такім развіцці?

Зараз, маючы перад вачыма вайну паміж Украінай і Расіяй і магчымасць паўтарэння падобнага сцэнара для Беларусі, раптам, час ад часу, калі гэта вымушаюць знешнія абставіны, загаварылі па-беларуску Лукашэнка, Мяснікові́ч, Тозік. Відавочна, што гэтыя тактычныя моўныя практыкаванні, якія можна назіраць толькі пры пагаршэнні адносінаў з Расіяй, не маюць дачынення да сапраўднага нацыянальнага будаўніцтва. Гульні з Расіяй працягваюцца, і, як відаць, кіраўнікоў краіны яшчэ не прыціс-

нула так, каб яны ў поўнай меры пачалі ўжываць родную мову ў адпаведнасці з Канстытуцыяй дзяржавы — нараўне з рускай. Але калі яны сыдуць на пенсію, хто адкажа за правал моўнай і нацыянальнай палітыкі?

Беларусь яшчэ мае шанец для будаўніцтва сапраўднай нацыянальнай дзяржавы, па-за межамі Саюза Беларусі і Расіі. Але час вельмі абмежаваны. Аб гэтым сведчаць прыклады нядаўніх рэферэндумаў аб незалежнасці — Квебека ад Канады (1995) і Шатландыі ад Вялікабрытаніі (2014). Правінцыя Квебек (якая ўваходзіла ў склад Новай Францыі) была захоплены брытанцамі ў 1763 годзе, а Шатландыя падпісала дамову з Англіяй аб утварэнні Каралеўства Вялікабрытаніі ў 1707 годзе (хаця супраціў аб'яднанню працягваўся да 1746 г.). Рэферэндумы, праведзеныя у Квебеку і Шатландыі праз 251 гадоў і 307 гадоў пасля аб'яднання-захопу, далі наступныя вынікі: 51% і 55,7% апытаных адпаведна не падтрымалі ідэю аб незалежнасці. І гэта пры тым, што сучасныя ўрады і Канады, і Вялікабрытаніі падтрымліваюць нацыянальную ідэнтычнасць удзельнікаў рэферэндумаў (французская мова — дзяржаўная ў Канадзе нараўне з англійскай і нават мае перавагу пры прыёме на працу, у Шатландыі дзейнічае свой парламент і ў хадзе адрозныя ад агульнадзяржаўных фунты стэрлінгаў). Польшча і Літва атрымалі незалежнасць ад Расіі амаль праз 120 гадоў пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1794). Беларусь жа да гэтага часу не скарыстала дадзеныя ёй магчымасці ў атрыманні поўнай незалежнасці ад усходняга суседа, а прайшло ўжо 220 гадоў пасля падпарадкавання беларусаў Расійскай імперыі. Можна меркаваць, калі праводзіць гістарычныя паралелі з Квебекам і Шатландыяй, што краіна мае для нацыянальнага будаўніцтва яшчэ 30–40 год, бо калі сучасны стан рэчаў не зменіцца, то не будзе з кім пра гэта нават размаўляць — беларусы стануць часткай «русского мира». Перспектыва статусу роднай мовы як дыялекту значна вырасце — астраханский, вологодский, костромской… белорусский диалекты.

Малаверагодна, што нацыянальная палітыка ўрада можа змяніцца; узяць хаця б нядаўнюю заяву сп. Мясніковіча аб



аб'яднанні нацыянальных плацёжных сістэм Беларусі і Расіі. Дадайце ўдзел Беларусі ў наддзяржаўных саюзах, наяўнасць ваенных расійскіх баз у краіне і г. д. Хаця абсалютна нельга выключыць магчымасць рэзкіх рухаў аднаго чалавека, ад якога залежыць прыняцце ўсіх урадавых рашэнняў. Аднак гэтыя рухі калі і былі, то толькі вымушанымі, псеўданацыянальнымі. Бо сапраўднай дзяржаўнай падтрымкі роднай мовы да гэтага часу няма, а без мовы — няма нацыі.

Антынацыянальны рэферэндум аб дзвюх дзяржаўных мовах і аб нацыянальных сімвалах (1995) паказаў, што нацыянальную ідэю падтрымлівалі ў той час 988 839 чалавек (калі разлічваць на 20,5% галасоў грамадзян, якія былі супраць аднаўлення дзяржаўнага сцяга савецкіх часоў). Добра было б, каб антыбеларуская палітыка, праводзімая апошнія 20 гадоў, не зменшыла хаця б гэту колькасць свядома арыентаваных людзей. Апошнія апытанні, праведзеныя лабараторыяй Вардамацкага (2014), паказваюць, што амаль 2/3 беларусаў з'яўляюцца прыхільнікамі яднання з Расіяй (*апытанне, праведзенае НІСЭПД сведчыць, што такіх людзей у сакавіку 2016 года было 24,8%*).

Калі казаць пра знешні фактар, то змяншэнне ўплыву Расіі заўжды выклікала пад'ём нацыянальнага руху на Беларусі (як і на іншых ускраінах імперыі) і было б жаданым. Але з другога боку, змены ў «Вологде», якімі б ні былі важнымі для Беларусі, але б яны мелі толькі часовы эфект. Як паказалі падзеі на Украіне, нават апазіцыйныя дзеячы ў Расіі выказваюць шавіністычныя пагляды ў адносінах да самастойнасці Украіны, у пытаннях Крыма і г. д. Што казаць пра астатніх? І гэта надоўга. Спадзеўкі каго-небудзь на развал Расіі, змены там улады ці нават на падтрымку Расіі павінны быць адкінутыя. Па той прычыне, што Расія ніколі не прызнае самастойнага развіцця як Украіны, так і Беларусі.

Дык усё ж такі што можна дадаць аптымістычнага ў дачыненні да перспектыўнага развіцця нацыянальнай ідэі? Народ Беларусі амаль ніколі (ці ўвогуле ніколі) не вырашаў свайго нацыянальнага лёсу. Гэтым займаліся і працягваюць займацца прадстаўнікі нацыянальнай эліты, нават ва ўмовах «беларускага гета». Аднак трэба адзначыць, што 83,7% грамадзян лічаць

сябе беларусамі. Менавіта гэты патэнцыял народа дагэтуль не выкарыстаны ў поўнай меры нацыянальнай элітай. Стаўка на ліберальныя каштоўнасці і абарона рэлігійных ці дэмакратычных свабод не здымаюцца з павесткі дня, аднак не гэта будзе вырашальным як у змене кіраўніцтва краіны, так і ў трывалым і доўгатэрміновым будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы. Калі казаць пра ліберальныя ці дэмакратычныя каштоўнасці, то, паводле многіх апытанняў, беларускае насельніцтва задавальняе цяперашні іх стан. Ставіць на першы план рэлігійныя свабоды — гэта значыць абмяжоўваць сябе, бо звыш 40% беларусаў не вераць у Бога ці з'яўляюцца атэістамі. Такім чынам, можна меркаваць, што менавіта беларускасць, якую яшчэ адчувае значная большасць грамадзян краіны, з'яўляецца той глебай, якая будзе вызначальнай у рэалізацыі асноўных палажэнняў нацыянальнай ідэі і прывядзе да істотных змен у беларускім грамадстве.

Нацыянальная эліта працуе сёння ў цяжкіх умовах, у дадатак не маючы адзінства ў сваіх радах. Чаго толькі варты абсурдныя дыскусіі аб магчымасці развіцця беларускай культуры ў рускамоўным асяроддзі. Тое ж самае можна казаць пра падрыхтоўку да чарговых прэзідэнцкіх выбараў, якая зноў пачалася са спробаў вызначыць адзінага кандыдата. Сімвалічнае вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты беларускага афіцэра і палітычнага зняволенага Мікалая Статкевіча мае толькі маральныя аспекты, а не магчымасць практычнай рэалізацыі такой прапановы. Цяперашні сцэнарый вызначэння адзінага кандыдата той самы, як і на папярэдніх выбарах, вынікі якіх вядомыя (2001, 2006, 2010). Аб'яднанне з мэтай змены ўлады — гэта важная мэта, аднак цяжка ўявіць, як будуць змагацца некаторыя арганізацыі і партыі, што ўваходзяць у кааліцыю, за нацыю і нацыянальныя інтарэсы, калі ў статутах гэтых структур абсалютна адсутнічаюць палажэнні са словам «нацыя»?

З другога боку, удзел у выбарах, нават у сумніўных, і асветніцкая праца толькі падчас іх правядзення не можа быць дастатковай для вырашэння нацыянальных праблем. Такой канспіратыўнай, рэвалюцыйнай партыі Леніна, якая перавярнула свет, у Беларусі няма — нават калі аб'яднаць разам усе існуючыя. Найлепшым выйсцем застаецца стварэнне нацыянальнай платформы, якую б падтрымалі рухі, партыі, арганізацыі, што маюць свае спецыфічныя мэты, падыходы і сродкі для іх рэалізацыі з наступным вызначэннем лідараў, якія былі б здольныя рэалізаваць ідэі такой платформы. Такая доўгатэрміновая асветніцкая праца павінна была б даўно ўжо ісці і працягвацца падчас чарговай выбарчай кампаніі. Казаць пра поспех у будаўніцтве беларускай нацыянальнай дзяржавы можна будзе тады, калі змены ў свядомасці людзей будуць заўважнымі не толькі ў Мінску, але і ў Віцебску, Горадні, Берасці…

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 8, снежань 2014 г., с. 36–40 і на сайце «Хартыя'97» 20 лістапада 2014 г.*



## Summary

***Piotra Murzionak «In Vologda! — Where?!» (magazine «CULTURE, NATION», December 2014, issue 8, pp. 36–40)***

When Soviet Union collapsed, Belarus gained independence. However, as before the state prefers only the Russian-language songs. Nothing has changed since Soviet times. The language law (1990), adopted for 10-year period by the Supreme Council in the beginning of the period of independence and regeneration of the nation was deliberately forgotten by the newly elected head of the state and his followers. Moreover, some other elements of national authenticity were looked at with prejudice and fell under one or another way of suppression and disregard. But when Lukashenka, Mjasnikovich, Tozik retire, who will be responsible for the collapse of the national and language politics?

If one is to draw historical parallels with Quebec and Scotland (look at the recent referendums), Belarus has only 30–40 years for nation-building; and if the current situation does not change, very soon there will be no one to even talk about Belarusian identity. It might happen that Belarusians will become a part of the «Russian world». The possibility for the native language to become a dialect grows significantly — Astrakhan, Vologda, Kostroma … Belarusian

dialects. And when the language ceases to exist, there will be no nation.

It should be noted that 83,7% of citizens of Belarus consider themselves Belarusians. This is a great potential that has not yet been fully utilized by the national elite. Liberal values and protection of religious and democratic freedoms should not be removed from the national agenda. However, these are not the elements that will impact the ultimate outcome when changing the leadership of the country and when developing a long-term, sustainable plan for nation-building. Only the main provisions of national idea (history, language, self-identification) are crucial and can lead to significant changes in the society.

The current scenario of a single candidate election the results of which are known (2001, 2006, and 2010) has not changed from previous years. Uniting with a goal of changing the regime is an important goal; however, it is difficult to imagine how some of the parties entering the coalition will fight for the national independence with no reference to «the nation» and «national interests» in their programs.

The best outcome in the current situation would be to create a national platform comprising of various movements, parties, organizations; and while each would have its own specific objectives, approaches and tools, determine the leaders who would be able to set common direction, identify mutual goals and carry on the ideas of that platform. It will be possible to evaluate the achievements in the development of the Belarusian National State when the change in people's minds is visible not only in Minsk, but also in Vitebsk, Grodno, Brest…

# ДЫСКУСІЯ «БУДАЎНІЦТВА НАЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ — 2014»

Дыскусія прайшла 23 лістапада і была арганізавана часопісам праз «Скайп». Ніжэй мы даём пераклад на беларускую мову часткі дыскусіі, якая тычылася нацыянальнага будаўніцтва ў постсавецкіх рэспубліках. У дыскусіі прынялі ўдзел Інга Паповайтэ*, Ірына Хадарэнка**, Антон Шэхаўцоў*** і Пётра Мурзёнак****.

Асноўнай тэмай, прапанаванай для абмеркавання, была «Будаўніцтва нацыі ў постсавецкіх краінах: агульныя рысы і адрозненні».

**Інга Паповайтэ**: Перш за ўсё хачу адзначыць, што я цалкам не згодная з тэрмінам «будаўніцтва нацыі» (nation building). Я б хацела выкарыстоўваць тэрмін, які, на мой погляд, з'ўля-

---

* Інга Паповайтэ, майстар мастацтваў, Праграма вывучэння нацыяналізму, Цэнтральны еўрапейскі ўніверсітэт. Акадэмічныя інтарэсы: этнічныя і рэлігійныя меншасці Паўднёвага Каўказа, радыкальныя нацыяналістычныя рухі, самавызначэнне і этнічнасць у посткамуністычных краінах.

** Ірына Хадарэнка, пісьменнік, грамадскі актывіст, кандыдат культуралагічных навук. Аўтар шэрагу кніг, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. Працуе ў Беларускім універсітэце культуры і мастацтваў.

*** Антон Шэхаўцоў, даследчык, Інстытут гуманітарных навук, галоўны рэдактар кніжнай серыі «Даследаванні правых рухаў». Сфера яго інтарэсаў — еўрапейскія радыкальныя правыя партыі і культура правых. Працаваў у акадэмічных інстытутах Аўстрыі, Польшчы і Брытаніі.

**** Пётра Мурзёнак, заснавальнік і рэдактар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», доктар медыцынскіх навук. Цікавіцца пытаннямі падрымкі беларускасці і нацыянальнага будаўніцтва.

ецца больш поўным, а менавіта «будаўніцтва дзяржавы» (state building). Таму што, калі мы гаворым аб будаўніцтве нацыі (nation building) або будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы (nation state building), мы ўжываем паняцці «нацыя» або «дзяржава» ў тым жа сэнсе/вызначэнні, што і «нацыянальная дзяржава». Я думаю, вызначэнне будаўніцтва нацыі, што прыйшло з XIX стагоддзя, састарэла. Я аддаю перавагу не тэрміну «нацыянальнае будаўніцтва», а тэрміну «будаўніцтва дзяржавы», заснаванае на дэмакратычных інстытутах, а не на этнічнасці людзей.

**Антон Шэхаўцоў**: Я не ўпэўнены, што мы можам гаварыць пра нацыянальнае будаўніцтва з пункту гледжання кансалідацыі этнічнай нацыі. Гаворка будзе хутчэй ісці аб будаўніцтве грамадска-рэспубліканскай нацыі, якое на самай справе не дапускае строгіх спасылак на этнічнае паходжанне ці культуру. Гаворка ідзе пра будаўніцтва грамадскай нацыі (building of civic nation), якое ўключала б і меншасці, і большасць насельніцтва.

**Пётра Мурзёнак**: Тэрміналогія — вельмі важная рэч. Тым не менш ці вы думаеце, што магчыма казаць аб этнічным дзяржаўным будаўніцтве ў нашы дні?

**Інга Паповайтэ:** Калі мы паглядзім на Еўропу, то маецца тэндэнцыя зняць межы паміж краінамі. У такім разе казаць аб этнічнай дзяржаве для мяне няма ніякага рэальнага сэнсу.

**Пётра Мурзёнак:** Думаю, што далейшае ўжыванне тэрміна «нацыянальнае будаўніцтва» ўсё ж магчыма ў наш час. З аднаго боку, і вы маеце рацыю, еўрапейцы амаль не маюць межаў. Аднак у апошні час мы назіраем шэраг сітуацый у еўрапейскіх краінах, якія сведчаць аб развіцці асобных нацыянальных дзяржаў, заснаваных на этнічнасці. Добрым прыкладам для гэтага з'яўляюцца новыя нацыянальныя ці этнічныя дзяржавы, што ўзніклі на тэрыторыі былой Югаславіі. Так, мы разумеем, што гэта сталася праз вайну, і вайна — гэта дрэнна. Аднак гэта здарылася, і мы маем тое, што маем. Тое, што я хацеў бы абмеркаваць сёння, гэта будаўніцтва нацый у постсавецкіх краінах. Для гэтых краін мы маем спецыфічныя ўмовы развіцця: з'яўляючыся фармальна этнічнымі дзяржавамі на працягу прыкладна 70 гадоў, большасць з іх, па сутнасці, не прайшлі праз стадыю будаўніцтва нацыі, як гэта зрабілі большасць еўрапейскіх краін у XIX стагоддзі. Такім чынам, з аднаго боку, еўрапейскія краіны аб'яднаны ў цяперашні час, але з іншага боку, мы бачым працяг нацыянальнага будаўніцтва і ў былой Югаславіі, і ў постсавецкіх краінах.



**Інга Паповайтэ:** Вы маеце рацыю, калі кажаце, што ёсць сілы і рухі супраць еўрапеізацыі, напрыклад партыя JOBBIC у Венгрыі. Калі мы паглядзім на падобныя рухі, мы бачым, што яны ў асноўным шавіністычныя і маюць расісцкія ідэі.

Калі вы прапануеце развіццё этнічнай дзяржавы, то гэтым вы падтрымліваеце ўвесь час толькі адну этнічную абшчыну, большасць, і ставіце меншасці ў больш слабую пазіцыю. Напрыклад, у Грузіі да гэтага часу няма закона аб этнічных меншасцях. Рэформы мясцовага кіравання дазваляюць зараз больш актыўны іх удзел у палітычным жыцці. Але меншасці па-ранейшаму выключаны з сацыяльнай сферы, са сродкаў масавай інфармацыі, паколькі яны не маюць дастаткова каналаў для сваёй мовы, і г. д. Грузія схіляецца на дадзены момант больш да этнічнай, а не да цывільнай дзяржавы. І ў гэтым я бачу праблему.

**Антон Шэхаўцоў:** Я хацеў бы дадаць наконт этнічнай дзяржавы. Рэспублікі ў Савецкім Саюзе былі ў асноўным этнічнымі дзяржавамі.

**Інга Паповайтэ:** Я проста хачу сказаць, што большасць людзей у Савецкім Саюзе жылі ціха і мірна. Тым не менш у рэспубліках Паўднёвага Каўказа, заснаваных на этнічнасці, узнікла маса праблем, у Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Нагорным Карабаху. Тое ж самае можна сказаць і пра Паўночны Каўказ.

**Антон Шэхаўцоў:** Сапраўды. Я думаю, што праблемы Грузіі, Абхазіі і Паўднёвай Асеціі сталіся вынікам адміністрацыйнага падзелу, што савецкія ўлады ўвялі і пабудавалі ў Грузінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Але я хацеў бы дадаць, што спробы стварэння этнічнай ці нацыянальнай дзяржавы вядуць да з'яўлення праблем, якія могуць быць і не звязаны з дзейнасцю нацыяналістычных, патрыятычных або шавіністычных груп.

Напрыклад, шатландскі рэферэндум, які адбыўся некалькі тыдняў таму назад. Шатландская нацыянальная партыя не ёсць правай партыяй, але яе прадстаўнікі хацелі стварыць асобную

дзяржаву на аснове шатландскай этнічнай прыналежнасці і ў той жа час заснаваную на нацыі альбо дзяржаве, якую тлумачылі з ужываннем тэрміналогіі цывільнай дзяржавы. Г. зн. была спроба стварыць асобную дзяржаву, заснаваную на падставе палітычных і эканамічных прычын. Тое ж самае можна сказаць пра некаторыя рухі ў Францыі, Бельгіі і Іспаніі. На самай справе не ў сілах адных нацыяналістаў стварыць такія дзяржавы.

**Ірына Хадарэнка**: Я думаю, што сцвярджэнне аб адсутнасці этнічных канфліктаў у СССР не больш чым папулярны міф. У СССР была нязграбная спроба вырашыць так званае нацыянальнае пытанне ў схаванай форме і змясціць яго ў абалонку інтэрнацыяналізму. На самай справе вострыя этнічныя канфлікты адбываліся часта, але згадкі пра іх старанна хаваліся ад грамадскасці. У прыватнасці, у 1945 годзе быў габрэйскі пагром у горадзе Рубцоўску, на Алтаі. У 1958 года адбыліся сур’ёзныя сутыкненні паміж чачэнцамі і рускімі ў Грозным. Таксама было некалькі рускіх пагромаў ва Узбекістане і Казахстане, і, нарэшце, у 1988 годзе была страшная разня армян у Сумгаіце, Азербайджан. Усё гэтыя канфлікты сведчаць на карысць таго, што ў любым выпадку немагчыма ігнараваць нацыянальныя праблемы. І будаўніцтва грамадскай/цывільнай нацыі ў постсавецкіх краінах з’яўляецца заўчасным, прымаючы да ўвагі тое, што нацыі як агульныя этнакультурныя суполкі ў іх канчаткова не сфармаваліся.

**Пётра Мурзёнак:** Я бачу фармальную супярэчнасць паміж дзвюма абмяркоўваемымі версіямі будаўніцтва этнічнай ці цывільнай дзяржавы, у аснове якой ляжаць адносіны да меншасцяў. Думаецца, што розніца тут толькі ў вызначэннях, бо пры абедзвюх версіях неабходна вырашаць праблемы ўзаемаадносін паміж асноўнай, нацыяўтвараючай часткай насельніцтва дзяржавы (primary nation) і меншасцямі. Давайце пагаворым аб Беларусі, Літве і Украіне. Згодна з апошнім апытаннем (2009), беларусы складаюць каля 84% насельніцтва. Гэта асноўная нацыя (primary nation). Тое ж самае у Літве, каля 84% насельніцтва складаюць літоўцы. Аналагічная сітуацыя ў былых югаслаўскіх рэспубліках. Падобна на тое, што Літва даволі паспяхова вырашае праблемы меншасцяў. Ці не думаеце вы, што вызначэнне будаўніцтва нацыі, не будаўніцтва цывільнай дзяржавы, можа ўжывацца ў адносінах да постсавецкіх краін, улічваючы тое, што правы меншасцяў у іх павінны быць станоўча вырашаны ў любым выпадку?



**Антон Шэхаўцоў**: Што тычыцца Беларусі, то я не думаю, што мы можам казаць пра нацыянальную дзяржаву. Я б не стаў спасылацца на працэнты беларусаў, якія жывуць у гэтай краіне. Бо большасць грамадзян Беларусі не з’яўляюцца беларусамі. Яны — савецкія людзі. Яны да гэтага часу маюць савецкую ідэнтычнасць, і да таго часу, пакуль беларусы не пазбавяцца савецкай ідэнтычнасці, яны не будуць у стане пабудаваць нацыянальную дзяржаву ці хоць якую-небудзь эфектыўную дзяржаву.

**Ірына Хадарэнка**: Не магу з гэтым пагадзіцца. Яны ўжо не савецкія. Частку нашага грамадства можна ахарактарызаваць як постсавецкую, гэта праўда. Але ў той жа час у нас ёсць шмат людзей, у асноўным маладых, якія сапраўды не хочуць мець нічога агульнага з савецкім менталітэтам, традыцыямі і каштоўнасцямі. Аднак я згодна з тым, што мы, безумоўна, павінны адысці ад гэтай «постсавецкай пасткі».

**Пётра Мурзёнак:** Інга, што вы можаце скажаць пра Грузію? Ці адчуваюць грузіны, што яны жывуць у этнічнай дзяржаве?

**Інга Паповайтэ**: Я мяркую, што можна казаць пра розніцу ў тым, як вы сябе адчуваеце і як іншыя бачаць вас. У прынцыпе, калі я адчуваю сябе грузінкай, то гэта не значыць, што іншыя бачаць мяне як грузінку, з-за маёй рэлігіі, этнічнага паходжання і г. д. Я дам канкрэтныя прыклады: армяне жывуць у найбольш бедным рэгіёне, да таго ж там адсутнічае адпаведная адукацыя на дзяржаўнай мове. Армяне ходзяць у асноўным у школы, дзе галоўнай мовай з’яўляецца руская або армянская, а па-грузінску яны размаўляюць кепска. Моўны бар’ер не дазваляе ім займаць дзяржаўныя пасады, і, як вынік, яны не могуць прадстаўляць сваю меншасць на больш высокім палітычным узроўні.

Кажучы пра Літву, можа падацца, што там сітуацыя лепшая ў адносінах да меншасцяў. Тым не менш ёсць яшчэ шмат праблем. Так, Літва да гэтага часу не мае сапраўднага закона аб

нацыянальных меншасцях. Польскі бок знаходзіцца ў кіруючай кааліцыі на дадзены момант, аднак я бачу ўсё больш і больш нянавісці ці, па меншай меры, моцную непрыязнасць да палякаў і рускіх. Літоўцы бачаць іх пятай калонай у Літве. Затым, паранейшаму ёсць праблемы з мовай. Літва падпісала Канвенцыю Савета Еўропы па нацыянальных меншасцях, дзе гаворыцца, што дзяржава павінна забяспечыць умовы для карыстання мовай для меншасцяў у раёнах з найбольш шчыльным іх пражываннем. Зноў жа, літоўцы не дазваляюць пісаць назвы вуліц на дзвюх мовах, літоўскай і польскай, на паўднёвым усходзе Літвы.

Да гэтага часу працягваюцца дэбаты аб напісанні імёнаў у пашпарты, у адпаведнасці з арыгінальным вымаўленнем, напрыклад ужываючы літару «W» і іншыя літары, якіх літоўцы не маюць у сваім алфавіце. Гэтыя так званыя «W»-дэбаты працягваюцца ўжо на працягу 5–6 гадоў, калі не больш. Ёсць яшчэ шмат маленькіх праблем, якія можна ахарактарызаваць як нелюбоў да меншасцяў.

**Пётра Мурзёнак:** Хачу нагадаць, што літары азначаюць для літоўцаў вельмі многа, бо яны пачалі будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў пачатку XX стагоддзя з увядзення лацінскага алфавіту і некалькіх літар, якія сталі характэрнымі толькі для літоўскай мовы. Аднак калі вы паглядзіце на Беларусь, то беларусы ўсё яшчэ знаходзяцца пад этнацыдным ціскам цяперашняй улады: беларусы, складаючы большасць насельніцтва, да гэтага часу змагаюцца за ўвядзенне роднай мовы ў назвы вуліц. Такім чынам, сітуацыя з роднай мовай у Літве і Беларусі цалкам розная. У якой ступені грузіны яшчэ адчуваюць сябе савецкімі людзьмі?

**Інга Паповайтэ:** Зусім не адчуваюць. У Грузіі, у асноўным з-за канфліктаў з Абхазіяй і Асеціяй, грузіны адчуваюць сябе грузінамі, але ніяк не рускімі. Маладое пакаленне кажа, што яны не з'яўляюцца больш савецкімі.

**Пётра Мурзёнак:** Ці ёсць у Грузіі ўціск расійскага тэлебачання?

**Інга Паповайтэ:** Вядома, расійскія СМІ прысутнічаюць у Грузіі, і ўціск даволі моцны. Тым больш ёсць прарасійскія людзі, якія сцвярджаюць, што адносіны з Расіяй павінны быць мацнейшымі ў параўнанні з тымі, якія былі пры Саакашвілі. Цяперашні ўрад спрабуе прасоўваць мяккую палітыку ў дачыненні да Расіі. Урад змог зняць у Расіі забарону на гандаль віном і мінеральнай вадой і тым самым дапамагчы грузінскай эканоміцы. Вядома, ёсць ціск з боку Расіі. Аднак, зноў жа, маладое пакаленне больш арыентавана на Еўропу і заўсёды кажа, што Грузія належыць да Еўропы і што Грузія — гэта не Расія. Маладыя людзі адрозніваюць таксама Грузію ад Арменіі і Азербайджана, краін таго ж рэгіёна; яны кажуць: «вы, хлопцы, больш у Азіі, але мы належым да Еўропы».



**Пётра Мурзёнак:** Я разумею, што ўрад Грузіі раней і зараз падтрымлівае нацыянальнае будаўніцтва. Ці так гэта?

**Інга Паповайтэ:** Вядома, урад гэта робіць. Я магу даць вам адзін прыклад. Калі Саакашвілі стаў прэзідэнтам пасля рэвалюцыі руж, ён даваў клятву ў старажытным саборы ў Кутаісі, дзе прысягаў таксама адзін з самых знакамітых грузінскіх цароў, Давід Будаўнік, і дзе ён пахаваны. Гэта была дэманстрацыя пераемнасці эпохі Давіда Будаўніка. Сцяг дзяржавы быў таксама зменены ў 2003 годзе на сцяг, які выкарыстоўваўся ў сярэднявеччы царыцай Тамарай, Святы Георгіеўскі крыж.

**Пётра Мурзёнак:** Антон, мы ведаем, што Украіна змагаецца цяпер за свабоду. Ці можам мы сказаць, што гэта вайна ёсць вайной за будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы?

**Антон Шэхаўцоў:** Я сцвярджаў у снежні мінулага года, што незалежнасць Украіны ад Савецкага Саюза ў 1991 годзе не была нейкай формай барацьбы за свабоду. Незалежнасць проста адбылася. І толькі цяпер Украіна змагаецца за незалежнасць. Яна была фармальна незалежная, але гэта не была незалежнасць суверэннай дзяржавы. Штосьці падобнае мы можна прасачыць у гісторыі Аўстрыі ў XX стагоддзі. Аўстрыя стала афіцыйна незалежнай у 1945-м. Але яшчэ доўгі час саюзныя войскі і ваенныя базы знаходзіліся ў Аўстрыі, і толькі ў 1955 годзе Аўстрыя сапраўды атрымала сваю незалежнасць. Але ўсё-такі яны святкуюць незалежнасць, атрыманую ў 1955-м, а не ў 1945 годзе. Украіна з'яўляецца еўрапейскай краінай, як і Грузія. Гэта Усходняя Еўропа. Культура Еўразіі належыць, галоўным

чынам, да савецкай культуры. Не рускай, але савецкай культуры. Вайна ідзе паміж украінскай цывільнай, не этнічнай, дзяржавай і савецкімі людзьмі, якія былі пры ўладзе і якія падтрымліваюць Расію. Так, ідзе вайна паміж Украінай і Расіяй. Расія хоча перашкодзіць Украіне стаць паспяховай еўрапейскай краінай. Таму што ў адваротным выпадку, калі Украіна дасягне сваіх мэтаў, гэта будзе вельмі дрэнным прыкладам для расійскага грамадства. Скажам, калі расійскія грамадзяне будуць бачыць, што ва ўкраінцаў атрымалася, а яны да гэтага часу жывуць у аўтарытарным грамадстве, то сітуацыя можа перакінуцца на саму Расію. Відавочна, што вайна супраць Украіны накіравана на захаванне пуцінскага рэжыму ў Расіі.

**Ірына Хадарэнка**: На маю думку, гэта не вайна паміж народамі; гэта вайна паміж рознымі каштоўнасцямі ў першую чаргу. І зараз мы назіраем сітуацыю, калі двое суседзяў, абодва народжаныя ва Украіне і маюць украінскае грамадзянства, трапілі на процілеглыя полюсы ў сваім разуменні рэчаіснасці дзякуючы дакучлівай расійскай прапагандзе.

**Пётра Мурзёнак**: Як ужо згадвалася, самаідэнтыфікацыя беларусаў з'яўляецца адным з ключавых фактараў. Асвятленне прычын, па якіх беларусы ў асноўным размаўляюць па-руску, выходзіць за рамкі нашай дыскусіі. Хаця гэта рэальны факт. Культурны і эканамічны ціск з боку Расіі на Беларусь з'яўляецца вельмі моцным. Але я не думаю, што сітуацыя ў Беларусі можа быць падобнай да той, якая ёсць ва Украіне. Я маю на ўвазе, што беларусы не гатовыя змагацца са зброяй за незалежнасць. Што трэба рабіць, каб палепшыць сітуацыю ў Беларусі?

**Антон Шэхаўцоў:** Для паспяховага развіцця нацыянальнай дзяржавы патрабуецца доўгі час, які павінен уключаць у сябе працэс кансалідацыі нацыі. Вядома, у першую чаргу гэта тычыцца паляпшэння стану з беларускай мовай. Гэта здаецца відавочным для мяне. Але ў той жа час, каб пабудаваць паспяховую незалежную нацыянальную дзяржаву, аднаго гэтага недастаткова. Я б пачаў з мадэрнізацыі — сацыяльнай і эканамічнай мадэрнізацыі і мадэрнізацыі прамысловасці. Таму што калі дзяржава эканамічна паспяховая, то тады і ствараюцца ўмовы для пабудовы нацыі і



дзяржавы. Па стану на сёння, што я бачу ў Беларусі, ціск з боку Расіі — гэта ў асноўным эканамічная падзея, а не палітычная. Без Расіі Беларусь, здаецца, не зможа выжыць. Адзіным спосабам для Беларусі пабудаваць незалежную, паспяховую і эфектыўную нацыянальную дзяржаву з'яўляецца мадэрнізацыя эканомікі і рэфармаванне краіны.

**Ірына Хадарэнка**: Я магу толькі дадаць, што неабходна мадэрнізацыя эканомікі праз прыватызацыю, правядзенне істотных рэформ, павышэнне канкурэнтаздольнасці прадукцыі і ў значнай меры праз памяншэнне залежнасці ад расійскіх рэсурсаў і расійскага рынку. Чым далей эканоміка Расіі трымае нашу эканамічную сістэму на кароткім ланцугу, казаць пра поўную незалежнасць Беларусі вельмі цяжка.

**Інга Паповайтэ:** Вы павінны пачаць з эканамічных і сацыяльных, дэмакратычных змен, і з роднай мовы таксама. Беларусь знаходзіцца ў больш складанай сітуацыі яшчэ і таму, што вы маеце недэмакратычны рэжым.

**Пётра Мурзёнак:** Што яшчэ вы можаце прапанаваць з пункту гледжання асветы насельніцтва, калі мець на ўвазе, што ў Беларусі амаль адсутнічаюць незалежныя СМІ, а астатнія знаходзяцца пад дзяржаўным кантролем?

**Інга Паповайтэ:** Вы можаце спадзявацца на дыяспару. Напрыклад, студэнты, якія зараз вучацца ў Еўрапейскім універсітэце ў Вільні, шмат робяць. У цэлым, беларусы замежжа могуць дапамагаць праз размовы і дыскусіі па Інтэрнэце. Неабходна далучаць людзей, якія карыстаюцца рознымі мовамі, не толькі беларускай, але і рускай таксама, для таго каб мець большую аўдыторыю.

**Антон Шэхаўцоў:** Я не думаю, што на самай справе Беларусь — гэта закрытае грамадства. Многа беларусаў ездзіць на Захад, у Еўропу. Інтэрнэт таксама нядрэнны (аднак жа, паводле апошняга закона аб СМІ, падпісанага ў снежні, многія інтэрнэт-рэсурсы будуць мець значныя абмежаванні. — *П. М.*). Я ў сапраўднасці не бачу якіх-небудзь праблем з доступам да інфармацыі. Што больш істотна, у Беларусі недастаткова культурнай прадукцыі. Нават калі беларусы зацікаўлены ў мадэрнізацыі, ім

трэба проста рабіць больш для Беларусі. Арганізоўваць дыскусіі, размовы.

З другога боку, сучасны ўрад, магчыма, не зацікаўлены ў мадэрнізацыі. Аднак калі звярнуцца да гісторыі, то можна заўважыць мадэрнізацыю нават у аўтарытарных дзяржавах. Добрыя прыклады таму — Савецкі Саюз, Кітай, Турцыя. Аднак праблемы ўзнікаюць з лідарамі ў такіх дзяржавах, з персаніфікацыяй палітыкі. Магчыма, Лукашэнка не хоча мадэрнізаваць Беларусь, але хтосьці можа ўплываць на яго, нават калі людзі з яго атачэння хочуць і надалей мець добрыя стасункі з Расіяй.

**Пётра Мурзёнак:** А якая роля дыяспары ў вашых краінах?

**Антон Шэхаўцоў:** Падчас рэвалюцыі і пасля яе дыяспара была выключна арганізаванай і эфектыўнай. І гэта былі не толькі грошы. Гэта была і мяккая сіла: лабіраванне, дэманстрацыі, сацыяльная актыўнасць у заходніх краінах і ў Цэнтральнай Еўропе. Я б сказаў, што часам дыяспара, у прыватнасці ў Канадзе, Італіі, Германіі, ЗША, Францыі, была нашмат больш актыўнай, чым самі ўкраінцы на радзіме.

**Інга Паповайтэ:** Я не маю дастатковай інфармацыі па Грузіі. Што тычыцца літоўскай дыяспары, то яна сыграла выключную ролю ў стварэнні літоўскай дзяржавы ў пачатку ХХ стагоддзя і таксама ў 70–80-я гады. Вядомы прыклад: прэзідэнт краіны, Вальдус Адамкус, мае амерыкана-літоўскае паходжанне. Гэта гаворыць аб многім.

**Пётра Мурзёнак:** У астатак часу хацелася б крыху пагаварыць пра «дрэнны нацыяналізм» і «добры нацыяналізм» і пра межы паміж імі. Разуменне нацыяналізму ў Савецкім Саюзе заўжды асацыявалася з правымі, крайнімі поглядамі нацыяналізму (фашызм, экстрэмізм і г. д.). Такое ж разуменне застаецца і ў сучаснай Беларусі. На нядаўняй сустрэчы са студэнтамі Лукашэнка заявіў, што ёсць нацыяналісты ў Беларусі, якія спекулююць роднай моваю, але ён трымае іх пад кантролем, але ёсць і добрыя нацыяналісты, якія любяць родную мову і патрыёты сваёй краіны. З другога боку, мы маем справу Брэйвіка ў Нарвегіі, з масавым забойствам і шматлікімі артыкуламі на тэму нацыяналізму. Хаця мае калегі не вельмі прымаюць тэрмін



«будаўніцтва нацыі» ў наш час, я ўсё ж думаю, што будаўніцтва нацыі з'яўляецца адэкватным тэрмінам для постсавецкіх краін. Хаця на самай справе нашы краіны (Беларусь, Грузія, Літва і Украіна) атрымалі шанц для будаўніцтва нацыянальных дзяржаў на пачатку ХХ стагоддзя, аднак толькі зараз яны могуць зрабіць гэта ў поўнай меры. Хаця Беларусь і не можа яшчэ вырвацца з абдымкаў Расійскай імперыі.

**Антон Шэхаўцоў:** Я не думаю, што нацыяналізм можна падзяляць на «дрэнны і добры нацыяналізм». Гэтыя катэгорыі вынікаюць з мінулых вызначэнняў усходняга нацыяналізму, які ёсць «дрэнным» і можа быць апісаны тэрмінамі, звязанымі з этнічнасцю, і заходняга нацыяналізму, які ёсць «добрым» і можа быць ахарактарызаваны цывільнымі тэрмінамі. Я б хацеў казаць пра неліберальны нацыяналізм, які можна было б разумець як дрэнны нацыяналізм, аднак… Неліберальны нацыяналізм дае перавагу адной этнічнай групе над другімі. Гэта вельмі часта ўплывае на жыццё меншасцяў, нават выключаючы іх з жыцця дзяржавы. Я б сказаў, што мяжа паміж ліберальным і неліберальным нацыяналізмам вызначаецца суадносінамі «ўключэння» і «выключэння» (inclusivity — exclusivity, тэрміны, якія азначаюць палітыку, скіраваную на ўключэнне ці выключэнне людзей з грамадскай актыўнасці на падставе падзялення іх па полу, расавай ці рэлігійнай прыналежнасці, сексуальнай арыентацыі, інваліднасці і г. д.). Чым большая доля «ўключэння», тым больш ліберальнай будзе нацыя.

**Ірына Хадарэнка**: А я б сказала, што нацыяналізм можа быць добрым і нават неабходным. Асабліва калі мы гаворым пра сучасную Беларусь, дзе няма праблем з нацыянальнымі меншасцямі. За выключэннем, магчыма, рускіх, якія схільны да з'яднання з Расіяй. Мяккі нацыяналізм вельмі важны для беларусаў і спатрэбіцца для заканчэння працэсу нацыянальнага будаўніцтва. Не трэба баяцца нацыяналізму і блытаць яго з нацызмам, таму што на самай справе любая дзяржава павінна заўжды бараніць свае нацыянальныя інтарэсы. І калі дзяржава з'яўляецца амаль монаэтнічнай, як у выпадку з Беларуссю, то інтарэсы дзяржавы павінны ў першую чаргу ўлічваць інтарэсы дамінуючай нацыі,

якая знаходзіцца зараз пад пагрозай страты сваёй ідэнтычнасці на пераходным шляху ад эфемернай савецкай нацыі да не менш эфемернай цывільнай (грамадскай) нацыі.

**Інга Паповайтэ:** Што мы маем у Грузіі, то гэта цывільны нацыяналізм, але на мяжы з рэлігійным нацыяналізмам. Ёсць шмат праяў ультранацыяналізму; людзі, якія адлюстроўваюць такія погляды, супраць еўрапеізацыі, супраць заходніх каштоўнасцяў і ідэалаў, таму што яны бяруць для параўнання ідэальную грузінскую нацыю, якая была ў сярэднія вякі ці ў XIX стагоддзі. У выніку мы маем шэраг фізічных нападаў, якія нават узначальваюць святары, на актывістаў правоў чалавека. Некаторыя лідары царквы выступаюць супраць адукацыі дзяцей на Захадзе ці супраць надання жанчынам большых правоў.

**Пётра Мурзёнак:** Як змагацца з праявамі ксенафобіі, з рэлігійнымі і этнічнымі сутычкамі?

**Інга Паповайтэ:** Перш за ўсё гэта адукацыя, як фармальная, так і нефармальная. Падручнікі, асабліва падручнікі па гісторыі, павінны быць перагледжаны і быць больш поўнымі (inclusive). Недзяржаўны сектар у Грузіі вельмі моцны, і менавіта ён з'яўляецца прыхільнікам і абаронцам уключэння ў грамадскае жыццё ўсіх слаёў насельніцтва.

**Пётра Мурзёнак:** Я думаю, многія з тых праблем, што мы абмяркоўваем, будуць толькі ўзрастаць, асабліва ў краінах этнічна гамагенных, такіх, як Беларусь, Грузія ці Літва. Да прыкладу, маюцца планы пабудаваць з удзелам кітайцаў эканамічную зону ля Мінска. Цяжка пакуль уявіць, як складуцца ўзаемаадносіны паміж беларусамі і часовымі імігрантамі-кітайцамі, бо беларускае грамадства абсалютна не падрыхтавана да гэтага. Некаторыя апытанні паказалі, што беларусы не талерантныя да людзей іншых этнасаў, асабліва калі гэта тычыцца спаборніцтва за працоўныя месцы. Вы маеце рацыю, што адукацыя, а таксама асвета і ўдзел дзяржавы будуць тут вельмі важнымі.

**Антон Шэхаўцоў:** Я згодны з Інгай адносна адукацыі. Толькі б хацеў дадаць, што гэта павінна быць ліберальная адукацыя. Скажам, Расія адукаваная краіна, аднак часам адукацыя там агрэсіўная і вядзе ў некаторай ступені да рэлігійнай нецярантнасці. Калі казаць пра змаганне з ксенафобіяй, шавінізмам, то многія людзі думаюць, што тут могуць адыграць галоўную ролю прадстаўнікі розных інстытутаў з эканамічнай сферы. Калі грамадствы бедныя, то яны прадукуюць ворагаў. Калі грамадствы паспяховыя, то яны не маюць ворагаў. Адзіны шлях, які ёсць, каб змагацца з сацыяльнымі, этнічнымі ці рэлігійнымі нецярпімасцямі, гэта зрабіць грамадства паспяховым/квітнеючым. Але справа не толькі ў беднасці, а перш за ўсё ў тым, каб людзі адчувалі сябе ў бяспецы. Калі яны ў небяспецы, яны пачынаюць шукаць бяспечныя шляхі, узнікае жаданне знайсці ворагаў і змагацца з імі.

**Пётра Мурзёнак:** Дазвольце падзякаваць усім за ўдзел у плённай дыскусіі «Будаўніцтва нацыі і сучаснасць — 2014».

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 9, сакавік 2015 г., с. 85–95.*

## Summary

***Discussion «NATION BUILDING AND MODERNITY — 2014». Participants: Iryna Khadarenka, Inga Popovaite, Anton Shekhovtsov, Piotra Murzionak (magazine «CULTURE, NATION», March 2015, issue 9, pp. 85–95).***

On-line Skype discussion was organized by magazine «CULTURE, NATION» on November 23, 2014. In this issue we provide part of the discussion in Belarusian related to: «The Nation — building in post-soviet countries: commonalities and differences».

# ЯКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСІ

*Ключавыя словы: нацыяналізм, уключнасць, будаўніцтва беларускай дзяржавы*

## Уступ

Нацыяналізм — гэта ідэалогія, скіраваная на палітычнае і эканамічнае развіццё нацыі, на далейшае ўдасканаленне культуры, традыцый, мовы і этнічнай унікальнасці народа. З'яўленне ідэалогіі нацыяналізму было адной з неабходных перадумоў паспяховага змагання асобных народаў за свабоду і вызваленне з-пад прыгнёту імперый. Вынікам гэтага змагання стала ўтварэнне новых дзяржаў у Еўропе на тэрыторыях Аўстра-Венгерскай, Атаманскай, Германскай і Расійскай імперый, зніклых пасля Першай сусветнай вайны.

На месцы губерняў Расійскай імперыі з'явіўся шэраг нацыянальных утварэнняў, аб'яднаных пазней у СССР, у якім вырашэнне нацыянальных пытанняў пайшло своеасаблівым шляхам. Савецкія людзі выхоўваліся такім чынам, што слова «нацыянальнае» атаясамлялася з двума процілеглымі сэнсамі: калі размова ішла пра нацыянальна-вызвольныя рухі XX стагоддзя ў Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, то гэта заўжды падавалася ў станоўчым (інтэрнацыянальным) сэнсе; другі, негатыўны і варожы сэнс прыпісвалі словам «нацыяналіст, нацыяналістычнае», бо ўкараненне гэтых слоў вяло б да развалу савецкай імперыі, а ў канцы XX стагоддзя перашкаджала б фармаванню новай гістарычнай супольнасці — супольнасці савецкіх людзей.

Наколькі актульнай з'яўляецца ідэалогія нацыяналізму ў нашы дні? Значная большасць сучасных даследчыкаў, абмяркоўваючы пытанні дзяржаўнага будаўніцтва, сарамліва абыходзяць словы «нацыяналізм», «нацыя» і «этнічная дзяржава». Выкарыстоўваюцца іншыя тэрміны, такія, як цывільная дзяржава ці



проста дзяржава, з дадатковымі тлумачэннямі аб уключнасці-выключнасці (inclusiveness-exclusiveness). Пад уключнасцю разумеюцца такія падыходы ў будаўніцтве дзяржавы, якія б задавальнялі ўсе магчымыя групы людзей і структуры грамадства, уключаючы іх этнічнае паходжанне, расавую, полавую і рэлігійную прыналежнасць, сексуальную арыентацыю і г. д. Будаўніцтва дзяржавы, заснаванае на такіх падыходах, лічыцца ідэальным і дэмакратычным. І наадварот, пад крытыкай знаходзяцца погляды з процілеглымі падыходамі, якія прадугледжваюць выключэнне (exclusiveness) некаторых груп людзей ці структур з жыцця грамадства.

Пагаджаючыся з самімі падыходамі будаўніцтва новага сучаснага грамадства, якое б задавальняла ўсе слаі насельніцтва, нельга пагадзіцца з адмаўленнем іншай тэрміналогіі, звязанай з будаўніцтвам дзяржавы, а менавіта з нацыянальным будаўніцтвам дзяржавы ці з будаўніцтвам этнічнай дзяржавы. Неўжыванне гэтага тэрміна не азначае, што не існуе самой праблемы. А праблема заключаецца ў тым, што нацыянальнае будаўніцтва працягваецца і ў постмадэрны перыяд і яно ў значнай меры абумоўлена этнічным паходжаннем людзей, якія пражываюць у межах дзяржаўных утварэнняў на працягу доўгага гістарычнага часу. Такі тып будаўніцтва нацый больш характэрны для еўрапейскіх краін, і ў прыватнасці для ўкраінскай і беларускай нацый, доказы існавання адметных этнасаў гэтых краін на сучасных тэрыторыях сягаюць на 12–15 стагоддзяў таму назад.

Зусім па-іншаму ствараліся нацыі ў Новым Свеце — ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Новай Зеландыі. У гэтых краінах, заснаваных мігрантамі з розных краін, утварыўся новы тып нацыі, які складаўся, у адрозненне ад еўрапейскіх краін, на поліэтнічнай аснове. На поліэтнічнай аснове фармавалася і Расійская дзяржава, але гэта адбывалася за кошт заваявання і далучэння да Масковіі новых тэрыторый і дзясяткаў народаў, аб'яднаных зараз у федэрацыю. Безумоўна, што працэсы стварэння дзяржаў і нацый у еўрапейскіх краінах, краінах Новага свету і ў Расіі істотна адрозніваюцца.

Пакуль існуюць нацыі і дзяржавы, будзе існаваць і нацыяналізм. Як бы ні спрачаліся апаненты, аднак яны не могуць адмовіць той факт, што некаторыя новыя нацыянальныя дзяржавы з'явіліся зусім нядаўна і будуюцца на тэрыторыі былых Югаславіі і СССР. Больш таго, барацьба за сапраўднае іх станаўленне працягваецца ў нашы дні. Яскравы прыклад гэтаму — чарговая нацыянальна-дэмакратычная рэвалюцыя ва Украіне і абарона ўкраінскага народа ад спроб знешняга імперскага агрэсара задушыць гэту рэвалюцыю.

## Нацыяналізм у Еўропе

Сведчаннем працягу нацыяўтварэння ў Еўропе ў постмадэрны перыяд з'яўляецца існаванне розных мадэляў будаўніцтва дзяржаў, пачынаючы ад стварэння еўрапейскай нацыі да сцвярджэння і ўзмацнення асобнай ролі нацыянальных дзяржаў. Прыхільнікі адной з плыняў, плыні еўрапеізму, заяўляюць, што людзі ў Еўропе маюць мноства агульных палітычных, эканамічных і сацыяльных каштоўнасцяў, якія дазваляюць спадзявацца на стварэнне агульнай нацыі. І сапраўды, многае з таго, што прапаведуюць ідэолагі гэтай плыні, удалося ўвасобіць пры стварэнні Еўрапейскага саюза (ЕС). У ЕС зараз пражывае каля 500 млн чалавек, абіраецца Еўрапарламент, наладжаны цесныя эканамічныя сувязі, у аэрапортах існуюць асобныя ўваходы і выхады для еўрапейскіх грамадзян з еўрапейскім пашпартам.

У той жа час існуе даволі моцная процілеглая плынь, плынь еўраскептыкаў (V. Klaus, 2006). Сярод еўраскептыкаў ёсць даволі шмат прыхільнікаў падтрымкі нацыянальнай ідэнтычнасці і ідэй нацыяналізму. Традыцыйна да іх можна аднесці сяброў кансерватыўных партый і партый хрысціянскай дэмакратыі, аднак найбольш яркімі прыхільнікамі ідэалогіі нацыяналізму з'яўляюцца правыя сілы. Відавочна, што правыя сілы ў Еўропе вельмі розныя; іх падзяляюць на чатыры асноўныя групы (R. Wodak, 2014): 1) фашысты; 2) антыісламісты; 3) фундаменталісты (базуюцца на хрысціянскіх каштоўнасцях); 4) сілы, якія бачаць пагрозу нацыянальнай ідэнтычнасці/культуры з боку нацыянальных меншасцяў. Да першых адносяць партыю



Jobbic у Венгрыі і партыю Golden Dawn у Грэцыі, да апошніх, напрыклад, правыя сілы ў скандынаўскіх краінах.

Правыя сілы прадстаўлены амаль ва ўсіх парламентах еўрапейскіх краін. Напрыклад, на апошніх выбарах у парламент Swiss People's Party атрымала 26% галасоў (2011), Freedom Party of Austria — 20,5% (2013), а ў Сербіі і Македоніі нацыяналістычныя партыі знаходзяцца пры ўладзе. Front National у Францыі на апошніх выбарах у Еўрапарламент заняў першае месца ў краіне, значна павялічыўшы сваю прысутнасць (з трох мандатаў у 2009 г. да 24 мандатаў у 2014 г.). Зараз правыя сілы ў Еўрапарламенце маюць 52 мандаты з 751. Для параўнання: лідары, правацэнтрысты Еўрапейскай народнай партыі, маюць 208 месцаў, левацэнтрысты сацыял-дэмакраты — 186 месцаў.

За пасляваенныя гады Еўропа даказала, што ЕС можа існаваць як палітычная і эканамічная структура. У той жа час здаецца, што стварэнне на базе ЕС адной нацыі выглядае малаверагодным. Рэалізацыя ідэй панславізму, пантуркізму, панамерыканізму (у Лацінскай Амерыцы), панарабізму (асабліва ў радыкальных формах «Ісламскай дзяржавы» ISIS у наш час) не была паспяховай ці малаверагодна, што будзе паспяховай. Прычынай гэтаму з'яўляецца ўсё большае жаданне народаў жыць у сваіх нацыянальных дзяржавах.

Практычная рэалізацыя ідэй нацыяналізму патрабуе вельмі далікатнага падыходу, а менавіта павінен захоўвацца прынцып уключнасці. Відавочна, што ідэалогія прафашысцкіх сіл (партыі Jobbic, Golden Dawn), скіраваных супраць мусульман, яўрэяў, цыганоў і яшчэ шмат супраць каго, абсалютна не прымаецца сучасным грамадствам. Тое ж самае можна казаць і пра адмоўную ролю нацыяналістычных сіл пры ўтварэнні і будаўніцтве новых дзяржаў у былой Югаславіі. Войны ў Югаславіі былі ў значнай частцы этнічнымі войнамі, у выніку якіх, напрыклад, Харватыю пакінулі амаль усе сербы і наадварот. Прыклад з нацыянальным будаўніцтвам дзяржаў у былой Югаславіі сведчыць аб тым, што яно адбываецца на монаэтнічнай аснове. Кепска гэта ці не, але так сталася. Амаль праз 20 год пасля вайны гэтыя краіны абвінавачваюць адна адну ў генацыдзе. На тэрыторыі былой

Югаславіі, дзе этнасы жылі шчыльна на працягу даволі доўгага гістарычнага перыяду, на жаль, сваю адмоўную ролю сыгралі фактары, якія знаходзяцца па-за межамі разумнага. Відавочна, што нацыяналістычныя сілы аказаліся не гатовымі, каб трымаць разумны і правільны баланс уключнасці-выключнасці, які можна мець толькі ў высокасвядомым і адукаваным у нацыянальным сэнсе грамадстве.

## Нацыяналізм у савецкі і постсавецкі перыяды

Нацыянальныя пытанні ў СССР вырашаліся парадаксальным чынам. З аднаго боку, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бальшавікамі было прынята рашэнне аб стварэнні шматлікіх нацыянальных утварэнняў — рэспублік, акругоў і абласцей на тэрыторыі былых расійскіх губерняў. Гэта быў вымушаны крок бальшавікоў, які дыктаваўся ў першую чаргу жаданнем народаў атрымаць свабоду ў адпаведнасці з лозунгамі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Як толькі яны адчулі такую магчымасць пасля распаду Расійскай імперыі, адразу прайшоў парад аб'яўлення свабодных і незалежных рэспублік на перыферыі былой імперыі, непадкантрольнай бальшавікам, — народныя рэспублікі з'явіліся у Беларусі (БНР, 1918), Украіне (УНР, 1918), Грузіі (ГДР, 1918). Не жадаючы выпускаць сітуацыю з-пад кантролю, бальшавікі дзе сілай, дзе падманам амаль адразу выціснулі новыя нацыянальныя ўрады і сілы і замясцілі іх сваімі псеўданацыянальнымі ўрадамі. Аднак такая касметычная аперацыя аказалася недастатковай. Нават ва ўмовах псеўданацыянальных утварэнняў нацыянальныя сілы пачалі развівацца і ўзмацняцца. Відавочна, што гэта пагражала цэласнасці і самому існаванню СССР (з 1922), новага імперскага ўтварэння на месцы былой Расіі, і менавіта ў 30-х гадах мінулага стагоддзя пачаліся рэпрэсіі супраць нацыянальных сіл. Сталін не быў ні рускім, ні савецкім, аднак звёў са свету мільёны нацыянальна-свядомых людзей у інтарэсах савецкай дзяржавы і сусветнай камуністычнай рэвалюцыі. Тут будзе дастаткова прачытаць толькі матэрыялы аб знішчэнні нацыянальнай эліты ў Беларусі, сабраныя Л. Мараковым (www.marakou.by).



Нацыянальныя ідэі замяшчаліся інтэрнацыянальнымі. Ідэі сусветнай рэвалюцыі былі яшчэ зусім свежымі. Быў створаны Камінтэрн. Часткова ідэі рэвалюцыі разам з ідэямі еўразізму рэалізаваліся пасля Другой сусветнай вайны і новага падзелу свету паміж пераможцамі. У той час як распадаліся Брытанская і Французская імперыі (якія далі свабоду калоніям і да гэтага часу зберагглі імперскі ўплыў на іх), савецкая імперыя значна пашырала свой уплыў у свеце. У выніку ахвярамі сталі нацыянальныя сілы ўсходне- і цэнтральнаеўрапейскіх краін, стаўшых сябрамі сацыялістычнага лагера і Варшаўскага блока.

Не сакрэт, што антынацыянальная палітыка працягвалася аж да канца існавання Савецкага Саюза. У 80-я гады было заяўлена аб стварэнні новай супольнасці людзей — савецкай. Выхаванне гэтай супольнасці адбывалася пры вядучай ролі рускай мовы і культуры. Так, сапраўды, у кожнай рэспубліцы існавалі нацыянальныя творчыя калектывы, якія выступалі на канцэртах пасля чарговых з'ездаў КПСС, каб дэманстраваць дружбу народаў СССР. Дружба між народамі — гэта заўжды добра, але гэтыя праяўленні дружбы дэкаратыўна прыкрывалі адсутнасць сапраўднай нацыянальнай палітыкі.

У большасці постсавецкіх краін гэтая антынацыянальная палітыка працягваецца і зараз, як пры ўдзеле мясцовых урадаў, так і з дапамогай Расіі. Расійская Федэрацыя, як асноўнае ядро і спадкаеміца былых імперый, расійскай і савецкай, працягвае антынацыянальную палітыку, цяпер ужо ў адносінах да незалежных краін. Яна выкарыстоўвае ўсе магчымыя падыходы: палітычныя, эканамічныя і нават ваенныя (Чачня, Грузія, Украіна), каб зберагчы свой уплыў і падпарадкаваць постсавецкія краіны. У апошнія гады кіраўніцтва Расіі сфармулявала стратэгію на зберажэнне так званага «русского мира». У выніку — чалавецтва паўстала перад пагрозай новай вайны і падзелу свету. Здаецца, што сучасная стратэгія Расіі ідзе далей, чым рэалізацыя ідэй панславізму і еўразізму, і скіравана на аднаўленне і прызнанне ўплывовага сусветнага цэнтра са сталіцай у Маскве.

Парушаючы пасляваенныя прынцыпы мірнага суіснавання, Расія ўмешваецца ў справы блізкіх суседзяў: фактычна падпа-

радкавана ў эканамічным і ваенным сэнсах Беларусь, вядзецца гібрыдная вайна супраць народа Украіны. Расійская эліта, нават сучасная апазіцыя, ніколі не прызнавала магчымасці самастойнага існавання беларускага і ўкраінскага народаў, разглядаючы іх толькі як галіны славянскага народа. Заявы кіраўніка Расіі, што такія краіны, як Украіна і Казахстан, не існавалі, яркія таму сведчанні. Нават спакойны кіраўнік Казахстана, Назарбаеў, вымушаны быў выступіць з адпаведнымі заявамі. І гэта зразумела, бо поўнач Казахстана дастаткова шчыльна заселена рускамоўнымі людзьмі. Урад Казахстана заявіў, што ў мэтах развіцця казахскай мовы насельніцтва краіны да 2025 года пяройдзе на лацініцу («Наша Ніва», 14.02.2012). Даволі вялікая прапорцыя рускамоўных пражывае ў Латвіі і Эстоніі. І не важна, што гэтыя людзі зусім не рвуцца ў Расію. Усе разумеюць, што як прыйдуць «зялёныя чалавечкі», то яны могуць навесці «свой парадак», як гэта робяць зараз у Крыме. У той жа час не падобна на тое, каб штучныя ўтварэнні на Данбасе, якім так дапамагае Расія супраць Украіны, імкнуліся б у Расію. Заявы, якія зрабілі прадстаўнікі «ДНР» і «ЛНР» аб жаданні стварыць нейкія свае дзяржавы накшталт Прыднястроўя, Абхазіі ці Паўднёвай Асеціі, сведчаць аб тым, што ўваходзіць у Расію яны не збіраюцца.

Расійская канстытуцыя не ўтрымлівае нормы аб магчымасці аддзялення ці выхаду народа з яе складу. Маленькая Чачня пасля мужнай барацьбы падчас дзвюх войнаў вымушана была скарыцца. Зараз народ Украіны змагаецца за права вызначыць самастойна свой лёс. Аднак без падтрымкі міжнароднага супольніцтва і пры паразе ў вайне з Расіяй яе будзе чакаць чачэнскі лёс калоніі. РФ — многанацыянальная краіна, у якой пражывае 193 народы і ў якой 27 нацыянальных моў нараўне з расійскай з'яўляюцца афіцыйнымі мовамі. Таму далучэнне да Расіі аднаго-двух дадатковых суб'ектаў істотна не паўплывае на «нацыянальную расійскую палітру». Аднак далучэнне ці ўключэнне Беларусі ці Украіны ў склад Расіі надоўга будзе азначаць страту гэтымі нацыямі шанцу развівацца самастойна ў свабодным свеце.



## Беларускі нацыяналізм

Беларускі нацыяналізм, як і іншыя нацыяналізмы, будзе існаваць, пакуль існуе нацыя. Цікава адзначыць, што 9,5 мільёна этнічных беларусаў займаюць 50-е месца з 74 існуючых на зямлі этнічных груп (першыя месцы: кітайцы — 1300 млн; хінду — 420–1200 млн; арабы — 300–400 млн). Тое, што беларуская нацыя існуе, даказана яе тысячагадовай гісторыяй, культурай і традыцыямі народа, самаідэндыфікацыяй і прызнаннем сябе беларусамі значнай большасцю людзей Беларусі (83,7%, 2009). Можна спрачацца аб тым, у якім кірунку ідзе наша дзяржава, што яна будуе, але нельга сумнявацца ў гэтых лічбах. Відавочна, што аднаго прызнання сябе беларусам ці беларускай яшчэ недастаткова для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, хаця само прызнанне магло б лічыцца прымітыўнай праявай беларускага нацыяналізму пры наяўнасці іншых фактараў (веданне роднай мовы і гісторыі, крытычнае і неабыякавае вызначэнне сваёй нацыі ў свеце).

Пытанні аб тым, які і наколькі моцным быў і ёсць беларускі нацыяналізм у апошнія 1,5–2 стагоддзі, абмяркоўваліся шмат у якіх манаграфіях (А. Астапенка, 2003; В. Булгакаў, 2007). Відавочна, што ў Беларусі ў розныя перыяды, пачынаючы з канца XIX стагоддзя, заўжды знаходзілася значная колькасць прадстаўнікоў і арганізацый беларускай эліты, якія прысвяцілі свае намаганні і нават жыццё развіццю беларускай ідэі (П. Казак, 2001; С. Кандыбовіч, 2000; І. Кузняцоў).

Хвалі беларускасці ўздымаліся ў краіне пры спрыяльных знешніх умовах (стварэнне БНР ва ўмовах грамадзянскай вайны, беларусізацыя 20–30-х гадоў у перыяд НЭПа, актывізацыя беларускіх сіл падчас нямецкай акупацыі, стварэнне суверэннай Беларусі пасля развалу СССР, Беларускае Адраджэнне 1991–1994 гг.). Гэтыя хвалі ўздыму перамяжаліся з перыядамі заняпаду і рэпрэсій. Зараз мы назіраем чарговы пад'ём беларускасці і праяў беларускага нацыяналізму, і зноў жа, як мы пісалі раней, гэтаму спрыяюць знешнія фактары. Вельмі істотным фактарам у сучасным уздыме з'яўляецца пагроза з боку агрэсіўнага расійскага суседа, які ваюе з Украінай. Прыметы пачатку гэтага

перыяду сталі заўважнымі нават ва ўрадавых структурах (прамовы па-беларуску высокіх урадоўцаў, лекцыя па-беларуску ў Мінскім гарсавеце (Радыё «Свабода», 11 лютага 2015 г.), чытанне беларускага верша міністрам замежных спраў падчас Дня роднай мовы, заявы аб неабходнасці пачаць распрацоўку і вытворчасць зброі на беларускіх прадпрыемствах. Аднак гэтыя дзеі не маюць сістэмнага характару. Тое ж, што ўрад вымушаны будзе рабіць крокі ў гэтым напрамку, здаецца, не выклікае сумненняў.

Відавочна, што беларускі нацыяналізм павінен быць нацыяналізмам уключным. Насельніцтва Беларусі этнічна даволі аднароднае — 83,7% людзей адносяць сябе да беларусаў. Тры нацыянальныя меншасці амаль запаўняюць астатнюю долю насельніцтва. Беларусы, як тытульная нацыя (83,7%), разам з рускімі (8,3%), палякамі (3,1%) і ўкраінцамі (1,7%) складаюць 96,8%. Такім чынам, не выпадае казаць, што Беларусь многанацыянальная краіна. Так, у ёй пражываюць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, аднак беларусы з'яўляюцца першаснай нацыяй, або дзяржаваўтвараючым этнасам. Падаецца, што ў сэнсе адносін да этнасаў, якія пражываюць у краіне, беларусы адпавядаюць патрабаванням уключнасці, неабходным для пабудовы нацыянальнай дзяржавы. У Беларусі няма адкрытай ксенафобіі да нацыянальных меншасцяў. У той жа час беларусы яшчэ вельмі насцярожана ставяцца да імігрантаў, у якіх яны бачаць канкурэнтаў у змаганні за працоўныя месцы. Таксама можна адзначыць, што беларусы яшчэ недастаткова талерантныя да прадстаўнікоў іншых рас, рэлігій, сексуальных меншасцяў. Аднак беларусы па многіх гэтых паказчыках не моцна адрозніваюцца ад народаў іншых еўрапейскіх краін. Выхаванне новых умоў суіснавання розных нацыянальнасцяў у сучасных нацыянальных дзяржавах патрабуе часу для адукацыі насельніцтва ў адпаведнасці з прынцыпамі ўключнасці.

Беларусам нацыяналізм дапаможа, у першую чаргу, абараніць сябе ад абыякавых адносін да сваёй нацыі, і, па-другое, апярэдзіць наступ «русского мира», які агрэсіўна прапаноўвае сябе пад маскай еўразійскай ідэалогіі ці пад лозунгамі «русские для русских». Тым больш, што на тэрыторыі Беларусі квітнее тая ж



руская мова і культура. Русіфікацыя пачалася не пры савецкай уладзе, а значна раней, пасля падзелу Рэчы Паспалітай, калі разам з праваслаўем прыйшла на змену апалячванню і ўніяцтву. Але тое, што было не зроблена царызмам, дарабілі ў савецкія часы мясцовыя кіраўнікі — у той час калі літоўскія камуністы дабудоўвалі сваю нацыю, лідары беларускай кампартыі зачынялі беларускія школы.

Такая палітыка працягваецца і сёння. Развіццё нацыяналізму стрымліваецца аўтарытарным рэжымам і скіравана на выкарыстанне савецкай ідэалогіі. Аўтарытарны рэжым мацнее, ужо дабраліся да інтэрнэту. Перад гэтым былі выціснуты незалежныя газеты і забаронены ўсе магчымыя вольнасці адносна свабоды выказванняў і крытыкі. У краіне няма адкрытага грамадства, урад свядома падзяляе людзей Беларусі па прынцыпу іх лаяльнасці да дзейнай улады (два саюзы палякаў, два саюзы пісьменнікаў, кругом ворагі, апазіцыя — гэта «пятая калона» і г. д.). Рэпрэсіі ў адносінах да палітычных апанентаў, аднабаковая падача прапаганды, нават з расійскіх крыніц, расійская культура — у значнай ступені таксама душаць любыя праявы нацыянальнага адраджэння. Дайшло да такіх ганебных праяў, што нават падчас вяселля ў Баранавічах ледзь не пабілі гасцей, якія размаўлялі па-беларуску. Увогуле, станоўчыя і адмоўныя фактары, якія маглі б уплываць на павышэнне нацыянальнай свядомасці, зараз незбалансаваныя і скіраваны ў адмоўны бок. Хістанні кіраўніцтва дзяржавы ад дэкларатыўнага жадання ўмацоўваць нацыянальную дзяржаву і мову да братання з рускім мядзведзем да добрых вынікаў не прывядуць. Калі кіраўнік Беларусі лічыць кіраўніка Расіі сваім родным братам, то гэта яго асабістая справа. Зыходзячы з хрысціянскіх пастулатаў, усе людзі на зямлі — браты і сёстры. Аднак калі старэйшы брат лічыць, што малодшы брат павінен слепа выконваць ягоныя загады, то чакаць добрых адносін паміж імі не прыходзіцца. Навошта нам такая радня?

На наш погляд, нягледзячы на тое, што ў Беларусі будуецца цывільная рускамоўная дзяржава, тэарэтычна ёсць шанц будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, заснаванай на этнічнасці і

ўключнасці. Аднак для гэтага патрэбна як значнае павышэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў праз асвету, так і істотны перагляд палітыкі самой дзяржавы ў адносінах да нацыянальнага пытання.

Калі ўсё ж уявіць, што Беларусь трапляе ў «русский мир» шасцю губернямі, то пра нацыяналізм беларусаў у такім фармаце гаварыць не прыйдзецца. Прыкладам таму з'яўляецца знікненне яшчэ ў XI–XII стагоддзях такіх плямёнаў і народаў, як мяшчэра, мурама, мера, склаўшых аснову велікарускага этнасу, і змяншэнне ў Расіі колькасці людзей іншых нацыянальнасцяў у наш час — у параўнанні з даваенным часам колькасць мардвінаў, карэлаў, вепсаў, іжорцаў зменшылася у некалькі разоў. Гэта ж будзе чакаць пасля паглынання і беларусаў, справа толькі часу. Спроба ўкраінскага народа паказаць сваю самабытнасць і жаданне вызначаць сваё асобнае месца ў свеце сустрэла небывалую агрэсію з боку імперыі, якая ніколі не пакідала ідэі падпарадкавання народаў-суседзяў. Аднак калі з боку ўкраінцаў гэта вайна за незалежнасць радзімы, то з боку расіян гэта вайна супраць нацыянальных сіл, якім, дзякуючы небывалай ілжывай прапагандзе з боку Расіі, налепліваюць кляймо бандэраўцаў і фашыстаў. Вынік гэтай вайны зразумелы — перамога будзе за нацыянальнымі сіламі, якія нясуць свабоду свайму народу. Час імперскага мыслення ў Расіі павінен быў бы даўно скончыцца, але, на жаль, як і раней, ідэалогія пашырэння імперскага, расійскага свету ляжыць у аснове дзяржаўнай стратэгіі.

Сваю ўнікальнасць адчуваюць у нашы дні ўсё больш беларусаў на фоне падзеяў, што адбываюцца на Украіне. Падаецца, што нацыянальныя памкненні ў беларусаў будуць узмацняцца, і здаровы нацыяналізм павінен ім у гэтым дапамагчы. Беларускі нацыяналізм павінен быць уключным, або, іншымі словамі, здаровым, добрым нацыяналізмам — нацыяналізмам, заснаваным на беларускай ідэнтычнасці пры ўліку інтарэсаў нацыянальных меншасцяў і ўсіх слаёў грамадства.

Рэалізацыя ідэй беларускага нацыяналізму дапаможа беларусам:

- свядома ідэнтыфікаваць сябе беларусамі і беларускамі;



- збудаваць паўнавартасную нацыянальную дзяржаву на прынцыпах уключнасці;
- абараніць сваю нацыю ад паглынання і знішчэння «русским миром» ці іншымі наднацыянальнымі аб'яднаннямі.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 9, сакавік 2015 г., с. 34–43.*

## Summary

***Piotra Murzionak «What Kind of Nationalism is Critical for Belarus?», magazine «CULTURE, NATION», March 2014, issue 9, pp. 34–43***

Nowadays, due to the events taking place in Ukraine, more and more Belarusians acknowledge their national identity and the distinctiveness of their nation. It seems that national aspirations of Belarusians are becoming stronger, and healthy nationalism will help to support that. Belarusian nationalism should be inclusive or, in other words, healthy, good nationalism — nationalism based on the Belarusian identity, taking into account the interests of national minorities and all social strata. Implementation of the ideas of the Belarusian nationalism will allow Belarusians to: 1. consciously identify themselves as Belarusians; 2. build an integrated, fullfledged nation-state on the principles of inclusiveness; 3. protect the Belarusian nation from destruction and absorption by the 'Russian world' or by other supranational organizations.

# ЦАРКВА І НАЦЫЯ

*Ключавыя словы: рэлігія, канфесіі, нацыянальнае будаўніцтва*

Царква з'яўляецца адным з тых інстытутаў, якія ўплываюць на працэсы нацыянальнага будаўніцтва. Аднак у якой ступені? Відаць, што гэта залежыць як ад значнасці ўплыву царквы на рэлігійную і нацыянальную свядомасць грамадзян, так і ад фармальных і нефармальных узаемаадносін паміж царквой і дзяржаўнымі структурамі.

Увогуле, асноўнае прызначэнне царквы — гэта быць пасярэднікам паміж веруючым чалавекам і Богам. Рэлігійныя пастулаты амаль кожнай рэлігійнай канфесіі клічуць да дабра і выхоўваюць людзей Беларусі на агульначалавечых каштоўнасцях і на прынцыпах хрысціянскай маралі (у асноўным), і ў гэтым сэнсе відавочна, што яны могуць на ўзроўні асобы ўмацоўваць маральныя асновы, на якіх будуецца нацыя. У выпадку, калі царква выходзіць за межы гэтых узаемаадносін і пачынае праяўляць сябе ў сферы адносін дзяржава-чалавек ці дзяржава-дзяржава, узнікаюць праблемы. Па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах розныя рэлігійныя канфесіі спаборнічаюць між сабой і перашкаджаюць працэсам кансалідацыі нацыі: па-першае, тая ці іншая канфесія, як правіла, знаходзіцца па-над нацыяй-народам-дзяржавай; па-другое, розныя цэрквы падсвядома распальваюць варожасць паміж людзьмі нават аднаго этнасу; і па-трэцяе, не бяруцца да ўвагі інтарэсы нерэлігійных людзей і атэістаў.

Не абмяркоўваючы права кожнага чалавека верыць ці не верыць у Бога, звернемся да звестак, якія характарызуюць стан рэлігійных свабод у краіне. Суадносіны рэлігіі, дзяржавы і грамадзян Беларусі рэгулююцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях». Паводле Канстытуцыі, «Рэлігіі і ве-



равызнанні роўныя перад законам» (артыкул 16) і «Кожны мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай…» (артыкул 31). Гэтыя ж палажэнні ёсць і ў згаданым вышэй Законе, за выключэннем аднаго, змешчанага не ў асноўным тэксце Закона, а ў яго прэамбуле, якое можа трактавацца як перавага адной царквы ў адносінах да іншых, а менавіта: «Гэты Закон рэгулюе праваадносіны ў галіне правоў чалавека і грамадзяніна на свабоду сумлення і свабоду веравызнання, а таксама вызначае прававыя асновы стварэння і дзейнасці рэлігійных арганізацый зыходзячы з: …прызнання вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы ў гістарычным станаўленні і развіцці духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа; духоўнай, культурнай і гістарычнай ролі Каталіцкай царквы на тэрыторыі Беларусі; неаддзельнасці ад агульнай гісторыі народа Беларусі Евангелічна-лютэранскай царквы, іўдаізму і ісламу…» З Закона вынікае, што, па-першае, не ўсе магчымыя цэрквы ўпамянуты ў ім; па-другое, прызнанне вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы ў гістарычным развіцці беларускага народа прыніжае ролю іншых рэлігійных канфесій і, у дадатак, выключае, да прыкладу, вядомую гістарычную ролю Уніяцкай царквы, якая ўвогуле не ўпамінаецца.

Беларусь праз вякі праходзіла паслядоўна праз паганства–праваслаўе–каталіцтва–пратэстантызм–уніяцтва–зноў праваслаўе. Ацаніць найбольшую важнасць адной якой-небудзь царквы для кожнага з гэтых перыядаў (паганства, хрышчэнне, Рэфармацыя, Контррэфармацыя, рэпрэсіі супраць уніяцкай царквы) з пункту гледжання ўплыву на развіццё беларускай нацыі вельмі складана. Да прыкладу, уніяцтва ў Беларусі існавала больш за 200 год, пачынаючы з Брэсцкай уніі (1596) і да 1839 г., калі Уніяцкая царква была скасавана і далучана да Рускай праваслаўнай царквы. У канцы XVIII стагоддзя да Уніяцкай царквы належала больш за 70% насельніцтва Беларусі. Падаецца, што як прэферэнцыі, якія дзяржава дае праваслаўю ў наш час, так і прыцясненні пратэстантаў, каталікоў з'яўляюцца памылковымі дзеяннямі ўрада, бо не

вядуць да нацыянальнай згоды ў дзяржаве, а значыць, памяншаюць умовы для нацыянальнай свабоды, бяспекі і развіцця нацыі.

Магчыма, што палажэнне аб «вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы» прыйшло ў Закон ад жадання кіраўніцтва дзяржавы мець галоўную царкву, да якой можна было б апеляваць у пытаннях падтрымкі ўлады. Многімі дзяржавамі ў гісторыі рабіліся спробы ўсталяваць адну дзяржаўную рэлігію ў краіне для ўмацавання дзяржаўнасці ці нацыянальнай свабоды, дзе жылі людзі з рознымі веравызнаннямі. Аднак у сваёй большасці гэтыя спробы сканчаліся міжканфесійнымі канфліктамі (найбольш яркі прыклад — барацьба паміж пратэстантамі і каталікамі ў Францыі ў мінулым). Сюды трэба дадаць і сучасныя сутыкненні: паміж праваслаўем і ісламам у Расіі; паміж праваслаўем і праваслаўем на Украіне; паміж ісламам і іўдаізмам, паміж ісламам і каталіцызмам у шэрагу краін: ЦАР, Уганда, Філіпіны, Пакістан, Егіпет. Прыклады краін, дзе абсалютная большасць насельніцтва належыць да адной канфесіі (Польшча, Філіпіны), з'яўляюцца выключэннем. Аднак нават у Філіпінах, дзе менш за 5% людзей належаць да ісламу, час ад часу ўзнікаюць узброеныя канфлікты, заснаваныя на рэлігійнай розні. Не адмаўляючы групам людзей ці этнасам у праве на рэлігійную самаідэнтыфікацыю, можна толькі адзначыць, што царква калі і ўплывае на нацыянальнае будаўніцтва, то ў канчатковым выглядзе толькі ў адмоўным сэнсе. Па стану на сённяшні дзень, на шчасце, самі беларусы ацэньваюць міжканфесійныя адносіны ў сваёй краіне як спакойныя.

Якім чынам і ў якім аб'ёме царква можа ўплываць на грамадскае жыццё ў Беларусі? Яшчэ нядаўна, у савецкі час, любая царква была прыгнечана. Не дзіва, што ў постсавецкі перыяд колькасць вернікаў у Беларусі ўзрасла. Так, калі ў 1987 г. да вернікаў адносілі сябе 15% насельніцтва, то, па звестках Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь, у 2007 г. такіх было каля 50%, а ў 2010 г. — 58,9%. Часткова гэта можна растлумачыць эфектам адмены забароны, а таксама тым, што некаторыя людзі баяліся дэманстраваць свае адносіны да царквы. Малаверагодна, што можна чакаць далейшага павышэння долі вернікаў, зыходзячы з таго, што рэлігійнасць насельніцтва ў многіх краінах змяншаецца.



Рэлігійныя свабоды — важны кампанент індывідуальных правоў і свабод. Аднак трэба адзначыць, што рэлігія не ёсць агульнай каштоўнасцю для ўсіх. Пытанне аб прыналежнасці да той ці іншай царквы пры перапісах насельніцтва не задаецца. Таму ўсе звесткі атрымліваюцца пры апытаннях і вынікі пры гэтым могуць у некаторай ступені адрозніваецца. Так, па звестках Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь, у 2010 г. значная частка насельніцтва (41,1%) былі нявернікамі. Паводле іншых апытанняў (Gallup poll, 2007–2008) Беларусь трапляе ў катэгорыю краін з найменшай рэлігійнасцю. На пытанне, наколькі важная для вас рэлігія ў паўсядзённым жыцці, толькі 27% беларусаў адказалі станоўча. Гэта 11-е месца сярод краін з найменшай роллю рэлігіі ў жыцці (гл. табліцу 1, злева). Такім чынам, на сённяшні дзень значная доля людзей у Беларусі да рэлігіі ніяк не належыць.

Для параўнання, ніжэй змешчана доля ўмераных (табліца 1, пасярэдзіне) і максімальных (табліца 1, справа) станоўчых адказаў на гэта ж пытанне.

У Егіпце гэта доля складае 100%, Бангладэш — 99%, Аўстрыі — 55%, Сербіі — 51%, Эстоніі — 14%. Паводле апытання аб канфесійнай прыналежнасці людзей Беларусі, праведзенага Інфармацыйна-аналітычным цэнтрам (ІАЦ) пры Адміністрацыі Прэзідэнта ў 2011 г., 93,5% рэспандэнтаў аднеслі сябе да той або іншай рэлігіі, з іх: 81% — праваслаўныя (паводле ІАЦ, каля 75% ад агульнай колькасці насельніцтва); 10,5% — каталікі (каля 9% ад агульнай колькасці); 2% — іншыя рэлігіі. Невядома, якую методыку выкарыстоўваў ІАЦ, аднак атрыманыя звесткі ў значнай ступені не супадаюць са звесткамі, атрыманымі другой афіцыйнай установай; паводле Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь (гэтыя ж лічбы прыведзены і на старонках вэб-сайта Міністэрства замежных спраў Беларусі), у 2010 г. 58,9% грамадзянаў аднеслі сябе да тае або іншае рэлігіі, з іх 82,5% — праваслаўныя (48,3% ад агульнай колькасці насельніцтва), 12% — католікі (7,1% ад

*Табліца 1*

| *Top 11 Least Religious Countries* | | *Countries With Comparable Religiosity* | | *Top 11 Most Religious Countries* | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Is religion an important part of your daily life?** | | | | | |
| *Country* | *% Yes* | *Country* | *% Yes* | *Country* | *% Yes* |
| Estonia | 14 | Switzerland | 42 | Egypt | 100 |
| Sweden | 17 | South Korea | 45 | Bangladesh | 99 |
| Denmark | 18 | Canada | 45 | Sri Lanka | 99 |
| Norway | 20 | Taiwan | 45 | Indonesia | 98 |
| Czech Republic | 21 | Montenegro | 46 | Congo (Kinshasa) | 98 |
| Azerbaijan | 21 | Slovakia | 47 | Sierra Leone | 98 |
| Hong Kong | 22 | Israel | 50 | Malawi | 98 |
| Japan | 25 | Singapore | 50 | Senegal | 98 |
| France | 25 | Serbia | 51 | Djibouti | 98 |
| Mongolia | 27 | Austria | 55 | Morocco | 98 |
| Belarus | 27 | | | United Arab Emirates | 98 |
| GALLUP POLL, 2007–2008 | | | | | |



агульнай колькасці), 6% — іншыя рэлігіі (3,5% ад агульнай колькасці). Магчыма, што істотныя разыходжанні ў долі праваслаўных сярод усяго насельніцтва ў гэтых двух апытаннях (75% і 48% адпаведна) звязаны з розным падыходам у разліках. Паводле ІАЦ, колькасць людзей, якія заявілі, што яны вераць у Бога, складае 65%; калі зрабіць папраўку на гэту лічбу, то доля праваслаўных складзе 52,7% (а не 75%) ад агульнай колькасці насельніцтва (65% х 81%/100 = 52,7%), што блізка да звестак Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь. Гэтыя лічбы кажуць аб тым, што ні адна з канфесій не мае пераважнага ўплыву на насельніцтва, хаця традыцыйна лічыцца, што Беларусь — краіна праваслаўная.

*Табліца 2*

| *Найменне канфесіі/напрамку* | *Колькасць суполак* | *Працэнт* |
|---|---|---|
| Праваслаўная царква | 1567 | 48,8 |
| Хрысціяне веры евангельскай | 512 | 16,0 |
| Рымска-каталіцкая царква | 479 | 14,9 |
| Евангельскія хрысціяне-баптысты | 286 | 8,9 |
| Адвентысты сёмага дня | 73 | 2,3 |
| Хрысціяне поўнага Евангелля | 55 | 1,7 |
| Іўдаізм | 36 | 1,1 |
| Стараабрадчая царква | 33 | 1,0 |
| Лютэранская царква | 27 | 0,8 |
| Сведкі Іеговы | 27 | 0,8 |
| Іслам | 25 | 0,8 |
| Новаапостальская царква | 21 | 0,7 |
| Прагрэсіўны іўдаізм | 17 | 0,5 |
| Грэка-каталіцкая царква | 15 | 0,5 |
| Іншыя | 37 | 1,2 |
| | Усяго суполак: 3210 | 100% |

Ні адна з рэлігійных канфесій у Беларусі не мае абсалютнай большасці і па колькасці рэлігійных суполак (гл. табліцу 2; Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь*, на 01.01.2012*). У краіне 27 веравызнанняў (канфесій ці іх напрамкаў), якія ў асноўным належаць да хрысціянскай веры. Лідарам з'яўляецца Праваслаўная царква, якая мае 1567 суполак, што складае 48,8% ад усіх рэлігійных суполак у Беларусі (3210), на другім месцы хрысціяне веры евангельскай — 512 (16%), на трэцім Рымска-каталіцкая царква — 479 (14,9%). Неадпаведнасць значнай долі суполак і невялікай долі ад агульнай колькасці насельніцтва для некаторых канфесій/напрамкаў, відаць, абумоўлена маталікасцю вернікаў у суполках.

Беларусь — краіна славянская; беларусы (83,7%), рускія (8,3%), палякі (3,7%) і ўкраінцы (1,7%) разам складаюць 97% насельніцтва краіны (перапіс 2009 г.). Славяне прытрымліваюцца ў асноўным хрысціянскай веры. Еўрапейскае бюро (2008 European Values Survey) прыводзіць прагнозныя звесткі, якія сведчаць, што доля хрысціян у Беларусі будзе заставацца больш-менш стабільнай на працягу 40 год, нягледзячы на некаторае скарачэнне агульнай колькасці насельніцтва і павелічэнне долі






*Табліца 3*

***Прагноз рэлігійных суадносін у Беларусі на 40 год (Pew Research Center)***

| *Год* | *Хрысціяне* | *Іслам* | *Не рэлігійныя* | *Хінду* | *Будысты* | *Народныя рэлігіі* | *Яўрэі* | *Іншыя* | *Разам* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2010 | 6 830 000 | 20 000 | 2 740 000 | < 10т | <10т | <10т | < 10т | < 10т | 9 600 000 |
| 2020 | 6 650 000 | 50 000 | 2 690 000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 9 410 000 |
| 2030 | 6 450 000 | 100 000 | 2 570 000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 9 130 000 |
| 2040 | 6 250 000 | 150 000 | 2 400 000 | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | < 10т | 8 810 000 |
| 2050 | 6 060 000 | 200 000 | 2 230 000 | < 10т | < 10т | <10т | <10т | <10т | 8 510 000 |

мусульман да 2,4% 2050 г. Доля нерэлігійных людзей у Беларусі паводле гэтага апытання складала ў 2010 г. 28,6% (гл. дыяграму і табліцу 3).

Нягледзячы на ўключэнне значнай часткі грамадзян у рэлігійнае жыццё, іх актыўнасць у гэтай сферы не высокая. Па звестках Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, у Беларусі ў 2011 г. было 19,9% сапраўды веруючых, сярод іх праваслаўных — 57,3%, каталікоў — 34,5%, пратэстантаў — 3,1%, у пераліку на ўсё насельніцтва гэта складае 14,3%, 8,6% і 0,7% адпаведна. Да прыкладу, па звестках Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, на Раство Хрыстова ў ноч на 7 студзеня 2015 г. праваслаўныя цэрквы ў Беларусі наведалі 119 800 чалавек, што складае не болей за 0,15% ад насельніцтва краіны, у храмах і прыходах Мінска ў мерапрыемствах 6 і 7 студзеня ўзялі ўдзел блізу 52 тысяч грамадзян або 2,9% ад насельніцтва горада («Хартыя'97», 8.01.2015).

Такім чынам, як па ахопу насельніцтва, так і па актыўнасці саміх вернікаў ні адна з цэркваў у Беларусі не мае пераважнага ўплыву на большасць насельніцтва, уключаючы Праваслаўную царкву, роля якой у грамадстве перабольшана.

## Заключэнне

Кожная з цэркваў/канфесій паасобку маглі б мець станоўчы ўплыў на індывідуальным узроўні ў падтрыманні адпаведнай маральнасці і менталітэту, якія павінны ляжаць у падмурку нацыі. Аднак сённяшняя царква не ёсць важным інстытутам будаўніцтва нацыі і не спрыяе яе ўмацаванню і яднанню. Розныя цэрквы стаяць па-над нацыяй/дзяржавай, па аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычынах сеюць варожасць паміж рознымі канфесіямі, не ўлічваюць інтарэсы нявернікаў і атэістаў.

Нягледзячы на тое, што значная частка насельніцтва (58,9%) належыць да той ці іншай царквы, колькасць актыўных вернікаў, паводле розных апытанняў, даволі нізкая (20–27%). Разам з істотнай доляй нявернікаў у краіне (41,1%) і з улікам існуючай тэндэнцыі да змяншэння ролі царквы ў паўсядзённым жыцці



грамадзян магчымая падтрымка царквы ў дзяржаўным/нацыянальным будаўніцтве ў будучыні, здаецца, будзе невысокай.

Праваслаўе з'яўляецца ўплывовай царквой у Беларусі, аднак яго роля ў грамадстве мэтанакіравана перабольшваецца. Паводле розных апытанняў, праваслаўе ахоплівае менш за палову насельніцтва Беларусі: у краіне 27 веравызнанняў (канфесій ці іх напрамкаў) з агульнай колькасцю ў 3210 рэлігійных суполак, сярод іх да праваслаўнай царквы належаць 1567 рэлігійных суполак, або 48,8%; доля праваслаўных сярод агульнай колькасці насельніцтва складае 48,9%.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 10, чэрвень 2015 г., с. 6–13.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Church and Nation», magazine «CULTURE, NATION», June 2015, issue 10, pp. 6–13***

Any of the churches/confessions individually could have had a positive impact on maintaining appropriate moral integrity and collective mentality, both of which should represent the foundation of the nation. However, the church as an institution does not have a significant impact on the nation-building today, and does not contribute to the nation's strengthening and unification. Various churches as social institutions represent authorities of their own and pursue their own individual objectives that fall beyond the interests of nation-building. For objective or subjective reasons they create animosity between faiths and do not take into account the interests of non-religious people.

Despite of the fact that significant part of the population (58,9%) belongs to various churches, the number of active members, according to various surveys, is rather low (20–27%). Considering the current trend of diminishing role of the church in the daily life of citizens, along with the significant share of atheists in the country (41,1%), potential future contribution of the church institute in the process of state/nation-building seems rather low.

The Orthodox church is an influential church in Belarus. However, its role in the society is deliberately exaggerated. According to

various polls, Orthodoxy covers less than half of the population of Belarus: the country has 27 confessions with a total of 3210 religious communities, 1567 (48,8%) of which belong to the Orthodox church; the proportion of the Orthodox among the total population is 48,9%.

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

## I. Перадумовы склікання 1-га Усебеларускага з’езда

*Ключавыя словы: Першая сусветная вайна, лютаўская і кастрычніцкая рэвалюцыі, дзейнасць нацыянальных і расійскіх арганізацый*

### *Агульная характарыстыка становішча ў Беларусі ў 1917 г.*

Тры важныя эпахальныя падзеі мелі безумоўны уплыў на развіццё сітуацыі ў Беларусі ў 1917 г. Адной з іх была Першая сусветная вайна. Пачаўшыся ў 1914 г., яна ў 1915 г. затрымалася на тэрыторыі Беларусі, і амаль да лютага 1918 г. лінія абароны паміж расійскімі і нямецкімі войскамі праходзіла праз сэрца нашай краіны — па ўмоўнай лініі ад Пінска і Баранавіч да Пастаў, Глыбокага і Дзвінска (Даўгаўпілс). Разам з усімі ваеннымі няшчасцямі — смерць, разруха, голад — вайна вымусіла пакінуць свае хаты каля 1 млн жыхароў Беларусі. Нават мяне нейкім чынам закранула Першая сусветная вайна. Па-першае, мой дзед, Мурзёнак Сільвестр Ігнатавіч, быў прызваны ў царскую армію ў 1915 г. і прасядзеў амаль тры гады ў акопах пад Баранавічамі. Вёска Дварчаны, дзе я правёў сваё дзяцінства, падчас Першай сусветнай вайны была пад немцамі, а за 1–2 км на ўсход знаходзілася абарона расійскай арміі. Мы ў дзяцінстве лазілі па акопах, збудаваных з аднаго і з другога боку, шукалі патроны, шрапнель. І знаходзілі. Да таго ж у нашай вёсцы былі нямецкія могілкі, дзе былі пахаваны каля сотні жаўнераў. На жаль, гэтыя могілкі на сённяшні час амаль зніклі.

Другая падзея, у значнай ступені справакаваная Першай сусветнай вайной, гэта лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі. Другога сакавіка 1917 г. цар Мікалай II адрокся ад прастола на карысць брата Міхаіла, які на другі дзень таксама адмовіўся ад прастола. У Расіі пачаў кіраваць Часовы ўрад на чале з князем Г. Львовым. Часовы ўрад, дзе большасць займалі кадэты, вымушаны быў працаваць пад кантролем Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, створаных падчас рэвалюцыі, якія былі найбольш актыўнымі ў Петраградзе і ў Маскве. У Саветах у гэты час кіравалі меншавікі. Пазней, у ліпені 1917 г., князя Львова змяніў А. Керанскі (эсэр) (А. Керанскі ва ўрадзе князя Львова быў міністрам юстыцыі і адначасова з'яўляўся намеснікам старшыні Петраградскага савета). На вялікай прасторы Расійскай імперыі на фоне вайны народ чакаў дэмакратычных змен — свабоды слова, друку, склікання Устаноўчага сходу (парламенту).

І нарэшце, трэцяя падзея, якая мела істотны ўплыў на жыццё цывілізацыі ў XX ст. — Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, якая прынесла на тэрыторыю былой Расійскай імперыі ідэі дыктатуры пралетарыяту і сусветнай рэвалюцыі і ўскалыхнула ўсе пласты грамадства. Бальшавікі абяцалі мір, зямлю, вырашэнне пытанняў самавызначэння нацый.

Перад тым як характарызаваць удзельнікаў палітычных падзей гэтага перыяду ў Беларусі, трэба даць кароткую звестку аб суадносінах гарадскога і сельскага насельніцтва, бо традыцыйна лічыцца, што сяляне з'яўляюцца найменш актыўнай у палітычным сэнсе групай насельніцтва той ці іншай краіны. У 1909 г. амаль 90% беларусаў жыло ў вёсках. Так, у горадзе Мінску ў 1909 г. пражывала 43,3% яўрэяў, 34,8% рускіх, 11,4% палякаў; такім чынам, на долю беларусаў і іншых нацыянальных груп заставалася 10,5%. У 1913 г. доля беларусаў у гарадах складала 14–16%, у Мінску ў 1913 г. пражывала 116 тыс. чалавек, большую частку з іх складалі яўрэі, якія мелі свае інтарэсы ў адстойванні нацыянальнай аўтаноміі. У 1917 г. у Мінску пражывала 67 000 яўрэяў, дзейнічалі 83 сінагогі.



Калі разглядаць афіцыйныя ўлады, то пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Мінску ўсталявалася трохуладдзе:

**3–4 сакавіка 1917 г.** прадстаўнікамі гарадской думы, губернскіх і земскіх органаў быў створаны Камітэт грамадскага парадку і бяспекі, які фактычна прадстаўляў Часовы ўрад.

Паралельна стаў працаваць Савет рабочых дэпутатаў, створаны **4 сакавіка 1917 г.** (8 сакавіка ён пашырыўся і стаў Мінскім Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў). У склад Савета ўвайшло 22 члены, большасць у якім належала меншавікам і бундаўцам. Уплыў Мінскага Савета распаўсюджваўся па ўсёй не акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі і на Заходні фронт. На канец ліпеня 1917 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 56 Саветаў. І ў дадатак у Мінску дзейнічала трэцяя сіла — Ваеннае кіраўніцтва Заходняга фронту.

Што тычыцца грамадскіх і палітычных арганізацый, то **з лета па восень 1917 г.** у Беларусі значна вырасла актыўнасць агульнарасійскіх партый — кадэтаў, меншавікоў, эсэраў, бальшавікоў, габрэйскіх партый (Бунд, габрэйская сацыял-дэмакратычная партыя). Калі казаць пра нацыянальныя арганізацыі, то пасля лютаўскай рэвалюцыі з сакавіка па лістапад 1917 г. у самой Беларусі і сярод больш чым 1 млн бежанцаў дзейнічалі каля 26 палітычных партый і арганізацый, у тым ліку 14 беларускіх (У. Ладысеў, П. Брыгадзін, 1999). У гэтых арганізацыях прымалі ўдзел каля 27 000 чалавек (С. Рудовіч, 2001). Сярод найбольш буйных арганізацый былі Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), Беларуская партыя народных сацыялістаў, Беларускі саюз зямельных уласнікаў, Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ была заснавана ў 1903 г., у 1917 г. налічвала каля 5000 сяброў). Калі разглядаць прыведзеныя лічбы, то яны маглі сведчыць аб значных сілах, дастатковых для вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі. Аднак гэтыя сілы не былі з'яднанымі як у сваіх мэтах, так і ў сродках іх дасягнення. Да таго ж побач з беларускімі арганізацыямі ў Мінску развіваліся арганізацыі і структуры, звязаныя з польскім і габрэйскім рухамі. У маі 1917 г. была створана Польская рада Мінскай зямлі — орган самакіравання польскай супольнасці. За сваю нацыянальна-культурную

аўтаномію выступала і адна з найбуйнейшых яўрэйскіх партый, Бунд (Бунд — яўрэйскі рабочы саюз Літвы, Польшчы і Расіі, антырэлігійная, антысіяністкая і сацыялістычная партыя). Відавочна, што ні палякі, ні яўрэі (якія складалі большасць насельніцтва сталіцы краю — Мінска) не маглі быць у значнай ступені зацікаўленымі ў вырашэнні нацыянальнага беларускага пытання. Такім чынам, вайна і разруха, насычанасць войскамі, слабая роля цэнтральнага Часовага ўрада Расіі, шматлікасць партый і грамадскіх арганізацый, што дзейнічалі ў Беларусі, і невялікая доля беларусаў у гарадах характарызавалі агульную атмасферу ў Беларусі.

### *Дзейнасць нацыянальных арганізацый*

**25–27 сакавіка 1917 г.** у Мінску адбыўся першы з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый, дзе быў выбраны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з Раманам Скірмунтам. Асноўнымі задачамі камітэта былі падтрымка Часовага ўрада, падрыхтоўка праекта канстытуцыі і выбараў у Беларускую краёвую раду, адукацыя ў школах на беларускай мове, перавод багаслужбы на беларускую мову. Трэба адзначыць, што як БНК, так і шэраг іншых беларускіх арганізацый, уключаючы большасць сяброў БСГ, прытрымліваліся ідэі аўтаноміі Беларусі ў граніцах Расійскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

**4 ліпеня 1917 г**. у Петраградзе прайшла паўмільённая несанкцыянаваная дэманстрацыя; справакаваная анархістамі і падтрыманая бальшавікамі, гэта маніфестацыя была расстраляна. Двоеўладдзе, якое было прадстаўлена Часовым урадам і Саветамі, скончылася. Уся ўлада апынулася ў руках Часовага ўрада, а бальшавікі, якія пачыналі пераважаць у Саветах, перайшлі ў падполле і на VI з’ездзе РСДРП (26 ліпеня — 3 жніўня 1917 г.) прынялі рашэнне аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання супраць Часовага ўрада.

**8–10 ліпеня 1917 г.** у Мінску адбыўся другі з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый. Замест БНК была ўтворана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый, на чале з Я. Лёсікам, якая з кастрычніка называлася Вялікай Беларускай Радай (ВБР).



Большасць сяброў Рады заставаліся прыхільнікамі палітыкі аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Да тых пунктаў праграмы, над якой працаваў БНК, дадалася арганізацыя беларускага войска.

**У ліпені–жніўні 1917 г.** у Беларусі праходзілі выбары ў мясцовыя органы самакіравання (гарадскія думы, земствы), якія паказалі, што ні беларускія нацыянальныя партыі, ні бальшавікі летам 1917 г. не карысталіся значнай падтрымкай сярод насельніцтва. У мястэчках перамогу атрымалі бундаўцы, у земствах — эсэры.

**25–30 жніўня 1917 г.** генерал Карнілаў зрабіў спробу ўстанавіць ваенную дыктатуру. У падаўленні Карнілаўскага мяцяжу прынялі актыўны ўдзел бальшавікі, якія ў выніку значна ўзмацнілі свой уплыў на народныя масы. Гэта было адной з прычын таго, што **ў верасні 1917 г. бальшавікі** ўзялі ўладу спачатку ў Петраградскім і Маскоўскім Саветах, а затым гэта перакінулася і на іншыя рэгіёны былой Расійскай імперыі. У другой палове верасня 1917 г. у ходзе перавыбараў у Саветы бальшавікі атрымалі большасць і ў Мінскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, куды былі выбраны 184 бальшавікі, 53% ад яго складу (кіраўнік прэзідыума К. Ландэр). Прывабнымі лозунгамі бальшавікоў былі нацыяналізацыя прамысловасці і зямлі, 8-гадзінны працоўны дзень, а таксама заяўленая роўнасць нацый і права кожнай з іх на самавызначэнне.

Беларускія дзеячы разыходзіліся ў разуменні падыходаў да будучых сацыяльна-эканамічных асноў беларускай дзяржаўнасці, рэалізацыя якіх ляжала ў рэчышчы значнага спектру ідэй: ад нацыянальна-дэмакратычных ідэй да ідэй сусветнай рэвалюцыі. Некаторыя з беларускіх дзеячаў падтрымлівалі Часовы ўрад, іншыя былі гатовы перайсці на бальшавіцкія пазіцыі. У верасні 1917 г. частка левага крыла БСГ вылучылася і ўтварыла арганізацыю бальшавіцкага кірунку — Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю на чале з А. Чарвяковым, якая ў асноўным дзейнічала ў Петраградзе і Маскве.

Да таго ж беларусы ў вырашэнні пытанняў нацыянальнага будаўніцтва спазняліся ў параўнанні з суседзямі. Да прыкладу, украінцы зрабілі першыя крокі на самавызначэнне нацыі не-

пасрэдна пасля лютаўскай рэвалюцыі. 4 (17) сакавіка 1917 г. у Кіеве была створана Украінская цэнтральная рада, якая ўзяла на сябе функцыі заканадаўчага органа, каардынацыю ўкраінскага нацыянальнага руху і абвясціла аўтаномію Украіны. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, 7 (20) лістапада 1917 г. Украіна была абвешчана рэспублікай, спачатку аўтаномнай у складзе Расійскай рэспублікі (В. Савченко, 2006). 3 (16) снежня 1917 г. СНК Расіі прызнаў правы Украіны на самавызначэнне. Пасля вайны з Расіяй, 22 студзеня 1918 г. Украіна абвясціла сябе незалежнай дзяржавай. Літоўскі нацыянальны савет аб'явіў аб незалежнасці Літвы ад Расіі 11 снежня 1917 г.

Вырашэнне нацыянальнага пытання ў Беларусі ўскладнялася тым, што бальшавікі, заявіўшы пра права нацый на самавызначэнне, у далейшым не хацелі выпускаць гэты працэс з-пад свайго кантролю. У Беларусі пасля рэвалюцыі пачаў кіраваць бальшавіцкі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту (з 27 кастрычніка 1917 г.). Вялікая Беларуская Рада не прызнавала ўладу гэтага камітэта, які лічыла франтавым органам. Супраць новай улады выступалі таксама іншыя партыі — эсэры, бундаўцы, меншавікі, а таксама гарадская дума, цэнтральнае бюро прафсаюзаў г. Мінска і інш. У «Грамаце да ўсяго беларускага народа» ад **27 кастрычніка 1917 г.** Вялікая Беларуская Рада, Часовая цэнтральная беларуская вайсковая рада, Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту, Беларуская сацыялістычная грамада, Беларуская народная партыя сацыялістаў заявілі, што зверждэнне Часовага ўрада і пераход улады ў рукі Савета Народных Камісараў з'яўляецца «найвялікшым бедствам», «віхорам бязладу», якія могуць «згубіць святую нацыянальную справу абароны вольнасцей і правоў беларускага народу» і пагражае нават самому існаванню беларусаў (А. Лепеш).

З **26 лістапада 1917 г.** Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту ператварыўся ў Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту (АВКЗВіФ, або Аблвыканкамзах), які аб'ядноўваў як мясцовую (абласную), так і франтавую (Заходні фронт) уладу (старшынёй Аблвыканкамзаха быў абраны М. У. Рагазінскі, старшынёй Савета народных камісараў — К. Ландэр). Рагазінскага пазней змяніў А. Ф. Мяснікоў, які адначасова быў і камандуючым арміямі Заходняга фронту. Аблвыканкамзах быў створаны ў выніку зліцця выканкамаў абласнога Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў (35 чалавек), Савета сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў (35 чалавек) і Франтавога камітэта Заходняга фронту (100 чал.); уключаныя таксама і 17 прадстаўнікоў прафсаюзаў: рабочых (11 чал.), чыгуначнікаў (4 чал.), паштова-тэлеграфных служачых (2 чал.). Як бачна з прыведзеных звестак, у камітэце былі прадстаўлены толькі дзве беларускія вобласці, а большую частку ў камітэце займалі прадстаўнікі Заходняга фронту. Такім чынам, значную ролю ва ўстанаўленні бальшавіцкай улады ў Беларусі пасля рэвалюцыі адыгралі выпадковыя людзі, якія апынуліся тут у сувязі з ваеннымі абставінамі; сярод кіраўніцтва камітэта і Савета народных камісараў Заходняй вобласці і фронту не было ніводнага беларуса. Ні Мяснікоў, ні Ландэр не прытрымліваліся ў гэты час ідэі самавызначэння беларускай нацыі і ўвогуле не прызнавалі самога яе існавання.



### *Скліканне 1-га Усебеларускага з'езда*

Вялікая Беларуская Рада паставіла сваёй задачай дабівацца самавызначэння Беларусі і стварэння сваёй рэспублікі. **30 лістапада 1917 г.** была выдадзена адозва «Да ўсяго народа беларускага», у якой была абвешчана палітычная праграма нацыянальных сіл. На **5 снежня 1917 г.** склікаўся Усебеларускі з'езд прадстаўнікоў усяго беларускага народа (Беларусь у перыяд…; Ф. Турук, 1994).

Рэакцыя Аблвыканкамзаха на скліканне Усебеларускага з'езда ў Мінску была адмоўнай. Паводле некаторых крыніц (В. Егорычев, 2013), А. Мяснікоў выехаў у Петраград для кансультацый з Народным камісарыятам па справах нацыянальнасцяў (народны камісар — І. Сталін), каб выкарыстаць іншыя беларускія арганізацыі, якія больш лаяльна ставіліся да бальшавікоў. Бальшавікі не рашаліся прама забараніць з'езд, паколькі абвясцілі права на самавызначэнне нацый. Паміж заявай і датай правядзення сходу, ініцыяванай ВБР, заставалася вельмі мала часу, фактычна адзін тыдзень, каб арганізаваць сход належным чынам. Да таго

ж пачаў праяўляць актыўнасць у арганізацыі падобнага з’езда Беларускі абласны камітэт (БАК, старшыня Я. С. Канчар), які быў створаны з дэлегатаў беларускіх губерняў і прадстаўнікоў арміі і флоту падчас 2-га Усесаюзнага з’езда сялянскіх дэпутатаў, што праходзіў 26 лістапада —10 снежня 1917 г. у Петраградзе. БАК, прадстаўляючы сялянства, быў леваэсэраўскім камітэтам, лаяльна настроеным да Савецкай улады. БАК фактычна выступаў супраць падзелу Расіі на нацыянальныя дзяржавы. У сваёй дэкларацыі ад 30 лістапада 1917 г. БАК выступіў за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі і прызначыў з’езд на **15 снежня** ў Рагачове.

Такім чынам, дзве беларускія грамадскія арганізацыі — ВБР і БАК — амаль аднačасова абвясцілі аб скліканні з’ездаў. Безумоўна, што гэта значна ўскладняла дасягненне адзінства ў вырашэнні нацыянальнага пытання, хаця абедзве арганізацыі аб’ядноўвала тое, што яны не прызнавалі ўладу Аблвыканкамзаха. Сітуацыя для нацыянальна свядомых сіл была не простай і без гэтых акалічнасцяў, аб чым сведчаць вынікі выбараў у склад Усерасійскага Заканадаўчага Сходу, што прайшлі ў Беларусі ў канцы лістапада 1917 г. (выбары, напачатку ініцыяваныя Часовым урадам, не былі адмененыя пасля Кастрычніка, бо бальшавікі разлічвалі на перамогу ў выбарах). З 56 абраных дэпутатаў ад Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай акруг і Заходняга фронту было 30 бальшавікоў, 22 эсэры, 2 прадстаўнікі яўрэйскіх арганізацый і 2 прадстаўнікі ўкраінскіх эсэраў і меншавікоў. За ўсе беларускія нацыянальныя партыі і арганізацыі прагаласавала толькі 19 000 выбаршчыкаў, або 0,6%. БСГ атрымала толькі 0,3% галасоў выбарцаў. Бальшавікі ж у Беларусі мелі 63,1% галасоў, на Беларускім фронце — 66,9% галасоў. Вынікі выбараў у Беларусі на карысць бальшавікоў, відаць, нельга растлумачыць толькі з пункту гледжання ўжывання бальшавікамі, калі казаць па-сучаснаму, адміністратыўнага рэсурсу. Працоўныя, насельніцтва, салдаты станоўча сустрэлі дэкрэты 2-га Усерасійскага з’езда Саветаў аб міры, аб зямлі і таму ішлі за бальшавікамі. Аднак, відаць, былі і нейкія іншыя прычыны для такіх вынікаў у Беларусі, бо ў цэлым бальшавікі моцна прайгралі эсэрам выбары ва Усерасійскі



Заканадаўчы Сход (24,5% у бальшавікоў супраць 57,3% у эсэраў; 51,7% у правых эсэраў плюс 5,7% у левых эсэраў).

### *Заключэнне*

Агульная атмасфера ў Беларусі ў 1917 г. характарызавалася вайной і разрухай, насычанасцю войскамі, слабай роляй цэнтральнага Часовага ўрада Расіі, шматлікасцю партый і грамадскіх арганізацый, што дзейнічалі ў Беларусі, і невялікай доляй беларусаў у гарадах.

Арганізацыя і скліканне 1-га Усебеларускага з’езда ішлі са значным спазненнем у параўнанні з падобнымі дзеямі ў Літве і Украіне. Галоўнымі прычынамі такой запаволенасці былі адносная слабасць нацыянальна-дэмакратычных сіл і нявызначанасць шляхоў нацыянальнага будаўніцтва, дзе разглядаліся ў асноўным як будаўніцтва суверэннай дзяржавы, так і існаванне ў складзе Расіі ў якасці аўтаноміі.

Скліканне 1-га Усебеларускага з’езда праходзіла пры ўдзеле дзвюх асноўных сілаў — Вялікай Беларускай Рады і Беларускага абласнога камітэта — ва ўмовах дзейнасці незаконнай бальшавіцкай улады.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 10, чэрвень 2015 г., с. 14–23.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Belarusian People’s Republic. I. Preconditions of the convocation of the 1st All-Belarusian Congress» (magazine «CULTURE, NATION», June 2015, issue 10, pp. 14–23)***

The general atmosphere in Belarus in 1917 was characterized by war and devastation, high concentration of military forces, weak role of the central Russian Provisional government, numerous political parties and various functional civil organizations, as well as by relatively small number of Belarusians in the cities. The organization and assembly of the 1st All-Belarusian Congress were taking place with the significant delay compared to similar events in Lithuania and

Ukraine. The main reasons for this delay were the relative weakness of the national-democratic forces and the uncertainty with regards to the possible approaches for nation-building, among which the possibility of construction of a sovereign state as well as existence as an autonomous subject of Russia was considered. The assembly of the 1st All-Belarusian Congress was conducted by the two major administrative authorities — the Great Belarusian Council and the Belarusian Regional Committee and was held in the conditions of illegal activity of the Bolshevik's government.

## II. Першы Усебеларускі з'езд і абвяшчэнне незалежнасці

*Ключавыя словы: Першы Усебеларускі з'езд, абвяшчэнне незалежнасці БНР*

Асвятленне падзей, звязаных з абвяшчэннем БНР, даволі палітызаванае, пачынаючы ад ідэалізацыі толькі ўсяго пазітыўнага прадстаўнікамі нацыянальных эліт да прыклейвання ярлыкоў буржуазных нацыяналістаў і здраднікаў беларускага народа заснавальнікам БНР камуністамі і іх прыхільнікамі. Гэта даследаванне выстройвае падзеі ў храналагічным парадку, што, на нашу думку, у значнай ступені дазволіць чытачу зрабіць свае асабістыя высновы і прыйсці да разумення таго, што адбывалася ў той лёсавызначальны час у жыцці Беларусі. Аўтар будзе ўдзячны за заўвагі і каментарыі.

### *Правядзенне 1-га Усебеларускага з'езда*

З'езд, ініцыяваны Вялікай Беларускай Радай, пачаў працу 5 снежня. Аднак дэлегаты прыбывалі яшчэ на працягу амаль 10 дзён. Таму праца ішла ў секцыях. На пасяджэннях прыватнай нарады (працоўнага аргкамітэта) сяброў Усебеларускага з'езда ад 5 снежня 1917 г. адзначалася, што на з'езд пакуль прыехала каля 300 чалавек (чакалася 900) (Архівы БНР, 1998, с. 15), ад 6 снежня — 383 дэлегаты з вырашальнымі і 76 чалавек з дарадчымі галасамі (Архівы БНР, с. 20). 7 снежня з'езд пачаў сваю працу, дэлегаты яшчэ прыбывалі; на 8 снежня на з'ездзе было 500 правамоцных дэлегатаў (Архівы БНР, с. 30). Такі марудны збор дэлегатаў, відаць, быў вынікам барацьбы паміж ВБР і БАК за кіраўніцтва беларускім нацыянальным рухам. Толькі 8 снежня на пасяджэнні Рады з'езда былі ўзгоднены пытанні аб паскораным прыездзе на з'езд у Мінск дэлегатаў ад Беларускага абласнога камітэта (Архівы БНР, с. 28).



Канчаткова з **5 па 17 снежня** мандатная камісія выдала 1167 мандатаў з правам рашаючага голасу і 705 — з правам дарадчага. У тым ліку грамадскім асобам было выдадзена 812 мандатаў з правам рашаючага голасу і 344 з правам дарадчага, ваенным — 355 з правам рашаючага голасу і 361 з правам дарадчага. Большасць дэлегатаў прадстаўлялі валасныя, павятовыя і губернскія земствы, зямельныя камітэты, настаўніцкія арганізацыі і інш. У той жа час ваенныя мелі значную долю рашаючых галасоў, 355 з 1167, або 30%. У палітычных адносінах дэлегаты галоўным чынам прадстаўлялі эсэраў і членаў БСГ. Па нацыянальнай прыналежнасці з'езд складаўся з беларусаў. Напрыклад, у дэлегацыі абласнікоў (дэлегаты ад БАК) больш за дзевяць дзясятых дэлегатаў складалі беларусы (И. Игнатенко, 1992, с. 54, 60). На з'ездзе ўвогуле не было афіцыйных прадстаўнікоў бальшавіцкага Аблвыканкамзаха, якія праігнаравалі з'езд.

Напачатку працы з'езда адбыліся дзве важныя падзеі. **4 снежня 1917 г.** у мястэчку Солы пад Смаргонню немцы і дэлегацыя бальшавікоў заключылі перамір'е на Усходнім фронце тэрмінам на два месяцы (Тэма 14). **11 снежня 1917 г.** Літоўскі нацыянальны савет, Тарыба, аб'явіў аб незалежнасці Літвы ад Расіі і выказаў жаданне ўсталяваць сувязі з Германіяй (Л. Казлоў, А. Цітоў 1993, с. 30; Т. Снайдэр, 2004, с. 197). Абвяшчэнне незалежнасці Літвы пахавала на час ідэю І. Луцкевіча аб стварэнні Літоўска-беларускай дзяржавы.

**14 снежня**, калі нарэшце прыбылі ўсе дэлегаты, адбылося ўрачыстае адкрыццё з'езда. Быў абвешчаны склад прэзідыума і зацверджаны Савет з'езда. Старшынёй з'езда быў абраны Іван Серада. У Савет з'езда ўвайшлі 57 чалавек, у тым ліку Я. Варонка (старшыня), Я. Карскі, Я. Канчар, А. Цвікевіч і інш. У спісе Я. Варонкі, складзеным прыблізна ў 1921 г., пазначаны 36 сяброў

Рады 1-га Усебеларускага з’езда (Архівы БНР, с. 37–38). Магчыма, што гэта быў спіс, складзены на самым пачатку працы з’езда, які ў далейшым папаўняўся. 15 снежня быў абвешчаны парадак дня: 1) мэты і задачы з’езда; 2) палітычнае становішча краіны і лёс Беларусі; 3) пытанні ўцекачоў; 4) дэмабілізацыя арміі. 16 і 17 снежня работа ішла па фракцыях, зямляцтвах і групах. Галоўнае абмяркоўваемае пытанне было аб Беларускай Народнай Рэспубліцы і форме краёвай улады, дзе выразна вызначыліся розныя падыходы.

У шматлікіх публікацыях, прысвечаных з’езду, даводзіцца існаванне ўмоўных груп — прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычнай плыні, левых, цэнтрыстаў. Па сутнасці ж, асноўныя спрэчкі на з’ездзе ішлі ў першую чаргу вакол пытання аб аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Паводле К. Езавітава, на з’ездзе абмяркоўваліся чатыры асноўныя погляды на будучае Беларусі, але ні адзін з іх не ўключаў магчымасць незалежнасці Беларусі ад Расіі; такімі варыянтамі былі — вобласць у складзе Расіі, рэспубліка ў складзе Расіі, аўтаномная адміністрацыя, поўнае злучэнне з Расіяй (К. Езавітаў, 1993, с. 25–29). На жаль дакументаў, а менавіта стэнаграм з’езда, якія маглі б дакладна адлюстраваць абмеркаванне гэтых пытанняў, няма. Паводле В. Скалабана, частка дакументаў, якія былі афіцыйным архіўным зборам з’езда, знаходзілася ў сп. Т. Грыба, абмяркоўвалася пытанне, каб гэтыя дакументы былі прадстаўлены сп. Грыбам для далейшага апублікавання. Большасць інфармацыі пра з’езд даецца ў літаратуры паводле асабістых запісаў непасрэдных удзельнікаў з’езда, зробленых падчас яго правядзення ці значна пазней у сваіх успамінах, і часта калькуецца з адных крыніц у другія.

**17 снежня 1917 г.** быў ключавым днём з’езда. Была абрана Рада Усебеларускага з’езда, у склад якой увайшоў 71 прадстаўнік розных палітычных партый і арганізацый. Пасля доўгіх спрэчак паміж прыхільнікамі незалежнасці (прадстаўнікі ВБР) і аўтаноміі (прадстаўнікі БАК) Беларусі быў выпрацаваны кампрамісны тэкст рэзалюцыі аб самавызначэнні Беларусі і аб Часовай краёвай уладзе, які быў зачытаны дэлегатам з’езда ў



1 гадзіну 15 хвілін ночы з 17 на 18 снежня 1917 г. Рэзалюцыя гэта складалася з 15 пунктаў уключна з наступнай прынцыповай пастановай аб неадкладнай арганізацыі са свайго складу органа краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіравання краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнай уладай, адказнай перад Саветам рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Усебеларускаму Савету даручалася кіраванне Беларуссю да склікання Беларускага Устаноўчага Сходу (Кастрычніцкая рэвалюцыя…). Гэта рэзалюцыя была падтрымана і адназначна не прызнала бальшавіцкую ўладу Аблвыканкамзаха.

Бальшавікі гэта ўспрынялі як непрызнанне Савецкай улады на Беларусі. Арганізатары з’езда не паклапаціліся аб яго ахове, і таму бальшавікі ўварваліся ў залу пасяджэнняў і ў ноч на 18 снежня 1917 г. разагналі 1-ы Усебеларускі з’езд, арыштавалі прэзідыум і асобных дэлегатаў на кароткі час. Гэткім жа чынам бальшавікі крыху пазней, **7 (20) студзеня 1918 г**., распусцілі Усерасійскі Заканадаўчы Сход — фактычна на трэці дзень ад пачатку яго працы. Галоўная прычына была ў тым, што Усерасійскі Заканадаўчы Сход, дзе большасць не належала бальшавікам, не прызнаў ні ўлады Савета Народных Камісараў, ні яго дэкрэтаў.

### *Дзейнасць Выканкама з’езда і абвяшчэнне незалежнасці БНР*

Выканкам Рады з’езда быў створаны 17 снежня 1917 г. Ён павінен быў працягнуць абмеркаванне рэалізацыі ідэі беларускай дзяржаўнасці. Фактычна Выканкам працаваў у паўлегальным стане, без дзейсных рычагоў. Тым не менш з мэтай абараніць на мірных перамовах паміж Германіяй і Расіяй інтарэсы Беларусі Выканкам 1-га Усебеларускага з’езда накіраваў у Брэст дэлегацыю ў складзе Я. Серады, А. Цвікевіча, С. Рак-Міхайлоўскага. 19 студзеня 1918 г. Выканкам 1-га Усебеларускага з’езда выдаў і ўручыў членам дэлегацыі «Дэкларацыю Беларускай мірнай дэлегацыі» (Архівы БНР, с. 40–42). Дэлегацыя ехала ў Брэст праз Украіну і прыехала на перамовы даволі позна. Дэлегацыя Савецкай Расіі не прызнала паўнамоцтвы беларускіх прадстаў-

нікоў. Яны атрымалі толькі статус дарадчыкаў пры ўкраінскай дэлегацыі. Беларусы здолелі сустрэцца з нямецкім бокам і перадалі мемарандум, у якім гаварылася аб намерах стварыць беларускую дзяржаву. У мемарандуме выказваўся таксама пратэст супраць умоў мірнага дагавора, па якіх значная частка беларускіх тэрыторый адыходзіла да Германіі. Гэта была першая спроба кіраўніцтва БНР дабіцца суверэнітэту рэспублікі шляхам міжнароднага прызнання.

**31 студзеня 1918 г.** пры камісарыяце па справах нацыянальнасцяў РСФСР быў утвораны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам). Кіраўнікі Белнацкама А. Чарвякоў, З. Жылуновіч і іншыя лічылі неабходным стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ўстанаўленне цесных сувязяў з РСФСР на прынцыпах аўтаноміі. Цэнтральнае бюро беларускіх секцый РКП(б), арганізаваных з бежанцаў-беларусаў у розных гарадах Расіі — Маскве, Петраградзе, Саратаве, Тамбове, Казані і інш., падтрымлівала гэту пазіцыю.

**18 лютага 1918 г.** па загаду Вільгельма II германскія войскі пачалі рухацца на ўсход. Перамір’е скончылася. На шляху захопнікаў не было амаль ніякай абароны. У ноч з 18 на 19 лютага 1918 г. Аблвыканкамзахах пакінуў Мінск і перабраўся ў Смаленск, аднак тысячы жаўнераў, якія маглі падтрымаць бальшавікоў, знаходзіліся яшчэ на чыгуначных вакзалах у Мінску.

Тры дні, **з 19 па 21 лютага 1918 г.**, у Мінску было двоеўладдзе, у часе якога большая частка горада знаходзілася пад кантролем польскіх добраахвотных вайсковых атрадаў, а меншая частка — беларускіх. К. Езавітаў, кіраўнік Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, быў прызначаны беларускім камендантам горада, а І. Матушэўскі — польскім камендантам. Беларуская і польская камендатуры канкуравалі паміж сабой і спрабавалі ўзаемна падпарадкаваць суперніка. Беларусы кантралявалі паўночна-заходнюю частку горада, у якой знаходзіўся пляц Волі, дом губернатара і гатэль «Еўропа», а палякі займалі паўднёваўсходнюю частку.

Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з’езда, які раней выдаў патрабаванне здабыць кантроль над горадам, збіраўся



ператварыцца ва ўрад, які б рэпрэзентаваў усё грамадства беларускіх зямель. У сувязі з гэтым **19 лютага** ён прыняў пастанову пашырыць склад Рады, у якую уключылі 27 прадстаўнікоў з Мінска, 9 з правінцыі, па 10 прадстаўнікоў гарадскіх радаў і земстваў, а таксама 15 прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў: 7 яўрэяў, 4 палякаў, 2 расейцаў і па аднаму ўкраінцу і летувісу. У 22 гадзіны дом губернатара быў заняты пад сядзібу Рады Усебеларускага з’езда, а на яго балконе быў вывешаны белачырвона-белы сцяг Беларусі.

**21 лютага 1918 г.** пашыраны Выканкам Рады 1-га Усебеларускага з’езда звярнуўся да насельніцтва беларускай зямлі з **1-й Устаўнай Граматай.** Грамата абвяшчала, што новы ўрад будзе створаны на Установчым сойме, а пакуль да яго склікання ўлада знаходзіцца ў створанага Народнага Сакратарыята Беларусі (Архівы БНР, с. 46–47). Старшынёй і сакратаром міжнародных спраў Народнага Сакратарыята быў вылучаны адзін з лідараў нацыянальнага руху Язэп Варонка. Акрамя яго ў склад Народнага Сакратарыята Беларусі ўвайшлі яшчэ 14 сакратароў, якія прадстаўлялі разнастайныя нацыянальныя арганізацыі, сярод іх: БСГ — П. Бадунова (левая), Т. Грыб (левы), А. Карабач (цэнтр), П. Крэчэўскі (цэнтр), А. Смоліч (правы), К. Езавітаў; эсэры — Г. Белкінд, Я. Бялевіч, П. Злобін, У. Макрэеў, У. Рэдзька; М. Гутман (яўрэйская партыя), І. Серада (беспартыйны), Л. Заяц (народны сацыяліст).

Немцы ўступілі ў Мінск 21 лютага і ў хуткім часе занялі амаль усю Усходнюю Беларусь (да Магілёва). Такім чынам, уся тэрыторыя Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. Прытым паводле мірнай дамовы, падпісанай **3 сакавіка 1918 г.** Расіяй, Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй і Нямеччынай у Брэст-Літоўску, Беларусь падзялялася на дзве часткі. Землі, што ляжалі на захад ад лініі Рыга — Дзвінск — Свянцяны — Ліда — Пружаны і належалі раней Расіі, перадаваліся Германіі і Аўстра-Венгрыі.

Астатнія тэрыторыі, акупаваныя германскімі войскамі, на захад ад Дняпра па лініі Себеж — Полацк — Сянно — Орша — далей па Дняпры, да Рагачова — паўднёвей Чачэрска — Вет-

ка — Навазыбкаў — Старадуб заставаліся, як залог, да выплаты Савецкай Расіяй кантрыбуцыі (Г. Малышава, 2009).

Паводле Брэсцкай дамовы ад Расіі аддзяліліся Курляндыя, Літва, Ліфляндыя, Эстляндыя. На Каўказе да Турцыі адыходзілі Карс, Ардаган і Батум. Украінская Народная Рэспубліка і Каралеўства Фінляндыя прызнаваліся самастойнымі дзяржавамі. Аднак, паводле дамовы, Германія ўжо не магла прызнаваць незалежнасць любых новых дзяржаў. Хоць, магчыма, гэта нічога б і не змяніла, але абвяшчэнне БНР у 1-й Устаўнай Грамаце ад 21 лютага 1917 г., г. зн. да Брэсцкага пагаднення, магчыма, мела б у далейшым іншы міжнародны водгук. Падаецца, што Народным Сакратарыятам была зроблена сур'ёзная памылка. Тым не менш магчыма, што Брэсцкая дамова прыспешыла выдаць **9 сакавіка 1918 г. 2-ю Устаўную Грамату** і заявіць аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі у межах рассялення і колькаснай перавагі беларускага народа. У 2-й Грамаце таксама былі абвешчаны правы грамадзянаў і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі: вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання; права народаў на нацыянальна-персанальную аўтаномію; роўнасць усіх моў народаў Беларусі. Скасоўвалася прыватная ўласнасць на зямлю, было абвешчана аб перадачы зямлі без выкупу тым, хто на ёй працуе; лясы, азёры і нетры былі абвешчаны ўласнасцю БНР. Усталяваная найбольшая працягласць рабочага дня ў 8 гадзін.

**15 сакавіка 1918 г.** дамова, падпісаная ў Брэст-Літоўску паміж Расіяй і Германіяй, была ратыфікаваны 4-м Надзвычайным Усерасійскім з'ездам Саветаў, замацаваўшы такім чынам няпэўны стан Беларусі як міжнароднага суб'екта.

**19 сакавіка 1918 г.** на пленарным пасяджэнні Рада Усебеларускага з'езда была перайменаваная ў Раду БНР, якая часова брала на сябе заканадаўчую ўладу ў Беларускай Народнай Рэспубліцы. Старшынёй Рады БНР стаў былы старшыня Прэзідыуму Усебеларускага з'езда Янка Серада. Па стане на 25 сакавіка 1918 г. у Радзе БНР налічвалася 77 сяброў: 36 — абраныя на Усебеларускім з'ездзе, 15 — ад нацыянальных меншасцяў (расейскай, польскай, габрэйскай), 10 — ад земстваў, 10 — ад гарадоў. У склад Рады БНР былі дадаткова кааптаваныя і 6 чалавек ад Віленскай беларускай рады (Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Іван Луцкевіч, Ян Станкевіч, Дамінік Сямашка, Язэп Туркевіч, якія актыўна адстойвалі ідэю незалежнасці Беларусі).



Рада БНР на пасяджэнні ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 г., пасля дзесяцігадзінных спрэчак, нязначнай большасцю галасоў прыняла ў Мінску (Валадарскага, 9) **3-ю Устаўную Грамату** — юрыдычны акт, згодна з якім Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай. 3-я Устаўная Грамата дэкларавала аддзяленне БНР ад бальшавіцкай Расіі. У склад БНР увайшлі Магілёўская, Мінская, Віцебская, Гарадзенская, Віленская губерні, часткі Смаленскай, Чарнігаўскай і Кіеўскай губерняў (тэрыторыі вызначаны паводле этнічнай карты рассялення беларусаў, складзенай Я. Карскім). Урад БНР узначаліў Язэп Варонка.

Прыезд на пасяджэнне сяброў Віленскай беларускай рады і іх пазіцыя былі вызначальнымі ў прыняцці гістарычнага рашэння. Супраць аддзялення Беларусі ад Савецкай Расіі галасавалі дэпутаты гарадской, земскай і бундаўскай фракцый. Ад галасавання ўстрымаліся прадстаўнікі Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі, Паалей-Цыёна і сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Пасля галасавання земская фракцыя выйшла з Рады БНР і адазвала сваіх прадстаўнікоў з Народнага сакратарыята.

**27 сакавіка 1918 г.** Рада абвясціла, што бярэ на сябе ўсю паўнату ўлады ў Беларусі. У адказ нямецкая адміністрацыя разагнала Раду і Народны сакратарыят.

### ***Заключэнне***

Першы Усебеларускі з'езд, які адбыўся 5–17 снежня 1917 г. у Мінску і на якім прысутнічалі дэлегаты з усяго краю — 1167 дэлегатаў з правам рашаючага голасу і 705 дэлегатаў з правам дарадчага голасу, — прадэманстраваў імкненне беларускага народа да самавызначэння. З'езд аб'явіў сябе вышэйшай уладай у Беларусі і даручыў Савету (Радзе) з'езда кіраванне краем да часу склікання Устаноўчага сходу. Гэтым самым з'езд не прызнаў нелегітымную бальшавіцкую уладу Аблвыканкамзаха.

Першы Усебеларускі з’езд быў брутальна разагнаны 18 снежня 1917 г. бальшавікамі. Падобным чынам 7 студзеня 1918 г. у Петраградзе бальшавікі разагналі Усерасійскі Заканадаўчы Сход, які не прызнаў незаконную, дыктатарскую ўладу бальшавікоў і прынятыя бальшавікамі дэкрэты.

Далейшая дзейнасць Рады 1-га Усебеларускага з’езда, якая прыняла на сябе абавязкі, даручаныя з’ездам, праходзіла ў 1918 г. ва ўмовах бальшавіцкай дыктатуры (з 18 снежня 1917 г. па 18 лютага 1918 г.), а пасля ва ўмовах нямецкай акупацыі (21 лютага 1918 г. — канец лістапада 1918 г.).

Рада з’езда па аб’ектыўных прычынах (нямецкая акупацыя) не магла сазваць Устаноўчы сход і пад гнётам непрымальных для Беларусі ўмоў Брэсцкага міру прыняла на сябе гістарычную і рэвалюцыйную смеласць, каб узяць уладу (1-я Устаўная Грамата, 20 студзеня 2018 г.), абвясціць існаванне Беларускай Народнай Рэспублікі, БНР (2-я Устаўная Грамата, 9 сакавіка 1918 г.), а затым абвясціць незалежнасць БНР (3-я Устаўная Грамата, 25 сакавіка 1918 г.). На момант галасавання аб абвяшчэнні незалежнасці БНР у склад Рады ўваходзілі 77 сяброў Рады, з іх 36 сяброў, абраных на 1-м Усебеларускім з’ездзе, 6 — ад Віленскай беларускай рады, 15 — ад нацыянальных меншасцяў (расейскай, польскай, габрэйскай), 10 — ад земстваў, 10 — ад гарадоў.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 10, чэрвень 2015 г., с. 24–34.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Belarusian People’s Republic. II. The First All-Belarusian Congress and the Declaration of Independence»(magazine «CULTURE, NATION», June 2015, issue 10, pp. 24–34)***

1. The first All-Belarusian Congress, which took place on December 5–17, 1917 in Minsk and was attended by delegates from all over the region (1167 delegates with a casting vote and 705 delegates with a consultative vote), demonstrated the desire of the Belarusian people to self-determination. The Congress declared itself the supreme authority in Belarus, and requested the Council (Rada) of the Congress to rule the country until the convening of the Constituent Assembly. With this action the Congress declined the authority of the illegitimate Bolshevik’s regime.

2. The first All-Belarusian Congress was brutally eliminated on December 18, 1917 by the Bolsheviks. Similarly, on January 7, 1918 in Petrograd, the Bolsheviks overthrew the Russian legislature, which did not recognise illegal, dictatorial power of the Bolsheviks and the Bolsheviks decrees.

3. Further operations of the Council of the 1st All-Belarusian Congress, that took over the responsibilities entrusted by the Congress, were carried out under the dictatorship of the Bolsheviks (December 18, 1917 to February 18, 1918), and then under German occupation (February 21, 1918 — the end of November 1918).

4. For the objective reason (German occupation) the Rada of the Congress could not convene a Constituent Assembly and, under the unacceptable conditions of Brest peace agreement, has assumed historical and revolutionary courage to take the power (Charter I, February 20, 2018), to declare the existence of the Belarusian People’s Republic (Charter II, March 9, 1918), and then to declare the independence of the BNR (Charter III, March 25, 1918). At the time of voting on the declaration of independence of the BNR, the Rada comprised of 77 members: 36 of them elected by the delegates of the 1st All-Belarusian Congress, 6 — from Vilna Belarusian Council, 15 — from the national minorities (Russian, Polish, Jewish), 10 — from the zemstvos, 10 — from the cities.

## III. Дзейнасць Рады БНР у 1918 г. ва ўмовах нямецкай акупацыі

*Ключавыя словы: першыя ўрады БНР, утварэнне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь*

### *Дзейнасць Рады і ўрадаў БНР у 1918 г. ва ўмовах нямецкай акупацыі*

Афіцыйны Берлін не прызнаваў БНР. Гэта палітыка грунтавалася на ўзятым Германіяй абавязацельстве не падтрымліваць ніякіх сепаратысцкіх тэндэнцый у расійскіх межах, зафіксаваным Брэсцкім мірным дагаворам. Аднак акупацыйныя нямецкія ўлады, у адрозненне ад афіцыйнага Берліна, супрацоўнічалі з Радай БНР, але толькі як з нацыянальным беларускім прадстаўніцтвам, а не як з урадам незалежнай дзяржавы.

Пры падтрымцы камандуючага 10-й арміяй генерала Эрыха фон Фалькенгайна Рада дабілася згоды на дзейнасць Мінскай гарадской думы як мясцовай улады. Пры павятовых камендатурах ствараўся інстытут саветнікаў для ўрэгулявання спрэчак паміж акупантамі і насельніцтвам. Немцы перадалі ў кампетэнцыю Народнага Сакратарыята гандаль, прамысловасць, органы апекі, адукацыю і культуру. У БНР існаваў інстытут грамадзянства (выдаваліся пашпарты), дзяржаўная пячатка і сімволіка: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», выдаваліся паштовыя маркі. Аднак нямецкія ўлады не спрыялі стварэнню нацыянальнага войска, міліцыі, судовай і фінансавай сістэмы, без чаго нельга ўявіць існаванне дзейснай дзяржавы.

**12 красавіка 1918 года** склад Рады папоўнілі 15 правых дзеячаў, сяброў «Мінскага беларускага прадстаўніцтва», у тым ліку Раман Скірмунт, Павел Аляксюк, Аляксандр Уласаў (былы рэдактар газеты «Наша Ніва»), генерал Кіпрыян Кандратовіч, кс. Аляксандр Астрамовіч, кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Спіс сяброў Рады БНР у гэты час уключаў 80 асоб (Архівы БНР, с. 97–99). Магчыма, з прыходам новых людзей было звязана з'яўленне звароту да германскага імператара аб абароне дзяржаўнай незалежнасці.

**25 красавіка 1918 г.** Рада БНР выслала тэлеграму нямецкаму імператару Вільгельму II (Архівы БНР, с. 129–130, на ням. мове):



*«Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, як выбраная прадстаўніца Беларускага Народа, зварачаецца да Вашай Імператарскай Вялікасці з словамі глыбокае падзякі за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі з цяжкага ўціску, чужога пануючага здзеку і анархіі.*

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі дэкларавала незалежнасць цэлае і непадзельнае Беларусі і просіць Вашую Імператарскую Вялікасць аб абароне ў яе кіраваннях дзеля ўмацавання дзяржаўнае незалежнасці і непадзельнасці краю ў сувязі з Германскай Імперыяй.*

*Толькі пад абаронай Германскай Імперыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні.*

*Прэзідэнт Рады — Іван Серада*

*Прэзідэнт Сакратарыята — Язэп Варонка*

*Сябры Рады — Раман фон Скірмунт, Антон Аўсянік, Паўлюк Аляксюк, Пётра Крэчэўскі, Язэп Лёсік».*

Пасылка тэлеграмы імператару Германіі выклікала ў БНР востры палітычны крызіс. Са складу Рады выйшлі прадстаўнікі Бунда, а БСГ раскалолася на тры партыі — Беларускую сацыял-рэвалюцыйную партыю, Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю і Беларускую сацыял-федэратыўную партыю. У рэзалюцыі VII чарговага Менскага губернскага земскага сходу аб беларускім пытанні (ад 20 мая 1917 г.) выказвалася падтрымка ідэі свабоднага самавызначэння Беларусі, аднак у заключнай яе частцы прызнана правільным разарваць адносіны земства з кіраўнікамі Рады і Сакратарыята (Архівы БНР, с. 157–158).

Нягледзячы на супраціў, Рада працягвала сваю працу. Важнай галіной дзейнасці Сакратарыята асветы было адраджэнне нацыянальнай школы. Паводле розных падлікаў, працавалі ад 150 да 350 беларускіх школ. Калі на пачатку 1918 г. у Мінску налічвалася толькі 4 нацыянальныя школы, то ўжо ў чэрвені іх колькасць вырасла да 20. Пачалася падрыхтоўка беларускіх настаўнікаў, была заснавана Мінская вышэйшая музычная школа. У красавіку 1918 г. створана падрыхтоўчая камісія для адкрыцця Беларускага ўніверсітэта ў Мінску. Па ініцыятыве І. Луцкевіча было створана Беларускае навуковае таварыства ў Вільні.

Выходзілі газеты «Звон» і «Беларусь», часопісы «Беларускае жыццё», «Рунь», «Саха». Працавалі шматлікія беларускія гурткі мастацкай самадзейнасці. Вынікам гэтай працы з'явілася абвяшчэнне ў пачатку красавіка 1918 г. на адным з пасяджэнняў Рады БНР беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай. З пачатку красавіка 1918 г. пры Народным сакратарыяце асветы БНР сталі працаваць курсы беларусазнаўства, дзе чыталіся лекцыі па беларускай гісторыі, геаграфіі, мове, літаратуры. За месяц на іх паступіла каля 200 чалавек. У 1918 г. працавала 11 выдавецтваў, адкрыўся Беларускі педагагічны інстытут, рэктарам якога стаў прафесар В. Іваноўскі, выкладчыкамі — Я. Карскі, Б. Тарашкевіч, У. Ігнатоўскі і інш., працавалі беларускі тэатр, установы культуры.

БНР мела сваіх прадстаўнікоў на Украіне, у Літве, працавалі дыпламатычныя місіі ў Варшаве і Берліне. Аднак міжнародныя справы БНР складваліся дрэнна. Ва ўмовах вайны з Германіяй і грамадзянскай вайны ў Расіі ўрады краін Антанты і ЗША не праявілі зацікаўленасці да БНР. Безвыніковым быў зварот урада БНР да ўрада Германіі з просьбай аб прызнанні самастойнасці Беларусі і ўстанаўленні з мясцовымі нямецкімі ўладамі такіх адносін, якія дазволілі б БНР мець войска для ўмацавання сваёй улады. На пасланыя ў Берлін тры граматы рэйхсканцлер паведаміў Народнаму сакратарыяту, што Берлін лічыць Беларусь часткай Савецкай Расіі і што без урада Леніна вырашыць гэта пытанне не можа.

Рада БНР перажыла ў 1918 г. шэраг палітычных крызісаў. За няпоўны год змяніліся чатыры ўрады: урад Язэпа Варонкі (працаваў з сакавіка па красавік 1918 г.), урад Рамана Скірмунта (з 14 мая па 21 ліпеня 1918 г.), урад Івана Серады (з 22 ліпеня 1918 г. па 12 кастрычніка 1918 г.) і ўрад Антона Луцкевіча (з 22 лістапада 1918 па сакавік 1920 г.) (Д. Міхалюк, 2013). Можна выдзеліць некалькі прычынаў для такіх частых зменаў: супярэчнасці сярод лідараў нацыянальна-дэмакратычнага руху ў пытанні характару ўзаемаадносін з Расіяй і Польшчай; адсутнасць істотнай падтрымкі з боку насельніцтва; адсутнасць у планах пытання аб нацыяналізацыі зямлі.

11 кастрычніка 1918 г. Рада БНР зацвердзіла Часовую канстытуцыю БНР, па якой дзейнічаў у далейшым Народны ўрад Луцкевіча (Апостол национального возрождения, 1995; Беларускае пытанне...). У лістападзе ў Германіі пачалася рэвалюцыя. Нямецкія войскі пачалі адступаць. Трэцяга снежня 1918 г. Рада і ўрад БНР пераехалі ў Вільню (якая была пад кантролем палякаў), а 27 снежня 1918 г. у Гародню (дзе яшчэ былі немцы) (А. Сідарэвіч, 1993). З гэтага часу дзейнасць Рады БНР праходзіла і праходзіць зараз па-за межамі Беларусі.



### *Утварэнне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ)*

З вялікай верагоднасцю можна сказаць, што абвяшчэнне незалежнасці БНР і дзейнасць Рады БНР мела значны уплыў на станаўленне дзяржаўнасці сучаснай Беларусі. Наступныя падзеі паказалі, што бальшавікі зрабілі свае крокі па ўтварэнні ССРБ. Аднак утварэнне ССРБ вырашалася ў Маскве і Смаленску прадстаўнікамі Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў), але не народам Беларусі.

**21–23 снежня 1918 г.** у Маскве прайшла канферэнцыя беларускіх камуністычных секцый (прадстаўнікі ад маскоўскай, петраградскай, саратаўскай, тамбоўскай і мінскай секцый). Разглядаліся пытанні аб беларускай дзяржаўнасці і ўтварэнні беларускага савецкага ўрада, але зноў жа ў рамках аўтаноміі з Расіяй.

**24 снежня 1918 г.** Пленум ЦК РКП(б) прыняў пастанову аб утварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ).

**30 снежня 1918 г.** адкрылася VI Паўночна-Заходняя абласная партыйная канферэнцыя. Дэлегаты канферэнцыі аднагалосна выказаліся за абвяшчэнне ССРБ. На канферэнцыі прысутнічалі 181 дэлегат, якія прадстаўлялі толькі членаў камуністычнай партыі ад Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай, Смаленскай, Віленскай і часткі Чарнігаўскай абласцей. Гэта ж канферэнцыя адначасова была аб'яўлена 1-м з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. (И. Игнатенко, 1992, с. 175, 177). Пад уздзеяннем ЦК РКП(б) Наркамнац, а затым і Паўночна-Заходні абкам РКП(б), Аблвыканкамзах, СНК Заходняй вобласці памя-

нялі свае адносіны да лёсу Беларусі. Яны нават пайшлі далей у вызначэнні юрыдычнага статусу Беларусі, як Белнацкам і беларускія камуністычныя секцыі, якія прытрымліваліся прынцыпу аўтаноміі Беларусі ў складзе РСФСР. Быў створаны кіруючы орган КП(б)Б — Цэнтральнае бюро КП(б)Б.

**30 снежня 1918 г.** ЦБ КП(б)Б абмеркавала пытанне аб складзе Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада ССРБ. Было вырашана, што ва ўрад увойдуць прадстаўнікі ад Белнацкама і Цэнтральнага бюро беларускіх секцый РКП(б), ад Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) і Аблвыканкамзаха. Старшынёй урада быў зацверджаны З. Жылуновіч, членамі — А. Мясніковў, А. Чарвякоў і іншыя, усяго 17 чалавек. Былі ў асноўным вызначаны этнаграфічныя межы беларускай нацыі, эканамічныя, гістарычныя і нацыянальныя асаблівасці асобных губерняў, паветаў і валасцей (тэрыторыя падзялялася на 7 раёнаў — Мінскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Гродзенскі, Баранавіцкі — і 54 падраёны).

**1 студзеня 1919 г.** у Смаленску была абвешчана Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Белоруссія, створаны бальшавікамі ўрад пераехаў са Смаленска ў Мінск (Глава 2. Сацыяльна-эканамічнае і…).

### *Заключэнне*

Нямецкі ўрад ў адпаведнасці з Брэсцкай дамовай афіцыйна не прызнаваў БНР і яе Раду. Аднак мясцовая нямецкая адміністрацыя не супрацьдзейнічала ўрадам БНР займацца пытаннямі культуры, адукацыі, гандлю. Існаваў інстытут грамадзянства БНР (выдаваліся пашпарты). У той жа час Рада БНР не магла стварыць структуры, якія з'яўляюцца абсалютнымі прыметамі любой дзейснай дзяржавы, — войска, міліцыі, фінансавай і судовай сістэм.

Дзейнасць Рады і ўрадаў БНР у значнай ступені спрыяла паднятцю нацыянальнай свядомасці беларусаў і вымусіла бальшавікоў зрабіць крокі па ўтварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. У 1918–1920 гг. былі тры спробы ўтварыць беларускую дзяржаву (ССРБ — 1 студзеня 1919 г.; ЛітБел — люты 1918 г.; БССР — 31 ліпеня 1920 г. паўторнае абвяшчэнне аб стварэнні БССР). Першая спроба стварэння ССРБ, 1 студзеня 1919 г., была прынята рашэннем 181 дэлегата VI Паўночна-Заходняй абласной партыйнай канферэнцыі РКП(б), якая была там жа перайменавана ў I з'езд камуністычнай партыі Беларусі. Такім чынам, гэта канферэнцыя не прадстаўляла ўсяго беларускага народа.



*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 10, чэрвень 2015 г., с. 35–41.*

## Summary

***Piotra Murzionak «Belarusian People's Republic. III. Activities of the Rada of the BNR in 1918 under the German Occupation» (magazine «CULTURE, NATION», June 2015, issue 10, pp. 35–41)***

The German authorities, in accordance with the treaty of Brest, did not officially recognize the BNR and its Rada. However, the local German administration did not oppose the BNR government handling the matters of culture, education and trade. There was a functioning body of the BNR citizenship (issuing passports). At the same time the BNR Rada was not in the position to create or manage the structures that represent absolute attributes of any real state — army, police, financial and judicial systems. The activities of the Rada and the governments of the BNR have significantly contributed to raising the national consciousness of Belarusians and forced the Bolsheviks to take steps to the formation of the Soviet Socialist Republic of Belarus. In 1918–1920, there were 3 attempts to form the Belarusian state (January 1, 1919 — SSRB; February 19, 1919 — LitBel; July 31,1920 — re-establishment of the Byelorussian SSR). The first attempt to create the SSRB on January 1, 1919 was adopted by 181 delegates of the VI-th North-West Regional Conference of the Russian Communist Party (the Bolsheviks), which was renamed to the First Congress of the Communist Party of Belarus. Thus, this conference did not represent the whole Belarusian nation as delegates were not elected by the people of Belarus.

# АБ ПЕРАНОСЕ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З ТРЭЦЯГА ЛІПЕНЯ

Ніколі ў гісторыі Беларусі гэтая дата, 3 ліпеня, не была нейкім чынам звязана з абвяшчэннем ці з заваяваннем незалежнасці краіны. Пасля развалу СССР Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь святкаваўся 27 ліпеня на працягу шасці гадоў (1991–1996) — 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі.

Святкаванне ж Дня Незалежнасці 3 ліпеня пачалося пасля рэферэндуму, праведзенага 24 лістапада 1996 года, на якім першае пытанне было пастаўлена так: «Перанесці Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне». Людзям ніхто нічога ў той час не патлумачыў. Паставілі пытанне на галасаванне, і людзі прагаласавалі амаль так, як і раней галасавалі ў СССР за кандыдатаў блока партыйных і беспартыйных. «За» прагаласавала 5 450 830 выбарцаў (88,18%), «супраць» — 646 708 (10,46%). У рэферэндуме прынялі ўдзел 6 181 463 чалавекі, або 84,14% электарату.

Відавочна, што тлумачэнні і паданне беларусам правільнай гістарычнай інфармацыі памяняла б іх стаўленне да выбару адказу на пытанне аб прызначэнні даты святкавання Дня Незалежнасці і змяніла б вынікі галасавання. Аднак адбылася яшчэ адна маніпуляцыя са свядомасцю беларусаў. Людзі прагаласавалі і святкуюць Дзень Незалежнасці ў той дзень, у які раней святкавалі Дзень вызвалення Мінска ад немцаў (Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне).

Нават калі прыняць вызваленне горада Мінска ад чужынцаў як адпраўны пункт для выбару святочнага дня, трымаючы ў галаве, што гэта тычыцца вызвалення ад чужынцаў усёй тэрыторыі Беларусі, то трэба мець на ўвазе наступнае. Горад Мінск,



які ў пачатку XX стагоддзя знаходзіўся на ўскраінах Расійскай імперыі, некалькі разоў станавіўся вольным горадам, пасля таго як захопліваўся ці вызваляўся чужынцамі:

У другой палове верасня 1917 года ў ходзе перавыбараў Саветаў бальшавікі атрымалі большасць у Мінскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў і ўзялі ўладу ў свае рукі. Беларускія нацыянальныя сілы не прызнавалі бальшавіцкую ўладу. У «Грамаце да ўсяго беларускага народа» ад 27 кастрычніка 1917 года звяржэнне Часовага ўрада і пераход улады ў рукі Савета Народных Камісараў характарызаваліся як «найвялікшае бедства», «віхор бязладу», што можа «згубіць святую нацыянальную справу абароны вольнасцей і правоў Беларускага народу» і пагражае нават самому існаванню беларусаў.

21 лютага 1918 года горад занялі немцы. 10 снежня 1918 года вярнуліся бальшавікі.

8 жніўня 1919 года прыйшлі палякі.

11 ліпеня 1920 года палякі пакінулі горад, вярнуліся бальшавікі.

26 чэрвеня 1941 года горад занялі немцы.

3 ліпеня 1944 года Чырвоная Армія вызваліла горад ад немцаў. Кожны раз з захопам ці вызваленнем горада Мінска войскі займалі і значную тэрыторыю Беларусі. Аднак, зноў жа, вайсковыя дзеянні ў гэтыя даты ніяк не суправаджаліся палітычнымі актамі, звязанымі з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі.

У XX стагоддзі было шэсць абвяшчэнняў незалежнасці краіны. Гістарычныя ўмовы, у якіх яны адбываліся, можа прасачыць кожны чытач і зрабіць свае высновы аб справядлівасці гэтых абвяшчэнняў.

Першае абвяшчэнне зроблена 25 сакавіка 1918 года пашыраным складам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У галасаванні, якое праходзіла ва ўмовах нямецкай акупацыі, прынялі ўдзел 77 чалавек, з іх 36 сяброў Рады 1-га Усебеларускага з'езда, які праходзіў 5–18 снежня 1917 года. У працы 1-га Усебеларускага з'езда прымалі ўдзел 1872 дэлегаты (1167 — з правам рашаючага голасу і 705 — з правам дарадчага голасу), якія прад-

стаўлялі ўсе рэгіёны Беларусі. З’езд быў перарваны і разагнаны бальшавікамі 18 снежня 1917 года.

Другое абвяшчэнне, Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ), сталася 1 студзеня 1919 года падчас канферэнцыі Паўночна-заходняй вобласці Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) у Смаленску (канферэнцыя была перайменавана ў Першы з’езд Камуністычнай партыі Беларусі). У канферэнцыі удзельнічалі 181 дэлегат; дэлегаты прадстаўлялі толькі камуністычныя арганізацыі. Першы з’езд Саветаў Беларусі (2–3 лютага 1918 года) адобрыў утварэнне БССР, і гэты ж з’езд прыняў пастанову аб аб’яднанні з Літвой (гл. ніжэй). На з’ездзе Саветаў Беларусі прысутнічалі 230 дэлегатаў — 213 камуністаў і 17 спачуваючых (Мінская губерня — 121, Гродзенская — 11, Магілёўская — 10, Віленская — 25, Смаленская — 49, Віцебская — 0) (В. Круталевіч, І. Юхо, 2000, с. 34).

Трэцяе абвяшчэнне адбылося 27 лютага 1919 года (праз два месяцы пасля другога абвяшчэння) пры ўтварэнні ЛітБел — Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў адпаведнасці з рэкамендацыямі ЦК РКП(б) — шляхам аб’яднання ССРБ і Літоўскай ССР. ЛітБел ССР праіснавала да жніўня 1919 г., калі яе тэрыторыя была захоплена польскімі войскамі ў часе польска-савецкай вайны (студзень 1919 — сакавік 1921 г.).

Чацвёртае абвяшчэнне прыпадае на 31 ліпеня 1920 года — пасля прыходу войск Чырвонай Арміі і адступлення польскіх войск з тэрыторыі Беларусі на сходзе прадстаўнікоў Кампартыі Літвы і Беларусі, савецкіх і прафсаюзных арганізацый Мінска і Мінскай губерні была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ) — дзяржаўны і палітычны акт аб аднаўленні Беларускай ССР на асновах, вызначаных у Маніфесце Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі 1 студзеня 1919 года (гл. другое абвяшчэнне). Паводле Дэкларацыі да склікання з’езда Саветаў БССР уся ўлада ў рэспубліцы перадавалася Ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту БССР. Другі з’езд Саветаў, які зацвердзіў гэту Дэкларацыю, адбыўся 13–17 снежня 1920 года. Прысутнічала 218 дэлегатаў, за невялікім выключэннем — камуністы. Па нацыянальнаму складу беларусаў было — 111, рускіх — 42, яўрэяў — 36, палякаў — 8, іншых нацыянальнасцяў — 21 (В. Круталевіч, І. Юхо, с. 91–92).



Пятае абвяшчэнне было зроблена 27 чэрвеня 1944 года на 2-м Усебеларускім кангрэсе, які абвясціў незалежнасць краіны ад Масквы і прызначыў Беларускую Цэнтральную Раду (БЦР) на чале з Радаславам Астроўскім пераемніцай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (гл. першае абвяшчэнне). На з’ездзе прысутнічалі 1039 дэлегатаў з розных рэгіёнаў Беларусі. Кангрэс праходзіў ва ўмовах нямецкай акупацыі.

Шостае абвяшчэнне адбылося 27 ліпеня 1990 года. Вярхоўны Савет БССР прыняў у гэты дзень Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі. Вярхоўны Савет 12-га склікання многімі лічыцца часткова дэмакратычна абраным, налічваў 346 абраных дэпутатаў, з іх 50 дэпутатаў былі непасрэдна вылучаны грамадскімі арганізацыямі. 25 жніўня 1991 года Дэкларацыя аб суверэнітэце набыла статус Закона.

Такім чынам, валюнтарысцкі выбар 3 ліпеня як дня святкавання Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, ці Дня Рэспублікі, абсалютна не адпавядае ні логіцы, ні гістарычнай праўдзе. Відавочна, што рана ці позна гэта будзе выпраўлена, калі на разгляд кожнаму беларусу ці беларусцы будзе данесена поўная інфармацыя для прыняцця свядомага рашэння на рэферэндуме. Можна меркаваць, што многія знойдуць непрымальнымі па розных прычынах даты, звязаныя з вышэйзгаданымі абвяшчэннямі незалежнасці з другога па пятае: другое, трэцяе і чацвёртае абвяшчэнні (1 студзеня 1919 г., 19 лютага 1919 г., 31 ліпеня 1920 г.) рабіліся вузкім колам людзей, якія прадстаўлялі не беларускі народ, а толькі камуністычную партыю; пятае абвяшчэнне (27 чэрвеня 1944 г.) праходзіла са згоды нямецкіх акупацыйных войск. Такім чынам, на рэферэндум могуць быць пастаўлены дзве даты, 25 сакавіка і 27 ліпеня. Дата 27 ліпеня па многіх параметрах найбольш адпавядае Дню Незалежнасці. Дата 25 сакавіка, нягледзячы на некаторыя недахопы, аб якіх пішуць даследчыкі (нямецкая акупацыя, немагчымасць склікання Усебеларускага з’езда), можа быць пастаўлена альтэрнатыўна на рэферэндум як дзень першага, гістарычнага абвяшчэння незалежнасці Бе-

ларусі ў сучаснай гісторыі. Трэцяга ліпеня можа быць пакінута як і раней, Днём горада Мінска ці Днём вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 10, чэрвень 2015 г., с. 42–45.*


## Summary

***Piotra Murzionak «Transfer of the Independence Day of the Republic of Belarus from July 3» (magazine «CULTURE, NATION», June 2015, issue 10, pp. 42–45)***

In the course of the 20th century Belarus has re-declared its independence six times: on March 25, 1918; January 1, 1919; February 19, 1919; July 31, 1920; June 27, 1944, and July 27, 1990. Therefore, discretionary choice of July 3 as a day for celebrating the Independence Day or the Day of the Republic of Belarus does not seem to be logical since it does not correspond to the historical truth. Clearly sooner or later this oversight will be corrected when accurate historical facts, required for making a conscious and informed decision on the referendum, are available to every Belarusian. The author gives an explanation why, if a new referendum is held, only two dates (March 25 and July 27) can be considered for voting. The date of July 27 is in many ways the most appropriate date for the Independence Day. The date of March 25, despite of some shortcomings which the researchers described (the German occupation, the impossibility of convening All-Belarusian Congress), can alternatively be considered on the referendum as the first date in modern history, when the independence of Belarus was announced. July 3 can be still kept as the Day of the city of Minsk or the Day of Liberation of Belarus from Nazi invaders.


# ВЫБАР МІРУ

Беларусы сёння ў асноўнай масе яшчэ не гатовы ні да асэнсаваных выбараў сярод магчымых альтэрнатыў, ні да актыўных дзеянняў, скіраваных на змены ў бок дэмакратыі ці нават на ўзброеную абарону дзяржавы. Гаворка ідзе не пра беларускую эліту, якая заўжды існавала на працягу апошняга стагоддзя і змагалася за свабоду, незалежнасць і дэмакратыю, а аб гатоўнасці ўсяго беларускага грамадства, якое не мае гістарычнай памяці, традыцый і досведу ў гэтых пытаннях.

Беларусы ў сваёй большасці ніколі ў поўнай меры не змагаліся за свабоду, калі мець на ўвазе рамкі нацыянальна-вызвольнага руху. Тыя ўсплёскі ўзброенай барацьбы, якія часам лакальна ўзнікалі (Слуцкі збройны чын, групавы ці адзіночны супраціў пасля Другой сусветнай вайны), не пакінулі значнага следу ў гістарычнай памяці беларусаў. Беларусь на працягу сучаснай гісторыі атрымоўвала незалежнасць амаль задарма, і гэта было абумоўлена ў асноўным збегам абставін і воляй больш магутных дзяржаў. Хаця трэба адзначыць, што ў гэтым сэнсе Беларусь не з'яўляецца выключэннем, бо нараджэнне, жыццё і развіццё многіх малых краін і народаў у Еўропе амаль заўсёды працякалі па падобным сцэнары.

100 гадоў таму назад беларусы жылі ў Расійскай імперыі, якая была ў стане вайны з Германіяй. Падзел Еўропы пасля Першай сусветнай вайны праходзіў пад дыктоўку вялікай чацвёркі: ЗША, Брытаніі, Францыі і Італіі (Парыжская канферэнцыя, пачалася 18 студзеня 1919 года; Версальскі дагавор, 28 чэрвеня 1919 года). Рашэнні гэтых краін зафіксавалі распад імперый (Расійскай, Германскай, Аўстра-Венгерскай, Атаманскай) і ўтварэнне шэрагу новых краін: Чэхаславакіі, Польшчы (аднаўленне), балтыйскіх краін, Сербіі і іншых. На жаль, вялікія краіны не пачулі голас урада Беларускай Народнай Рэспублікі, які з 1919 года дзейнічаў

на выгнанні і які патрабаваў прызнання Беларусі як дзяржавы, незалежнасць якой была абвешчана 25 сакавіка 1918 года Радай БНР. Наступныя падзеі (рашэнні Лігі нацый; Рыжскі дагавор 18 сакавіка 1921 года) паказалі, што інтарэсы беларускага народа ніяк не былі прыняты да ўвагі.

Тым не менш нацыянальны рух беларускага і іншых народаў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі і абяцанні бальшавікоў права нацый на самавызначэнне адыгралі галоўную ролю ў стварэнні БССР (1 студзеня 1919 года). Аднак трэба падкрэсліць, што рашэнне аб гэтым было прынята не ў Мінску, Полацку альбо ў Гародні, а ў Маскве Пленумам ЦК Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) і ў канчатковым выглядзе на канферэнцыі Паўночна-Заходняй вобласці РКП(б) у Смаленску (канферэнцыя была перайменавана ў Першы з’езд Камуністычнай партыі Беларусі). У канферэнцыі удзельнічаў 181 дэлегат — усе яны прадстаўлялі толькі камуністычныя арганізацыі, большасць з якіх дзейнічалі па-за беларускай тэрыторыяй; выбарных дэлегатаў ад беларускага народа там не было. Тым не менш утварэнне БССР, няхай спачатку і не на значнай тэрыторыі, гэта бадай найважнейшая падзея ў гісторыі сучаснай Беларусі. Гэта быў як падарунак лёсу. Перыяд беларусізацыі 30-х гадоў мінулага стагоддзя ёсць таму сведчаннем.

Такі ж падарунак Беларусь атрымала на пачатку Другой сусветнай вайны, калі яна значна прырасла і тэрыторыяй, і насельніцтвам за кошт далучэння Заходняй Беларусі. Зноў жа, гэта сталася вынікам дзеяння знешніх сіл і абставін, а не ў выніку кансалідацыі нацыянальных, унутраных сіл, якая калі і была, то ніяк не вырашальная.

Аб’яднанне дзвюх частак Беларусі здарылася амаль праз 20 год пасля Першай сусветнай вайны (1914–1918). Гэты 20-гадовы перыяд характарызаваўся адносна спакойным жыццём у Еўропе. Аднак аншлюс Аўстрыі (сакавік 1938 года) і захоп Судэтаў нацысцкай Германіяй (1–10 кастрычніка 1938 года) зноў паказалі, што моцныя дзяржавы лёгка дамаўляюцца між сабой. Сведчаннем таму ёсць Мюнхенскі дагавор, паводле якога ЗША, Францыя і Брытанія пагадзіліся аддаць Германіі Судэты



ў абмен на часовы спакой. Падаецца, што характар пакта Молатава–Рыбентропа аб ненападзе, заключаны 23 жніўня 1939 года паміж Германіяй і СССР, меў зусім іншы характар. Бо праз тыдзень пасля яго заключэння, 1 верасня, Германія пачала вайну з Польшчай, а 17 верасня да Германіі ў вайну супраць Польшчы далучыўся Савецкі Саюз. Паводле таемнай дамовы пад непасрэднай пагрозай апынуліся народы некалькіх краін Усходняй Еўропы: Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Малдовы і Польшчы, якая валодала ў той час тэрыторыямі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. На абарону Польшчы паўсталі Францыя, Вялікабрытанія — пачалася Другая сусветная вайна.

І надалей беларусаў ніхто не пытаўся пра рэалізацыю важных пытанняў жыцця краіны: Масква вольна ставіла межы паміж Польшчай, Літвой і Беларуссю, у выніку чаго былі страчаны тэрыторыі, дзе пражывалі этнічныя беларусы (Беласточчына, Віленшчына); палітычным было і рашэнне аб прыёме БССР у якасці сябра ААН (чым да 90-х гадоў Беларусь ганарылася). Ніхто не праводзіў па гэтых пытаннях плебісцытаў, рэферэндумаў, а каб і праводзіліся, то вынік быў бы вядомы. Сістэма савецкіх выбараў, калі кандыдатамі ў Саветы ўсіх узроўняў былі прадстаўнікі блока камуністаў і беспартыйных, давала заўжды амаль 100-адсоткавы вынік «за», бо альтэрнатывы не было. Адной альтэрнатывай было выжыванне — з-за пагрозаў страху і голаду. Існуюць розныя ацэнкі наступстваў пакта Молатава–Рыбентропа для Беларусі: адны аўтары ставяцца станоўча, ківаючы на значны прырост насельніцтва і тэрыторыі Беларусі, што знаходзіліся ў міжваенны час пад Польшчай, другія — адмоўна, бо беларускае насельніцтва вызваленых раёнаў патрапіла пад сталінскія рэпрэсіі, а пасля яшчэ і зведала трохгадовую нямецкую акупацыю. Бо з пакта Молатава–Рыбентропа пачалася Другая сусветная вайна (беларускі супраціў падчас акупацыі не падлягае ў поўнай меры пад катэгорыю нацыянальна-вызвольнага і не абмяркоўваецца ў артыкуле).

Жыццё без асэнсаванага выбару доўжылася на працягу халоднай вайны, калі ў беларусаў асабліва ніхто не пытаўся іх думкі і меркаванняў. Усё, як заўжды, вырашалі моцныя дзяржавы.

Амерыканскія і савецкія штабныя афіцэры парэзалі на карце Карэю на дзве часткі па 38-й паралелі. Да гэтага часу Паўночная і Паўднёвая Карэя знаходзяцца ў стане вайны (перамір'е заключана ў 1953 годзе) і паміж імі існуе дэмілітарызаваная зона шырынёй 4 км і даўжынёй 241 км. Такім жа чынам Берлінская сцяна падзяляла свет на два варожыя лагеры, і хаця пагроза непасрэднай вайны знікла (дамовы аб абмежаванні ядзернай зброі паміж СССР і ЗША, Хельсінкскі акт), але Беларусь жыла пад савецкім ядзерным парасонам, за жалезнай сцяной, па-за якой жылі ворагі. Альтэрнатывы не было.

Жыццё, якое станавілася пакрысе лепшым, раптам абрынулася пасля афганскай авантуры, развалу КПСС і затым СССР. Лёс падарыў у 1990 годзе Беларусі яшчэ адзін шанц — сёння Беларусь спрабуе адбудаваць незалежную, самастойную і суверэнную краіну. Фармальна так выглядае. Аднак, па сутнасці, як і ўсе малыя краіны, Беларусь знаходзіцца пад прэсам — зараз, як і ў часы СССР, яна ўваходзіць у сферу надзвычайна блізкіх геапалітычных інтарэсаў Расіі. Падаецца што курс, узяты Лукашэнкам на самым пачатку яго кіравання на яднанне з Расіяй, абцяжарвае развіццё краіны. І не толькі таму, што Беларусь прывязана да расійскіх прыродных рэсурсаў і яе эканомікі — многія краіны знаходзяцца ў падобным узаемазалежным стане, напрыклад Канада і ЗША. Але непрымальным з'яўляецца стан грамадскай супольнасці, якая, дарэчы, пачала прыціскацца спачатку ў Беларусі. Сітуацыя ў Расіі зараз па многіх аспектах нагадвае Беларусь — прыцясненні прэсы, палітычных рухаў, незалежных грамадскіх арганізацый, з'яўленне палітзняволеных (у часы Ельцына гэта не было так выразна бачна). Лукашэнка, забаўляючы вярхушку Расіі, выціснуў з краіны амаль усе свядомыя беларускія сілы, па крайняй меры задавіў актыўнасць беларускай эліты, якая яшчэ спрабуе штосьці здзейсніць. З другога боку, напладзіліся шматлікія прарасійскія арганізацыі (больш за сотню), якія змогуць адыграць пры неабходнасці ролю пятай калоны. Казакі, якімі ніколі на беларускай тэрыторыі не пахла (хіба залётнымі), ужо пайшлі ў прэзідэнты.

З другога боку, кіраўніцтва Расіі працягвае гнуць сваю лінію. Пагрозы для незалежнасці Беларусі ідуць як эканамічныя, так і ваенныя. З самых апошніх навін: у канцы жніўня Пуцін прапанаваў увесці рубель як плацежны сродак у краінах СНД; 2 верасня Мядзведзеў на пасяджэнні ўрада Расіі абмяркоўваў прапанову падпісаць Пагадненне паміж Расіяй і Беларуссю аб расійскай авіяцыйнай базе на беларускай тэрыторыі. Пра гэта паведамляе РІАН са спасылкай на прэс-службу Кабміна Расіі: «Падпісанне пагаднення будзе садзейнічаць арганізацыі сумеснай аховы знешняй мяжы Саюзнай дзяржавы ў паветранай прасторы і стварэнні Адзінай рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь і доўгатэрмінова замацуе расійскую вайсковую прысутнасць у рэгіёне». Гэта непасрэдная ваенная пагроза нашай краіне. Абвастрэнне халоднай вайны і зблізжэнне да вайны гарачай адбываецца паміж Расіяй і ЗША, Расіяй і НАТА, а Беларусь знаходзіцца на гэтай мяжы.



Як выстаяць у гэтым свеце, ды яшчэ зберагчы і адбудаваць нацыянальную краіну? Прыклад Украіны сведчыць, што для гэтага патрэбна мабілізацыя ўсіх унутраных сіл нацыі. Каб падпарадкаваць Украіну, краіну па маштабах не маленькую, Расія пачала ваенную агрэсію і анексавала Крым (сакавік 2014 г.) і працягвае правакацыйную гібрыдную вайну на Данбасе. Расія, парушаючы шматлікія міжнародныя дамовы, не здолеўшы пераадолець нечаканы і ярасны супраціў украінскага народа, зараз вядзе гандаль за геапалітычную ўкраінскую прастору з ЗША і Еўрапейскім саюзам, дзе галоўную ролю іграе Германія. Сёння з-за пагрозы з боку Расіі хвалююцца тыя ж краіны Усходняй Еўропы, што былі ўключаны ў пакт Молатава–Рыбентропа ў 1939 годзе. Не складае выключэнне і Беларусь. Стан Беларусі дваякі — з аднаго боку, па многіх аспектах (палітычным, эканамічным, ваенным) яна часткова залежыць ад Расіі, але, з другога боку, як суб'ект міжнароднага права і незалежная краіна, яна мусіць весці сябе адпаведна статусу.

У нядаўнім інтэрв'ю, які даў «Нашай Ніве» былы беларускі дысідэнт М. Кукабака, выказана думка, што тое, што робіць Лукашэнка, з'яўляецца найлепшым, пакуль у Расіі кіруе Пуцін. Магчыма, што многія людзі падзяляюць яго думку і прызнаюць існаванне «феномена Лукашэнкі». Але беларускаму кіраўніцтву

ў цяперашняй сітуацыі трэба быць больш рашучым. Спробы шукаць альтэрнатыўныя падыходы, да прыкладу, праз сумесныя праекты Украіны, Беларусі і Літвы, як абмяркоўвалася нядаўна міністрамі замежных спраў гэтых краін, выглядаюць не зусім пераканаўчымі. Відавочна таксама, што вызваленне палітвязняў, якое адбылося 22 жніўня 2015 года, будзе таксама недастаткова, каб пацепліць адносіны з Захадам. Моцным і правільным ходам было б правядзенне рэферэндуму (нават разам з цяперашнімі прэзідэнцкімі выбарамі) аб нейтральным стане Беларусі, што вырашыла б многія праблемы для краіны. Калі гэтага не будзе рабіць сучасны ўрад, то на гэта павінны быць скіраваны сілы нацыянальнай эліты.

Па якім шляху будзе развівацца далей Беларусь, прагназаваць немагчыма. Можна толькі адзначыць, што найлепшым варыянтам, калі б такое было магчымым, было б дасягненне стану нейтральнай дзяржавы, што, дарэчы, і прапісана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз’ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай» (артыкул 18). Аднак для гэтага трэба пакінуць АДКБ як мінімум і вывесці чужыя войскі са сваёй тэрыторыі (расійскія базы ў Ганцавічах і Вілейцы).

Тэарэтычна, пры ваенным нападзе Расіі бараніць краіну не будзе каму. Не таму, што такіх людзей не знойдзецца, а таму, што іх будзе недастаткова, як бы гэтага ні хацелі некаторыя палітыкі, уключна з Лукашэнкам, і як бы да гэтага ні заклікалі (назапашваць зброю, спадзявацца на беларусаў — удзельнікаў вайны на Украіне і г. д.). Думаецца, што ў цэлым беларусы не гатовы бачыць на сваёй тэрыторыі вайсковыя дзеі, бо як і многія цывілізаваныя народы, паважаюць мірнае суіснаванне. Да таго ж у Беларусі адсутнічаюць сур’ёзныя палітычныя сілы, за выключэннем дзейнай улады, якія б маглі паднімаць людзей на барацьбу.

Сёлетняя выбарчая кампанія гэта яскрава паказала — нават так званыя казакі нейкім чынам сабралі больш за сто тысяч галасоў у сваю падтрымку, аднак не апазіцыйныя партыі. Калі браць прыклад з заходніх дэмакратый, то для большасці партыйных лідараў прайграўшых партый лепшым чэсным выйсцем была б адстаўка. Чым можна тлумачыць такія вынікі — дыктатурай, стомленасцю насельніцтва ад выбараў, страхам, недаверам да апазіцыі і яе слабасцю, абыякавасцю беларусаў да палітыкі ці падтрымкай курса ўрада? Ці ўсім разам?

Можна колькі заўгодна заклікаць да байкоту, ці з-за мяжы, ці выйшаўшы на плошчу ў Мінску, аднак, не маючы сур’ёзных арганізацыйных структураў, гэта будзе не больш чым голас у пустыні. Заклікі без падтрымкі дзеямі — гэта поўны абсурд. Калі нават дапусціць, што здарыцца нейкі байкот ці няўдзел, то відавочна, што ён будзе не дзеля заклікаў прыхільнікаў такога падыходу, а проста ад прадвырашанасці выбараў і абыякавасці беларусаў. Але нават такі тып байкоту не зменіць іх вынікаў.

Інтэнсіўныя спрэчкі, якія распачаліся вакол кандыдата ў прэзідэнты Таццяны Караткевіч, сведчаць, што ў стане беларускай эліты няма адзінства. Сказваецца старая хвароба — пошук ворагаў. З прыхільнікамі практычных дзеяў, як гэта іранічна падае С. Карпаў (С. Карпаў, 2015), спрачаюцца людзі, якія прытрымліваюцца прынцыповых пазіцый (В. Пракопчык, 2015). Калі дапусціць, што Караткевіч не здымецца з выбараў і набярэ працэнтаў 15, то, магчыма, тон гэтых дыскусій зменіцца. У той жа час дыскусіі гэтыя маюць элітарны характар — яны мусяць быць, але як зразумела данесці іх змест хаця б да 25% выбарцаў? Як заявіў нядаўна былы палітвязень-анархіст Ігар Аліневіч, менавіта народ, а не дзейнасць адзінак будзе вырашаць лёс краіны.

З павагай ставячыся да лідараў старой апазіцыі, трэба канстатаваць, што нават іх аб’яднанне цяпер не будзе вырашальным. Хаця б туды і падключыўся мужны чалавек і змагар Мікалай Статкевіч. Голас яскравых прадстаўнікоў беларускай эліты вельмі важны, гэта іскра, якая калі-небудзь разгарыцца. Аднак, зноў жа, адных гэтых галасоў пакуль што недастаткова, каб пабудаваць нейтральную, нацыянальную дзяржаву ў цэнтры Еўропы.

Можна пагадзіцца з тым, што выбары ўжо адбыліся. Бо рэальнай альтэрнатывы Лукашэнку няма. Трэба чэсна прызнаць — і не было. Апазіцыя (старая) разгромлена, у чым яна ж, не ў меншай ступені, чым дзейнасць рэпрэсіўнага апарату, і

вінавата. За 20 гадоў апазіцыйныя партыі істотна не прыраслі колькасна, г. зн. не здолелі прыцягнуць на свой бок людзей. Грамадскія недзяржаўныя арганізацыі не з'яднаныя. Думаецца, што пакуль няма агульнай сістэмнай працы з насельніцтвам, якое было б гатова ўспрымаць моцныя, цікавыя эканамічныя праграмы ці палітычныя рашэнні, то краіна будзе праз пяць год напярэдадні новых выбараў у такім жа стане, як гэта назіраецца зараз і як гэта было ў мінулыя выбары (2001, 2006, 2010, *тут трэба дадаць і 2015*).

З аднаго боку, гэта будзе зноў абумоўлена традыцыямі савецкай выбарчай сістэмы, якая культывуецца Лукашэнкам, а з другога боку — тым, што беларусы не адукаваныя ў палітычнай культуры. Мала хто з шараговых беларусаў адрозніць ідэалогію ліберальнай партыі ад ідэалогіі партыі сацыял-дэмакратычнага кірунку. Беларусы не гатовыя да альтэрнатыўнага выбару — ім, як бы і так добра. Таму адукацыя і асвета застаюцца амаль адзінымі сродкамі беларускай эліты, каб адкрыць беларусам вочы і праясніць іх розум у дачыненні да дэмакратычных падыходаў арганізацыі грамадства. Пакуль што ў Беларусі амаль адсутнічаюць грамадскія інстытуты і ініцыятывы, якія б у істотнай ступені кантралявалі дзейнасць дзяржаўных устаноў і аўтарытарныя падыходы ў галіне правоў і свабод чалавека.

Нягледзячы на такі песімістычны аналіз, фінал артыкула мусіць быць пазітыўным і тут, ідэя яднання, хоць і зусім не новая, стаіць на першым плане. Няма будучыні ў дэмакратычным развіцці Беларусі без яднання палітычных партый, недзяржаўных грамадскіх арганізацый і актыўных беларускіх грамадзян, без утварэння новага нацыянальнага руху з адзінай платформай/стратэгіяй. Сябры партый маглі б уключыцца ў склад такога руху толькі на непартыйнай аснове. Такі рух можа быць створаны нават у віртуальнай прасторы, праз інтэрнэт, са свабодным выхадам і ўваходам (прыкладная схема прадстаўлена ў праекце «Разам». Ключавой ідэяй яднання і новай стратэгіі можа быць будаўніцтва нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы ў Еўропе.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 11, верасень 2015 г., с. 14–20.*



## Summary

***Piotra Murzionak «Choice of Peace», magazine «CULTURE, NATION», September 2015, issue 11, pp. 14–20***

During its history Belarus has never really fought for its independence in a sense of national liberation movement. In 1919–1920, the Big Four countries and Russia determined the fate of Belarusians. It was also true that Belarus was strongly influenced by political, ideological, and cultural politics of Russia and was protected by Russian «umbrella» from the West. Russian pressure in the course of two centuries has resulted in a gradual loss of drive and willpower to fight for freedom as well as in a very low level of political culture. Belarus now continues to be under Russian economic and military pressure (propositions by Russian leaders to have a rouble as the main currency in Commonwealth countries, to create military airbase on Belarusian territory). As an optimal outcome in this situation, holding a referendum to discuss neutral status of Belarus is considered.

# РАЗВАГІ АБ СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

**Неабходнасць распрацоўкі прапануемай стратэгіі дыктуецца ў першую чаргу яе адсутнасцю ў руках нацыянальнай эліты на дадзеным гістарычным этапе развіцця краіны. Адсутнасць сучаснай стратэгіі адлюстроўваецца як у недастатковым адзінстве беларускай эліты ў падыходах да рэалізацыі нацыянальнай ідэі, так і ў невысокім узроўні самаідэнтыфікацыі/нацыянальнай свядомасці беларускага насельніцтва ў цэлым. Без абодвух складнікаў немагчыма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы.**

Распрацоўка і рэалізацыя праекта бачыцца дастаткова складаным працэсам, складанасць якога абумоўлена як магчыма адрознымі поглядамі экспертаў, так і шматлікімі зменлівымі знешнімі і ўнутранымі фактарамі, што ўплываюць на працэсы развіцця нацыі. Відавочна, што, перш чым разглядаць перспектыву развіцця нацыі на адносна доўгі перыяд, трэба асэнсаваць і даць крытычную ацэнку цяперашняга стану нацыі ў тых пытаннях, якія будуць вызначальнымі для яе будучыні, скарыстаўшы тыя напрацоўкі адносна нацыянальнай ідэі, якія былі ў мінулым і якія маюцца ў наш час. Варта нагадаць, што абмеркаванню пытанняў, датычных да нацыянальнай ідэі, толькі ў нядаўні час прысвечаны шэраг канферэнцый: «International Congress of Belarusian Studies» (5 кангрэсаў, Kaunas, 2011–2015); міжнародная навуковая канферэнцыя «Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура» (Мінск, лістапад 2015 г.); «Трансфармацыя ментальнасці беларусаў у XXI стагоддзі» (Мінск, лістапад 2013 г.); «Проблемы современной белорусской идеологии» (Мінск, лістапад 2012 г.). Тым не менш, здаецца, не было спроб абагульніць высновы, зробленыя на навуковых форумах, а таксама меркаванні дасведчаных у гэтай галіне людзей і



ператварыць іх у сучасную стратэгію развіцця беларускай нацыі (далей — Стратэгія).

У дадзеным праекце вызначэнні «нацыя» і «нацыянальная дзяржава» будуць выкарыстоўвацца ў аднолькавай меры, маючы на ўвазе, што дзяржава, ці краіна, уяўляе сабой палітычную і геапалітычную адзінку, нацыя з'яўляецца культурнай-этнічнай адзінкай, а нацыянальная дзяржава ўключае абодва гэтыя вызначэнні.

## Стан беларускай нацыі

Можна канстатаваць, што за мінулае стагоддзе беларусы дасягнулі значнага прагрэсу ў будаўніцтве сваёй дзяржавы. За гэты перыяд было шэсць абвяшчэнняў незалежнасці беларускай дзяржавы — пачынаючы ад абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (25 сакавіка 1918 года) і ўтварэння БССР (1 студзеня 1919 год) і канчаючы прыняццем Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР (27 ліпеня 1990 года). Шлях гэты быў няпросты, у развіцці краіны былі спрыяльныя і неспрыяльныя перыяды, аднак галоўным яго вынікам стала існаванне незалежнай і суверэннай беларускай дзяржавы.

На думку знешніх экспертаў (T. Sneider, 2013), сучасная дзяржаўнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь пасля выхаду з СССР значна ўмацаваліся. Гэта адбылося як пад уплывам знешніх абставін (напрыклад, няўстойлівага развіцця ўсходняга суседа, Расіі), так і ў выніку хісткай знешняй і ўнутранай палітыкі, праводзімай пад кіраўніцтвам адзінага з 1994 года Прэзідэнта дзяржавы. Магчыма, што з гэтым не ўсе будуць згодныя, у тым сэнсе, што магло б быць інакш, як, напрыклад, здарылася з краінамі-суседзямі (краіны Прыбалтыкі і Украіна, якая зараз змагаецца за большую свабоду), што ў краіне прыгнятаюцца родная мова і беларускасць (што ёсць прыкметамі сапраўднага этнацыду нацыі), што насуперак імкненню да нейтральнага стану, вызначанага ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (артыкул 18), краіна ўцягнута ў ваенныя блокі (АДКБ, асобныя дамовы з Расіяй) і ўсё больш уключаецца ў сферу «рускага свету». Але мы маем вельмі важнае — незалежнасць і суверэнітэт краіны.

Можна спрачацца аб устойлівасці гэтага стану, бо пагрозу страты незалежнасці, поўную, праз ваенную агрэсію (прыклад — Крым), ці частковую (праз размяшчэнне ваенных баз ці праз эканамічны і культурны ўціск), прадугледзець немагчыма. Але факт застаецца фактам — беларусы, якія пражывалі на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі ў пачатку ХХ стагоддзя, маюць сёння дзяржаўнасць і незалежнасць. Трэба глядзець наперад і змагацца за адзінства нацыянальнай эліты і за моцную нацыю.

За мінулае стагоддзе ў развіцці краіны былі спрыяльныя і неспрыяльныя перыяды, аднак галоўным яго вынікам стала існаванне незалежнай і суверэннай беларускай дзяржавы. Дзяржаўнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь за апошнія 25 год пасля выхаду з СССР значна ўмацаваліся.

Сярод шэрагу мадэляў будаўніцтва дзяржавы (цывільная, культурная, уяўная) выбар мадэлі этнанацыянальнай дзяржавы ў найбольшай ступені адпавядае рэальнай сітуацыі ў Беларусі і прынцыпу нейтральнасці. Ніштo ў сучасных умовах не можа так спрыяць будаўніцтву дзяржавы, як прыналежнасць большасці грамадзян да аднаго этнасу (83,7% насельніцтва краіны адчуваюць сябе беларусамі, 2009). Толькі на гэтым шляху бачыцца будучыня нашай краіны. Беларусь не можа будаваць дзяржаву на аснове культурнай мадэлі ці цывільнай, рускамоўнай мадэлі, як гэта робіцца цяпер, па адной простай прычыне. І ў адным, і ў другім выпадку паглынанне беларускай дзяржавы «рускім светам» з'яўляецца непазбежным, рана ці позна пры такіх мадэлях гэта пагроза будзе рэалізавана.

На нашу думку, далейшае існаванне беларускай дзяржавы мусіць набыць фармат нейтральнасці. На сёння ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана, што «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай» (артыкул 18). Стан нейтральнасці будзе палітычным выхадам з-пад пагрозы быць уцягнутымі ў сферу «рускага свету» і адпавядае як ментальнасці беларускага народа, так і дзяржаўным інтарэсам у цяперашняй і ў будучай рэальнасці. Відавочна, што стан нейтральнасці не прадугледжвае сяброўства ў ваенных ці іншых блоках, уцягнутых у рэгіянальныя ці глабальныя канфлікты. Ці гарантуе стан нейтральнасці абсалютную бяспеку дзяржавы ад ваеннай агрэсіі ці захопу? Натуральна, што не, але ён дае прававыя і маральныя падставы супрацьстаяць ваеннай ці эканамічнай агрэсіі, якія пагражаюць незалежнасці і суверэнітэту краіны. Ці азначае набыццё стану нейтральнасці праяўленне слабасці грамадства, хаванне «галавы ў пясок»? Думаецца, што не. Малым дзяржавам заўжды было цяжка, а то і немагчыма зберагчы сваю самастойнасць. Але калі ўзяць прыклад маленькіх краін Еўропы, то многія з іх жывуць па-за ўсякімі блокамі, што, аднак, не перашкаджае ім мірна супрацоўнічаць з іншымі малымі і вялікімі краінамі.



Прасоўванне ідэі нейтральнасці сярод насельніцтва, безумоўна, зойме шмат часу, каб грамадства ўрэшце саспела да неабходнасці правядзення адпаведнага рэферэндуму. Праблема развіцця Беларусі ў якасці нейтральнай дзяржавы не часта разглядалася ў апытанках грамадскай думкі. Набыццё краінай юрыдычнага статусу нейтральнасці ў нашы дні можа быць прызнана ААН. Нейтральная краіна ў пэўнай вайне з'яўляецца суверэннай дзяржавай, якая афіцыйна аб'яўляе сябе нейтральнай у адносінах да ваяўнічай дзяржавы. Правы і абавязкі нейтральнай дзяржавы вызначаны ў раздзелах 5 [1] і 13 [2] Гаагскай канвенцыі ад 1907 года. Нейтральнымі краінамі ў Еўропе на сёння з'яўляюцца: Аўстрыя, Ірландыя, Ліхтэнштэйн, Мальта, Малдова (з 1994 г.), Сан-Марына, Сербія (з 2007 г.), Фінляндыя, Швейцарыя, Швецыя (хаця некаторыя з гэтых краін ёсць сябрамі Еўрапейскага саюза, ЕС).

Ёсць шмат як станоўчых, так і адмоўных праяў, якія характарызуюць узровень самаідэндыфікацыі беларусаў. Сама па сабе Дэкларацыя аб суверэнітэце БССР (1990) мала што змяніла ў свядомасці людзей. У 1991 годзе 69% беларускага насельніцтва лічыла сябе савецкімі людзьмі і толькі 24% ідэнтыфікавалі сябе належнымі да сваёй рэспублікі (L. Titarenko, 2007); для параўнання — для ўкраінцаў гэтыя лічбы былі 42% і 46%, для эстонцаў — 3% і 97% адпаведна. З таго часу змянілася няшмат — у 2009 годзе 80% насельніцтва ганарылася перамогай у Айчыннай

вайне і толькі 36% — атрыманнем незалежнасці ў 1990 годзе (С. Нікалюк, 2012); у 2013 годзе, 65,2% беларускага насельніцтва лічыла, што паляпшэнне эканамічнага стану краіны важней за яе незалежнасць (Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, НІСЭПД). Прычынамі такіх адносін да незалежнасці з'яўляюцца як савецкая спадчына, так і працяг сучасным кіраўніцтвам амаль той жа палітыкі ў дачыненні да нацыянальных пытанняў.

Аб'ектыўныя замеры грамадскай думкі ў апошнія два дзесяцігоддзі вагаюцца і даюць лічбы ў 30–40% у адносінах да ўтварэння саюза з Расіяй ці адносна далучэння да ЕС. Па інфармацыі НІСЭПД, у верасні 2015 года такіх людзей было 32,6% (за аб'яднанне з Расіяй) і 27,5% (за далучэнне да ЕС); у той жа час пры выбары паміж гэтымі магчымасцямі (адно з двух) назіраецца тэндэнцыя да перавагі людзей, што галасуюць за аб'яднанне з Расіяй — 52,7% супраць 26,4% адпаведна (*вясной 2016 года — 24,8% і 52,4% адпаведна*). Трэба улічваць таксама, што Еўрасаюз мае шмат сваіх унутраных праблем, да якіх цяпер дадаліся дадатковыя, звязаныя з хваляй міграцыі з Афрыкі, Бліжняга і Сярэдняга Усходу.

Такім чынам, большасць грамадзян Беларусі да гэтага часу не разглядаюць незалежнасць краіны як адну з найважнейшых каштоўнасцяў, але ў той жа час, калі казаць пра аднясенне сябе да беларускай нацыі, то 83,7% насельніцтва краіны называюць сябе беларусамі (перапіс 2009 года). Такая высокая нацыянальная аднароднасць ёсць добрым грунтам для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы.

Калі звярнуцца да такога паказчыка самаідэнтыфікацыі беларусаў, як родная мова, то тут справа значна горшая. Сітуацыя з мовай тытульнай нацыі ў Беларусі добра вядомая і абмеркаваная: мова — аснова свядомасці большасці нацый — у Беларусі знаходзіцца ў прыгнечаным стане. Віна ў тым не толькі самой дзяржавы. Сярод аб'ектыўных прычын заняпаду беларускай мовы трэба адзначыць уплыў урбанізацыі. У гарадах сто гадоў таму назад амаль не карысталіся беларускай мовай. Беларуская мова заўжды чэрпала свае сілы з вёскі. Калектывізацыя і ўрбанізацыя прывялі амаль да поўнага спусташэння вёскі — крыніцы, з якой чэрпала сілы наша родная мова. У пачатку мінулага стагоддзя ў вёсках жыло амаль 90% насельніцтва, а зараз у сельскай мясцовасці пражывае каля 25% грамадзян Беларусі. Але калі б дзяржава мела намер прытрымлівацца канстытуцыйных норм, як гэта робіцца ў краінах, дзе некалькі дзяржаўных моў (Канада, Бельгія), то сітуацыя з Мовай не была б такой балючай і катастрафічнай. У 20–30-я гады мінулага стагоддзя, калі ў дзяржаве праводзілася палітыка каранізацыі-беларусізацыі, каля 80% служачых у цэнтральных органах улады ў 1927 годзе валодалі беларускай мовай, а ў 1928 годзе каля 80% школ было з беларускамоўнай формай навучання (у той час налічвалася 5500 школ).



Сітуацыя з роднай мовай вельмі балючая і катастрафічная, што сталася вынікам як аб'ектыўных працэсаў, звязаных з урбанізацыяй, так і з бяздзейнасцю сучаснага ўрада, які, маючы ўсе магчымыя сродкі для нармальнага ўжывання беларускай мовы ў дзяржаве, не робіць гэтага, што фактычна вядзе да паступовага яе выцяснення з нацыянальнай свядомасці. Гэтыя дзеі ўрада падпадаюць пад вызначэнне этнацыду свайго народа.

Паўстае пытанне, ці можна ва ўмовах заняпаду мовы тытульнай нацыі спадзявацца на дастойнае і поўнае будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы. Іншымі словамі, ці дастаткова ідэнтыфікаваць сябе беларусам, быць рускамоўным і будаваць нацыянальную дзяржаву. Пытанне складанае, на якое няма адназначнага адказу. Хіба што толькі дапусціць, што на даным этапе такое можа быць магчымым пры адной істотнай умове — каб беларусы глыбока ведалі сваю даўнішнюю гісторыю. Гэта пытанне патрабуе прынцыповага абмеркавання. Пры такой мадэлі гэта крок назад у адносінах да моўнага пытання, але кампрамісны падыход у пытанні нацыянальнага будаўніцтва.

Абмяркоўваючы праект Стратэгіі, мы не робім спецыяльную спасылку на гістарычныя аспекты існаваўшых форм беларускай дзяржаўнасці ў далёкім мінулым (Полацкае княства, ВКЛ). Безумоўна, што наша даўнішняя гісторыя павінна займаць адпаведнае месца ў ментальнасці беларускага народа. І ў гэтым сэнсе можна канстатаваць, што шмат чаго зроблена. Хацелася б

спадзявацца, што зараз колькасць беларусаў, якія ведаюць пра нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг, не зменшылася ў параўнанні з 1995 годам, калі за гэты сцяг на рэферэндуме прагаласавалі амаль мільён грамадзянаў Беларусі (988 839 чалавек).

Дзякуючы працы беларускай эліты (публікацыі, інтэрнэт), даўнішняя гісторыя краіны паступова займае адпаведнае месца ў свядомасці жыхароў Беларусі, аднак узровень ведаў насельніцтва пра гісторыю Полацкага княства, ВКЛ яшчэ недастатковы.

Зразумела, што будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў значнай ступені залежыць і ад наяўнасці грамадзянскай супольнасці, заснаванай на дэмакратычных каштоўнасцях, станаўленне і развіццё якой ва ўмовах аўтакратычнага рэжыму вельмі абмежаваныя. Гэта часткова можна патлумачыць як значным уплывам дзяржаўнай палітыкі, ажыццяўляемай праз жорсткую вертыкаль улады, так і значным дысанансам паміж калектывісцкімі і індывідуальнымі гістарычна склаўшыміся схільнасцямі беларусаў (D. Meadows, 2012), якія фарміруюць цяпер палітыка-культурнае асяроддзе. Пад уплывам Расіі і Рускай праваслаўнай царквы ў апошнія два стагоддзі ментальнасць беларускага насельніцтва фармавалася на карысць супольных інтарэсаў, пасіўнасці, моцнага дзяржаўнага кіравання і не была скіравана на развіццё асобы, яе свабоды і павагі да прыватнай уласнасці. І хаця, на нашу думку, такі дысананс больш характэрны для ўсходніх рэгіёнаў Беларусі, аднак разам з сучаснай дзяржаўнай прапагандай гэта прывяло да таго, што палітычная культура беларусаў і ўзровень развіцця грамадзянскай супольнасці застаюцца на дастаткова нізкім узроўні.

Гэта адлюстроўваецца таксама як у абыякавых адносінах грамадзян Беларусі да палітычнай актыўнасці, так і ў недастатковай талерантнасці да многіх каштоўнасцей, якія зараз прыняты ў цывілізаваным свеце. Паводле апытання, праведзенага НІСПЭД, абсалютная большасць беларусаў былі абыякавымі да палітыкі (91,5%) («Народная Воля», 3 верасня 2013 г.). Грамадзяне Беларусі падтрымліваюць у большасці дэмакратыю (75,3%) і тое, як яна развіваецца ў краіне (50,4%). Аднак, яны і не супраць аўтарытарнага стылю кіравання (61,6%) (О. Иванюто і інш., 2013), што, магчыма, звязвана з асобай кіраўніка дзяржавы і з той палітыкай, якую ён праводзіць, з эканамічнай і палітычнай стабільнасцю, якая на гэты час задавальняе беларусаў.



Талерантнасць традыцыйна лічыцца як бы адметнай і станоўчай рысай беларусаў. Аднак апытанне, праведзенае Лабараторыяй Новак і Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў у 2010 годзе (Belarus Digest, 08.02.2013), паказала, што гэта не так: 46% беларусаў лічаць, што трэба абмежаваць прыток замежных працоўных у краіну, толькі 20% беларусаў пагадзіліся б пажаніць сваіх дзяцей з прадстаўнікамі другой расы, больш за 60% беларусаў падтрымліваюць крымінальны пераслед людзей нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі і толькі 6% згодны на тое, каб яны мелі тыя ж самыя правы, што і астатнія грамадзяне краіны, 80,44% беларускага насельніцтва на рэферэндуме 1996 года сказалі «так» смяротнаму пакаранню.

Можна меркаваць, што адносна нізкая свядомасць беларусаў у дачыненні да палітычных і дэмакратычных свабод перайшла ў спадчыну ад Расіі і савецкай сістэмы і з'яўляецца значнай перашкодай у будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы.

Такім чынам, ментальнасць беларусаў яшчэ не падрыхтаваная да ўспрымання каштоўнасцей, звязаных з роўнасцю людзей, якія ў цывілізаваным свеце паступова ўваходзяць у жыццё і з разуменнем успрымаюцца грамадствам, — беларусы недастаткова талерантныя ў адносінах да іншых расаў, нетрадыцыйных рэлігій і да асоб нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі, адмоўна ставяцца да адмены смяротнага пакарання.

Будаўніцтва паўнавартаснай нацыянальнай дзяржавы пры недахопе якасцяў, аб якіх ішла размова вышэй, будзе запаволена, нягледзячы на тое, што па сваёй адукаванасці і нават па ўзроўню жыцця краіна Беларусь магла б адпавядаць еўрапейскім стандартам. Да таго ж недастатковы ўзровень развіцця такіх каштоўнасцей будзе незразумелым пры далучэнні да народаў цывілізаваных краін у эпоху глабалізацыі і, відавочна, патрабуе карэкцыі праз выхаванне адносін да іх у грамадстве.

Мусім тут адказаць на пытанне: а ці мае наша незалежная і суверэнная Беларусь дастатковы нацыянальны колер, каб казаць,

што на яе зямлі існуе моцны беларускі народ, які хоча збудаваць нацыянальную дзяржаву? Які ж патэнцыял сёння ёсць у Беларусі, каб будаваць нацыянальную дзяржаву? Шмат было зламана коп'яў на гэтым полі — дыскутаваліся ідэі ад поўнай немагчымасці збудаваць нацыянальную дзяржаву ў постмадэрны перыяд да стварэння ці аднаўлення старых «саюзаў». Падаецца, што тут патрэбна сказаць адназначна — будаўніцтва нацый-дзяржаў у Еўропе працягваецца (Сербія, Чарнагорыя, Славенія, Харватыя, Літва) і Беларусь мае патэнцыял, каб рабіць гэта таксама.

Відавочна, што сённяшняе кіраўніцтва не гатова ўдзельнічаць у працэсе нацыянальнага будаўніцтва і працягвае будаваць цывільную, рускамоўную дзяржаву, выкарыстоўваючы ў асноўным ідэалогію, заснаваную на кароткачасовай гісторыі — будаўніцтве савецкага ладу, цяжкасці Другой сусветнай вайны, — і не дбаючы пра яе нацыянальны твар. У дадатак, даючы ў большасці перавагу ўсходняму вектару знешняй палітыкі, сучасны ўрад душыць усе праяўленні беларускасці, зацягваючы краіну ў еўразійскую культуру і палітыку. Дэкларатыўныя заявы дзяржаўных дзеячаў аб крышталізацыі нацыянальнай ідэі застаюцца ў асноўным на паперы.

У апошні час, праўда, можна чуць рыторыку адносна выхавання патрыятызму на прыкладзе апошняй вайны. Нават такі патрыятызм — гэта ў прынцыпе добра, бо ён працуе на нацыю, хаця і ў такім усечаным выглядзе. Але нават прапаганда такога тыпу патрыятызму раней шырока неназіралася і стала заўважнай толькі ў апошнія гады пад ціскам знешніх абставін (эканамічны крызіс, вайна на Украіне). Інакш немагчыма было б назіраць за канферэнцыяй па Вялікаму Княству Літоўскаму, якая праходзіла ў Нацыянальнай акадэміі навук 6–8 лістапада 2015 года. Аднак пакуль што гэта мізэрныя праявы нацыянальнага выхавання. Па-ранейшаму адчыняць беларускія класы, хаця б з некалькімі вучнямі, бацькам даводзіцца з боем. Варта яшчэ нагадаць адзін яркі прыклад антыбеларускасці, калі вымуштраваныя, абалваненыя так званыя міліцыянеры прымушаюць маладых дзяўчат на дэманстрацыі здуваць балонікі з «Пагоняй» ці здымаюць майкі з «Пагоняй» у фанатаў на стадыёнах.



У такіх умовах нацыянальная свядомасць нармальна развівацца не можа, і калі гэта і адбываецца, то толькі за кошт неймаверных высілкаў усё яшчэ нешматлікай нацыянальнай эліты.

Беларуская нацыянальная эліта імкнецца выкарыстоўваць іншыя каштоўнасці, заснаваныя на глыбокай гісторыі, даўнішняй культуры і традыцыях беларускага народа. Краіна, аднак, дзеліцца даследчыкамі як бы на дзве часткі: адна частка, ідэі якой падзяляюць каля 25–30% насельніцтва, ідзе за нацыянальнай элітай (В. Вілейта, 2005); другая частка, большая, складаецца з прыхільнікаў сённяшняга кіраўніка дзяржавы. Супярэчнасці паміж двума падыходамі даюць падставы многім даследчыкам казаць аб наяўнасці дзвюх культур ці ідэнтычнасцяў/арыентацыяў у Беларусі (абарыгенаў-этнанацыяналістаў і «крэолаў», М. Рабчук, 2005; «националистов» і «космополитов», А. Манаеў, Ю. Дракахруст, 2012; нацыянальнай і постсавецка-заходнерускай, Р. Радзік, 2012; свядамітаў і несвядамітаў, В. Воранаў, 2013; культуры-1 і культуры-2, А. Астапенка, 2013; «Пакольк і тыя, і тыя прэтэндуюць на тое, каб быць прадстаўнікамі беларускай культуры, атрымліваецца, што ў нашай краіне суіснуюць два абсалютна розныя ўяўленні. Дзве культурныя мадэлі, дзве візіі будучыні, дзве гісторыі, дзве мовы», М. Анемпадыстаў, 2015). Падобныя азначэнні існуючых рэальнасцяў даволі дакладна адлюстроўваюць ці апісваюць сітуацыю. Аднак падаецца, што гэта штучнае, або «псеўда-», падзяленне. Культура ў народа можа быць толькі адна. У такое падзяленне можна было б верыць толькі тады, калі б у грамадстве існаваў свабодны абмен думкамі, адкрытае поле для змагання ідэй. У цяперашняй сітуацыі, калі ўсе рычагі прапаганды знаходзяцца ў адных руках, падаецца, што казаць прадстаўнікам нацыянальных сіл аб наяўнасці дзвюх культур азначае прызнаваць сваё паражэнне. У свабодным грамадстве заўсёды будзе існаваць палярызацыя думак, але гэта ў свабодным грамадстве. Беларускае грамадства такім не з'яўляецца, таму сцвярджаць, што культура нумар «такая-то» ідзе за сучасным урадам і перамагае, відаць, нельга. Гэта часовая перавага адразу знікне, як толькі будзе вызвалена трыбуна для ўсіх адпушчаных на волю грамадзян краіны.

Падаецца, што будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы не можа быць заснавана выключна на хрысціянскай маралі, што прапагандуюць некаторыя прадстаўнікі беларускай эліты (А. Астапенка, лідары «Маладога фронту» П. Севярынец, З. Дашкевіч). Натуральна, што ў нацыянальнай дзяржаве з роўнымі правамі для ўсіх грамадзян хрысціянскія ідэі і іх прыхільнікі могуць быць значнай сілай у яе ўмацаванні і развіцці. Аднак трэба ўлічваць, што ў краіне ёсць шмат людзей, якія прытрымліваюцца іншых веравызнанняў (у Беларусі налічваецца 27 розных канфесій ці іх напрамкаў), да таго ж каля 41% насельніцтва Беларусі не з’яўляюцца актыўнымі вернікамі. Існаванне напружання паміж некаторымі канфесіямі ў нашы дні таксама з’яўляецца ў некаторым сэнсе перашкодай для нацыянальнага будаўніцтва.

Нягледзячы на сцверджанні, што будаўніцтва нацый ў постмадэрным перыядзе немагчыма, факты сведчаць адваротнае. Прыкладам таму будаўніцтва ці ўмацаванне нацый на постсавецкай прасторы і на тэрыторыі былой Югаславіі. Многія з гэтых краін, як і Беларусь, этнічна аднародныя (Сербія, 83% насельніцтва складаюць сербы; Харватыя, 88% — харваты; Славенія, 83% — славены; Літва, 84% — літоўцы). Так, у нашай краіне жывуць людзі іншых нацыянальнасцяў, як гэта назіраецца ва ўсіх краінах (гістарычна жылі побач, міграцыя), аднак нельга пагадзіцца, што Беларусь — многанацыянальная краіна. Большасць нацыі складаюць беларусы (нацыяўтвараючы этнас), якія ў асноўным і вызначаюць менталітэт краіны, яе агульны настрой і адносіны да знешняга свету. Нягледзячы на пэўныя слабасці «няспелай» беларускай нацыі, магчымасць будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы застаецца.

Мы не разглядаем магчымыя палітычныя шляхі рэалізацыі нацыянальнай ідэі таму, што прапануемая Стратэгія развіцця беларускай нацыі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга палітычнага/геапалітычнага характару (рэвалюцыя, агрэсія ці іншае). Такія хуткія змены могуць мець як станоўчыя, так і адмоўныя наступствы. Не адмаўляючы і падтрымліваючы палітычныя падыходы, трэба заўважыць, што пастаяннай задачай нацыянальных сіл мусіць быць змаганне за нацыянальную свядомасць грамадзян Беларусі, а такая праца патрабуе доўгага часу і не можа быць вырашана кароткачасовымі кампаніямі.



Нацыянальная свядомасць саміх грамадзян Беларусі, за выключэннем аднясення сябе да нацыянальнасці беларус (83,7%), пакуль што вельмі слабая. Такія прыметы, як некарыстанне роднай мовай, нежаданне весці дзяцей у беларускія школы і садкі, нізкая актыўнасць у пратэсных акцыях, абыякавасць да нацыянальных каштоўнасцяў, знівеліраванае пачуццё нацыянальнага гонару, ніяк нельга аднесці ў актыў нацыянальнай свядомасці. Для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы недастаткова разумець беларускае пытанне ці толькі адчуваць сябе беларусам, трэба яшчэ і дзейнічаць, кожны на сваім месцы, дзе б хто ні знаходзіўся.

Беларусы — нацыяўтвараючы этнас. З гэтым цяжка спрачацца. Як і з тым, што ў Беларусі нацыянальныя меншасці жывуць у бяспецы дзякуючы як існуючым цывільным рэгулам, так і міралюбівым адносінам да нацыянальных меншасцяў саміх беларусаў. З аднаго боку, гэта характэрна для дзяржаў, дзе большасць насельніцтва складае адзін этнас ці адну нацыю — бо ў гэтым выпадку большасць не адчувае пагрозы з боку меншасцяў. Гэта натуральна, што беларусы і прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў ведаюць, але не акцэнтуюць увагу на тым, што беларусы ёсць нацыяўтвараючым этнасам.

У выпадку ж міграцыі ў краіну новых пасяленцаў «нетутэйшых нацыянальнасцяў» пагроза ксенафобных настрояў вырастае. Роля дзяржавы і нацыянальнай эліты ў забеспячэнні роўнасці правоў для прадстаўнікоў усіх меншасцяў надзвычайная. Неталерантнасць і ксенафобія, якія часта прыпісваюць «нацыяналістам», павінны быць пад пільнай увагай і кантролем з боку нацыянальнай эліты. Пераход міжнацыянальнай мяжы можа весці да сур’ёзных канфліктаў. Падобная мадэль пабудовы грамадства названа гібрыднай (R. Brubaker, 1996). Паводле такой мадэлі дзяржава разумеецца як нацыянальная, але ў той жа час як дзяржава, у якой перавага не аддаецца дамінантнай этнічнай групе; грамадзянам меншасцяў гарантуюцца не толькі

роўныя правы як грамадзянам гэтай дзяржавы, але і абарона ад асіміляцыі пры рэалізацыі іх нацыянальных інтарэсаў.

Што тычыцца сіл нацыянальнай эліты, то, з аднаго боку, яны значна пашырыліся за кошт шматлікіх інстытутаў, арганізацый і вэб-рэсурсаў, аднак, на жаль, значная колькасць іх вымушана дзейнічаць з-за мяжы. Свабодна ж працаваць на радзіме вельмі складана з-за шматлікіх абмежаванняў і прынятых законаў, якія фактычна загналі свабодную думку разам з мовай у «беларускае гета». Тым не менш варта нагадаць многія арганізацыі і выданні, якія працуюць актыўна і паступова даносяць інфармацыю, якая ў значнай ступені дае магчымасць павышаць нацыянальную свядомасць беларускіх людзей. Сюды трэба аднесці Таварыства беларускай мовы, партыю БНФ, газеты «Наша Ніва», «Наша Слова», «Наш час», «Народная Воля», тэлебачанне «Белсат», радыё «Свабода», вэб-рэсурсы «Хартыя'97», «Беларускі партызан», «Спадчына», «Мы — нацыя», «Салідарнасць» і шмат іншых.

Нягледзячы на многія абмеркаваныя недахопы і перашкоды, усё ж можна лічыць, што шанц будаўніцтва паўнавартаснай нацыі і нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы застаецца. Гэта надзея базуецца на:

- незалежнасці і суверэнітэце, якую зараз мае Рэспубліка Беларусь;
- высокай нацыянальнай аднароднасці насельніцтва (83,7% беларусы);
- наяўнасці нязначнай па колькасці, але актыўна працуючай нацыянальнай эліты;
- істотнай долі насельніцтва, якая спачувае ці можа патрымаць ідэі, скіраваныя на ўмацаванне нацыі;
- узрастаючай колькасці інфармацыйных рэсурсаў;
- спрыяльных знешніх умовах;
- тэарэтычных доказах магчымасці будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў постмадэрны перыяд.



## Мэта стратэгіі

Мэтай прапанаванай Стратэгіі з'яўляецца пабудова нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы, у якой абсалютна роўныя правы будуць мець прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў і прадстаўнікі нацыяўтвараючага этнасу — беларусы.

## Задачы, якія вынікаюць з характарыстыкі сучаснага стану беларускай нацыі і пастаўленай мэты

Распаўсюджваць ідэю аб атрыманні краінай нейтральнага стану праз правядзенне рэферэндуму і замацаванні гэтага палажэння ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Падтрымліваць ідэю аб гістарычнай унікальнасці беларускага народа, развіццё якога істотна адрозніваецца ад развіцця народаў Расіі. Лічыць ідэю аб трыадзінстве ўсходнеславянскіх народаў (Беларусі, Расіі, Украіны) не адпавядаючай гістарычнай праўдзе. Падтрымліваць добрыя адносіны з усімі славянскімі і з іншымі народамі свету. Дабівацца сусветнага прызнання выключнай ці роўнай ролі беларускага народа ў развіцці Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай — вялікіх еўрапейскіх дзяржаў мінулага, на тэрыторыі якіх сёння пражываюць людзі сучасных незалежных краін Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны.

Для папярэджання пагрозы страты незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь праз ваенныя, эканамічныя ці культурныя механізмы супрацьстаяць ідэалогіі «рускага свету» і неаеўразізму, якія ўяўляюць сабой абноўленыя формы імперскага шавінізму.

Не падтрымліваць ідэю сучаснага ўрада аб будаўніцтве цывільнай, рускамоўнай дзяржавы і адначасова працягваць актыўнае ўзаемадзеянне ў рамках законаў індывідуальна і арганізаванымі групамі грамадзян з мясцовымі ўладамі для паляпшэння сітуацыі ў адносінах да мовы (садкі, класы, школы, дакументацыя), гісторыі (назвы вуліц, памятныя знакі) і па іншых пытаннях.

На сучасным этапе праводзіць асветніцкую дзейнасць сярод насельніцтва ў першую чаргу ў галіне гісторыі, культуры і тра-

дыцый беларускага народа (Полацкая дзяржава, ВКЛ, абуджэнне нацыі ў XIX–XX стст.), не збаўляючы высілкаў па вызваленні мовы тытульнай нацыі з прыгнечанага стану. Дабівацца раўнапраўнага ўжывання беларускай мовы ў дзяржаўных установах.

Ва ўмовах адсутнасці рэальнага двухмоўя і невыканання Закона аб мовах стымуляваць выкарыстанне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця, ужываючы ўсе магчымыя падыходы, прадстаўленыя ў «Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі» (2012).

Для асветы насельніцтва стварыць агульны канал на даступных электронных і неэлектронных сродках інфармацыі.

Заахвочваць грамадзян Беларусі аддаваць дзяцей у беларускія садкі і школы.

Дамагацца адкрыцця беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

Заахвочваць рэлігійныя абшчыны розных канфесій да правядзення багаслужбы на беларускай мове.

Заахвочваць грамадскія арганізацыі нацыянальных меншасцяў да вывучэння беларускай мовы і гісторыі.

Заахвочваць грамадзян Беларусі і адпаведныя рытуальныя агенцтвы ўжываць беларускую мову на надмагільных надпісах.

Даводзіць інфармацыю пра ўсе станоўчыя праяўленні беларускасці і рэагаваць на ўсе без выключэння праявы этнацыду беларусаў. Ганарыцца дасягненнямі, які мае беларускі народ сёння.

Папулярызаваць нацыянальных дзеячаў, якія зрабілі найбольшы ўклад у развіццё нацыі: І. Насовіч, Н. Орда, В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі, Б. Эпімах-Шыпіла, І. Луцкевіч, Я. Купала, Я. Колас, У. Галубок, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Луцкевіч, М. Багдановіч, А. Чарвякоў, Б. Тарашкевіч, Р. Шырма, Г. Цітовіч, Л. Геніюш, М. Ермаловіч, В. Быкаў, А. Адамовіч, У. Караткевіч, У. Мулявін.

Адзначаць нацыянальныя святы, якія пакуль што не значацца ў афіцыйным календары: 25 сакавіка — Дзень Волі, першае абвяшчэнне незалежнасці краіны, Беларускай Народнай Рэспублікі; 15 ліпеня — Грунвальдская бітва; 27 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь; 8 верасня — Дзень беларускай вайсковай славы; 27 лістапада — Слуцкі збройны чын.



## Падыходы і сродкі рэалізацыі

1. У сваіх адносінах паміж людзьмі, якія будуць падтрымліваць рэалізацыю Стратэгіі, пажадана выконваць наступныя правілы «Кодэкса гонару»:

- лічыць, што ўдзел у будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы — гэта вялікі гонар для беларусаў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў;
- праяўляць узаемапавагу і падтрымку;
- крытычна і абгрунтавана весці спрэчкі з недапушчэннем абраз і ўжывання неправераных фактаў;
- быць талерантнымі да выказванняў думак апанентаў;
- максімальна ўжываць беларускую мову дома і па-за домам;
- прытрымлівацца адзіных падыходаў пры выкананні задач Стратэгіі;
- пазбягаць фракцыйнасці — пабудаваць нацыянальную дзяржаву можна толькі праз адзінства людзей, незалежна ад таго, прыхільнікамі якіх партый, рухаў, рэлігійных і іншых плыняў з'яўляюцца асобы.

2. Давесці змест Стратэгіі да максімальнай колькасці грамадзян Рэспублікі Беларусь. Пажадана каб тэкст Стратэгіі мела кожная сям'я.

3. Рэалізацыя Стратэгіі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, агрэсія ці іншае).

4. Для рэалізацыі Стратэгіі выхаванне і падтрымка адпаведнага нацыянальна-свядомага настрою ў грамадстве ў доўгатэрміновай перспектыве важней за наяўнасць ці адсутнасць матэрыяльных магчымасцяў.

5. Паступовае пашырэнне кола нацыянальна свядомых грамадзян Рэспублікі Беларусь праз асвету і правядзенне пастаянных і рэгулярных акцый, скіраваных на выкананне пастаўленых задач.

6. Для вырашэння задач стратэгіі, ва ўмовах абмежаванай свабоды і доступу да СМІ ў дзяржаве, выкарыстоўваць усе наяўныя і шукаць магчымыя сілы і сродкі — нацыянальна свядомых сіл і прыхільных да нацыянальнай ідэі грамадзян Рэспублікі Беларусь, спонсараў, інтэрнэт-рэсурсаў, незалежных і дзяржаўных СМІ.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 12, снежань 2015 г., с. 45–57.*

## Summary

***Piotra Murzionak: «Reflections on the Strategy of Development of the Belarusian Nation»* (m*agazine «CULTURE, NATION», December 2015, issue 12, pp. 45–57)***

The writing of article is dictated by the need to supplement and update the approaches to the implementation of the Belarusian idea due to the new influential factors, external (globalization, local wars, migration) and internal (state of society, the lack of unity in the Belarusian elite). It is noted that in the past century Belarusians gained independence, the country of Belarus came into existence in the world. However, there are a number of factors that are not conducive to the construction of the nation-state, namely, a commitment of current government to the construction of the Russian-speaking civil state, authoritarian style of management, education of patriotism based only on the short history of the last war, the oppression of the native language and Belaruskasc, participation in military blocks, the country's inclusion in the scope of the «Russian world».

It is suggested that the Strategy would aim for the construction of a neutral, ethno-national state where representatives of national minorities as well as representatives of the nation-forming ethnicity — Belarusians — will be granted absolutely equal rights. The official status of neutrality is a political way out from the threat of being drawn into the sphere of the «Russian world» and is consistent with both mentality of the Belarusian people and interests of the country. Based on the characteristics of the current state of the Belarusian nation and the objectives associated with the development of the nation, main tasks have been identified. Among them obtaining neutral status; acquiring global recognition of the exceptional or at least equal role of the Belarusian people in the development and rise of the Grand Duchy of Lithuania; rejecting the idea of the trinity of the East Slavic peoples (Belarusian, Russian, Ukrainian) since this does not correspond to the historical truth; opposing to the ideology of the «Russian world» and the Neo-Eurasianism which are there modeled forms of imperial chauvinism. It is intended that the Strategy is implemented during the next two decades, regardless of possible changes of the internal or external circumstances such as revolution, aggression and /or others). It is noted that cultivation and encouragement of the appropriate national awareness in the Belarusian society is much more important in the long term than the presence or absence of material resources. The need to bring the contents of the Strategy up to the maximum number of citizens of Belarus is emphasized; it is desirable that the text of the Strategy is available to every family. Theoretical possibility of the construction of the National Belarusian State remains. It is based on the independence and sovereignty that the Republic of Belarus presently has; high homogeneity of the population (83,7% of Belarusians); availability of the actively working (although not yet sufficient in quantity) national elite; significant proportion of the population that sympathizes or may have ideas related to strengthening of the nation, increasing number of database sources; and favorable external conditions.

# КАБ ЖЫЛА БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯ

*Эсэ*

Калі запытацца ў беларуса, што для яго азначаюць словы, вынесеныя ў загаловак, то адказы будуць неаднназначныя. Чалавек, сведамы ў пытаннях беларускай культуры і гісторыі, пачне з сумненнем задаваць дадатковыя пытанні: «А ці маем мы цяпер сапраўды паўнавартасную беларускую нацыю? Што трэба зрабіць, каб яна жыла і развівалася?» і г. д. Чалавек, менш сведамы ў тэарэтычных праблемах станаўлення нацый, адкажа: «Аб чым гаворка?! Беларуская нацыя была, ёсць і будзе». Безумоўна, што кожная асоба мае рацыю — нават прымаючы да ўвагі магчымыя ўплывы сучаснай глабалізацыі, беларуская нацыя не згіне і будзе існаваць праз вякі, як гэта было тысячагоддзямі раней. Розніца паміж пазіцыямі гэтых людзей заключаецца ў тым, у якой якасці будзе развівацца беларуская нацыя. Ці здолеюць беларусы пераадолець тэндэнцыю будавання цывільнай рускамоўнай дзяржавы, якая можа ў выніку згубіцца ў сутарэннях «рускага свету» ці глабальнага сусвету? Ці атрымаецца стварыць каларытную нейтральную беларускую дзяржаву, якая здолее заняць пачэснае месца сярод іншых зямных нацый?

## Ад вагання між Усходам і Захадам да больш устойлівага стану. Усходнеславянская беларуска-украінская цывілізацыя. Беларусь не на мяжы паміж Усходам і Захадам, а на асобным шляху развіцця

Беларускі этнас быў, ёсць і будзе ў геапалітычных суадносінах паміж Усходам і Захадам. Шлях беларускага народа вызначаецца як яго гістарычным мінулым, так і ўнікальнасцю яго развіцця, прадыктаванага ўплывамі азіяцкага (праваслаўнага) Усходу і



еўрапейскага (каталіцкага, пратэстанцкага, уніяцкага) Захаду. 95 гадоў мінула з таго часу, як малады беларус Ігнат Абдзіраловіч напісаў сваё знакамітае эсэ «Адвечным шляхам», у якім ён вызначаў Беларусь як мяжу між Усходам і Захадам, як краіну, якой для нацыянальнага развіцця «трэба шукаць на другіх шляхох». І. Абдзіраловіч пісаў, што пасля 10-вяковых ваганняў беларусы «…не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі й культуры Заходняй Еўропы». І гэта можна прасачыць праз вякі як у маштабах краіны, так і праз асабістую ідэнтыфікацыю на прыкладзе Скарыны: «…я ня быў ні Юрым, ні Францішкам, а быў вольным, незалежным духам, якога вы шукаеце, духам агульначалавечым, толькі ў беларускай скуры. Шукайце ж!» Супрацьстаянне Усходу і Захаду, якое працягвалася так доўга на беларускіх землях, адбываецца і ў наш час, хіба што ў іншых формах, а для Беларусі гэта адлюстроўваецца ў пошуках набыцця становішча больш стабільнага і зразумелага. Што ж змянілася за гэтыя вякі?

Зараз многімі прадстаўнікамі беларускай эліты і значнай часткай насельніцтва як аксіёма прымаюцца гістарычныя факты з даўняга мінулага, якія сведчаць аб тым, што беларускі этнас развіваўся паслядоўна ў рамках такіх дзяржаўных утварэнняў, як Полацкае княства (IX–XIII стст.), Вялікае Княства Літоўскае (XIII–XVI стст.), Рэч Паспалітая (XVI–XVIII стст.) і БССР (XX ст.). XIX стагоддзе выпала з гісторыі беларускай дзяржаўнасці, бо беларусы знаходзіліся ў гэты век пад Расійскай імперыяй. Не ўсё было гладка для беларусаў: Полацкі перыяд і перыяд ВКЛ большасцю прымаюцца ў асноўным як станоўчыя для развіцця беларускага народа, часы ж знаходжання беларусаў як у складзе Рэчы Паспалітай, так і ў складзе Расійскай імперыі ўспрымаюцца як перыяды паланізацыі і русіфікацыі адпаведна. Перыяд русіфікацыі працягваўся для беларусаў у СССР і працягваецца цяпер у незалежнай Беларусі, за выключэннем кароткіх перыядаў беларускага адраджэння 20–30-х і 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

Нягледзячы на перыяды ўплыву чужых культур, якія ў большасці прыносілі шкоду развіццю беларускай нацыі, беларусы змаглі ўсталяваць у апошнія 100 год незалежнасць і

самастойнасць. І ў гэтым значная гістарычная заслуга належыць ВКЛ як аб'яднальніку ўсходнеславянскіх зямель, як дзяржавы, здолеўшай зберагчы ўсходнеславянскую беларуска-украінскую цывілізацыю ад паглынання еўразійскай цывілізацыяй. І гэта было абумоўлена не ў апошнюю чаргу істотнай этнічнай, ментальнай і гістарычнай розніцай паміж Усходам і самастойнымі народамі Беларусі і Украіны.

Перажыўшы шмат складаных перыядаў, беларусы знаходзяцца цяпер у стане далейшага ўсталявання сябе як нацыі і ў вызначэнні шляху, які можа прывесці іх да новай формы існавання ў эпоху сусветнай глабалізацыі. Калі казаць пра знешняе ўспрыняцце, то суверэнная беларуская дзяржава адбылася і значна ўмацавалася за апошнія чвэрць стагоддзя — яна мае тэрыторыю, свае грошы, войска — амаль усе атрыбуты суверэнітэту. Адказ для тых, хто, магчыма, запытаецца, чаму яна да гэтага часу яшчэ існуе, нягледзячы на істотныя спробы спаланізаваць і зрусіфікаваць беларускі народ, вельмі просты — таму што беларускі этнас мае глыбокія тысячагадовыя карані свайго развіцця. Гэта вельмі аптымістычны факт, які не дазваляе сумнявацца ў тым, што сфармаваная беларуская нацыя будзе і надалей развівацца.

Нядаўна, 9 чэрвеня, на старонках «Нашай Нівы» прачытаў меркаванне аб тым, што «Расейцы — гэта нашыя суседзі, руская мова — гэта таксама наша мова, як бы хто ні рабіў выгляд, што яна нам ёсць чужой… Расейцы — культурна не чужыя людзі сучаснаму беларусу». Сказана добра ў тым сэнсе, што расейцы і іх мова не чужыя — але ж і не родныя. Расія — блізкая геаграфічна (суседзі), але не блізкая па сваёй ментальнасці. Мы не «рускія са знакам якасці» (А. Лукашэнка), мы проста розныя, і шляхі ў нас мусяць быць рознымі, а сябраваць трэба з усімі суседзямі. Гэта рознасць дае падставы народам Беларусі на асобнае існаванне, без каланіяльнай залежнасці і прымусу з боку еўразійскай цывілізацыі. Частка ўсходнеславянскай цывілізацыі, Украіна, спрабуе сёння праз вайну вырвацца з палітычнага, эканамічнага і духоўнага ўплыву з боку Расіі. Беларусь, маючы з Украінай вельмі падобны лёс, будзе імкнуцца ці імкнецца абараніцца ад



паглынання «рускім мірам» і не мае іншага выйсця, як шукаць свой шлях.

Здаецца, як ва ўладных структурах, так і сярод беларускага насельніцтва з'яўляецца ўсё больш прыхільнікаў развіцця Беларусі па сваім асобным шляху. Аб гэтым сведчыць і палітыка ўлады, якая спрабуе размеркаваць палітычныя і эканамічныя высілкі паміж Расіяй і астатнім светам, а таксама шматлікія апытанні сярод беларускіх грамадзян аб магчымых перавагах далучэння да Расіі ці да Еўрапейскага саюза. Падаецца, што ў гэтым сэнсе беларускае грамадства падзелена пароўну. Хаця лічбы вагаюцца ў залежнасці ад знешніх ці ўнутраных фактараў, аднак можна казаць, што каля 30–40% людзей глядзяць на Усход, столькі ж — на Захад, і, як заўжды, ёсць частка людзей нейтральных.

Калі казаць пра агульную тэндэнцыю за апошнія чвэрць стагоддзя, то думаецца, што колькасць прыхільнікаў асобнага шляху і інтэграцыі з Еўропай расце. А лепей сказаць, гэта тэндэнцыя праглядаецца ў справе далучэння беларускага грамадства да глабальных працэсаў развіцця чалавечай супольнасці, якое адбываецца праз інфармацыйныя патокі і новыя тэхналогіі, да якіх беларусы мусяць паспець далучыцца. Спазненне можа быць катастрафічным, і прамарудзіць — гэта значыць адпіхнуць краіну ў другую ці трэцюю паўсотню краін сусвету, хаця Беларусь магла б па свайму патэнцыялу займаць месца сярод першых дзясяткаў краін. Але ж у цэлым беларускае грамадства не крытычна адхілілася ад агульнасусветнага кірунку развіцця.

Справа не ў тым, быць нам ці не быць у Еўрасаюзе ці ў Еўразійскім саюзе. Хочам мы гэтага ці не, а сусвет пачынае развівацца па новых, глабалізацыйных правілах. Супрацоўніцтва паміж краінамі ў свеце зараз у значнай ступені падпарадкоўваецца, часам на шкоду дэмакратычным каштоўнасцям, прынцыпам рэальнай палітыкі — галоўнае, каб яно прыносіла эканамічную карысць грамадству. Калі зменяцца гэтыя «практычныя» прынцыпы, невядома, аднак іх трэба ўлічваць.

Эканамічная і палітычная сітуацыя ў Беларусі зараз вельмі складаная, і гэтая складанасць толькі часткова абумоўлена сусветным крызісам. Адносная задаволенасць насельніцтва

існуючымі парадкамі можа тлумачыцца толькі цярплівасцю беларусаў. Яны могуць пражыць на пенсію ў 3 млн ці на зарплату ў 6 млн рублёў (сярэдняя па краіне ў маі 2016 г. складала каля 300 даляраў), пры тым, што 1 кілаграм свініны каштуе каля 100 000 рублёў, 1 літр малака — каля 12 000 рублёў, камунальныя паслугі для двухпакаёвай кватэры — каля 800 000 рублёў на месяц. Гэта лепш у параўнанні з беднымі краінамі свету, але значна горш, чым у суседніх еўрапейскіх краінах. Пэўна, прызвычаіліся да гэтага з часоў СССР, калі, былі моманты, і хлеб, і гарэлка былі па талонах.

Тыя спадзеўкі, што ўскладваліся на ЕАЭС, пакуль не спраўджваюцца. Расія не дапускае Беларусь да радовішчаў газу і нафты на сібірскіх прасторах, не працуюць законы свабоднай эканамічнай зоны. На паседжанні кіраўніцтва ЕАЭС 30 мая 2016 года ў Астане быццам бы і былі прынятыя важныя дакументы аб агульнай прасторы для гандлю нафтай і газам без дадатковых мытных набораў. Аднак, паводле адкрытай інфармацыі, такія правілы пачнуць дзейнічаць толькі з 2025 года. Гэта адназначна сведчыць аб тым, што Расія адцягвае прыняцце такіх механізмаў эканамічнага суіснавання з адной мэтай — да 2025 года вырашыць пытанні «інтэграцыі» іншымі шляхамі. Такім чынам, кіруючая ўлада ў Беларусі вымушана шукаць шляхі выратавання сёння на заходніх рынках і рынках краін трэцяга свету. Што яна і робіць з пераменным поспехам.

Аднак думаецца, што многія з беларусаў хацелі б увайсці ў новыя ўмовы існавання чалавецтва паўнавартаснай нацыянальнай дзяржавай. Задача суперскладаная. Не хочацца верыць, што нацыі зямлян будуць развівацца ў фармаце «халодная вайна — гарачая вайна». Чалавецтва вымушана шукаць новыя прынцыпы існавання нацый і народаў паміж несумяшчальнымі з нейкага пункту гледжання рэчамі — паміж дэмакратыяй і дыктатурай, здаровым нацыяналізмам і праявамі фашызму, парадкам і анархіяй, ідэямі гуманізму і рознымі неталерантнымі рэлігійнымі ідэямі.

Даўнішняя гісторыя Беларусі цесна звязана з Польшчай, Украінай, Літвой і Латвіяй, з якімі ў нас сёння няма сур'ёзных



супярэчнасцяў. Бліжэйшая ж пагроза для Беларусі, як думаецца, ідзе з Расіі, і не як краіны з вялізным ваенным, эканамічным і палітычным патэнцыялам, а як краіны, якая нясе ідэалогію еўразізму, ідэалогію верхавенства дзяржавы над асобай, калектывісцкага менталітэту над індывідуальным, павагі да аўтарытарных лідараў. Гэта моцна адрознівае Расію ад Беларусі, якая падчас доўгай гісторыі набыла шмат прыкмет заходняй цывілізацыі. Яшчэ адзін, бадай самы небяспечны, фактар для беларускай нацыі заключаецца ў тым, што Расія, валодаючы шматграннай культурнай спадчынай і сучаснай культурай і карыстаючы рускую мову як інструмент, можа паглынаць культуры малых краін, уключна з краінамі постсавецкай прасторы. Усё гэта разам падштурхоўвае Беларусь шукаць, абгрунтоўваць і абараняць свой спецыфічны шлях для збераджэння і развіцця нацыянальнай дзяржавы.

## Маральныя і этнанацыянальныя праблемы ў Беларусі. Знешнія і ўнутраныя адмоўныя фактары ўплыву на нацыянальную свядомасць

У наш час пагроза для беларускай нацыі наўрад ці ляжыць у сферы ваеннай, эканамічнай ці палітычнай. Малаверагодна чакаць нападу ад краін-суседзяў, нават калі адкінуць магчымасць паўтарэння гібрыднага тыпу расійскай агрэсіі («зялёныя чалавечкі»), якую мы назіраем зараз на Украіне. Так думаецца таму, што вядучыя заходнія краіны здолелі ўсё ж з дапамогай санкцый стрымаць агрэсара. Такім чынам, відавочна, лёс беларускай нацыі будзе ў першую чаргу залежаць ад фактараў, якія па свайму характару з'яўляюцца ідэалагічнымі, культурнымі. Гэтыя фактары можна падзяліць на знешнія і ўнутраныя.

На жаль, знешняя пагроза нацыянальным інтарэсам Беларусі ёсць, і ідзе яна не з Захаду, а, як і раней, з Усходу. Стратэгічная задача для беларускай нацыі — гэта выскачыць з-пад уплыву і абдымкаў еўразійскай Расіі і як мінімум дабіцца нейтральнага існавання беларускай дзяржавы ў асяроддзі еўрапейскіх краін. Калі ў Расіі не адбудзецца адкат ад імперскага мыслення і ідэі

ўзнаўлення былой гегемоніі ў свеце, то яна, як пераемніца духоўнай спадчыны Расійскай імперыі і СССР, пацягне Беларусь на дно, як «Тытанік».

Імкненне беларускага народа да свабоды і незалежнасці знаходзіцца пад атакай ідэй аб адзінстве трох усходнеславянскіх народаў; на дапамогу прыходзіць несастарэлая, прыхаваная савецка-камуністычная ідэалогія, а таксама гераічнае змаганне народаў СССР супраць фашысцкай агрэсіі падчас Другой сусветнай вайны. Ёсць шмат фактаў, якія сведчаць аб тым, што ідэалагічная вайна супраць беларускага нацыяналізму з боку Расіі вядзецца даўно, і, на жаль, міжволі ці нават пры магчымай падтрымцы з боку беларускай улады. Прыгадаем толькі нядаўнія факты:

- журналісты «Нашай Нівы» паказалі, што беларускія дзеці з Віцебскага рэгіёна накіроўваюцца ў ваенна-патрыятычныя лагеры Расіі, дзе яны «выхоўваюцца» пад кіраўніцтвам людзей з нацысцкімі паглядамі;
- сп. Гіркін, чалавек, які ўзначальваў захоп г. Славянска падчас вайны ў Данбасе, заяўляе аб стварэнні арганізацыі, якая мірным шляхам будзе імкнуцца да аб’яднання Беларусі і Украіны з Расіяй;
- расійская прапаганда праз тэлебачанне і радыё безальтэрнатыўна замбіруе насельніцтва Беларусі адносна сваіх дзеянняў («Крым — наш», фашысты-нацыяналісты-бандэраўцы кіруюць у Кіеве і г. д.);
- толькі за апошнія тры тыдні (май–чэрвень 2016 г.) Беларусь наведалі высокія госці з Расіі — С. Нарышкін, спікер Дзярждумы Расіі (10.06.2016; 50-я сесія Парламенцкага Сходу Беларусі і Расіі: «Наше взаимодействие представляет бесценный опыт, является живым примером как для евразийской экономической интеграции, так и для других новых международных площадок»), У. Пуцін (08.06.2016; абмеркаванне ўзгодненай палітыкі ў Саюзнай дзяржаве), В. Матвіенка (08.06.2016; з ідэяй адзінай візы для Саюзнай дзяржавы), С. Лаўроў (16.05.2016; аб сумесным супрацьстаянні пашырэнню НАТА на ўсход);



- расійскія цэнтры навукі і культуры адкрыты ў Мінску і ў Брэсце, хутка будзе адкрыты ў Гомелі, а затым у астатніх абласных цэнтрах;
- ваенны ўціск — жаданне адкрыць ваенную базу ў Баранавічах, размяшчэнне ў чэрвені расійскай брыгады ў Клінцах, блізу граніц з Беларуссю і Украінай;
- эканамічны ўціск — у пачатку чэрвеня прадстаўнікі больш чым 40 расійскіх суб’ектаў (абласцей) прыехалі ў Мінск на форум рэгіёнаў, на якім вырашаліся ў асноўным сацыяльна-эканамічныя пытанні (стварэнне агульнага з Расіяй інфармацыйнага цэнтра аб працоўных месцах, прызнанне постдыпломнай адукацыі, абмен студэнтамі на вучобу). Тут трэба заўважыць, што ў ельцынскія часы, калі Лукашэнка разыгрываў расійскую карту, ён шмат ездзіў па Расіі, — зараз жа сітуацыя змянілася на процілеглую.

Няцяжка ўявіць, які ўплыў могуць аказваць прыведзеныя прыклады на размыванне беларускай свядомасці. Дадайце сюды свежыя хатнія прыклады. Сёняшняе кіраўніцтва выкарыстоўвае набыткі савецкай прапаганды для рэалізацыі правaленых камуністычных прынцыпаў і маралі: у школы прыходзяць даведзеныя планы аб колькасці акцябрат у класе, каля 10 на 25 вучняў (І. Халіп, «Хартыя’97»), піянеры ў чырвона-зялёнай форме прыбіраюць лісты каля помніка Марата Казею, галоўны ідэолаг краіны залівае бетон на Ленінскім суботніку, ордэн Дружбы народаў уручаны лідару камуністаў Расіі сп. Зюганаву, ордэн Ф. Скарыны — расійскаму кампазітару В. Дробышу. Улада эксплуатуе нават дату нападу Германіі на СССР у 1941 годзе — 22 чэрвеня 2016 года пачаў працу Усебеларускі народны сход. Беларуская вёска знішчана, беларуская эліта загнаная ў гета, не развіваецца нацыянальная адукацыя (няма ні аднаго нацыянальнага ўніверсітэта, колькасць беларускіх школ і садкоў мізэрная), прыцясняецца нацыянальна свядомая інтэлігенцыя (звальненне з працы, прымус працаваць на псеўданацыянальную ідэалогію), нераўнапраўна ўжываецца дзяржаўная беларуская мова. І самае галоўнае — беларускаму народу фактычна адмоўлена ў праве

будаваць нацыянальную дзяржаву, замест яе ўзмацняецца руска-моўная цывільная дзяржава. Побач з Мінскам пабудавана «лінія Сталіна». Ад каго абараняемся?!

Хтосьці можа сказаць: а што было кепскага ў савецкіх часах і ў камуністычнай маралі? Тады, пры «апошніх саветах», была стабільнасць, сацыяльная абароненасць, чаго не назіраецца зараз у многіх постсавецкіх краінах. Ды і шмат ёсць прыкладаў стабільных доўгажывучых аўтарытарных рэжымаў, заснаваных на падобных прынцыпах (В'етнам, Кітай, Куба, Паўночная Карэя), дзе да гэтага часу аднадушна-аднагалосна ўслаўляюць наследных камуністычных лідараў. Калі браць пад увагу штодзённыя клопаты (праблему «жывата»), то якраз тут улада, як і ў савецкія часы, у большай ці ў меншай ступені (але ж усё менней ды менней) як бы задавальняе патрэбы насельніцтва (беларусы ж жылі і ў шмат горшых умовах).

Але ў пытаннях развіцця нацыі аўтарытарны рэжым проста здраджвае свайму народу. Беларусь не мае ў поўнай меры ўласцівых для другіх нацыянальных краін прыкметаў, якія б сведчылі аб наяўнасці беларускай нацыі. Для многіх краін пытанні аб развіцці роднай мовы, культуры і традыцый не стаяць і не могуць стаяць на парадку дня — такія пытанні натуральныя, і адказ на іх не патрабуе асаблівых высілкаў. У роднай жа Беларусі нацыянальныя пытанні — дзякуючы антынацыянальнаму ўраду — да гэтага часу не вырашаныя. Зусім па-дурному, улада не хоча займацца ўласным народам, для якой ён уяўляецца насельніцтвам з яго настальгіяй па савецкіх часах і варожым стаўленнем да нацыянальных пытанняў/нацыяналістаў і да такіх заходніх каштоўнасцяў, як дэмакратыя і правы чалавека.

Больш за 60 год прайшло ад напісання Чэславам Мілашам эсэ «Зняволены розум» (1953). Эсэ, звернутае да аналізу маральнага існавання нацыянальнай эліты ва ўмовах дыктатуры, і сёння не губляе сваёй актуальнасці. На шчасце, многія пытанні нацыянальнай свядомасці і свабоды асобы ў яго роднай краіне, а таксама ў краінах былога сацыялістычнага лагера на даным этапе вырашаны. Чаго нельга сказаць пра амаль усе рэспублікі Савецкага Саюза, якія так і не здолелі выбрацца, з аднаго боку, з рабства камуністычнай ідэалогіі, а з другога, з рабства савецка-расійскай імперыі. Калі б Чэслаў Мілаш зараз пабачыў Беларусь, то, магчыма, не здзівіўся б існуючым парадкам, бо сам пражыў амаль у 40-гадовым чаканні вясны, аб якой марыў і якую прыспешваў.



Крытыцы камунізму і антынацыянальнай палітыкі ў постсавецкіх краінах прысвечаны шматлікія публікацыі, уключна з Беларуссю (А. Астапенка, З. Пазьняк, С. Шарэцкі, С. Шушкевіч). Паводле розных тэарэтычных даследаванняў відавочна, што камунізм і нацыяналізм — дзве несумяшчальныя ідэалогіі. Абяцаючы на пачатку Кастрычніцкай рэвалюцыі светлыя ідэі роўнасці, свабоды і брацтва, дыктатуры пралетарыята, самавызначэння нацый, кіраўніцтва кампартыі СССР збочыла на курс партыйнай дыктатуры, інтэрнацыяналізму і пераследу нацыянальна-дэмакратычных памкненняў шматлікіх народаў, якія ўваходзілі ў склад вялікай краіны. На жаль, астравок былога СССР з яго ідэалогіяй застаўся ў Беларусі, за выняткам невялікіх выключэнняў.

Нацыя, з'яўляючыся найвышэйшай катэгорыяй у будаўніцтве дзяржавы, набыла ў выкананні сучаснага кіраўніцтва незразумелыя формы. З аднаго боку, яно, кіраўніцтва, карыстаецца перавагамі атрыманага ў спадчыну даволі высокага якаснага стану беларускага грамадства для забеспячэння сацыяльнай роўнасці і справядлівасці ў рэспубліцы, што, безумоўна, не можа не падтрымлівацца насельніцтвам (у параўнанні з іншымі рэспублікамі былога СССР гэта было абумоўлена ў цэлым высокай адукацыяй насельніцтва, адносна лепшым развіццём тэхналогій, не страчаным ад савецкіх часоў «вертыкальным» кіраўніцтвам). Аднак, з другога боку, уся грамадская ідэалагічная надбудова застаецца ў многім савецкай, якая даказала сваю нядзейнасць і прывяла да краху не толькі СССР, а да «глабальнага» краху сацыялістычнага лагера.

У цэлым можна адзначыць, што шэраг як знешніх, так і ўнутраных маральных і ідэалагічных фактараў пакуль што з'ўля-

юцца неспрыяльнымі для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, а самой краіне без вырашэння нацыянальных пытанняў можа нават пагражаць страта суверэнітэту.

## Этнанацыянальная дзяржава супраць цывільнай дзяржавы. Неабходнасць стварэння нацыянальнай элітай агульных канкрэтных праграм

Змена курсу краіны з сённяшняга будаўніцтва рускамоўнай цывільнай дзяржавы на будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы можа адбыцца праз змену цяперашняй улады ці яе поглядаў на пытанні развіцця нацыі. Але ў любым выпадку павінна прысутнічаць асвета насельніцтва і фарміраванне нацыянальнай свядомасці.

Можна меркаваць, што сярод сучаснага кіраўніцтва ёсць думаючыя людзі, якія разумеюць, што існуючая дзяржаўная мадэль не будзе жыццяздольнай, аднак малаверагодна, што такія людзі змогуць істотна ўплываць на погляды кансерватыўнага па сутнасці лідара краіны. У той жа час у Беларусі зараз няма ўмоў для змены ўлады дэмакратычным шляхам. Тэхнічна саму працэдуру выбараў нават заходнія назіральнікі не могуць аб'явіць недэмакратычнай, бо, ацэньваючы яе па мерках сваіх краін, не могуць уявіць, як працуе прыручаная выбарчая сістэма на самай справе. Таму падаецца, што вырашэнне нацыянальных пытанняў мусіць адбывацца разам са змаганнем за стварэнне ўмоў для правядзення справядлівых, празрыстых і дэмакратычных выбараў у дзяржаўныя інстытуты ўсіх узроўняў.

Відавочна, што ўмовы, створаныя ўрадам, не задавальняюць жаданняў нацыянальнай эліты, якая якраз і мусіць прапагандаваць і прапанаваць свайму народу асобны шлях у глабальным сусвеце — без нацыянальнага твару беларуская дзяржава наўрад ці здолее ўтрымацца ў шэрагах іншых нацый, якія існуюць на зямлі. Дык ці прапануе беларуская эліта вырашэнне нацыянальных пытанняў дэмакратычным шляхам, праз правядзенне сваіх кандыдатаў у парламент падчас выбараў? Бо падаецца, што



ўдзельнічаць трэба, нават пры адсутнасці ўмоў для нармальных выбараў, і толькі для таго, каб данесці да насельніцтва альтэрнатыўныя праграмы, уключна з праграмамі нацыянальнага будаўніцтва.

Аднак тут, яшчэ не дайшоўшы да самога працэсу выбараў, трапляем у заганнае кола: умоў для правядзення змен праз дэмакратычныя выбары няма — сіл у беларускай апазіцыйнай эліты для дэмакратычных змен недастаткова — не ўсе сябры магчымай кааліцыі маюць нацыянальныя праграмы. Як вынік, час для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы неспрыяльны і Беларусь працягвае заставацца цывільнай рускамоўнай дзяржавай.

Сапраўды, умоў для дэмакратычных выбараў да гэтага часу няма — на працягу апошніх чатырох выбараў у парламент у выбарчых камісіях амаль адсутнічалі прадстаўнікі апазіцыйных сіл, падлік галасоў быў непразрыстым (не ў сэнсе адсутнасці шкляных урн). Ды і інтэнсіўнага і агульнага змагання за змены ў выбарчае права праз Канстытуцыйны Суд Беларусі, ААН, АБСЕ, камісіі па правах чалавека і г. д. амаль не было заўважна. Было б лагічным дамагацца ў першую чаргу стварэння нармальных дэмакратычных умоў існавання партый і грамадскіх арганізацый па канкрэтнай агульнай праграме. І тут якраз многія беларускія лідары, заклікаючы да аб'яднання, маюць рацыю. Галоўным тут было б дасягненне ўмоў для свабодных выбараў. Падаецца, што зараз не час для міжпартыйнай барацьбы беларускіх партый, а сама такая барацьба дае незразумелыя для звычайнага выбаршчыка вынікі.

У гэтым годзе беларуская палітычная эліта зноў спрабавала фармальна аб'яднацца перад чарговымі парламенцкімі выбарамі. Прычым гэтыя высілкі ў асноўным былі скіраваны на арганізацыйныя пытанні, з кім, калі і як, хаця заклікі аб'ядноўвацца раней не спрацоўвалі ці не давалі жаданых вынікаў; не аднойчы падпісваліся мемарандумы (Вільня, 2012), амаль перад кожнымі выбарамі збіраліся кангрэсы дэмакратычных сіл (і перад кожнымі выбарамі гэта рабілася нанова). Але такое яднанне не павінна было б быць дзеля самога яднання і вылучэння адзіных кандыдатаў пад не зусім выразнымі лозунгамі. Не спрацавалі яны

і на гэты раз. Некаторыя фармальныя пагадненні можна ўспрымаць толькі як заявы пра палітычныя намеры, а не як канкрэтныя планы дзеяння. І зноў апазіцыйныя сілы ідуць рознымі калонамі: правыя (Рух «За свабоду», БХД, АГП), кампанія «Гавары праўду», камуністы і яшчэ адны камуністы, ЛДПБ, Усебеларускі кангрэс за незалежнасць. Такі падыход, які быў бы апраўданы ў дэмакратычных краінах, відавочна, абумоўлены як амбіцыямі лідараў, так і магчымай розніцай у праграмных установках партый і грамадскіх рухаў — аднак гэта ў значнай ступені распыляе нешматлікія нацыянальныя сілы. Шанец патрапіць у парламент хаця б некалькім дэпутатам ад апазіцыі абсалютна нізкі.

Да таго ж нацыянальныя пытанні стаяць у праграмах толькі некалькіх партый: БНФ, КХП-БНФ… і на гэтым амаль усё. Такіх пытанняў няма ў праграмах ліберальных партый — Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Відавочна, што такіх праграм няма сярод дыванных партый кшталту Беларускай спартыўнай партыі. Можна думаць, і ў будучай прэзідэнцкай партыі «Белая Русь» (грамадская арганізацыя «Белая Русь» яшчэ не ўступала на арэну як палітычная сіла, але яна, магчыма, выйдзе, як толькі апазіцыйныя партыі хоць нейкім чынам здолеюць набраць моцы і будуць уяўляць адну сапраўдную, а не разрозненую сілу).

Роля партый у беларускім грамадстве нязначная, што абумоўлена рознымі прычынамі: іх запраграмаванай фракцыйнасцю (што было б нармальна ў дэмакратычнай краіне), абсалютна недастатковым інфармаваннем насельніцтва аб іх працы, да якіх дадаецца аўтарытарны характар дзяржаўнага кіравання і дзяржаўная прапаганда, якія абмяжоўваюць дзейнасць партый (адзіная постсавецкая ідэалогія, падпарадкаваныя дзяржаве СМІ, зарэгуляваныя ўмовы існавання незалежных СМІ). Аднак, што падаецца найбольш важным, беларуская эліта не мае канкрэтных агульных праграм развіцця краіны, уключаючы нацыянальныя пытанні, якія былі б альтэрнатыўнымі праграмам дзейнага ўрада і маглі б стаць прывабнымі для насельніцтва Беларусі. Гэтыя разрозненыя партыйныя праграмы/планы як бы самі сабой разумеюцца — новы выбарчы закон, дэмакратыя, правы чалавека, мільён працоўных месцаў. Аднак гэтыя ўяўныя праграмы плятуцца ззаду за галавой калон (а не адной калоны), якія накіроўваюцца на «барыкады». Здавалася б, павінна быць наадварот — выпрацоўка больш-менш агульнай праграмы на сённяшнім этапе (напрыклад, змаганне за стварэнне ўмоў для свабодных, дэмакратычных выбараў) спрыяла б маналітнасці калоны і дазволіла б ёй дайсці да сваёй мэты, не рассыпаўшыся на фрагменты па дарозе. Лагічна было б думаць, што такая праца павінна распачынацца не перад, а пасля выбараў і працягвацца на пастаяннай аснове.



А што ж самі беларусы? А яны, як і раней, церпяць, і так атрымоўваецца, што зусім не час, дый няма каму думаць пра нацыянальную ідэнтыфікацыю ці пра развіццё нацыі ў цэлым. Гэта калі казаць пра асноўную масу людзей, якая і ў лепшыя часы аб гэтым моцна не задумваецца, за выключэннем аднясення сябе да нацыі беларусаў. Пакуль што на пытанне аб нацыянальнасці «беларус» становіча адклікаецца 83,7% грамадзян Беларусі, нягледзячы на сваю ў большасці рускамоўнасць, што, паводле Ч. Мілаша, можна было б называць нацыянальным кетманам, калі б гэта было праўдай. Пытанні развіцця нацыі застаюцца выключна пытаннямі для нацыянальнай эліты.

Нацыянальная эліта мае шмат яскравых і таленавітых людзей. Пры адсутнасці неабходнай еднасці трэба было б хаця б падтрымліваць і спрабаваць зразумець тых людзей, хто нешта і канкрэтна робіць у краіне. Аднак прыкладаў яднання нацыянальнай эліты ў выкананні агульных праектаў няшмат (ТБМ, «Летучий университет», «Мова нанова»). Пры адсутнасці беларускага нацыянальнага ўніверсітэта спробы аб'яднаць сілы ў яго стварэнні канчаліся пакуль што нічым. Адны жадаюць і не могуць, а другія могуць, але не жадаюць быць з тымі, што не могуць. І гэта не толькі на полі ўтварэння нацыянальнага ўніверсітэта. Тое ж назіраецца і ў палітычных, калі так можна казаць, баталіях, дзе робяцца спробы дзяліць тое, чаго няма, пры адсутнасці жадання нават тактычнага яднання.

Незалежныя СМІ з'яўляюцца амаль адзіным дзейным інструментам у руках нацыянальнай эліты, каб правесці неабходныя ў

краіне змены. Усё ж артыкулаў, прысвечаных агульным праблемам нацыянальнага развіцця і іх абмеркаванню, сустрэнеш не так і шмат. Такія выданні, як «Хартыя'97» ці «Радыё «Свабода», заняўшы сваю нішу, адлюстроўваюць філасофію ці ідэалогію ў асноўным толькі вузкай катэгорыі людзей, якія стаяць за іх спінай.

Пытанне трэба ставіць востра — ці здольная нацыянальная эліта праводзіць хаця б адносна блізкую ідэалогію/палітыку ў нацыянальных пытаннях або ў ажыццяўленні сумесных канкрэтных праграм (напрыклад, стварэнне нацыянальнага ўніверсітэта)? Без вырашэння нацыянальных пытанняў змагання толькі за дэмакратычныя ці іншыя ліберальныя каштоўнасці, на нашу думку, недастаткова для змены свядомасці беларускіх людзей. Якія б шырокія плыні ні адлюстроўвалі незалежныя СМІ, ліберальныя, сацыяльна-дэмакратычныя ці нават спартыўныя (і яны, вядома ж, павінны існаваць паасобку і мець свой напрамак), аднак без разумення еднасці ў падыходах да нацыянальнай асветы насельніцтва чакаць добрых вынікаў у збудаванні незалежнай беларускай дзяржавы не даводзіцца.

Такім чынам, нацыянальная эліта знаходзіцца ў складаных умовах, якія характарызуюцца неабходнасцю адначаснага вырашэння нацыянальных і дэмакратычных праблем. Выйсці з заганнага кола будзе магчыма пры ўмацаванні нацыянальных сіл і іх еднасці ў выкананні агульнай стратэгіі па выхаванні нацыянальнай свядомасці сярод насельніцтва Беларусі.

## Беларусь: нейтральнасць — па форме і змесце, еўрапейскасць і беларускасць — па духу. Нейтральнасць і глабалізацыя

Якім шляхам будзе развівацца Беларусь у глабальным сусвеце, прадказваць вельмі складана. Аднаго б не хацелася: каб Беларусь, спрабуючы вырвацца з-пад еўразійскага ўплыву, праходзіла такі ж шлях, які робіць Украіна. Украіна, наша адзіная радня па ўсходнеславянскай цывілізацыі, за сваё імкненне жыць у свабоднай Еўропе падверглася прамой ваеннай агрэсіі з боку Расіі і «пакарана» адняццем Крыма і акупацыяй Данбаса. Мала ў каго павернецца язык сказаць, каб Беларусь брала ў рукі зброю, каб абараніць свой нацыянальны гонар. Тое, што адбываецца паміж Украінай і Расіяй, гэта анахранізм, абсалютны выхад Расіі за цывілізацыйныя рамкі. Захад, здаецца, прачнуўся, і магчыма, што санкцыі, прынятыя супраць агрэсара, абароняць не толькі Украіну, але і Беларусь і іншыя краіны-суседзяў, патэнцыйныя ахвяры ўзнаўляемай расійскай імперскай палітыкі. Таму пагроза адносна нацыянальнай бяспекі па-ранейшаму застаецца з Усходу, а не з Захаду.



Значная частка нацыянальнай эліты змагаецца пад лозунгамі «Беларусь у Еўропу!». Заклікі да ўступлення ў Еўрасаюз — гэта добра. Магчыма, калі Еўрасаюз вырашыць праблемы паміж Украінай і Расіяй, то ён можа звярнуць увагу і на беларускія праблемы. Аднак калі гэтыя праблемы не будуць вырашаць самі беларусы, то ніякі Еўрасаюз ці другія дарадцы нам не дапамогуць. Усё вызначаецца ўнутраным жыццём нацыі, яе духам. Няхай краіна невялікая па колькасці насельніцтва — але з гонарам, няхай няма каштоўных выкапняў — але ёсць цудоўныя працавітыя людзі, прыгожыя прасторныя лясы і шырокія багатыя палі. І тут найбольш важным павінна стаць паступовае ўсведамленне беларусаў, што яны жывуць у незалежнай і суверэннай еўрапейскай краіне.

Ці гатова Беларусь да ўступлення ў Еўрасаюз і ці рада гэтаму будзе Еўропа? Тэарэтычна, так. Пытанне толькі — калі? Паводле Т. Снайдэра, гэта можа адбыцца не раней як у 2040–2050 гадах. З такім прагнозам можна пагадзіцца, калі ўлічваць як настроі ў беларускім грамадстве, так і тыя змены, якія зараз назіраюцца ў еўрапейскіх краінах. Мы ўжо нагадвалі аб тым, што беларусы не аддаюць яўнай перавагі ўсходняму, заходняму ці нейтральнаму (асобны шлях) вектару ў развіцці краіны — на працягу апошніх гадоў лічбы раўнамерна вагаюцца паміж трыма напрамкамі ў залежнасці ад многіх часовых фактараў. Аднак можна заўважыць паступовую тэндэнцыю пашырэння прыхільнікаў асобнага шляху. У апытанні, праведзеным Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў (BISS, 2015), прыхільнікаў

незалежнай Беларусі па-за ўсякімі саюзамі было ў 2010 годзе 20,4%, у 2011 годзе — 29,3%, у 2013 годзе — 30,9%, у 2015 годзе — 31,1%. Хацелася б, каб назіраемая тэндэнцыя не была памылкай апытанняў.

Магчыма, што частка беларусаў прытрымліваецца ідэі свайго асобнага шляху для краіны менавіта памятаючы адмоўныя ўплывы паланізацыі і русіфікацыі на станаўленне беларускай нацыі. Беларусы памятаюць перыяд паланізацыі, асабліва ў XVII–XVIII стагоддзях. Аднак да канца XVIII стагоддзя мы жылі ў Еўропе, пакуль нас не паглынула еўразійская цывілізацыя. Таму еўрапейская культура нам генетычна больш зразумелая і блізкая ў параўнанні з расійскай культурай, якая паступова выціскае з беларусаў нацыянальную свядомасць у наш час праз рускамоўную сістэму дзяржаўнай адукацыі. Іншымі матывамі для асобнага шляху могуць быць пагрозы паглынання Беларусі Расіяй (ваенныя, эканамічныя, культуральныя), а таксама няўстойлівы стан як у Расіі, выкліканы эканамічным сусветным крызісам, так і ў ЕС, у сувязі з міграцыйнымі працэсамі і тэрарызмам.

Трэба таксама ўлічваць неагрэсіўную ментальнасць беларусаў — наўрад ці хто можа ўявіць, каб беларусы кінуліся біць англійскіх фанатаў з крыкамі «Белорусы, вперёд!», калі б адбываўся матч паміж футбольнымі камандамі Беларусі і Англіі.

У нейкім сэнсе «нейтральныя» настроі падтрымліваюцца і цяперашняй уладай — ва ўсялякім выпадку, нядаўна кіраўніком дзяржавы было заяўлена аб дасягненні да 2020 года рознанакіраванасці гандлю і развіцця эканомікі ў прыблізна роўных прапорцыях з Расіяй, развітымі краінамі і краінамі трэцяга свету.

Не адмаўляючы сваёй гістарычнай, культурнай, ментальнай прыналежнасці да Еўропы, мы прапагандуем нейтральнае развіццё беларускай нацыі. Гэта не адмаўляе еўрапейскасці беларускай нацыі і з цягам часу можа адпавядаць думкам і настроям большай часткі грамадства і адказваць на выклікі глабальнага свету. Нейтральнасць дазволіць Беларусі выйсці з-пад блокавага мыслення, пад якім яна зараз знаходзіцца ў звязку з Расіяй (Саюзны дагавор з шэрагам вайсковых абавязкаў, Арганізацыя дзяржаў калектыўнай бяспекі), а з другога боку — не будзе вымагаць далучэння да іншых ваенных блокаў (НАТА). Думаецца, што гэта будзе адпавядаць і будучым выклікам, якія стаяць перад чалавецтвам — барацьба з тэрарызмам ці з незаконнай міграцыяй, дзе Беларусь змагла б удзельнічаць не як сябра лакальных мілітарных утварэнняў, а як сябра міжнароднай супольнасці ў цэлым.



З другога боку, шлях у ЕС — вельмі складаны. Еўрасаюз пачаў стварацца ў 1950 годзе, аднак працэсы кансалідацыі гэтага супердзяржаўнага, наднацыянальнага ўтварэння яшчэ не скончыліся. ЕС зараз мае шэраг унутраных праблем, якія патрабуюць свайго вырашэння, напрыклад праблемы, звязаныя з выхадам Брытаніі з ЕС ці ўступлення Турцыі ў ЕС, масавая незаконная міграцыя ў Еўропу з Афрыкі і Азіі, пытанні з шэнгенскімі візамі, тэрарызм. Беларусь, маючы адчыненую мяжу з Расіяй, не можа нават марыць аб непасрэдным еўрапейскім шляху. Вельмі блізкія праблемы мае і Украіна. Хоць яна і ўступіла на шлях далучэння да заходніх інстытутаў (ЕС, НАТА), аднак відавочна, што ён не будзе кароткім нават пры актыўнай пазіцыі палітычнай эліты Украіны. Што ж казаць пра Беларусь, якая ўсё больш вязне ў эканамічных і мілітарных абдымках Расіі?

Такім чынам, падаецца, што нейтральнасць-еўрапейскасць мусіць быць у цэнтры беларускага асобнага шляху. Нейтральнасць Беларусі адмаўляе прыналежнасць да лакальных ваенных ці іншых саюзаў і ў той жа час адчыняе дзверы для кааперацыі і добрых адносінаў з цывілізаванымі краінамі. Некаторыя спробы абгрунтоўваць існаванне Беларусі ў рамках наддзяржаўных аб'яднанняў ва ўмовах сучаснай глабалізацыі (інтэграцыя інтэграцый, Беларусь у цэнтры славянскага саюза, канцэпт *Севера* і *Северной Евразии*) маюць кан'юнктурны, часовы і, зноў жа, рэгіянальны характар і не адлюстроўваюць у поўнай меры настроі і патрэбы беларускай нацыі.

Не выглядае, што развіццё нацый у бліжэйшыя дзесяцігоддзі ва ўмовах сучаснай глабалізацыі будзе спынена, запаволена ці прыме нейкія новыя формы. Чалавек як істота біялагічная заўжды будзе імкнуцца быць на радзіме ці, па крайняй меры,

аб ёй марыць, а як істота сацыяльная — шукаць іншых людзей, якія падзяляюць з ім каштоўнасці культурныя, гістарычныя і нацыянальныя. Падаецца, што нават у ЕС, які ўяўляе сабой найбольш развітую наддзяржаўную структуру, роль нацый не будзе памяншацца. Тыя наступствы, якія вынікаюць з незаконнай міграцыі, сведкамі якой мы зараз з'яўляемся, наўрад ці зменяць істотна этнанацыянальны склад еўрапейскіх краін.

Думаецца, што міграцыйныя плыні не закрануць значна і Беларусь. Па разліках Pew Research Center, у Беларусі ў 2050 годзе 2,4% насельніцтва будзе вызнаваць іслам (у 2010 г. — 0,2%), пры тым што доля рэлігійных і нерэлігійных хрысціян будзе складаць 97,4% (у 2010 г. — 99,6%). Відавочна, што невялікая доля мусульман не зможа істотна змяніць нацыянальную свядомасць беларусаў. Шмат больш адмоўны ўплыў на развіццё беларускай нацыі будзе аказваць невысокая нараджальнасць дзяцей. Па прагнозах таго ж агенцтва, колькасць насельніцтва Беларусі за перыяд з 2010 па 2050 год зменшыцца на 11,4% (з 9,6 млн да 8,5 млн чалавек) нават пры тым, што беларусы ў параўнанні з жыхарамі суседніх краін маюць найменшыя памкненні да эміграцыі (Культура, Нацыя. 2014. № 6).

Хацелася б спадзявацца, што развіццё беларускай нацыі ў глабальным сусвеце будзе адбывацца ў стане нейтральнасці пры збераджэнні і ўзбагачэнні беларускай культуры і традыцый.

*Артыкул апублікаваны ў часопісе «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», № 14, чэрвень 2016 г., с. 5–21.*

## Summary

***Piotra Murzionak: «To Live Belarusian Nation» (magazine «CULTURE, NATION», June 2016, issue 14, pp. 5–21)***

The sovereign Belarusian state held and significantly strengthened over the past quarter of a century. However, the Belarusian statehood is threatened by Russia as not as a country with a huge military, economic and political potential, but as the country carrying Eurasism ideology, the ideology of the state preference and collectivist mentality over the individual, respect for strong authoritarian leaders. Another dangerous Russian factor for the Belarusian nation is that Russia, having a multi-faceted cultural heritage and contemporary culture and using the Russian language as a tool, can absorb the culture of small countries, including the post - Soviet space countries. There are plenty of recent evidence that the ideological, imperial war against the Belarusian nationalism on the part of Russia carried out for a long time, and unfortunately, neglected or even with possible support by the Belarusian authorities. Unfortunately, an island of the former USSR with its ideology remained in Belarus where national issues are still not resolved. All this encourages Belarusians to look, justify and defend its own specific way for the preservation and development of the nation-state. This way is based on the differences between Russia and Belarus — Belarus in the course of the long history has gained a lot of signs of Western civilization. In addition, there is a significant ethnic, mental and historical difference between the East and the people of not a borderland between East and West, but independent peoples of Belarus and Ukraine, which together constitute the East Slavic Belarusian-Ukrainian civilization. Ukraine is now trying to escape through the war from political, economic and spiritual influence on the part of Russia. Belarus, having with Ukraine a very similar fate, will seek to protect itself from absorption by «Russian world» and has no choice but to look his own way. However, if these problems will not be solved themselves by Belarusians, no European Union or the United States will help. Everything is determined by the inner life of the nation, its spirit. Without denying its historic, cultural, and mental belonging to Europe, we advocate a neutral development of the Belarus, therefore, it appears neutrality-Europeanness must be at the center of the Belarusian specific way. Neutrality allows Belarus to get out of a «block» thinking by which she is now forced to be together with Russia (Union Treaty with a number of military duties, the Organization of States of Collective Security), and on the other hand it will not require a connection to other military alliances (NATO). Neutrality does not deny Europeanness of Belarusian nation and over time may correspond to the thoughts and sentiments of the majority of society and to meet the challenges of the global world. National elite is in a complex environment characterized by the need to address national and democratic issues simultaneously. Get out of

the vicious circle will be possible with the strengthening of national forces and their unity in the performance of the overall strategy for the education of national consciousness among the population of Belarus. It is hoped that the development of the Belarusian nation in the global universe will be able in neutral environment while preserving and enriching the Belarusian culture and traditions.

# СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Абдулаева Г. Россией правили татары // Bad News. 2011. 5 марта. URL: http://badnews.org.ru.
2. Агранцев И. Александр Меньшиков. М.: ОЛМА Медиа Групп, 2005. С. 43–44 (Тайны великих).
3. Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы Міжнар. навук. канфер., Мінск, 7–11 верасня 1998 г. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. URL: http://kamunikat.fontel.net/pdf/albaruthenica/11.pdf.
4. Анемпадыстаў М. Беларусь: дзве розныя культурныя мадэлі // Белорусский журнал. 2015. 5 нояб. URL: http://journalby.com/news/belarus-dzve-roznyya-kulturnyya-madeli-498.
5. Апостол национального возрождения // Неман. 1995. № 1. С. 141.
6. Арлоў У. Ад Полацка пачаўся свет. Мінск: Рыфтур, 2005.
7. Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі (Архівы БНР) / рэд. С. Шупа. Вільня; Нью-Ёрк; Менск; Прага, 1998. Т. 1, ч. 1.
8. Астапенка А. Інфармацыйнае грамадства і менталітэт беларускага Homo informaticus // Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI ст.: матэрыялы канфер., Мінск, 24 ліст. 2013 г. Рыга, 2013. С. 81–98.
9. Астапенка А. Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце. Мінск, 2003. 181 с.
10. Атлас религий и национальностей России (2012). Данные социологического исследования: http://ru.wikipedia.org/wiki; исследовательская служба «Среда», sreda.org.
11. Баймухаметов С. [Электронный ресурс] // Вестник Online. 2004. № 14 (351), 7 июля.
12. Беларускае пытанне на Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919–1920 гг. [Электронны рэсурс]. URL: http://scholar.su/content/belaruskae-pytanne?page=0,7.

13. Беларусы замежжа. Гісторыя [Электронны рэсурс] / Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». URL: http://zbsb.org/node/226.
14. Беларусь у перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі і замежнай ваеннай інтэрвенцыі (кастрычнік 1917 — сакавік 1921) [Электронны рэсурс]. URL: http://bargu.by/3128-belarus-u-peryyad-kastrychnckay-revalyucy-zamezhnay-vaennay-ntervency-kastrychnk-1917-sakavk-1921-gg.html.
15. Белявский М. Т. М. В. Ломоносов и основание Московского университета. М.: Московский университет, 1955. 308 с.
16. Берасneў П. На чым заснавана дзяржаўнасць Беларусі? // Звязда. 2012. 23 сак.
17. Бердников Л. «Казнить смертью и сжечь…». Хроники российской инквизиции // Новая Юность. 2010. № 2 (95).
18. Булгакаў В. Гісторыя беларускага нацыяналізму. Вільня, 2007. 331 с.
19. Варонка Я. Беларускі рух ад 1917 да 1920 года. Коўна, 1920. С. 11. URL: http://library.by/portalus/modules/belarus/print.php?subaction=showfull&id=1290693703&archive=1291455490&start_from=&ucat=8&.
20. Вілейта В. Беларусь у працэсе станаўлення дзяржаўнай тоеснасці: чыннікі, тэндэнцыі і перспектывы // WiderEuropereview. 2005. Т. 2, № 3. URL: http://review.w-europe.org/5/3.html.
21. Воранаў В. Несвядомая небяспека свядомасці // САКАВІК. 2013. № 1, сак. С. 53–58.
22. Гава О. Історія «Новоросії» та її етнічний склад у XIX сторіччі // Украинская правда. 2014. 10 мая. URL: http://scholar.su/content/belaruskae-pytanne?page=0,7.
23. Гарифуллин И. Русские фамилии тюркского происхождения // Югра. 2012. Март. URL: http://www.ugra-start.ru/ugra/mart-2012/772.
24. Глава 2. Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае становішча Беларусі ў перыяд германскай акупацыі. Нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва [Электронны рэсурс]. URL: http://refdb.ru/look/2429693-p23.html
25. Голденков М. Утраченная Русь. Минск: Современная школа, 2009. 426 с.



26. Гумилёв Л. Н. От Руси к России.
27. Давыдзік В. Беларуская нацыя на скрыжаванні праектаў: праблемы, сэнсы і перспектывы // Міждысцыплінарная навукова-практычная канферэнцыя, 3 ліст. 2012 г. URL: http://inbelhist.org.
28. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1940.
29. Деружинский В. В. Тайны белорусской истории. Минск: ФУАинформ, 2009. 560 с.
30. Дзермант А. Праект «Цытадэль» [Электронны рэсурс]. 2011. URL: http://cytadel.org/platforma/1-obosnovanie-i-predlozhenie.
31. Дзермант А., Санько С. Этнагенез беларусаў: навука і ідэалогія // Arche. 2005. № 5. С. 233–253.
32. Дугин А. Проект «Евразия». Москва, 2006.
33. Згерскі А. Што бадзець Расію, або Культывацыя рэсентыменту // КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ. 2014. № 8, чэрв. С. 16–35.
34. Егорычев В. Рождённая Октябрём. По реке истории // Коммунист Беларуси. 2013. № 45 (881), 8 нояб. URL: http://www.comparty.by/rozhdennaya-oktyabrem-po-reke-istorii.
35. Езавітаў К. 1993. Першы Ўсебеларускі з’езд // Беларуская мінуўшчына. № 1. С. 25–29.
36. Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае. Мінск: Беллітфонд, 2003.
37. Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990.
38. Законнікаў С. Падмурак нацыі // Свободные новости плюс. 2012. 12 кастр.
39. Иванюто О., Правдивец В., Ротман Д. Политические ценности граждан Беларуси // Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI ст.: матэрыялы канфер., Мінск, 24 ліст. 2013 г. Рыга, 2013.
40. Івашкевіч В. Байкот трэба працягваць // Хартыя’97. 2012. 2 кастр.
41. Игнатенко И. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. Минск: Навука і тэхніка, 1992. 254 с.
42. История без московских мифов [Электронны рэсурс]. URL: http://svyatorus.com/istoriya/2958-istoriya-bez-moskovskih-mifov.html.
43. Казак П. Беларускі нацыяналізм: даведнік. Мн.: Голас Краю, 2001.

44. Казакоў Ю. Беларусь у гады Першай сусветнай вайны (1914–1918) [Электронны рэсурс]. URL: http://jivebelarus.net/history/gistografia/belarus-at-first-world-war.html (дата звароту: 21.12.2007).
45. Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993. С. 30–42.
46. Кандыбовіч С. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Менск, 2000. (Бібліятэка часопіса «Беларускі гістарычны агляд») [Электронны рэсурс]. URL: http://knihi.com/Symon_Kandybovic/Razhrom_nacyjanalnaha_ruchu_u_Bielarusi.html.
47. Карамзин Н. М. История государства Российского.
48. Карней І. Паводле А. Тараса 98% насельніцтва Беларусі чытае і думае на расейскай мове // Радыё «Свабода». 2013. 21 верас.
49. Карпаў С. Чаму я буду галасаваць за Таню Караткевіч, ці Хвастцы, хвастцы, хвастцы… // Наша Ніва. 2015. 2 верас. URL: http://nn.by/?c=ar&i=155617.
50. Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года і нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне Беларусі. Першы Усебеларускі з’езд (снежань 1917 г.) і яго рашэнні [Электронны рэсурс]. URL: http://studopedia.org/7-112669.html.
51. Кацва Л. А., Юрганов А. Л. История России VIII–XVвв. М.: Вентана-Граф, 1996. С. 21–22.
52. Кашо А. Панмангалізм — ідэалагічная інтэнцыя краіны, якая хлусіць // КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ. 2015. № 11, вер. С. 4–13.
53. Клейн Л. Спор о варягах. СПб.: Евразия, 2009.
54. Кобрын М. Беларускі нацыянальны рух. 1917–1920. Мінск: Беларус. выд. тав-ва «Хата», 2004. URL: http://pdf.kamunikat.org/6316-1.pdf.
55. Комиссия по борьбе с лженаукой и фальсификацией научных исследований при Президиуме РАН. В защиту науки / отв. ред. Э. П. Кругляков. М.: Наука, 2007. Т. 2. С. 102–111.
56. Котлярчук А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў. Менск: Энцыклапедыкс, 2002.
57. Крукоўскі М. Цыклічны характар сацыякультурнага развіцця грамадства і яго прычыны з пункту гледжання тэарэтычнай культуралогіі // Сакавік. 2013. № 4, снеж. С. 4–15.
58. Круталевіч В., Юхо І. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917–1945). Менск, 2000.



59. Крыжаноўскі М. Жывая крыніца ты, родная мова // Народная воля. 2008. № 65–66, 1 мая.
60. Кузняцоў І. Рэпрэсіі супраць інтэлігенцыі Беларусі [Электронны рэсурс]. URL: http://represii.net/library/intellectuals.
61. Куплевіч В. Цывілізацыя Еўропы. Ч. 5 [Электронны рэсурс]. 2013. URL: http://belarus.kulichki.net.
62. Ладысеў У., Брыгадзін П. На пераломе эпох: Станаўленне беларускай дзяржаўнасці (1917–1920). Мінск: БДУ, 1999.
63. Лепеш А.В. Беларусь у 1900–1939 гг.: Кароткі канспект лекцый. Беларусь у пачатку XX ст. [Электронны рэсурс]. URL: http://www.hist.bsu.by/images/stories/files/uch_materialy/dok/2_kurs/IB_Lepesh/Konspekt.pdf.
64. Лыч Л. Русіфікацыя // Беларусь: энц. даведнік. Мінск, 1995. С. 630.
65. Лютаўская рэвалюцыя 1917 года і беларускі рух [Электронны рэсурс]. URL: http://library.by/portalus/modules/belarus/print.php?subaction=showfull&id=1290693703&archive=1291455490&start_from=&ucat=8&.
66. Лялькоў І. Пятая калона: хто рыхтуецца да сустрэчы «зялёных чалавечкаў» у Беларусі // Наша Ніва. 2014. 11 мая.
67. Максімюк Я. Мова «старэйшага брата» // Радыё «Свабода». 2012. 12 чэрв.
68. Мальдзіс А.І. Кладачкі паміж пазаўчарашнім і сённяшнім // Новы час. 2003. 14: 1–12.
69. Малышава Г. Гісторыя Беларусі, 1917–1945 гг.: атлас. Мн.: Белкартаграфія, 2009. 20 с.
70. Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы. 1794–1991 [Электронны рэсурс]. URL: http://www.marakou.by.
71. Марзалюк И. А хто там ідзе? // Советская Белоруссия. 2014. № 116 (24 499), 21 июня.
72. Марціновіч В. Нацыя білінгва (да спрэчкі Вячоркі з Максімюком) // Радыё «Свабода». 2012. 2 ліп.
73. Миллер Г. О народах издревле в России обитавших. СПб., 1788.

74. Міхалюк Д. Чатыры ўрады БНР на міжнароднай арэне ў 1918–1920 гг. / пер. з польск. мовы М. Запартыкі // Arche. Дата публікацыі: 18.03.2013. URL: http://www.arche.by/by/page/science/14325.

75. Мурзёнак П. Беларускасць і ментальнасць цывілізаваных краін // Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI ст.: матэрыялы канфер., Мінск, 24 ліст. 2013 г. Рыга, 2013. С. 48–80; САКАВІК. 2013. № 4, снеж. С. 40–49.

76. Мурзёнак П. Колькі беларусаў жыве ў цэлым свеце // САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ. 2014. № 6, чэрв. С. 25–29.

77. Мурзёнак П. Русский язык супраць нацыяналізму беларусаў і ўкраінцаў // САКАВІК: КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ. 2014. № 6, чэрв. С. 7–24.

78. Мурзёнак П. Усходнеславянская беларуска-ўкраінская цывілізацыя. Гіпотэза і факты // САКАВІК. 2013, вер. С. 40–61.

79. Мурзёнак П. Ці быў Рурык у Полацку? Гісторыя сучаснай Беларусі і Украіны як вынік сутыкнення ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый // САКАВІК. 2013. № 2, чэрв. С. 3–43.

80. Мурзёнак П. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. І. Ці магчыма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы? // САКАВІК. 2013. № 1, сак. С. 4–29.

81. Мурзёнак П. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. ІІ. Адносіны з суседзямі // САКАВІК. 2013. № 1, сак. С. 12–29.

82. Мурзёнак П. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. ІІІ. Моўнае пытанне // САКАВІК. 2013. № 1, сак. С. 23–28.

83. Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X–XIX стагоддзі: энц. даведнік. Мінск: БелЭн, 1995. 671 с.

84. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ). Ф. 325. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 69–70.

85. Нікалюк С. Пяты фактар беларускай стабільнасці // Новы час. 2012. 4 ліп.

86. Носовский Г. В., Фоменко А. Т. Реконструкция всеобщей истории: новая хронология. М.: Деловой экспресс, 1999. С. 409–417.

87. Паганяйла Г. Датычных да выкраданняў могуць арыштаваць у іншых краінах // Хартыя’97. 2013. 13 лют.

88. Пастухоў М., Пульша С. Нашы правы — наша багацце // Новы час. 2013. 09 снеж.



89. Повесть минувших лет (у перакладзе Ліхачова) [Электронны рэсурс]. URL: http://old-russian.chat.ru; Повесть минувших лет (англ) [Электронны рэсурс]. URL: http://www.utoronto.ca/elul/English/218/PVL-selections/pdf.

90. Погодин М. П. Исследования, замечания и лекции о русской истории. Т. III: Происхождение варягов, Руси. О славянах. М.: Моск. об-во истории и древностей российских, 1846.

91. Пракопчык В. Чаму я выбіраю левы напарстак, ці Бойкот? Не смешите мои искандеры! // Наша Ніва. 2015. 2 вер. URL: http://nn.by/?c=ar&i=155729.

92. Рабчук М. Усходнеславянская «умма» і праблема эмансіпацыі. Да пытання пра «слабую» ідэнтычнасць украінцаў і беларусаў // Беларускі гістарычны агляд. 2012. Т. 19, сш. 1–2.

93. Радзік Р. Европа или Россия? Между народом и постсовестской общностью // Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI ст.: матэрыялы канфер., Мінск, 24 ліст. 2013 г. Рыга, 2013. С. 162–188.

94. Релігія і влада в Україні: проблемі взаємовідносин: інформаційно-аналітичні матеріали до Круглого столу на тему «Державно-конфесійні відносини в Україні, їх особливості і тенденції розвитку», 8 лют. 2011 р. [Электронны рэсурс]. 2010. URL: http://www.razumkov.org.ua/upload/prz_2011_Rlg_smll.pdf.

95. Республика Беларусь в зеркале социологии: сборник материалов социологических исследований за 2011 год. Минск: Бизнесофсет, 2012. С. 44.

96. Рудовіч С. С. Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 г. 2001. С. 133.

97. Сабикенов С. Национальный и народный суверенитет. В чем отличие? // Мысль. 1994. № 4.

98. Савченко В. А. Двенадцать войн за Украину. Харьков: Фолио, 2006. 415 с.

99. Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654–1667. Мінск: Навука і тэхніка, 1995.

100. Сакалова М. Пра разуменне паняццяў «нацыя» і «этнас» у сучаснай айчыннай гістарыяграфіі // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6.

101. Санько З., Саверчанка І. 150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі. Менск, 1999.

102. Сборник материалов социологических исследований за 2011 год. Минск: Бизнесофсет, 2012. С. 44.
103. Сельское хозяйство Республики Беларусь: статистический сборник. Мн., 2011. 283 с.
104. Семёнов А. Дешёвая клоунада Ежи Гедройца // Сегодня.ру. URL: http://www.segodnia.ru/content/114119 (дата звароту: 09.10.2012).
105. Сідарэвіч А. М. Беларуская Народная Рэспубліка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 1: А — Беліца / Беларус. Энцыкл.; рэдкал.: М. В. Біч і інш.; прадм. М. Ткачова; маст. Э. Э. Жакевіч. Мн.: БелЭн, 1993. С. 386.
106. Скалабан В. Усебеларускі з'езд 1917 года: перспектывы вывучэння [Электронны рэсурс]// Беларускі гістарычны зборнік. № 15. URL: http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/bzh/15/15art_skalaban.htm.
107. Снайдэр Т. Спрэчкі за літоўска-беларускую Айчыну // Дзеяслоў. 2004. № 12. С. 191.
108. Соловьёв С. М. История России с древнейших времен.
109. Спіс сучасных этнічных груп [Электронны рэсурс]. URL: http://en.wikipedia.org/wiki/List_of_contemporary_ethnic_groups.
110. Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі / С. Запрудскі, А. Анісім, У. Кошчанка, С. Кручкоў, А. Мальдзіс, А. Таболіч, Г. Цыхун [Электронны рэсурс]. URL: http://www.tbm-mova.by/mova.html).
111. Тарас А. Е. Войны Московской Руси с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV–XVII вв. М.: АСТ; Минск: Харвест, 2008. 800с.
112. Татищев В. Н. История Российская. Т. I–VII. М.; Л., 1962–1968.
113. Толочко О. П., Толочко П. П. Київська Русь. Київ: Альтернативи, 1998. 352 с. (Україна крізь віки. Т. 4).
114. Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI ст.: матэрыялы навук.-практ. канфер., Мінск, 24 ліст. 2013 г. / пад рэд. А. Я. Тараса. Рыга, 2013.
115. Трусаў А. Невядомая нам краіна: Беларусь у яе этнаграфічных межах. Мінск: Кнігазбор, 2009. 152 с.
116. Тумилович Г. Белорусская идентичность: ключевые факторы и спорные моменты // САКАВІК. 2013. № 1, сак. С. 30–52.



117. Туронак Ю. Людзі СБМ. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Смаленск, 2008. 588 с.
118. Турук Ф. Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белорусов: С приложением образцов белорусской нелегальной литературы, важнейших документов белорусских политических партий и национальных организаций и этнографической карты белорусского племени, сост. Е. Ф. Карским / предисл. А. Кавки. Б. м., 1994 (Мн.: Картогр.ф-ка Белгеодезии). 144 с. + 1 л. карт. С. 97–100.
119. Тэма 14. Станаўленне Беларускай дзяржаўнасці. Абвяшчэнне БНР. Утварэнне БССР [Электронны рэсурс]. URL: http://studopedia.org/1-30796.html.
120. Усебеларускі з'езд 1917 г. // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 4. С. 55.
121. Хадарэнка І. Краіна Квазі // КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ. 2013. № 3, вер. С. 24–31.
122. Хадарэнка І. Нацыя vs прафанацыя // КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ. 2014. № 8, чэрв. С. 41–46.
123. Халиков А. 500 русских фамилий булгаро-татарского происхождения. Казань, 1992 год. Электронная версия — Ш. Л. Таналин. Екатеринбург, 2004. URL: http://tatural.ru/500/500_rustat_family.htm.
124. Хара-Даван Э. Чингис-хан как полководец и его наследие. Алма-Ата, 1992.
125. Чаропка В. Уладары Вялікага княства. 2-е выд., дап. Мн.: Беларусь, 2002. 608 с.
126. Чаропка В. Лёсы ў гісторыі. Мн.: Беларусь, 2005. 559 с.
127. Шахматов А. А. Древнейшие судьбы русского племени. Петроград: Русский исторический журнал, 1919. 64 с.
128. Швед В. Эвалюцыя расейскай урадавай палітыкі адносна земляў Беларусі (1772–1863) // Гістарычны альманах. 2002. Т. 7.
129. Anderson B. Imagined Communities: Reflections on the Origin and Spread of Nationalism. London: Verso, 1983.
130. Balanovsky O. et al. Two sources of the russian patrilineal heritage in their eurasian context // The American Journal of Human Genetics. 2008. Pp. 82, 236–250.

131. Bekus N. East, West or in Between? Three post-communist concepts of the Belarusian Nation // The East-West discourse : symbolic geography and its consequences, by A. Maxwell. NY, Peter Lang, 2011, pp. 191–211.

132. Bideleux R., Jeffries I. A History of Eastern Europe: Crisis and Change. Routledge, 1998. Google Print, p. 155.

133. Bobrova A., Shakhotska L., Shymanovich G. Social Impact of Emigration and Rural-Urban Migration in Central and Eastern Europe. Final Country Report. Belarus. April 2012, Table 2.1, p. 47. URL: https://www.google.ca/?gfe_rd=cr&ei=iDRkU_2oF8uC8Qe46oHICw#q=social+impact+of+emigration+and+rural++Belarus.

134. Bockowski D. Nazawszerazem. Białostocczyznai Łomżyńskiew polityce radzieckiej w czasie II wojny światowej (IX.1939 — VIII.1944). Neriton, Instytut Historii. 2009. Pp. 116–117.

135. Brubaker R. Nationalism Reframed: Nationhood and the National Question in the New Europe. Cambridge: Cambridge University Press, 1996.

136. Bureau of Democracy, Human Rights and Labor. International Religious Freedom Report 2010. Belarus. U.S. Department of State.

137. Cross P. S., Sherbowitz-Wetzor O. P. The Russian Primary Chronicle. In The Medieval Academy of America. Publication No. 60. English translation and commentary. Cambridge: Medieval Academy, 1953. URL: http://www.utoronto.ca/elul/English/218/PVL-selections.pdf.

138. Curta F. The Making of the Slavs: History and Archaeology of the Lower Danube Region. Cambridge: Cambridge University Press, 2001. P. 309.

139. Democracy index 2012. Democracy at a standstill. A report from The Economist Intelligence Unit. URL: https://portoncv.gov.cv/dhub/porton.por_global.open_file?p_doc_id=1034.

140. Diem G.N. Locke, Hobbes and the Free Nation. 1998. URL: http://freenation.org/a/f53d2.html.

141. Diligensky G., Chugrov S. "The West" in Russian Mentality. 2000. URL: http://www.nato.int/acad/fellow/98-00/diliguenski.pdf.

142. Encyclopedia Britannica. Vol. III. Edinburgh, 1771, p. 887.



143. Falkus M. E. "Demographic History of European Russia 1796–1917" at World History at KMLA. URL: http://www.zum.de/whkmla/region/russia/eurrusdemhist17961917.html.

144. FREEDOM IN THE WORLD 2014. URL: http://freedomhouse.org/sites/default/files/FIW2014%20Booklet.pdf.

145. Geary P. Myth of Nations. The Medieval Origins of Europe. Princeton Paperbacks, 2003. P. 145.

146. Gellner E. Nations and Nationalism. Ithaca, New York: Cornell University Press, 1983.

147. Haggman B. From Minsk to Vladivostok — is it an East Slavic Civilization? // Comparative Civilizations Review. 2011. V. 64.

148. Hallik K. Ethnopolitical Conflict in Estonia // Ethnic Conflict in the Post-Soviet World: Case Studies and Analysis. NY, 1996. Pp. 87–108.

149. Halsall G. Archaeological finds confirm that Germanic and Slavic tribes were settled agriculturalists. "The Barbarian invasions", in Fouracre, Paul, The New Cambridge Medieval History. Vol. 1. Cambridge University Press, 2006.

150. Hrushevsky M. Istoriya Ukrayiny-Rusy (History of Ukraine-Rus'). Vol I: From Prehistory to the Eleventh Century. Edmonton: Canadian Institute of Ukrainian Studies Press, 1997.

151. Human Development Report 2013. URL: http://hdr.undp.org/en/content/human-development-report-2013.

152. Huntington S. The clash of civilisations. Foreign Affairs. V. 72. No 3. 1993.

153. Index of Economic Freedom 2014. URL: http://www.heritage.org/index/ranking/

154. Ingram A. The once and future european nation-state // Questioning Ireland: Debates in Political Philosophy and Public Policy. Dublin, 2000. Pp. 51–72.

155. Ioffe G. Nation-Building Implications of Russia's Expansionism // Eurasia Daily Monitor. Vol. 11, issue 116. June 26, 2014.

156. Kipel V. Belarusan Americans. Overview. URL: http://www.everyculture.com/multi/A-Br/Belarusan-Americans.html/

157. Kipel V. & Kipel Z. Byelorussian statehood: Reader and bibliography. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988. C. 303–367.

158. Klaus V. What is Europeism? 2006. URL: http://www.klaus.cz/clanky/1326.

159. Kohut Z. E. OP #280: The question of russo-ukranian unity and ukranian distinctiveness in early modern urkranian thought and culture. Kennan Institute Occasional Papers, 2001. URL: http://www.wilsoncenter.org/sites/default/files/ACF2C9.pdf/

160. Kolsto P. Political construction sites. Nation-building in Russia and the post-Soviet States. Chapter 8. Belarus: The Dog that Didn't Bark. Boulder, Colorado: Westview press, 2000.

161. Kuzyk B. N., Yakovets Yu. V. Civilizations: Theoty, History, Dialogue and the Future, v. II. Moscow' Institute for Economic Strategies, 2006.

162. Laruelle M. The eurasianist ideology and the eurasian history: empire as the natural solution for the post-soviet space. 6th Annual Intl Young Researchers Conf. "Orienting the Russian Empire", Ohio, Oct 26–26, 2006.

163. Lukowski J., Zawadzki H. A Concise History of Poland. Cambridge University Press, 2001. Google Print, p. 6.

164. Malyarchuk B. et al. Differentiation of mitochondrial DNA and Y chromosomes in russian populations // Human Biology. 2004. V. 76. No. 6. P. 877–900.

165. Manajew O., Drakochrust J. Właściwości wspólnej tożsamości białoruskiej. Tożsamości zbiorowe Białorusinów. Lublin, 2012. S. 3.

166. Matern F. The Discourse of Civilization in the Works of Russia's New Eurasists: Lev Gumilev and Alexander Panarin // YCISS Post-Communist Studies Programme Research Paper Series. No 002, February (2007). URL: http://www.yorku.ca/yciss/ activities/documents/PCSPPaper002.pdf.

167. Meadows D. J. The effects of political culture on divergent sides of the post soviet political and economic reforms: Comparison of the experience of Latvia and Belarus since 1991 (Doctor of Phylosophy thesis). 2012.

168. Memorandum on Security Assurances in Connection with the Republic of Belarus' Accession to the Non-Proliferation Treaty, signed in Budapest on 5 December 1994. URL: http://www.bielarus.net/archives/2006/12/24/999.



169. Michaluk D, Rudling A. "From the Grand Duchy of Lithuania to Belarusian Democratic Republic: the Idea of Belarusian Statehood, 1915–1919" // The Journal of Belarusian Studies 7:2 (2014): 3–36.

170. Motyl A. Dilemmas of Independence. Ukraine After Totalitarianism. New York: Council of Foreign Relations Press, 1993. 217 p.

171. Murzionak P. Evidence for Belarusian-Ukrainian Eastern Slavic Civilization // Comparative Civilizations Review. No 73: Fall, 2015. Pp. 51–76.

172. National Household Survey, 1991, 2001, 2006, 2011. Canada.

173. National Household Survey, 2011 (264), Single and Multiple Ethnic Origin Responses (3), Generation Status (4), Age Groups (10) and Sex (3) for the Population in Private Households of Canada, Provinces, Territories, Census Metropolitan Areas and Census Agglomerations, 2011 National Household Survey.

174. Nikołajewśkyj S. Язык Руси, Московии и Великого Княжества Литовского. URL: http://stanislaw-nik.livejournal.com/1742.html/

175. O'Connor K. The History of the Baltic States. Greenwood Publishing Group, 2003. Google Print, p. 17.

176. Paszkiewicz H. Are the Russians Slavs? Rome; London: Institutum Historicum Polonicum. Societas Poloniac Scientiarum, 1970.

177. Peunova M. The Transfer of Ideas Along a Cultural Gradient: The Influence of the European New Right on Aleksandr Panarin's New Eurasianism // Andrea Mammone et al (eds.) Mapping the Extreme Right in Contemporary Europe: From Local to Transnational. New York: Routledge, 2012. Pp. 303–316.

178. Picchio R. On the ambiguity of the term "author" in relation to medieval texts // Compilation and Composition: Two Levels of Authorship in the Orthodox SlavicTradition. Cyrillomethodianum 5 (1981): 1–4.

179. Plokhy S. The Origins of the Slavic Nations: Premodern Identities in Russia, Ukraine and Belarus. Cambridge: Cambridge University Press, 2006.

180. Pogonowsky I. C. Based on 1493 population map (p. 92), 1618 population map (p115), 1618 languages map (p. 119), 1657–67 losses map (p. 128) and 1717 map (p. 141), Poland a Historical Atlas, Hippocrene Books, 1987/

